# Дзень пачаўся

## 1

Выбіўся са сну Васіль — каторую ноч кепска спіць. Хоча спаць, намагаецца заснуць,— не можа: усё нейкія думкі ў галаве снуюцца, не даюць змружыць вачэй. Варочаецца з боку на бок, лацвей умошчваецца на цвердаватай канапцы, бярэцца лічыць сам сабе: адзін, два, тры, чатыры, пяць... адзінаццаць... дваццаць шэсць...— і гэта не памагае. Не заўважыць нават, на якой лічбе абарвецца тое няўцямнае лічэнне, а думка ўсё нешта сваё выснoўвае, і сну як не было, так і няма. Заўчарашняй ноччу амаль не заснуў, учарашнюю сяк-так пракідаўся і сённяшняй, адчувае, наўрад ці засне.

І чаго б, каб хто спытаўся? Калі б тады, адразу па прыездзе, дык не было б нічога дзіўнага. За суткі пераскочыўшы праз тысячы кіламетраў з усходу на захад, не дзіва і сон згубіць. Іншыя людзі, кажуць, тыдзень і больш прывыкаюць да новага раскладу сутак. І не проста прывыкаюць, а пакутуюць: усё ім спаць хочацца, калі на дварэ дзень, і, наадварот, не могуць заснуць, калі надыходзіць пара спачыну — ноч. А яны ж — і ён, Васіль, і жонка з Цельпуком — не надта і пам'янчыліся па прыездзе. Дзень-другі пахадзілі соннымі мухамі, а на трэці, бадай, і перакантаваліся. Прынамсі, ён, Васіль, спаў як пшаніцу прадаўшы. Калі б неназолы-мухі, з якімі бязлітасна ваяваў штовечар сын, аднак вынішчыць якіх дарэшты яму ўсё ж не ўдавалася, спаў бы Васіль і пазней, да добрага сонейка. Зрэшты, на мух больш скардзіліся жонка і Цяльпук, бо сам ён, Васіль, умеў хавацца ад іх пад коўдраю — за доўгія гады шаферства ці ж адну ноч правёў у кабіне альбо пад кустом на

ўзбочыне, схаваўшы галаву ў пінжаку ці ў ватоўцы.

Што ні кажы, а спаў ён напачатку ў матчынай хаце добра. Можа, і не так, як калісьці, як малады быў — бывала, маці не дабудзіцца, але ж і не прачынаўся штохвілінна, не вытрэшчваўся ў столь, як учора і пазаўчора. Яно, вядома, можа, і чарка была прычынаю, што спалася яму напачатку зусім няблага. Напівацца-то ён не напіваўся, няма ў яго такой звычкі, каб, як іншы каторы, меру перабіраць, але, не будзе хлусіць, чарка надаралася. Першы дзень, як прыехалі,— у брата пасядзелі, другі — у сястры, трэці — тут, у матчынай хаце, чацвёрты — сусед, дзядзька Ляксей зазірнуў...

Ліха яго ведае, але ж павялося так, што без чаркі ні спаткацца, ні развітацца. Ён за тыя першыя дні ў Звонічах ажно ці не стаміўся ад чарак. Жонка ўжо казала, што гадавую норму выканаў. Без злосці казала, пасміхаючыся, але, бачыў Васіль, і без радасці. Ён не надта каб і звярнуў увагу на тое, але парашыў усё ж далей абыходзіцца без чаркі, хоць напорваўся на яе не раз. Зазірне ў краму хлеба ці цукру купіць — мужчыны так і закідваюць прынаду, каб скінуцца. Пойдзе да Максіма па малако — брат, а то і братавая памкнуцца наліць чарку. І Веня, левы сусед, гукаў неяк з двара, казаў, што ў яго ёсць пляшачка свянцонай вадзіцы, прыхаваная далекавата і надзейна, каб без пары не мазоліла вачэй і не прасілася ў рукі. Не спакушаўся Васіль. Не кідаўся на мужчынскія закіды ў краме, адмахваўся ад Максіма і братавой, адбрахнуўся жартам — мацнейшая будзе твая свянцоная! — ад Вені. Парашыў: хопіць, годзе, хай будзе па чарках. Трэба ж і агледзецца, падумаць-паразважыць, з сястрою, з братам на цвярозую галаву пагаварыць, сыну паказаць, як абяцаў, мясціны, дзе прайшло яго, Васілёва, маленства і юнацтва...

Ліха з ёй, з той чаркаю, калі і без яе спалася яму тут соладка. Іншы раз, дай веры, не чуў, як чарговыя пастушкі ў поле займалі. А яны не далікатнічаюць, голасна перагукваюцца, на карову-памаўзу ці на гаспадыню-кешкалу так раўнуць, што ў абодвух канцах Звонічаў чуваць, а ён, Васіль, было што і не прачынаўся.

А цяпер во як сурочыў хто. Праз дзень-другі назад пара ехаць, а ў яго, як па прыездзе, каторую ноч

спу няма. Сёння ўжо думаў, што да канапы не дойдзе — так надыбаўся, ажно во — столь у вочы, хоць ужо і апаўночы.

Спачатку, адразу як лёг, быццам і задрамаў. Але неўзабаве дрымота кудысьці ўцякла, а яму як трывогу нейкую пакінула. Ляжаў і, нібы чакаючы нечага, услухоўваўся ў начную цішыню.

У першыя хвіліны цішыня гэтая падалася яму надта ж глухой — не чуваць было нават, як дыхаюць у сне жонка і сын. Ён, здаецца, ці не злякаўся, ажно наструніўся ўвесь, намагаючыся ўчуць іх, і тут жа расслабіўся, абмяк-ацяжэў на засланым прасцінай паралоне, пачуўшы, як роўна і глыбока дыхае жонка і як лёгка і смачна пасопвае ў падушку сын.

Потым, прыслухаўшыся, пачуў і іншыя начныя гукі.

Шумеў за акном клён. Пасадзіла яго маці, вырас ён ля веснік ужо без Васіля, аднак жа паспеў падняцца досыць высока, ці не ўпоравень з электрычным слупам, і вось цяпер у ягоным шырокім і густым вецці шумеў нясмелы начны ветрык.

Пачуў, як шуміць клён, і тарганулася нейкая нітачка драмаўшай дасюль памяці, і збудзілася яна, і падказала: калісьці, адразу па вайне і ў наступныя блізкія ад вайны гады, маці нізавошта не дазволіла б Васілю пасадзіць у гародзе нейкае іншае, не садовае дрэўца, а на старасці гадоў сама, уласнымі рукамі пасадзіла і гэты шумлівы клёнік, і ліпку, і бярозку, і нават каштанік — усё ў радок, уздоўж штыкетніку, што пры вуліцы. Клёнік, ліпку, бярозку прынесла з лесу, а каштанік вырасціла сама — з зярняці. І не адзін. У гародчыку, за хатай, у цёплым зацішку расце іх яшчэ пяць ці шэсць — не паспела маці перасадзіць, знайсці ім пастаянны прыстанак.

У куце, недзе за грубкаю, штосьці як драпалася, і Васіль ніяк не мог даўмецца, што гэта можа быць такое, бо не будзе ж у нежылой хаце скрэбціся мыш. А мо ўжо завялася за гэты час, што яны жывуць тут? Пачула, што ў старых сценах зноў атабарыліся людзі, і прыйшла да людзей?

Далёка недзе енчыла малое шчанё, яго жаласны енк даплываў як з-пад зямлі, і Васіль міжволі гадаўпрыкідваў, хто ж гэта са звонінцаў так пакрыўдзіў шчанюка, не пусціў яго ў хату ці ў сенцы, а пакінуў,

бы сталага сабаку, начавацъ у няўтульнай і, пэўна, усё ж халаднаватай для малога будцы.

Сяды-тады даплываў у хату смех, хлапечая і дзявочая гамана. Нехта недзе заўзята круціў ручкі ўключанага на ўсю моц транзістара, цішыня там узрывалася выбухамі музыкі і чалавечых галасоў, яны даkочваліся сюды толькі ціхімі ўсплескамі, і Васіль у такт ім думаў ужо пра тое, што гэта, няйначай, гарадскія ўнукі і ўнучкі звоніцкіх дзядоў і бабуль таўкуцца недзе ля клуба ці ў каго на лаўцы. Ведама ж, гарадскія, папрыязджаўшыя папасвіцца лета ў вёсцы. Бо па цяперашнім часе ў Звонічах такіх смаркатых радыёфікаваных і амагнітафоненых кавалераў, як і іхніх сяброўак, наўрад ці збярэцца і на дзве пары.

Ляжаў Васіль на мяккім, трошкі як макраватым паралоне — нехта некалі праўду казаў, што спаць на ім хоць і мякка, але няздорава, бо цела не дыхае, потам аблітае,— слухаў гэтыя начныя гукі роднай, адпак жа і прызабытай ужо, прынамсі, нейкай не такой, як раней, вёскі і лавіў сябе на тым, што сну ў яго — ні ў адным воку, што, здаецца, не засне ён сёння да раніцы. Быццам прыкацілася нешта і астудзіла яго ўсярэдзіне, начыста прагнала адусюль — з ног, з жывата, з грудзей, з галавы — млявае соннае цяпло, пакінуўшы пасля сябе, праўда, не азалеласць, а нейкую незразумелую дрыготлівасць, ад якой ні холадна, ні млосна. Чаго б гэта? Ён жа быў прывык ужо праводзіць ночы на гэтым паралоне, пасланым на старой канапцы...

Думкі яго перапыніла нечаканае і падта ж зыркае ў цемені святло. Яно жыхнула па вокнах, матлянулася з кута ў кут па хаце — па вуліцы праімчаўся грузавік. Зрабілася яшчэ цямней, чым было — хоць пальцам у вока. І толькі чуваць было, як ціхенька трымціць у акне шыбка, складзеная, пэўна, з дзвюх палавінак.

Васіль безгалоса паўшчуваў шафёра: хіба ж можна так хутка перціся па вёсцы, мала што на дварэ ноч, і ноччу на вуліцы можа быць чалавек ці якаянебудзь жывёліна! Сам ён ніколі не парушаў зароку, дадзенага сабе ў той дзень, калі ўпершыню сеў за баранку: правілы руху — закон! Знакі на дарогах і вуліцах ставяць недарэмна. Усе — засцерагальныя.

Усе — дзеля таго, каб ты, шафёр, прыехаў шчасліва дахаты, да сям'і, да дзяцей. Гэта Васіль запомніў назаўсёды. Як двойчы два. І калі надаралася бачыць, як знаёмы ці незнаёмы шафёр трапляў у аварыю па сваёй легкадумнасці ці дурноце, ён не так з жалем, як з горыччу казаў у думках бедалагу: «Эх, ты!.. Чаму ж табе матка з бацькам мазгоў пашкадавалі? Ці гэта сам ты парастрасаў іх па дарогах, пакінуўшы сабе адзін шчопаць? Былі б у цябе мазгі, дык бы ведаў, што чалавек найперш за іншага ў адказе, а пасля ўжо за сябе. Што з цябе, дурня, возьмеш? А чалавека, якога ты вёз, мог бы ўгробіць...»

У вачах пасля зіхатлівага святла аўтамабільных фар не святлела, і Васіль павярнуў галаву да акна. Ягоны прамавугольнік з крыжавінай рам шарэўся ў цемры, і чым больш звыкаліся вочы, тым усё больш шэрасць пераходзіла ў бялёсасць. Мусіць, збіраецца на дождж, бо ў небе — ніякага прасвету, і вецер быццам пагусцеў — клён зашумеў мацней, і парнасць, пэўна, на двары не спадае, бо і ў хаце душна, як пры добра напаленай грубцы. Хай бы прайшоў, хай бы ўліў, падумаў Васіль. І тут жа перасмыкнуў вуснамі, як пасміхнуўся сам з сябе: дождж яму, адпачыванцу, якраз і не патрэбен, але ж за гэтыя дні не адзін раз чуў ад людзей, што даўно не было дажджу, пасмяглі гароды і бульба, і падумаў — хай бы прайшоў.

Думка пра дождж прывяла за сабою чамусьці зноў думку пра маці. І зусім не ў сувязі з дажджом. Хутчэй у сувязі з гэтай цішынёй і цемнатой — можа, перадназальнічнай? — за акном. Знячэўку падумаў пра тое, што, пэўна ж, вусцішна было маці адной у хаце, асабліва доўгімі восеньскімі і зімовымі начамі.

Паспрабаваў Васіль уявіць сабе, як маці ўкладвалася ў ложак, на якім зараз спіць Валя, яго жонка, ці, скурчыўшыся-скруціўшыся, уладкоўвалася на ноч на цёплай ляжанцы, як гадзінамі, пакуль не адольваў яе канчаткова чуйны старэчы сон, услухоўвалася ў палахлівую восеньскую цемень-цішыню, і ажно сцепануўся ад дрыжыкаў.

Бедныя мацяркі! Чаму такі няўдзячлівы лёс у іх — пагадаваць дзяцей, выправіць у людзі, а самім пры канцы застацца адзінокімі? Гэтак падумалася чамусьці не толькі пра сваю маці. Гэтак жа адзінока, як жыла апошнія гады яго маці, жылі і жывуць і

многія іншыя. Жылі і жывуць адным жаданнем. Нават не жаданнем, а чаканнем. Чаканнем дзяцей, якіх жыццёвыя дарогі павялі ў далёкі і блізкі свет.

Цадзілася за вокнамі вільготная шэрасць начы, стаялі там цёмныя, амаль чорныя абрысы дрэў, а ён бачыў цётку Маньку, якая з кійком у руцэ, ледзьве перастаўляючы хворыя, неслухмяныя ногі, нясе з аселіцы ў пасцілцы ахапак сена; цётку Зосю, што пры кожным шуме матора на вуліцы вызірае з хаты — ці не едзе гэта на легкавічку яе зяць з дачкой і дзецьмі; і другую цётку Маньку, Корзікаву, а не Юзікаву,— як яна сядзіць на лаўцы пры вуліцы, паклаўшы бараду на канчык выслізганага, бы адпаліраванага арэхавага кійка, узіраецца выцвілымі блізарукімі вачамі ў кожнага і кожнаму, старому і малому, свайму і чужому, дае «дзень добры» тонкімі, сухімі вуснамі.

Убачыў іх, матак сваіх колішніх сябрукоў-аднагодкаў, а зашчымела сэрца, азвалася болем у грудзях за сваю маці, варухнулася пачуццё нязбытнай віны перад ёю. Ён, малодшанькі, яе пестунок, які павінен быў, па даўняй людской завядзёнцы, быць з ёю, глядзець да смерці, не толькі не здзейсніў наканаванага яму лёсам святога абавязку, а нават не радаваў яе, як іншыя дзеці іншых матак, сваімі прыездамі. За дваццаць з гакам гадоў умудрыўся прыехаць усяго тройчы: адзін раз — з жонкаю, другі раз — з жонкаю і дачкой, трэці раз — адзін, а свайго Цельпука так і не сабраўся паказаць маці. Бабуля ведала ўнука толькі па фотакартцы. Чаму так? Прычына быццам сур'ёзная: няблізкі свет. З другога канца, з самага, можна сказаць, краю свету сапраўды нялёгка прыязджаць. Усё гэта так і не так. Не так, бо вінаваты былі не толькі тысячы кіламетраў, што аддзялялі яго ад Звонічаў.

Аб чым яна думала, гадзінамі — праз тыдні, месяцы і гады — слухаючы жывую хатнюю цішу начэй? Пра што гаварыла з кошкай, якая спявала ёй сваю мурлындзію, скруціўшыся абаранкам на цёплай коўдры ў нагах? Чым дзялілася ўранку з курамі, якія сустракалі яе яшчэ ля ганка? Якія свае сны расказвала кароўцы ў хлеве, пакуль ставала сілы трымаць тую кароўку?

Чаму дзеці цікавяцца ўсім гэтым толькі тады, калі ўжо няма каму даць адказы на гэтыя балючыя

пытанні? Чаму толькі тады, а не раней, калі можна было прысесці побач з ёй на зэдлічку перад расчыненай палаючай грубкай, абняць за востранькія дрыготкія плечы і пра ўсё распытаць, пра ўсё пагаварыць і пра ўсё памаўчаць?

І вось што яшчэ дзіўна, ледзь не ўголас прамовіў Васіль. Чаму да той пары, пакуль ёсць у чалавека маці, ён не заўважае сваіх уласных гадоў? Чаму толькі тады, як чалавек пацалуе халодны і дзіўна чысты, без адзінай маршчыны мацерын лоб, як патрымае ў астатні раз у сваіх далонях такія ж халодныя і пачужому гладкія, быццам зусім і не матчыны, рукі, ён раптам спахопіцца, што яму ўжо — за сорак, за пяцьдзесят, за шэсцьдзесят?

Можа, і не ў той момант якраз прыходзіць да чалавека такое працверазенне, аднак жа — прыходзіць. Гэта Васіль цяпер ведае. Ведае вось ужо чатыры гады.

Чатыры гады назад, якраз такой жа жніўнай парою, ён ляцеў з Хабараўска у Мінск. Ляцеў па тэлеграмме: «Маме блага прыязджай». Ён не паспеў. Маці ён убачыў у труне...

На парозе ў другую палову хаты людзі расступіліся перад ім. Нехта, пэўна, паспеў шапнуць Вольцы, сястры, што ён прыехаў. Волька кінулася да яго аднекуль збоку, павісла на шыі, загаласіла:

— А братачка ты мой, а мой ты Васечка, а няма ж у нас нашай мамачкі!.. А яна ж да апошняй мінутачкі чакала цябе, галоўку сваю сівенькую старалася падняць з падушачкі, каб угледзець, ці не ідзеш ты... А цяпер во Васечка яе прыехаў, а яна і не радуецца, ручкі сашчапіла, губкі злажыла і сыночка свайго меншанькага не прывячае...

Жанчыны адарвалі ад яго Вольку, пасадзілі на ўслон. Ён здранцвелымі нагамі ступіў на хату, насустрач таму, што цьмяна бачылася затуманенымі вачамі, няўмела паклаў — недзе ля мацерынага пляча — купленыя ў Мінску белыя, халодныя і цяжкія, як мармуровыя, кветкі, гэтак жа няўмела схіліўся над труною, прыклаўся вуснамі да халоднага — у такі гарачы жнівеньскі дзень! — мацерынага лба, потым — да рук і апусціўся на крэсла, што стаяла пры труне. Паўсюль наўкруг, уздоўж сцен, у хаце сядзелі і стаялі людзі, але Васіль амаль не бачыў іх. Яго-

ную ўвагу прыкавала тое, што было бліжэй, вось тут, перад ім. Гэта памерла яго мама? Гэта яна ляжыць перад ім у труне? Розумам ён разумеў, што непапраўная бяда здарылася, уласнымі вачамі бачыў маці ў труне, аднак усё ніяк не рашаўся, не мог паверыць у тое.

Ён не пазнаваў маці. Ён памятаў яе рухавай, жывой, непаседлівай. Яна ні хвіліны не магла пасядзець без работы. Яна была вясёлая, яго маці! Гора ці бяду яна ўмела хаваць і ад людзей, і ад дзяцей, ідучы і да тых і да другіх з добрай усмешкай. Урэшце, яго маці была заўсёды маладой. Мо таму, што яна ніколі не падціскала ў гневе вусны, ніколі не сварылася і не ва́дзілася з суседкамі, старасць не брала маці. У параўнанні са сваімі равесніцамі яна выглядала маладзейшай на добрых дзесяць гадоў, а то і на ўсе пятнаццаць. Маладзіла яе, пэўна, і тое, што маці наці ўмела ў самыя цяжкія гады пасляваеннай нястачы ўмела апранацца чысцей і зграбней, чым іншыя вясковыя кабеты,— яна абшывала не толькі Звонічы, але і суседнія вёскі.

А ў труне Васіль бачыў старэнькую, сухенькую бабульку з зусім не матчыным, нейкім выцягнутым носам — у маці нос быў маленькі, кірпаты; з рэдзенькімі, сівенькімі валасамі, зачэсанымі ўгару, без прабора,— а ў маці ж заўсёды былі косы... І вусны былі не мацерыны: нейкія капрызлівыя, падціснутыя...

Але чым больш глядзеў Васіль, тым больш праціснала яго жахлівая і непапраўная думка: у труне — мама. Мама — памерла! І чым даўжэй глядзеў ён на зменены няўмольнай смерцю мацерын твар, тым больш пазнаваў у ім калісь дарагія і родныя рысачкі. Ён сядзеў, глядзеў на твар, на рукі, складзеныя на грудзях, у галаве круціліся-мільгацелі якіясьці абрыўкі ягоных дачыненняў да маці жывой, калі ён быў дзіцем, падлеткам, юнаком, у вушах звінелі нейкія паўзабытыя мацерыны словы, і ён раптам быццам абмяк унутры, яго быццам пакінуў страх, што скоўваў рукі, ногі, спіну і галаву, яму зрабілася душна,— з вачэй у яго пацяклі слёзы...

Ён не саромеўся, плакаў, выціраў слёзы чамусьці не хусцінкай, а кулакамі, далонямі, а яны не выціраліся, і таму ён бачыў кепска, і нечакана яму пада-

лося, што маці варухнулася, што яна зусім не ў труне, а ў ложку, і сам ён сядзіць не тут, цяпер, а тады, побач з ёю, на краёчку ложка і слухае яе,— гэта тады, як ён другі раз прыехаў дадому з Далёкага Усходу разам з Валяй і дзесяцігадовай Ядвіськай. Яны ў той вечар доўга гаманілі за сталом. А пасля, як пайшлі дадому Максім і Волька, як знемагліся і паснулі Валя і дачушка, як ужо і маці лягла ў пасцель, Васіль нечакана спытаўся:

— А ты, мама, пахудзела. Ці мне здалося?

Замест адказу яна раптам усхліпнула. Ён разгубіўся, працверазеў, прысеў да яе на краёк ложка, дакрануўся да пляча:

— Ты чаго, мама? Пакрыўдзіў хто?

Маці, гладзячы сваёй цёплаю рукою яго руку, скрозь слёзы ўсміхнулася:

— Занудзілася я па кароўцы, сынок. Максім з Волькай угаварылі прадаць — з сенам цяжкавата, радоўка тая абрыдвае за лета, паслухалася я — прадала, а цяпер шкадую. Асірацела я без Малюткі. Ці ў двор, ці ў хлеў, ці ў пуню паткнуся — яе не бачу, не чую, душа баліць, слова няма каму сказаць, цэлы дзень, бывае, так і прамаўчыш...

— Ну, мама, ты як пра чалавека! — ціха, але падурному рагатнуў ён.

— А й пра чалавека! А з кім жа я пагавару-параджуся? Кошка і курыца — дурныя, з імі не пагаворыш. А з кароўкай як з чалавекам. Яна ж усё чысцютка разумее. Нават і тое, з якім словам ты да яе падыдзеш — з добрым, ціхім, ласкавым ці з крыкам, лаянкай...

Маці памаўчала. Памаўчаў і ён, памаўчаў так, бадай, дзеля прыліку, не надта пагаджаючыся з тым, што яна гаварыла пра свае ўзаемаадносіны з Малюткай. А маці маўчанне сваё парушыла, зусім пра іншае загаварыўшы:

— А Малютка, сынок, мяне яшчэ і карміла. Я ж не магу ні з чыіх рук малака есці. Нават з даччыных. А без малачка што з'ясі? Сала хіба. Дык жа я за салам ніколі не гналася. З Малюткай у мяне і тваражок быў, і сырок, і малачко кісленькае, і масла, і смятанка. А цяперака... От і пахудзела...

Васіль тады пагаварыў з Волькай і Максімам. Волька была ўзгарэлася:

— Хай не будзе такая гідлівая! Ужо яна чысцей падоіць, чымся я! Няма хіба ў мяне таго самага тваражку ці шкадую, не даю?

А Максім па-мужчынску ўсё зразумеў, перапыніў Вольку:

— Куплю ёй новую Малюту, калі на тое. Грошы ж у яе ёсць.

Паехаў тады Васіль, а неўзабаве Максім напісаў яму, што хадзіў з маці ў Стайкі, апыталі і купілі там кароўку. «Маладая кароўка, першым целем яшчэ,— пісаў Максім,— малака з яе, як з казы, але матка рада, паружавела і пажвавела зноў...»

Уздыхнуў Васіль як з палёгкаю, прыгадаўшы тыя даўнія ўжо Максімавы словы з ліста, і тут жа скаланула яго ўсяго: па матчыным твары спакойна бегала муха, а ніводная жылка на гэтым васковым, чыстым і гладкім твары не здрыганулася, каб сагнаць нахабніцу. Вярнуўся Васіль да рэальнасці. Блага зрабілася Васілю, потам увесь акрыўся. Мо не чапаць яе, хай сядзіць, хай бегае, маці ж усё роўна? Дык жа яму не ўсё роўна!

Цётка Ганна няйначай здагадалася, што ў Васіля на душы, падышла да яго, абняла за плечы, шапнула:

— Ідзі, дзіцятка, досыць, я пасяджу ля сястрыцы сваёй, а ты ідзі, на вуліцу выйдзі, перадыхні...

А пра свае ўласныя гады Васіль успомніў за жалобным сталом. Хтосьці ў яго папытаўся пошапкам, колькі маці было. Адказаў ён, а пасля і падумаў: «Маме — семдзесят шэсць, а мне ідзе сорак другі... Дык гэта ж больш, чым было бацьку, як загінуў ён у сорак першым пад Магілёвам, і больш, чым было маці, як яна ў сорак трэцім уцякала з намі трыма ад карнікаў у лес. Бацька і маці здаваліся мне тады старымі. Гэтак жа, пэўна, думаюць пра мяне і мае Ядвіська з Цельпуком...»

Апякла Васіля гэтая думка. Ляжаў нейкі час нерухліва, утрапёна. А пасля заківаў галавой: старасць, старасць, што ж яшчэ... Тады засоп, бы ў злосці, страпянуўся, здрыгануўся ўсім целам і скурай, быццам атрасаючы з сябе думкі-насланнё, як конь, што пакачаўся на лузе, смецце, і выдыхнуў-вымавіў моўчкі з сябе доўга і смачна: «Ну і ліха з ёй! А мы яшчэ паваюем. А мы яшчэ дужыя і здаровыя. А мы рады, што тут, дома, што во спім у гэтай, пастаўленай бацьк-

кам перад самай вайною хаце, што нам тут добра, спакойна і надзейна. Ага, спакойна і надзейна... І гэта ўсё ад... старасці?! Ці ж мы дурні такія, каб паверыць? Цяльпук Цельпуковіч, ці ж мы такія дурні, га?..»

Не, сына Васіль не разбудзіў — гэта сказалася моўчкі. Самому сабе. Сыну яшчэ скажа. Паспее сказаць. А цяпер хай ён спіць, вунь як соладка прычмоквае ў сне, быццам соску смокча. Хай спіць! А от сам ён ужо не засне, гэта як піць даць! Як і ўчарашняй, і пазаўчарашняй ноччу. Зноў ускалыхнулася ў душы тое, што выбіла яго са сну, што яшчэ і назвы не мае — не то пачуццё, не то жаданне, да чаго ён баіцца і адпачасова хоча, аднак жа не рашаецца дакранацца, хіба толькі вось так, сам-насам, ноччу, у думках...

Плыла паціху ноч за вокнамі, гушкалася на нябачных у цемры арэлях Зямля, а Васіль не зважаў ні на ноч, ні на зямныя арэлі — ён гушкаўся, то вышэй, то ніжэй, на арэлях уласнае бяссоннае памяці, згадак, уражанняў — колішніх і нядаўніх.

## 2

Тады, амаль трыццаць гадоў назад, выпраўляючыся з гэтай хаты ў ваенкамат, не думаў, вядома, Васіль, што выпраўляецца так надоўга. Думалася зусім іншае: адслужыць — і назад. Калі не сюды, у калгас, да сваіх коней, дык у Мінск, на будоўлю ці на трактарны — колькі паспела ўжо атайбавацца там звоніцкіх хлопцаў і дзяўчат! Лёгка выпраўляўся, без смутку. Не ён першы і не ён апошні. Маці абдымае яго — ужо на вуліцы, перад тым, як ён перакуліўся цераз борт у кузаў, да хлопцаў і дзевак,— абдымае і плача, а яму смешна: чаго, падумаўшы? Не на вайну ж! Пашанцуе дзе служыць блізка, як Воўку Маслюку, дык ля дому аціраецца будзе! «Чуеш, мама? Не агледзішся, як на пабыўку прыеду!..» Не чуе маці, у кабіну сядае, каб яшчэ якую гадзіну-другую пабыць з сынком...

А назаўтра ён, Васіль, трохі нос звесіў, калі іх калонай павялі на вакзал, калі яны, можа, больш шумна і мітуслівa, чым трэба было б, сядалі ў цягнік, канечны прыпынак якога быў недзе далёка, за Ура-

лам — больш падрабязных звестак ім, навабранцам, не паведамілі. Яшчэ ніжэй апусціўся Васілёў нос, калі Урал застаўся ззаду, а цягнік усё вёз і вёз яго на ўсход.

Ды неўзабаве нос у Васіля зноў выпрастаўся. Прымор'е, дзе яму давялося служыць, нечым нагадвала яго родныя мясціны. Сопкі, вядома, не тыя пагоркі, што з усіх бакоў акружаюць яго родныя Звонічы, аднак жа і не Каўказ са снегавымі шапкамі вяршыняў. І расліннасць выдавала трошкі падобнай на беларускую, і клімат амаль такі ж — мяккі, пamяркоўны, акурат беларускі. Нават іхні ваенны гарадок між сопкамі, на беразе чыстай, спакойнай і задуменнай рэчкі, трошкі быў падобны на Міжгорск — іхнюю раённую сталіцу, якая таксама ляжала ў даліне і праз якую цякла флегматычная, паўнаводная і досыць чыстая рэчка Чмялёўка. А галоўнае было ў тым, што служылася яму лёгка, роўна, без падзенняў, хоць і без узлётаў. Служылася, як жылося. Па натуры спакойны, цягавіты і старанны, ён быў на добрай прыкмеце ў камандзіраў, а за шчырасць і справядлівасць яго любілі і шанавалі хлопцы. Сёй-той, пэўна, яму і зайздросціў: у арміі Васіль вывучыўся на шафёра і апошнія месяцы службы «інтэлігентнічаў» — вазіў на «казле» палкавое начальства.

Так, без прыгод адслужыўшы, паехаў бы Васіль праз усю краіну назад, дахаты, калі б не Валя. Паявілася яна ў ваенным гарадку незадоўга перад яго звальненнем. Была яна медсястрой у санчасці. Васіль на здароўе не скардзіўся, і наўрад ці перасекліся-перакрыжаваліся б іхнія лёсы, калі б не выпадак. Здарылася бяда з адным салдатам — апарыўся, пасклізнуўшыся ў лазні. Васіль павёз яго ў санчасць. І там убачыў Валю. Убачыў і як прысох да дзяўчыны. Калі б за дзень перад тым хто сказаў яму, што такое можа быць — пасмяяўся б. Ні дома, ні на службе датуль не было ў яго дзяўчыны. Падчапіць пры нагодзе абы-каго ці ўлюбляцца па пошце, як рабіў сёй-той з хлопцаў, было не ў яго натуры. Напаўсілы рабіць што-небудзь ён не ўмеў і не мог. Любіць — таксама. На Валі ж сышоўся для яго клінам свет. І Васіль з упартасцю і зацятасцю, якой яму было не пазычаць, пачаў падступацца да дзяўчыны. Вопыту, як і нахабства, у яго не было, іншы на яго месцы

паўрад ці асмеліўся б разлічваць на нешта, усведамляючы свае шанцы і агульную абстаноўку ў гарадку, дзе кожная дзяўчына, незалежна ад яе дзявочых вартасцей, была на строгім хлапечым уліку. Але, мусіць, яго хлапечая нехлямяжасць і шчырасць і дапамаглі яму. Ён не надакучаў Валі. Ён не прыставаў да яе, як іншыя, не пераступаў ёй дарогі, не загаворваў, не лез з дурнаватымі жарцікамі і заляцаннямі. Ён упарта заўсёды аказваўся там, дзе была Валя, і неадступна сачыў за ёю з любоўю і адданасцю, якой нельга было не заўважыць. І скончылася гэта тым, што Валя аднойчы сама падышла да яго.

У клубе былі танцы. Была там і Валя. І быў там, натуральна, Васіль. Як заўсёды, стаяў збоку, падпіраючы сцяну, і не спускаў вачэй з Валі, якую напярэймы вадзілі хлопцы ў круг. Васіль жа не рашаўся нават і на такое — запрасіць яе. Не пускаў яго страх падысці да Валі — а раптам яна адмовіць? А тут нечакана зайгралі дзявочы танец, і Васіль здранцвеў — Валя сама запрашала яго.

Тады яшчэ не было ў модзе сённяшніх танцаў, дзе зусім усё роўна, ёсць у цябе партнёрка ці няма. Тады яшчэ на танцах гучалі вальсы, полькі, факстроты і танга, тады яшчэ партнёр лёгка абдымаў партнёрку ў тым жа вальсе ці факстроце, тады яшчэ партнёр з партнёркай маглі ў танцы аб тым-сім і пагаварыць.

— Ты чаго глядзіш так? — пайшла ў наступ Валя.

— Як? — не мог прыйсці да памяці Васіль.

— Як дурань,— лупянула яна.

Адкуль у яго хапіла сілы пажартаваць, ён і сам не ведае, аднак жа Васіль сапраўды паспрабаваў пажартаваць:

— Усе закаханыя выглядаюць дурнямі.

Валя задзерла галаву, зарагатала:

— Улюбіўся, значыць?

— Ага.

Ён адказаў сур'ёзна, і яна на хвіліну таксама сагнала з твару выраз смяшлівасці, зірнула на яго, але толькі на хвіліну, на нейкае імгненне.

— Ну і за што ты мяне палюбіў? Прызнавайся, калі пачаў.

— За ўсё.

— За што — за ўсё? — гарэзавала яна.— Я тоўстая, лупатая, языкатая, ветраная. Адным словам — стрынадка! За што ж ты мяне пакахаў?

— Ты прыгожая. І добрая.

— Няўжо? І прыгожая, і добрая?

— Ага.

— Чаго ты агакаеш? Ну адкуль ты ведаеш, што я добрая? — Валя па-ранейшаму ўсміхалася, але ў яе голасе паявілася быццам і нейкая іншая нотка — нотка зацікаўленасці, ці што?

— Бачу. У цябе вочы добрыя,— Васіль ачомваўся пакрысе.

— Многа ты бачыш! — крутнула яна галавой і змоўкла.

Танец скончыўся. І тут Валя зноў лупянула яго па галаве, проста па цемені:

— Пайшлі на двор, тут душна.

— Ага,— кіўнуў ён галавой.

Але яна не засмяялася з яго «ага», крутнулася на абцасіку і пайшла да дзвярэй. Васіль таксама крутнуўся, але — не ў той бок. Зразумеўшы гэта, крутнуўся ў другі, кінуўся ўслед за ёю.

Ад прыступак ганка яны адышліся на некалькі крокаў. Прыпыніліся. Валя павярнулася да Васіля, зірнула на яго, спыталася:

— Ну і што?

Было відна — непадалёк гарэў ліхтар. Васіль добра бачыў Валіны вочы, у іх скакалі гарэзлівыя іскрынкі-смяшынкі.

— Нічога,— сказаў ён.

— Як — нічога? — здзівілася яна.— Чаго ты тады пайшоў за мною?

— Я даўно ўжо хаджу за табою.

— Чаго? Я ж і пытаюся: чаго ты ходзіш?

Замест адказу ён раптам спытаўся:

— Адкуль ты ведаеш гэта слова — стрынадка?

— Стрынадка? Бабуля мяне так звала.— Валя быццам збянтэжылася.— Слухай, ты не беларус?

Ён зноў не адказаў, а прамовіў:

— Я хаджу за табой, бо люблю цябе і хачу, каб ты была маёй жонкай.

— Трымайце мяне — я паваліся,— зарагатала Валя.— Паўтары, што ты сказаў?

— І паўтару. Ты будзеш маёй жонкай. Толькі ты. Гэта лёс.

Яна паглядзела на яго доўга і запытальна. Уздыхнула:

— Дык, кажаш, тваёй жонкай? Лёс такі?

— Ага.

Яна страсянула сваімі светлымі, жаўтлява-выгаралымі, каротка астрыжанымі валасамі, яшчэ раз кінула на яго вачамі і, не ўсміхнуўшыся, сказала:

— Ну, ну, чакай... Я думала... А ты і праўда дурань.

І пабегла да ганка, у клуб.

Васіль больш туды не пайшоў. Але толькі ў той вечар. А надалей тактыкі сваёй не змяніў. Па-ранейшаму, дзе толькі мог, пасвіў Валю вачамі. Часам яму ўдавалася на імгненне злавіць яе пагляд, але ў ім ён нічога не прачытваў, акрамя таго, што ён, Васіль, для яе не існаваў. Гэта яго, аднак, не бянтэжыла. Ён сапраўды верыў у тое, што сказаў Валі тым вечарам. Яна будзе яго жонкай! Гэтыя словы ён успрымаў зусім спакойна, як і належыць. Ён зжыўся з імі і паверыў у іх. Асабліва пасля таго, як раптам датумкаў, пачуўшы ад Валі слова «стрынадка», што яна таксама беларуска. Прынамсі, карэнні беларускія ў яе ёсць, калі бабка называла ўнучку стрынадкай. Васіль не памыляецца. Ён таксама чуў гэтае слова. Ці то ад цёткі Ганны — яна, здаецца, называла так сваіх дачок, калі яны былі малыя, а пасля і ўнучак, ці мо яшчэ ад бабкі Альжбеты, якая памерла неўзабаве пасля вайны, але якую ён, Васіль, добра памятае, бо яна не адзін раз частавала яго мёдам з сотамі, калі ён разам з маці прыходзіў да яе ў адведкі. Для яго гэтая акалічнасць не была проста выпадковасцю, збегам выпадковасцей. Ён і думкі не дапускаў, што на яго месцы мог быць іншы хлопец, таксама беларус, якіх было нямала ў гарадку. Для яго гэта сталася знакам, прыкметай лёсу. Ён нават успомніў матчына слова «планіда». Расказваючы пра каго-небудзь, яна часта казала: «Такая ўжо планіда ў чалавека». І вось цяпер ён прымерkаваў гэтае слова да сябе. Такая ўжо яго планіда! Ён так моцна верыў у гэтую сваю планіду, што цалкам, як кажуць, аддаўся на волю лёсу і не рабіў ніякіх захадаў, каб самому як-небудзь і дзе-небудзь загаварыць да Валі, зачапіць яе.

І дзіўна ж — лёс ішоў яму насустрач!

У нядзелю ён пайшоў на пошту — купіць канвертаў і паперы. І там, ля пошты, напаткаў Валю. І яна зноў сама зачапіла яго, загаварыла гэтак жа смяшліва, як і ў мінулы раз:

— Усё спадзяешся?

— Спадзяюся,— адказаў ён.

Яна знячэўку ўзяла яго пад руку, таўханула плячом:

— Які ж ты муж, калі ні разу не загаварыў да жонкі?

— Не хацеў надакучаць. Яшчэ нагаворымся.

Яна зарагатала весела і звонка, не зважаючы на тое, што ля пошты ў нядзельны дзень было людна. Супакоіўшыся, сказала:

— З табой не засумуеш!.. Дык ты ўжо не маўчы, раскажы, адкуль ты ўзяўся такі на маю галаву... Муж!

Пайсці ў гарадку асабліва не было куды. Пааціраўшыся трохі ў цэнтры, на людзях, падаліся да рэчкі. Канчалася лета, дзень быў сухі і цёплы. Селі яны на паваленае, акоранае і выслізганае за гады дрэва, памаўчалі спачатку, але пакрысе разгаварыліся і ўжо без асаблівых пасмешкаў расказалі адно аднаму збольшага пра сябе.

Васіль паведаміў Валі, што ў яго ёсць брат Максім і сястра Волька, старэйшыя за яго, жывуць асобнымі сем'ямі, а дома толькі маці, бацька не вярнуўся з вайны. Валін бацька таксама загінуў на фронце, бабуля нядаўна памерла, дома засталіся мама і малодшая сястрычка Тома, яна летась скончыла школу і працуе ў ашчаднай касе касірам.

— А чаму бабуля называла цябе стрынадкай? Яна што, беларуска? — пацікавіўся, не сцярпеў Васіль.

— Як ты здагадаўся? Ты таксама беларус?

— Беларус.

— А ты адкуль? Барысаў ведаеш? — загарэлася Валя.

— Дзіва што ведаю! Ад нашага Міжгорска кіламетраў семдзесят да Барысава,— адказаў Васіль.

— Ой, дык гэта ж зусім блізенька! — пляснула рукамі Валя.— Бабуліны бацькі былі з-пад Барысава. Яны прыехалі сюды яшчэ да рэвалюцыі. Бабуля і

вёску нейкую называла, ды я забылася. Як твая вёска завецца? Звонічы? І яна нешта такое называла. Таксама на «ічы» канчалася. Бабуля і ўсё ўспаміналa сваю Беларусь і ўсё хацела вярнуцца туды. Казала: «Хоць бы разок зірнуць і тады памерці ўжо...» Маці яе, гаварыла, наказвала ёй, каб не заставалася тут, а ехала на радзіму, да дзедаўскіх магіл. Бабуля збіралася-збіралася ды так і не сабралася.

— Затое ўнучка выправіць бабуліну памылку — паедзе на радзіму продкаў,— заўважыў як бы між іншым Васіль.

— Ты зноў за сваё? — ускінулася Валя.

— А што я — тут жонку пакіну, а сам паеду?

— А калі жонка не захоча? — усміхнулася Валя.

— Усё роўна адзін не паеду,— адрэзаў Васіль.

— Паслухаць цябе яшчэ раз-другі, дык, мусіць, і не выкручуся, згаджуся пайсці за цябе!

— Вядома, пойдзеш! Я ж казаў, ты добрая, пашкадуеш чалавека і згодзішся,— Васіль не адступаўся.

— Я добрая па абавязку службы,— сказала Валя.— У белым халаце чалавек павінен быць добрым.

— А ты і так добрая.

— Не балбачы, бо гэта пачынае ўжо надакучаць,— паднялася Валя.— Калі ты, мужанёк мой, дэмабілізуешся?

— Як толькі загад выйдзе. Можа, праз тыдзень, можа, праз месяц.

— Дык вось што я табе скажу, мужанёк. Будзь здароў і не кашляй! Дэмабілізоўвайся і едзь на радзіму сваіх і маіх продкаў.— Яна абцягнула, папраўіла на сабе сукенку, ускінула на руку чорную паўкруглую сумачку.— А каб твая фізіяномія не была такой кіслай, так і быць, пацалуй на развітанне сваю выдуманую жонку.

Валя падставіла для пацалунка шчаку, адкінуўшы вольнай рукою валасы за вуха. Васіль быў ужо наважыўся дакрануцца вуснамі да гэтай чыстай і падзявочы пухленькай шчочкі, ды раптам моцна ашчапіў Валю, прыгарнуў да сябе і прыпаў вуснамі да яе вуснаў. Яна паспрабавала вырвацца, але рукі яе былі пад яго дужымі рукамі, яна тузанулася раз, другі, трэці, а пасля сцішылася, бязвольна абмякла, у здзіўленні адзначаючы сама сабе: што гэта ён робіць,

гэты дужы, рослы, па ўсім відаць, добры і досыць сімпатычны салдацік, яе нязваны-негаданы муж?

Калі Васіль выпусціў яе, нарэшце, са сваіх абдымкаў, яна не заехала яму па твары. Толькі паправіла на сабе сукенку, валасы, сумачку на руцэ і, стрымліваючы дыханне, сказала:

— Дзівак ты! Я жартам, а ён...

Яна не дагаварыла і хуценька пашыбавала па сцяжынцы ўверх. На грэбені крутога рачнога схілу азірнулася. Васіль згледзеў гэта і рвануўся ўверх. Тады яна таксама кінулася бегчы і знікла між дрэў...

Да ад'езду ён больш не гаварыў з Валяй. Адзінае, што зрабіў, дык гэта здабыў пры дапамозе хлопцаў Валін адрас — яе хатні адрас, адкуль яна прыехала ў ваенны гарадок і дзе жыла яе маці з малодшаю сястрою. Сам сабе і Валі тлумачыў пасля так: от нешта карцела мець той адрас.

Праязныя дакументы яму выпісалі да Мінска. Ва Уладзівастоку ён сеў у цягнік і паехаў. Аднак жа добра ведаў, што да пункта, указанага ў ягоных дакументах, ён не даедзе. Мо таму і не браў білета на самалёт, як іншыя. Нават і ў сне ён памятаў, што па дарозе недзе будзе станцыя Мучная — Валіна станцыя. Што там здарыцца, ён не ўяўляў, толькі быў упэўнены, што проста так ён яе не праедзе.

На станцыі Мучной ён апынуўся ноччу. Звычайны, як паўсюль, будынак вакзальчыка. Не дужа шмат людзей. Дзве ці тры мінуты стаянкі. Загадзя ён не рыхтаваўся што-небудзь рабіць на Мучной — сядзеў на краёчку лаўкі і зусім быццам абыякава глядзеў у цёмнае акно. Але калі цягнік крануўся, лапнуў у рукі свой небагаты скарб, у тры скокі апынуўся ў тамбуры і ўжо з паднятай пляцоўкі-прыступкі гэпнуўся на перон.

І калі дагэтуль галава яго была трошачкі як у тумане, дык цяпер, на пероне аднаму богу вядомай станцыі Мучной, яна запрацавала ясна і цвяроза. Зараз ён пойдзе на вакзал, як-небудзь перакантуецца да раніцы — не так і доўга яе чакаць, а раніцай пойдзе да Валінай маці. Але, але, проста так па вывучаным, быццам даўно знаёмым адрасе: прыйдзе, пазвоніць у дзверы, зойдзе ў кватэру і скажа...

Дом, а калі больш дакладна, дык дамок, падобны на ўкраінскую мазанку, прынамсі, звонку пабелены,

стаяў пры самым канцы вуліцы, якая ўпіралася ў сопку. Васіль яшчэ раз зірнуў туды, дзе была прымацавана таблічка-нумар — памылкі не было. Тады ён адчыніў весніцы, прайшоў да ганка і, не знайшоўшы кнопкі званка, пастукаў костачкамі пальцаў у дзверы. На стук ніхто не абазваўся. Тады ён пастукаў яшчэ раз, трохі мацней. На гэты раз дзверы расчыніліся. На парозе стаяла яшчэ не старая жанчына, нечым ледзь улоўным падобная на Валю. «Значыць, не памыліўся»,— адзначыў Васіль і спытаўся:

— Можна да вас?

Валіна маці зрабіла нейкі няпэўны жэст — бы памкнулася была спытацца пра нешта, але перадумала, махнула рукой на хату:

— Заходзьце, калі ласка.

Ён ступіў цераз парог, апусціў долу чамадан, перакінуў цераз спінку крэсла шынель, звычна шмаргануў рукамі па рэмені, абцягваючы-папраўляючы гімнасцёрку, сказаў:

— Добры дзень вам у хату!

— Дабрыдзень,— адказала Валіна маці. Яна прычыніла дзверы і запытальна глядзела на яго.

— Вы, канечне, не здагадваецеся, хто я,— пачаў Васіль і раптам запнуўся, змоўк.

— Я й не чула, як вы пастукалі,— сказала жанчына, быццам апраўдваючыся.— Тома на работу пабегла, а мне сёння пазней трэба, дык я на кухні поркалася... А хіба я ведала вас раней?

Валіна маці гаварыла спакойна, як заўсёды гавораць жанчыны з чужым чалавекам, што пастукаўся ў хату; яго, Васілёва, маці гаварыла б, пэўна, гэтак жа; і ён, слухаючы яе, перадыхнуў з палёгкаю.

— Не, раней вы мяне не ведалі,— адказаў ён на яе пытанне.— Не маглі ведаць...

— А вы ж... Здаецца, вы сказалі, што я павінна была здагадацца?

— Не, не тое... Я к таму, што вы і не можаце здагадацца,— выкруціўся Васіль.

— То хто ж вы будзеце?

— Я... Ад Валі я,— як знайшоўся ён.

— Я так і падумала. Даўно яе бачылі? Ды вы не стойце, сядайце, калі ласка. Чаго ж мы ў парозе стаім?.. Праходзьце туды,— паказала яна на расчыне-

ныя дзверы ў другі пакой.— Праходзьце, сядайце, расказвайце.

Ён зноў перадыхнуў, каўтануў сліну, што сабралася ў роце ад хвалявання, прайшоў у пакой і сеў на падсунутае Валінай маці крэсла. Сама яна засталася стаяць.

— Дык як жа там Валя? Чаго ж гэта яна вас...

Васіль не даў ёй дагаварыць:

— Я не зусім ад Валі...

Яна зірнула на яго ў недаўменні, потым перапытала:

— Не зусім? З ёй што, бяда якая?

Ён прыпадняўся, замахаў рукамі:

— Не, не, з ёй усё добра, вы не хвалюйцеся... Я мужык Валін!

Апошнія словы ён амаль выкрыкнуў. Яна ўспляснула рукамі, апусцілася ў крэсла, прашаптала:

— А божачкі! Які мужык? Муж, значыцца?

— Ага,— бы які недапечаны, кіўнуў ён.

Валіна маці ўсхліпнула. Змахнуўшы рукамі слёзы з вачэй і шчок, яна загаварыла спакайней:

— А чаго ж гэта так? Ні слова маці... Ні ў пісьме, ні як прыязджала... Калі ж вы гэта? І чаму ж ты адзін? Яе што, не адпусцілі?

Васіль пабялеў. Тут толькі да яго дайшло, нарэшце, што ён натварыў! Апусціўшы долу вочы, хаваючы-ўцягваючы далоні ў рукавы гімнасцёркі, ён выціснуў з сябе:

— Ну, яшчэ не зусім муж... Я падумаў... Валя яшчэ не рашыла...

Больш ён нічога не змог сказаць, бо ўбачыў, што Валіна маці перамянілася ў твары, устала з крэсла, выцерла вочы насуха. Загаварыла цвярдзей:

— Што ты, хлопец, вярзеш? Зайшоў у хату, дык кажы, чаго зайшоў. А то: муж — не муж, Валя яшчэ не рашыла!.. Дачка ні словам не абмовілася, а ты заявіўся...

— Я люблю Валю,— уставіў Васіль.

— Ну і што? Ёй ты пра гэта гаварыў? Вы што — рашылі пажаніцца? І ты, і Валя?

Васіль паспрабаваў быў тлумачыць, як ён апынуўся ў Мучной, як і навошта знайшоў іхнюю хату, але Валіна маці не стала слухаць:

— Не тлумі ты мне, хлопец, галавы! От прывядзе

дачка мне ў хату чалавека, як гэта ў людзей робіцца, і скажа, што гэта яе муж, тады я ведаць буду, што рабіць,— сказала яна.

Васіль падняўся, пайшоў да дзвярэй, узяў у руку чамадан, другой падхапіў шынель. Патыкаючыся задам да дзвярэй, прамармытаў:

— Даруйце... Я не хацеў... Вы некалі прыехалі з Беларусі... Я таксама з Беларусі... Выбачайце, калі ласка...

Валіна маці дагнала яго ўжо на вуліцы і зноў вярнула ў хату:

— Ідзі ды толкам раскажы, што да чаго! А то пасеяў трывогу і ўцякаеш... Калі ўжо зайшоў, дык...

Пакорліва пайшоў Васіль за ёю ў хату і... застаўся там, і ноччу спаў на ложку, на якім, будучы дома, спала Валя.

Пра тое, як гэта яму ўдалося, ён расказваў Валі пасля, як яны пажаніліся ўжо — так:

— Маці твая, аказваецца, не такая недаверлівая, як ты. Як і табе, я ёй не хлусіў. Сказаў праўду: люблю цябе, толькі цябе і нікога больш, будзеш ты за мной, як за каменнай сцяной, з рук не спушчу да старасці. Маці паверыла і згадзілася аддаць за мяне сваю дачку. Сказала: «Жыві ў мяне, усім скажу, што ты зяць, а Валя прыедзе — запішацеся...»

Валя рагатала:

— А калі б я неспадзеўкі замуж выскачыла?

— Ты на сябе не нагаворвай! Я ж сказаў, што ты мая жонка. Дык якая гэта жонка будзе выскокваць замуж за некага, як не за свайго мужа?!

А Валіна маці прызналася неяк Васілю:

— Ліха яго ведае, але тое тваё трызненне перадалося і мне. Мне ж мама мая і паміраючы ўсё наказвала на радзіму вяртацца. Казала: там і сонейка цяплейшае, і вада смачнейшая, і паветра саладзейшае, і травіца мякчэйшая... Дык я і падумала: а мо і праўда лёс, як гэты салдацік кажа? Не бандзюк жа ён, не ўзвей-вецер, здаецца, і не заморак які-небудзь.

Жарты жартамі, а пажаніліся яны сапраўды, як у кіно. Толькі ці так яно і важна? Галоўнае — жылі і жывуць душа ў душу, двух дзетак займелі — дачушку і сына. Праўда, з дзецьмі яны не дужа спяшаліся. Валя настояла, каб Васіль спярша, без лішніх турбот,

вячэрнюю школу скончыў, бо ў яго за плячамі была толькі сямігодка. Не паслухацца ён не мог. Калі Валя хоча, дык ён і не тое адолее, хоць, папраўдзе, не бачыў ён асаблівай карысці ад той вячэрняй школы, не разумеў, чым яна можа памагчы ў яго шафёрскай рабоце, якую ён і без школы любіць і ўмее, здаецца, рабіць не горш за іншых.

Дачушка знайшлася ў іх ажно на пятым годзе сямейнага жыцця. Васіль назваў яе Ядвіськай. Гэтак, як звалі коласаўскую палескую красуню. А можа, і не толькі ў гонар гераіні трылогіі «На ростанях» назваў ён так дачушку. Недзе тым часам, калі чытаў ён трылогію, пачуў і песню пра чарнабрывую Ядвісечку, песню, якая таксама запала яму ў душу. І кніжная Ядвіся, і песенная Ядвісечка спалучыліся ў Васілёвай галаве ў адзіны цудоўны вобраз загадкавай і цнатлівай дзяўчыны-красуні.

Жонка была заўпарцілася супраць Ядвісі. Цешча таксама не пагаджалася на такое імя.

— Там, у вас, можа, і звычна так зваць дзяўчынку, а тут? — казала яна.— Гэта ж пакуль прывыкнуць людзі, абцерпяцца, дык дзіця, не дай бог, і гора набярэцца.

Але Васіль усё ж пераканаў іх — і жонку, і цешчу. Дзеля гэтага яму давялося праспяваць ім, і не адзін раз, «Ядвісечку чарнабрыву». Урэшце на яго бок стала Тома, і малая Ядвісечка, хоць і зусім не чарнабрывая — валосікі ў яе былі акурат такога колеру, як ручайка добра вылежалага і старанна вытрапанага лёну, набыла правы грамадзянства.

Не магла Валя папракнуць Васіля, што ён не любіў дачкі. Як кажуць, крый божа! Вяртаўся з рэйсаў, дык Ядвіська ў яго з рук не злазіла. З ягоных рук і ў школу пайшла. Ды і школьніцай доўга яшчэ заставалася бацькавай дачушкай-пястушкай. Але — няёмка Васілю і прызнавацца — толькі да тае пары, пакуль не знайшоўся ў іх праз дзесяць гадоў пасля Ядвіські сынок, Валерык.

Не можа Васіль ні сабе, ні каму іншаму вытлумачыць, што з ім адбылося, а толькі нешта як перавярнулася ў яго душы са з'яўленнем Валерыка. Сорамна было яму і перад Валяй, і перад цешчай, а найперш перад Ядвіськай, а зрабіць з сабой нічога не мог — начыста завалодаў ім Валерык. Гуляў ён, вядома, і з

Ядвіськай, і буськаў яе, і па галоўцы гладзіў, і гушкаў на руках ажно пад столь вялікую ўжо, аднак жа зусім не з тым спевам душы, які абуджаўся, калі позірк ягоны лавіў сына. З нейкай утрапёнай замілаванасцю ён мог гадзіну навылёт глядзець на сына, і Валя, заўважаючы гэта, амаль злосна казала:

— Што з табой, апомніся! Гэта ж няможна так! Ты ж і сурочыць яго можаш! Не любоў ужо, а насланнё!

Васіль усміхаўся, але ўжо і праўда ці не палохаўся, верачы і не верачы ў гэтыя жончыны перасцярогі-забабоны.

Тысячы пяшчотных, ласкавых слоў прыдумляў Васіль, гамонячы з сынам, люляючы яго, закалыхваючы ў ложачку на колцах, спяваючы яму, пакуль не засне, песню за песняй, якія толькі ведаў. Найперш, вядома, народныя — беларускія і рускія. Жонка і цешча часам ужо і пацяшаліся з яго спеваў, але ён не зважаў на гэта і штовечар выспеўваў-выводзіў над Валерыкам і «Перапёлачку», і «А ў полі вярба», і «Ой, на дубе, на вяршэчку», і «Янка стаіць на гары», і «В чистом поле, в поле под ракитой», і, вядома ж, «Ядвісечку чарнабрыву».

З усіх тых ласкавых, часта не надта ўцямных слоў засталося надоўга адно — цяльпук. Яно стала як бы другім імем Валерыка. Змірыліся з ім і Валя, і цешча. А спачатку ж нападалі на Васіля страшэнна.

— Навошта ты дзіця абзываеш? Хочаш, каб і на вуліцы цельпуком звалі? І што гэта, каб хто сказаў, за цяльпук? Сам ты хоць ведаеш?

Васіль шчасліва рагатаў і адбрэхваўся:

— Дальбог, не ведаю! Ну, гэта нештачка такое кругленькае, мякенькае, пухнаценькае, цёпленькае, пахучанькае. Адным словам, цяльпук! Цельпучок!

— Сам ты цяльпук! — махала рукою цешча, але і сама смяялася.

Аднойчы ж, купаючы Валерыка і вымаючы яго з пластмасавых начовак, ласкава дала шлепяка ўнуку па попцы і сказала:

— Ах ты, мой цельпучок!

Так Цяльпук прыжыўся канчаткова.

А калі Валерык пачаў хадзіць, пераальваючыся, бы качанё, з ножкі на ножку, Васіль да Цельпука дадаў Цельпуковіча і цяпер інакш сына і не заве.

Згадка пра сына, як і штораз, прыкацілася да грудзей цёплай хваляй любасці і пяшчоты, і Васіль, міжволі павёўшы вачамі туды, дзе спаў Валерык, усміхнуўся. Нібыта неблагое хлапчанё расце, хаця... Маці ўжо некалькі разоў намякала Васілю на тое, што яго празмерная любоў пачынае вылазіць бокам: Цяльпук Цельпуковіч, ёй здаецца, пачынае праяўляць не лепшыя рысы характару — самалюбства, эгаізм, усёдазволенасць. Можа, маці ў чымсьці і праўду кажа — лейцы ён напусціў. Па сутнасці сынок расце пестуном-панічом — ніякіх абавязкаў і ніякай адказнасці. Дзесяць гадоў чалавек пражыў, а яны з маці пакуль што не дамагліся і таго, каб пасля сябе засцілаў ложак. Дзіўна атрымліваецца. Яны самі, Васіль і Валя, раслі зусім у іншых умовах. Нялёгкае ў іх было дзяцінства, пасляваеннае, часта галоднае і халоднае. Усім тады было нялёгка, але ім, бязбацькавічам, асабліва цяжка. І вось яны дараслі да сваіх дзяцей і гадуюць іх, кіруючыся адным: каб хаця ж яны не зведалі таго, што зведалі самі. Яно, вядома, не дай бог ім таго, але ж... Але ж яны, іхнія таты і мамы, хоць бы і ён, Васіль, у гэтай сваёй нібы добрай заклапочанасці даходзяць да таго, што і праўда апчаджаюць дзяцей увогуле ад усялякіх цяжкасцей і турбот. А чалавек жа павінен, каб вырасці чалавекам, які будзе здольны паспачуваць і памагчы іншаму чалавеку, пераадольваць пэўныя цяжкасці, зведваць горыч паражэнняў і слодыч перамог. Інакш...

Мо і праўда ён лішне апякае Валерыка? Мо недарэмна маці непакоілася? Пра што гэта яна гаварыла апошні раз? Пра нешта такое, што ўразіла і здзівіла Васіля. Нейкага такога коніка выкінуў Валерык, што пакідаць гэта без увагі нельга было б. Нешта сказаў пра іх — пра бацьку і маці, пра яго, Васіля, і Валю. Ага, во. Маці за штосьці насварылася на яго і пакарала — у кут паставіла. Дык ён ёй заявіў: «А тата лепшы, чым ты. Я цябе не люблю...» І яшчэ: «Калі вы развядзецеся, дык я з татам застануся, а ты будзеш адна». Адкуль пра развод — вядома. Тады якраз разводзіліся бацькі аднаго яго аднакласніка, хлопчыка выклікалі ў суд, пыталіся, з кім ён хоча жыць. А вось яго заява, што тата лепшы за маму, для бацькі кепскае суцяшэнне, як бы ні це-

шыла гэта ягонае самалюбства. Трэба сур'ёзна з ім пагаварыць. А ён усё збіраецца, ды так і не сабраўся, усё не датумкаў, як пачаць гаворку пра гэта, усё часу на гэта не дабраў...

Ціха было ў хаце і па-за хатай. Сцішылася недзе і, пэўна, заснула шчанё, не стала чуваць хлапечай гаманы і дзявочага смеху — пэўна, гарадскія ўнукі і ўнучкі таксама пайшлі спаць, нават клён за акном перастаў шумець — на дождж зноў не сабралася. Адзінае, што ўдалося пачуць Васілю ў начной глушэчы, дык гэта ціхенькае — бы крохкі волас пераломваецца — патрэскванне ў электралічыльніку. Пачуў гэтае патрэскванне і ўспомніў, што недзе чытаў, быццам сам электралічыльнік спажывае на свае ўласныя патрэбы, каб лічыць, колькі кілават скарыстаў-спажыў гаспадар, адзін ці толькі адну дзесятую кілавата электраэнергіі...

...Памяць паклікала яго ў маленства...

## 3

Кладучыся спаць, Васіль папрасіў маці:

— Мама, разбудзі мяне заўтра рана, добра?

— Калі ж гэта — рана? — падзівілася маці.

— Ну, як сама ўстанеш.

— Што ты, сынок! Я ж у пяць падымаюся, як толькі світаць пачынае. Дык жа мне трэба Рабую падаіць, бо дзядзька Юзік чакаць не будзе. А табе нашто так рана? Ці ж сёння ў полі не набегаўся?

— Набегаўся,— пазяхнуў Васіль.— Але мне трэба, мама. Пабудзі, добра?

— Што гэта табе так прыспічыла ні свет ні зара падымацца? — ужо ці не зацікавілася маці.

— Мамачка, потым скажу, толькі пабудзі! Адразу ж, як сама ўстанеш!

— Ну, добра, добра! Спі ўжо!..

Васіль супакоіўся, перавярнуўся на другі бок — лёг тварам да сцяны, але заснуў не адразу. Усё думаў пра тое, што будзе заўтра. Вось усе здзівяцца! І зайздросціць будуць! Асабліва гэты задавака Толік! Хай пакусае сябе за локаць! Так яму і трэба!..

Толік — Васілёў аднагодак і сусед. Гароды іхнія мяжуюць. Васілёвы вішні, што растуць на ўзмежку, пусцілі атожылкі і па другі бок паркана, і Толік

лічыць іх сваімі. Затое сукі старой расахатай ранетаўкі, што расла ў куце каля Толікавай пуні, амаль да зямлі звісалі на Васілёў бок, і Васіль, у сваю чаргу, абіраў іх з поўным правам.

— А што,— казаў ён Толіку,— яшчэ трэба разабрацца, чыя гэта ранетаўка. Што, твой дзед садзіў? Так я табе і паверыў! А чаму ж яна тады сядзіць на самым раўчуку? Бачыш, камель пад самым капяжом?

Зрэшты, спрачаліся яны проста так, абы спрачацца. Спрачаліся тады, калі сустракаліся на гародах: Васіль па адзін бок моцнага яловага паркана, Толік — па другі. Не гаварыць нічога адзін да аднаго — як ты сцерпіш? Дзе ж ты тут будзеш маўчаць, калі бачыш, што нехта латошыць «нашы» ранетаўкі, а, з другога боку, нехта лоўка пстрыкае костачкамі «нашых» вішань?! І хлопцы бурчалі проста так, без злосці, каб праз пяць хвілін мірна і лагодна сядзець побач на цёплым валуне, што ляжыць на ўзбочыне вуліцы ля веснікаў у Толікаў двор. Валун замяняў лаўку. Яны сядзелі і памяркоўна гаварылі, быццам ніколі і не было між імі нічога, быццам ніколі і ні за што не сварыліся,— як самыя заўзятыя, вадой не разліць, сябрукі. А на гаворкі ў іх хапала і часу, і ахвоты, і фантазіі...

Добра было б на Краснай горцы зямлянку выкапаць. Такую, як у вайну капалі ў Барку. Меншую, вядома, але каб і грубачку там скласці, і каб комін вывесці наверх, куды-небудзь пад куст, і каб палаці земляныя парабіць, а дах дзёрнам выкласці, каб чужое вока зямлянкі той і не ўгледзела. Пагоняць кароў пасвіць, дык можна было б не толькі ад дажджу схавацца, але і ў вайну згуляць...

А няблага было б сплесці ракітавую каробачку — ментузоў цягаць з перасохлай за лета Бачылаўкі. Вядром не так упраўна, а ракітавым кашом здорава было б...

А то — змайстраваць бы самакат, ды такі, што круціў бы за ручку, а ён цябе вёз бы. У дзядзькі Антося такі ёсць? Не, у дзядзькі Антося кепскі, трэба ручку туды-сюды тузаць, тузаеш-тузаеш, а самакат усё роўна памалу коціцца. От каб ручкай круціць, а на вось ланцужок ад старога веласіпеда перакінуць! І лягчэй было б везці сябе, і хутчэй бы ехаў такі самакат...

А назаўтра хлопцаў як падмянялі. Не тое што на камені разам не ўбачыш — на вуліцу адначасова не пакажуцца. Цікуюць з-за платоў адзін за адным: не памірыліся. І пэўна ж! Толік дужа хвацкую стрэлянку зрабіў. З трубчастага гонкага маркоўніку, што парос за пуняй. Заціснеш у адзін канец затычку, з другога боку квачом саўганеш — і страляе гулка, і затычка ляціць далёка. На ўсе дваццаць метраў! Паклаў на слупок шапку і стараецца пацэліць — збіць яе долу. А Васілю ні разу не даў стрэліць. Скнара! Няхай! Папомніць, прыйдзе коза да воза! От прыедзе Максім, тады будзе відаць, што ён заспявае са сваёй стрэлянкай!..

Максім, Васілёў старэйшы брат, робіць слесарам у эмтээсаўскай майстэрні ў Янавічах, да якіх ад іхніх Званічаў кіламетраў восем. Улетку Максім ездзіць на работу на веласіпедзе, а ўзімку кватаруе ў Янавічах. Надакучаў маці з тым веласіпедам усю зіму і выклянчыў — купіў вясною ў Мінску на барахолцы. Стары веласіпед, яшчэ даваенны, камеры ў ім латаныя-пералатаныя, шчыткі пагнутыя, абады паржавелыя, але ездзіць на ім Максім і не нарадуецца, бо як сядзе на веласіпед, дык тады і не бачыць ніхто, што кульгавы ён — Максім яшчэ зусім малым зламаў нагу, коўзаючыся на драўляным каньку, косці зрасліся, але няправільна, і таму ён досыць прыкметна накульгвае. Максім веласіпед свой вельмі шануе, Васілю не заўсёды дасць пакатацца. Часцей тады, калі Васіль чым-небудзь дагаджае яму — папярос з крамы прынясе, квасу кубак падасць. Тады Максім дазваляе яму праехацца. Толік глытаў слінкі, калі бачыў Васіля на веласіпедзе, не вытрымліваў, прасіў:

— Васіль, дай мне, га? Я недалёка. Да Міхалкі і назад. На тваіх вачах, га?

— Табе? А яшчэ чаго ты хочаш?

Васіль і не глядзеў тады на Толіка. Закідваў за раму нагу, круціў педалі. Толік трос яму ўслед кулаком.

Назаўтра камень ля яго хаты пуставаў...

Цяпер жа Васіль смакаваў, што будзе заўтра. «Не будзеш тады задавакаю! Стрэлянкі шкадуе! Шчасця такога! Захачу — дзесяць зраблю!..»

Сёння Васіль быў у полі — адбываў радоўку за Рабую. Кароў пасе дзядзька Юзік, а падпаскаў яму

па чарзе даюць з кожнага двара. Сёння была Васілёва чарга. Васіль з ахвотаю ідзе ў падпаскі да дзядзькі Юзіка. Праўда, часам здавалася яму, што дзядзька Юзік вельмі часта пасылае яго, Васіля, адагнаць ад шкоды чыю-небудзь карову, але Васіль за гэта не крыўдуе: на тое ж ён і падпасак, каб пабегаць. Урэшце, дзядзька Юзік — старэйшы, каму ж, як не яму, камандаваць? Затое як дзядзька Юзік умее расказваць! І столькі цікавага! Кожную сцяжынку, кожнае дрэва, нават купіну ведае наўкол дзядзька Юзік, і пра ўсё ў яго ёсць цікавыя байкі. Васіль ажно здзіўляецца: адкуль толькі і ведае ўсё тое дзядзька!

Але найбольш прыемна Васілю ад таго, што дзядзька Юзік размаўляе з ім, як з дарослым, як з раўнёю. Вось і сёння. Выгналі кароў на выган. Счакалі крыху, пакуль збяруцца ў гурт усе вясковыя рагулі, кветкі, букеткі ды падласкі, а пасля дзядзька Юзік і кажа:

— Ну, то што, сынку, будзем рабіць? Мо пад Красную горку падамося? Я ўжо там дзён пяць не быў, траўка павінна добра адскочыць...

Васіль разумее, што ўсё роўна, пярэч ён ці не пярэч, дзядзька Юзік пагоніць статак туды, куды надумаўся. І таму ён маўчыць, быццам згаджаецца. Што з таго, што яму, Васілю, не хочацца сноўдацца за каровамі па кустах на той Краснай горцы? Але, што ні кажы, усё-такі прыемна, што дзядзька Юзік «раіцца» з ім.

— То так, сынку. Паціху паперадзе пойдзем, глядзіш — у часе і да Краснай горкі дойдзем. Там кароўкі паляжаць, жвачку перажуюць, і мы адпачнём. Мо і малінай паласуемся. Сёлета ад яе ўся Красная горка чырвонай будзе. Дужа ўрадзіла! Мабыць, паспела за гэтыя дні.

Красная горка — невялікі грудок, за кіламетра паўтара ад Звонічаў. Некалі, Васіль чуў ці не ад таго ж дзядзькі Юзіка, на Красную горку ездзіў слухаць салаўёў пан з паненкамі. Ад тае пары засталася, бадай, толькі назва — Красная горка. Старэйшыя людзі казалі яшчэ, што некалі на Краснай горцы быў прыгожы сад-гай. Раслі грушы, яблыні, слівы, парэчкі, агрэст і смароднік. Быццам былі там і роўныя акуратныя алейкі. Цяпер ад усяго таго нічога, бадай, не засталося. І грушы і яблыні, казалі, павымярзалі

перад вайною. Толькі зрэдку, дзе-нідзе, трапляюцца горкія — ажно Масква відаць! — дзічкі-гарчэча і грушы-самасейкі. Альшэўнік, лазоўнік і акацыі заглушылі парэчкі, агрэст, алеі пазарасталі. Замест іх цяпер тут ледзь пралазныя сцежкі ў гушчары. Затое разбушавалася тут крапіва і маліна. Маліны кожнае лета — процьма. Усе суседнія вёскі цягаюць адсюль маліну вёдрамі і кашамі. Возяць прадаваць у Мінск. Дзецям ёсць занятак і заробак. Калі пастарацца, дык можна назбіраць не толькі на сшыткі і алоўкі, але і на якую-небудзь адзежыну.

Тым жа летам Васіль неяк зусім забыўся на маліну. Думаў — яшчэ не пара. Аж бач, дзядзька Юзік кажа, што паспела ўжо...

Ён ледзь дачакаўся, пакуль палягуць каровы, і сігануў у кусты. І адразу ж натрапіў на маліну. Ад яе чырвана было наўкол! Каўтануў некалькі ягадзін — быццам мёд! Ягады віселі цэлымі гронкамі, буйныя, як слівы ці касцянкі. Спачатку разгубіўся. Хацеў зрабіць карэц, набраць маліны ды занесці дадому, маці пачаставаць, але перадумаў. «Яшчэ ўбачаць! Не! Я першы іх знайшоў, заўтра ж першым і пайду. Вазьму кошык і ранелька-рана. Нічога, што росна. Крапіва не так будзе пстрыкацца. Ото будуць усе зайздросціць! А найбольш гэты Толік! Я заўтра мо і два разы спраўлюся...»

З гэтымі думкамі Васіль і заснуў.

Назаўтра маці разбудзіла яго на самым золку. Васіль хуценька выслізнуў з пасцелі, пачаў апранацца. Пакуль маці даіла Рабую, ён скокнуў на гарышча — зняў чыстую, з сасновага карэння кашолку, якую маці берагла пад ягады і вішні, нацягнуў на ногі парваныя боты-гумовікі, кінуў у кашолку мацерыну старую хустку — павязаць на шыю і галаву, каб крапіва не кусалася, і пашыбаваў загуменнем. Спусціўшыся да Яўхімавай крыніцы, задаволена адзначыў, што ніхто яго не бачыў. Адсюль дарога прадзіралася праз кусты, і Васіль, не баючыся, борздка пашыбаваў да Краснай горкі. «Першы ці не?» — трывожыла думка.

Маліна была не кранута. Крамяны малінік, нікім не патрушчаны, не паламаны, тапырычыўся, пырскаўся расою. Ад сэрца адлягло. Прывязаў да кашолкі вочапку, павесіў яе на шыю і пачаў спрытна збі-

раць абедзвюма рукамі буйныя сакавітыя ягады. Усе ў кашолку: у рот пакуль што нельга — хай закрыецца дно...

Колькі часу мінула, Васіль не ведаў. Адчуў толькі, што кашолка пацяжэла — вочапка пачала муляцьрэзаць шыю. Рабілася душна. Сонца паднялося досыць высока. Цяпер Васіль не спяшаўся. Кашолка была амаль поўная, можна было дазволіць сабе кідаць пяць-шэсць ягадзін у пасудзіну, а сёмую — у рот.

Кашолка ўсё цяжэла. Васіль асцярожна, каб не патрушчыць, разгроб ягады, падгарнуў іх пад берагі. Пасярод утварылася ямка. Зрываў маліну жменямі і сыпаў туды, у гэтую ямку. Так, здавалася, кашолка напаўнялася хутчэй. І праўда — ужо амаль з берагамі. Яшчэ прыгаршчы — і ямкі не стала.

Васіль апусціўся на калені, перакінуў цераз галаву вочапку, паставіў кашолку на зямлю. Дастаў з кішэні ножык-складанчык, зроблены Максімам у майстэрні, акуратна выразаў і акарыў два тонкія, але нягнуткія пруткі-распоркі — уставіў у кашолку, каб не таўкліся ягады.

«Вешаць на шыю не буду. Набяру і так. Закрыць пруткі і насыпаць коптур...»

Васіль разагнуўся і... пачуў галасы. Прыслухаўся. Не, мусіць, падалося. Але калі шмаргануў некалькі разоў ягады, зноў пачулася гамонка. Галасы сталі быццам бліжэй. Васіль спішыўся, зашыўся, шморгаў ягады і. не гледзячы, кідаў іх у кашолку: прыслухоўваўся. Ён не заўважаў, што кашолка даўно ўжо поўная, нават з коптурам, што ягады скочваюцца на зямлю. Галасы былі зусім блізка, Васіль іх пазнаваў. «Гэта Зінка Аленіна, гэта Воўка Маслюкоў... А гэта — Воўка Дрозд... Толіка няма...» І раптам пачуў: «Хлопцы, а чаму гэта Васіля Міхалінінага няма?» Гэта гаварыў Толік, пытаўся пра яго, Васіля.

Ён бязвольна апусціўся на калені. Стала блага — ці то ад духаты і спякоты, ці то ад з'едзеных нашча малінін, ці то ад пякучай крыўды, што душыла яго. На вочы нагортваліся слёзы. «Гэта ж трэба! Так спяшаўся, так хацеў быць першым, каб ніхто не ведаў, каб усе пазайздросцілі...»

Чаму раптам прыпомніўся той дзень, тая яго дзіцячая крыўда ад таго, што не першы прынёс у вёску паўнюткую кашолку маліны? Не такі і прагавіты быў ён, Васіль. Крыўда — не ад прагавітасці. Ад таго, што не яму выпаў гонар быць першым. А яшчэ ад таго было крыўдна, што сорам грыз душу. Вунь, усе сабраліся гуртам і пайшлі на Красную горку, а ён, як злодзей, краўся ціпіком, каб хаця ніхто не ўгледзеў. Ісці дахаты яму давялося таксама крадком, пасля ўсіх — каб зрабіць выгляд, што гэта яны яго не пазвалі, а не ён іх. Было такое, было! І дзень той памятае Васіль вельмі добра. Але ж ці толькі з-за таго выпадку? І ці таму так яскрава высвяціўся ён цяпер, праз столькі гадоў? Мо ў звязку з Цельпуком Цельпуковічам? Маўляў, бацька і падпаскам быў, і маліну збіраў, каб зарабіць на кніжкі ды на чаравікі да школы, а сынка адно ведае буськаць ды па галоўцы гладзіць? Можа, і ў звязку з гэтым. Аднак жа мроіцца і яшчэ штосьці. Але, але, было і яшчэ нешта ў той дзень, і куды больш важнае, чым кашолка маліны з Краснай горкі. Што?

Ды вядома, што! Як ён мог забыцца! Як ён мог помніць пра тую кашолку маліны, а пра гэта забыцца?

Маці пераняла яго на гумне, узяла з рук кашолку, пахваліла:

— Ну як жа на цябе не сварыцца! Хоць бы сказаў што. А то зайшла ў хату, Рабую падаіўшы, а яго нямашака. І следу ніякага! Куды, дзе прапаў — паспрабуй здагадайся! А ён во што надумаўся! Гэта ўчора ў полі нагледзеў? Ну, малайчына! Ідзі, мыйся ды снедай хутчэй, бо і па абедзе хутка будзе. Вунь дзе сонца ўжо.

Ён памыўся, высербаў міску булёну з ячным праснаком, выпіў конаўку малака і выбег на вуліцу. Зірнуў на Толікаў камень — там было пуста. Зірнуў у другі бок вуліцы — таксама нікога. Крыўды ці сораму ў душы ўжо не было. Ужо былі на языку на ўсялякі выпадак словы пра тое, што заўтра яны ўсе разам, з усходам сонца, не пазней, пойдуць на Красную горку, бо ён, Васіль, сёння пасля ўчарашняй радоўкі праспаў і не змог пайсці, а заўтра абавязко-

ва пойдзе, толькі ж — каму гэта сказаць? Дзе ж той самы Толік? З маліны яшчэ не вярнуўся ці так доўга за сталом апрагаецца?

І тут Васіль убачыў на ўзбочыне чысценькі, жоўценькі, з карычневатымі паскамі сям-там пакінутай кары сасновы кругляк. Навошта яго тут, насупраць іхняй хаты, скінулі? І хто гэта зрабіў?

Падышоў Васіль бліжэй і пабачыў, што танейшы канец кругляка быў абчасаны, як завостраны. Зірнуў уздоўж вуліцы — жаўцеюць такія ж кругляки і ля Міхалкі, і далей, насупраць Любаччынай хаты. Значыць, не звычайныя гэта кругляки-бярвенні, а слупы? Тэлефонныя? Не, не тэлефонныя, а электрычныя! Значыць, і праўда будзе ў Звонічах электрыка?!

Трэці год гавораць у вёсцы пра электрыку. З той самай пары, як першы раз прыехаў у Звонічы з Масквы дацэнт. Прыезд яго быў для ўсіх звонінцаў не абы-якой падзеяй, асабліва пасля таго, як пайшла пагалоска, што дацэнт намерыўся пабудаваць на іхняй плыткай Бачылаўцы... гэс!

Пра дацэнта Васілю расказала маці. Аказваецца, ён родам са Звонічаў. Брат Тэклі Муравіцкай, што жыве праз чатыры хаты ад іх. У маткі яго, Прузыны, было ажно дванаццаць дзяцей, але ўсе памерлі малымі. Засталіся толькі старэйшая Тэкля і апошні Аляксей, гэты самы цяперашні дацэнт. Малым, яшчэ і года не было, ён выкуліўся з падвешаных да бэлькі начовак-калыскі і пашкодзіў хрыбетнік, ад чаго займеў на спіне невялікі горб. Але рос Аляксей галавастым. Мусіць, па гэтай прычыне пасля таго, як памёр яго бацька, Прузынчын брат, што рабіў у Мінску на чыгунцы, забраў пляменніка да сябе. Прузына, казала маці, была і рада, бо на гаспадарцы з яго, калекі, была невялікая помач. Аляксей у Мінску скончыў школу, а пасля тэхнікум, потым ці не сам вучыў у тым тэхнікуме іншых. Перад вайной ён не адзін раз прыязджаў у Звонічы. Прузына надта ж ганарылася сынам, паказвала ўсім яго падарункі, але людзі казалі між сабою, што Аляксей прыязджае не так дзеля маткі і сястры, як дзеля Альбіны Жызнеўскай. Ды, пэўна, Альбіна не вельмі гарнулася да яго і неўзабаве выйшла замуж за Рыгора Бладыку, які рабіў сакратаром у сельсавеце. Аляксей моцна перажываў і, паехаўшы са Звонічаў, як забыўся на

іх — не прыязджаў і не пісаў. Прузына цішком, казалі людзі, праклінала Альбіну, што гэта праз яе сын выракся і вёскі, і маткі. Год не пісаў, другі, трэці, а там і вайна навалілася, не да пісьмаў стала.

У вайну Прузына загінула. На пачатку першай блакады. Ішлі тады карнікі і абстрэльвалі кожны лясок і нават асобныя груднкі лясістыя. Нават могілкі на пагорку, парослыя старасвецкімі соснамі, абстралялі з мінамётаў. А Прузына за могілкамі, у кар'еры, адкуль пясок да вайны бралі, з канём сядзела. Пераляцела міна цераз могілкі і шпокнула ў кар'ер. Каня і не параніла нават, а Прузыну — насмерць. Васіль памятае, як тое здарылася. Цьмяна, але памятае. Сам ён, вядома, туды, у кар'ер, не бегаў, смаркач яшчэ быў, але, памятае, людзі гаварылі, быццам яна і мёртвая трымала ў руцэ павадок ад аброці.

Не азваўся Аляксей Муравіцкі і пасля таго, як вайна з Беларусі пакацілася на захад. Не шукала яго і Тэкля. Па-першае, не ведала, куды і як пісаць. А падругое, разважыла: калі жывы, дык адзавецца, не забыўся ж, пэўна, у якім баку іхнія Звонічы.

Прыехаў ён нечакана восенню сорак пятага. І прыехаў ужо не Ігнасёвым Аляксеем, а дацэнтам Муравіцкім. А самае галоўнае — прыехаў з Масквы. І як калісьці Прузына пераймала ўсіх, каб пахваліцца сынам і сынавымі падарункамі-гасцінцамі, дык цяпер Тэкля ўзахап расказвала кожнаму, пытаўся хто ці не пытаўся, што брат яе жыве ў Маскве ў самым цэнтры, робіць дацэнтам у інстытуце, мае жонку і дзвюх дачок, а ёй, Тэклі, прывёз дзве шарсцяныя хусткі, чатыры бляшанкі тушонкі і цэлага кіло цукру. Жанчынам яна абавязкова паказвала тыя хусткі — зусім аднолькавыя — вялікія, клятчастыя, з кутасамі.

Некалькі дзён прабыў тады дацэнт у Звонічах. І толькі першы вечар правёў у роднай хаце з сястрою. Рэшту ж дзён прападаў то ў лесе, то ў полі, то на беразе Бачылаўкі, а вечарамі сядзеў ці ў старшыні калгаса Барэйкі, ці ў старшыні сельсавета Шалака. Вось з адной з гэтых хат — Барэйкавай ці Шалаковай — і папаўзла па Звонічах чутка, што Ігнасёў дацэнт прапануе пабудаваць на Бачылаўцы электрастанцыю. Маўляў, і Шалаку, і Барэйку прадудзеў

вушы: паглядзеўся я на вашу беднасць-галоту, дужа мяне ўразіла, што тут у вас фашысты натварылі, дык вось хоць памагу тым, чым магу — спраектую невялічкую гідраэлектрастанцыю на Бачылаўцы, каб, нягледзячы на ўсё гора, засвяціліся ў сяле хаты, каб крычалі зыркімі вокнамі на ўвесь свет, што жывём мы, насуперак усім злыдням — жывём, дзяцей гадуем-вучым, старых шануем — іхнія вочы беражэм, не маркоцімся лішне, верым у лепшую будучыню...

Васіль дык чуў усё гэта на свае вушы. Чуў ад самога дацэнта. Іхняя настаўніца Наталля Міхайлаўна запрасіла госця з Масквы ў школу. І ён прыйшоў, выступіў перад вучнямі. І Васіль разам з усімі слухаў дацэнтаў расказ: пра тое, як абаранялася Масква ў сорак першым і як папёрлі-патурылі ад яе варот фашыстаў, як прагналі пэўна сто тысяч палонных немцаў па маскоўскіх вуліцах, каб увесь свет пабачыў, што Чырвоная Армія ўмее ваяваць і абавязкова разаб'е фашыстаў; пра тое, як жыве і працуе сённяшняя, пасляваенная Масква, пра Красную плошчу і Маўзалей на ёй. А пад канец свайго расказу дацэнт загаварыў пра Бачылаўку, пра тое, што яна плыткая і кволая, але ўсё ж, пры добрым гаспадару, можа набрацца сілы, каб вечарамі круціць турбіну і асвятляць звоніцкія хаты, а мо зрабіць і яшчэ сёе-тое.

Чутку пра гэта людзі ўспрынялі па-рознаму. Адны проста адмахнуліся:

— Ат, пустое! Штаны во звальваюцца — духі падцягнула, як тут на электрыку замахвацца?

— Ага, праўду кажаш! Толькі гэтага гэсу нам і не хапала! Лыжку да рота і ўпоцемку данясеш, абы ў лыжцы было!

Іншыя пярэчылі:

— А чаму б і не? Дацэнт жа кажа, што паможа. У Маскве жыве, дык мо і праўда паможа. А электрыка ў хаце — гэта ж любата. Я вунь у Міжгорску была, да Веркі Цюні заходзіла, дык жа — рай! Кожны куточак высветлены!

— А нашто табе куточак той высвечваць? Прусакі і без электрычнасці дарогу да стала ведаюць!

— Не брашы! Мы пры лучыне слепімся, дык хай бы хоць дзеці вачэй не псавалі і копаці тае не глыталі!

— Праўду кажаш! Хай бы Барэйка адразу не ад-

брэхваўся, а падумаў бы добранька, у раён бы з'ездзіў, параіўся, мо і там памогуць чым-небудзь...

Васіль, вядома, быў за гэс усёю душою. Што значыць ужо само гэтае слова — гэс! Гідраэлектрастанцыя! Ён чытаў кніжку пра Днепрагэс. Бачылаўка, на жаль, не Дняпро, рачулка дробная, улетку ў ёй папялёхацца можна толькі ў вірку, што на балоце, а ў іншым месцы яе курыца ў брод пяройдзе, але ўсё ж адно — гэс! І якая ўрэшце розніца, маленькая гэс ці вялікая? Іхнім Звонічам хопіць і маленькай. Абы свяціла ў хатах! Шкада вось толькі, што назва іхняй будучай гэс не падбіраецца, каб так гучала, як Днепрагэс. Скараціць і назваць Бачгэс — незразумела. Бачылагэс — гучыць, як тачылагэс. Бачылаўкагэс — доўга, вымаўляць цяжка. Хай будзе проста гэс. Альбо: гэс калгаса «Чырвоная Беларусь». Чым блага?!

Як і ўсе звоніцкія хлопцы і хлапчукі, Васіль быў за гэс. Ды толькі пакрысе гаворкі пра яе аціхлі. Паехаў дацэнт, і нікому, здавалася, зноў, як і раней, не патрэбна была Бачылаўка. Інтарэсу да яе — ніякага. Струменіць сабе паціхеньку ў абсадзе альховых ды лазовых кустоў, ёсць куды гусям ды качкам выйсці, ёсць дзе спаласнуць памытыя транты — вось і добра. А гэс? Ат, добра таму дацэнту, седзячы ў Маскве, фантазіраваць!

Ды, паўздзіў, праз колькі тыдняў, якраз на Кастрычніцкія святы, Муравіцкі прыехаў зноў. І зноў па сяле папаўзлі чуткі. Ды ўжо, бадай, і не чуткі. Пачутае кімсьці ад хаты да хаты абрастала ўсё новымі і новымі дэталямі, канкрэтнымі, зусім праўдзівымі, і ўрэшце кожны вясковы падшыванец ведаў усе падрабязнасці.

Васіль таксама ведае. Ведае, што Муравіцкі прыехаў не з пустымі рукамі, што ён прывёз вымаляваны-вычарчаны на тоўстай гладкай паперы план ці, як нехта казаў, чарцёж гэс. План той дакладна, па правілах навукі, выверапы і вылічаны. Дацэнт мяркуе будаваць гэс там, дзе калісьці, яшчэ пры панах, на Бачылаўцы быў млын. Старыя людзі памятаюць і млын, і млынара, які немаведама адкуль паявіўся тут і паставіў, пэўна ж, з дазволу пана, на Бачылаўцы млын. Ездзілі ў той млын сяляне з усяго наваколля, ездзілі, хоць і праклiналі млынара, які не браў за памол не так, як спрадвеку бралі ўсе млынары, а

перасыпаў у свае бяздонныя мяхі ці не трэць сялянскага мліва. Мусіць, гэта было прычынай таго, што цёмнай восеньскай ноччу млын разам з прыбудоўкай, у якой жыў млынар, згарэў да тла. Сам млынар ацалеў, але, пэўна, нешта зразумеў, бо аднаўляць млын не стаў і кудысьці знік — гэтак жа нечакана, як і паявіўся. А не стала млына, дык не стала і стаўка пры ім: дно зарасло аерам і лотаццю, невысокі насып, які збіраў ваду, абсунуўся, парос кустоўем.

Вось там, на месцы колішняга млына, і думае дацэнт будаваць гэс. Кажа, што лепшага месца няма, што там палова работы ўжо зроблена — ёсць падрыхтаванае дно і насып. Дно пачысціць, насып паправіць і надсыпаць — вось табе і гатовае месца для збору вады. І не бяда, што месца тое далекавата ад вёскі — недзе з кіламетр. Лягчэй жа будзе ўкапаць паўтара дзесятка слупоў, чым пачынаць земляныя работы на зусім непадрыхтаваным месцы.

Васіль таксама лічыць, што месца выбрана правільна. А вось жа кажуць, што Барэйка не хацеў пагаджацца. Там, якраз па Бачылаўцы, праходзіць мяжа між палеткамі «Чырвонай Беларусі» і калгаса «Энергія». Запруджваць Бачылаўку там — значыць ствараць возера на землях двух калгасаў. А пойдзе на гэта Супрун, старшыня з «Энергіі»? А як упрэцца? Не, круціў галавой Барэйка, шукай, Аляксей Ігнатавіч, іншае месца, каб ужо — наша гэс дык наша!

Муравіцкага, аднак, рашуча падтрымаў Шалак, старшыня сельсавета і сакратар партыйнай арганізацыі. Ён ухапіўся за праект абедзвюма рукамі. Дзякуй трэба сказаць Аляксею Ігнатавічу, крычаў Шалак Барэйку, што ён далей і глыбей за нас з табой бачыць! Ты ж падумай толькі, што выходзіць. Выходзіць, што гэс будзеш будаваць не ты адзін, а з Супруном! А гэта значыць — што? А тое, што мо і праўда будзе гэс на нашай Бачылаўцы. Аднаму, я ўжо табе казаў, было б не над сілу, а разам з «Энергіяй» мо і асіліце. Я адпаведна і райвыканком настрою: маўляў, калектыўная будоўля, трэба ім памагчы... А ты... Няма ў цябе шырыні погляду, індывідуаліст ты, Барэйка, казаў і кажу!.. І Барэйка здаўся.

Васіля гэтая апошняя акалічнасць засмуціла: вось табе і гэс калгаса «Чырвоная Беларусь»! Аднак ненадоўга. Хай далучаецца да Звонічаў і Буда. Вунь

жа яна, відаць са Звонічаў. Буданскія хлопцы ў Звонічы ў школу ходзяць, яны, можна лічыць, свае, не тое што міхалкаўцы ці чэрнеўцы. Галоўнае, што будзе гэс! Муравіцкі, аказваецца, не толькі план прывёз, і нейкія металічныя цацкі. Дзве скрынкі, казалі. Па іх падводу пасылалі ў Міжгорск...

На гэты раз пасля ад'езду Муравіцкага гаворкі пра гэс не аціхлі ў Звонічах. Добрую спажыву гэтым гаворкам дала нечаканая знаходка ў Будзе.

Перад ад'ездам Муравіцкага яго паклікаў у госці старшыня «Энергіі» Супрун. Пайшоў Муравіцкі ў Буду. І там ля кузні, у кучы жалезнага ламачча, пасцягванага адусюль, знайшоў вадзяную турбіну. Якім чынам і адкуль яна трапіла ў Буду? Аказалася, прывезлі яе ў сорак другім акупанты, калі яшчэ мелі ў Будзе свой гарнізон. Пэўна, меркавалі «запрэгчы» ў яе Бачылаўку, няйначай. Але ў тым жа сорак другім партызаны разграмілі буданскі гарнізон, больш немцы ў Буду не патыкаліся. А турбіна засталася. І ёй Муравіцкі абрадаваўся страшэнна, дарма што ўся была пабіта ржою, што на вале не было падшыпнікаў і сам вал быў скарэжаны. Ён тут жа папрасіў вызваліць турбіну з кучы ламачча, схаваць пад павець, ачысціць ад іржы.

Пасля высветлілася, што ад турбіны засталіся прыгоднымі, бадай, адны лопасці, рэшту недастаючых дэталяў трэба было недзе даставаць. А дзе? Абяцаў выручыць з бяды дацэнт: думаецца, маўляў, яму, што ў Маскве ўдасца ўкамплектаваць турбіну, мо нават родны інстытут выручыць за кошт свайго лабараторнага абсталявання.

У Звонічах і Будзе не толькі гаварылі пра будучую гэс, але і сёе-тое рабілі. Прынамсі, Васіль памятае, што і зімой, і вясной, пакуль стаяла санная дарога, звонінцы і буданцы некалькі разоў ездзілі ў Зацэнне па цэглу, а з Міжгорска прывозілі цэмент і кавалкі рэек.

А ўлетку зноў прыехаў Муравіцкі, і на Бачылаўцы закіпела работа. За некалькі тыдняў пракапалі дадатковае рэчышча, каб на галоўным вада не перашкаджала муравацъ турбінную камеру і шлюз, на добры метр паднялі колішні насып, на новым рэчышчы зрабілі бетонны масток з пад'ёмнымі застаўкамі, каб у паводку ці ў вялікі дождж спускаць лішнюю

ваду. На работу выходзілі і старыя, і малыя, зрапку і ўвечары.

Нямала пашчыраваў там і Васіль у кампаніі такіх, як і сам, падшыванцаў. З іх Мураціцкі арганізаваў спецыяльную брыгаду. Яны выразалі на лузе дзярніны, насілі іх на насып і абкладвалі адхоны, старанна замацоўваючы палоскі дзярнін драўлянымі калочкамі. Муравіцкі раз-пораз пахвальваў хлопцаў, і яны стараліся з усіх сіл, вяртаючыся дадому стомленыя і запэцканыя з ног да галавы.

Восенню і зімою будоўля на Бачылаўцы замёрла ў чаканні наступнага лета, калі ў дацэнта зноў будуць канікулы. Дацэнт абяцаўся прывезці з сабой і студэнтаў — ім, будучым электрыфікатарам, будзе тут, маўляў, добрая практыка...

Цяпер, угледзеўшы на ўзбочыне вуліцы свежыя сасновыя круглякі, Васіль ажно сцепануўся ўвесь: як жа ён забыўся? Казалі ж на сяле, што з дня на дзень павінен прыехаць дацэнт са студэнтамі!

Надвячоркам па ўсіх Звонічах капаліся пад слупы ямы. Па адным баку вуліцы ўжо стаялі слупы тэлефоннай лініі, і ямкі людзі капалі па другі бок. Перад гэтым уздоўж вуліцы прайшоўся рахункавод Косця Братачка, пазначыў, дзе капаць ямкі, і наказаў, якой глыбіні. Капалі іх гуртам, мужчыны і хлопцы рознага ўзросту з трох-чатырох, бліжэйшых да таго ці іншага слупа, хат. Ямку насупраць Васілёвай хаты капалі дзядзька Рыгор, Васіль, Толік і аднарукі Сцяпан Думанскі. Зрэшты, дзядзька Сцяпан не капаў, а, тупаючы вакол, пакрыкваў:

— Грыша, рабі ўступ! Без уступу ў метр не выкапаеш! А трэба ж і глыбей! І слупа без уступу дыба не паставіш! А вы, вераб'і, чаго кешкаецеся? Цыркаеце па напарстку! Тут жа мякка, сырая гліна!..

За адзін вечар па ўсім сяле роўным шнурочкам пасталі жоўценькія слупы, востра пахла на вуліцы смалою. Радасці было хлопцам — цераз край!

А назаўтра недзе па абедзе пачалося такое, што і Васіль, і Толік, і іншыя падшыванцы-гарэзы не стыкаліся дома да ночы, забыўшыся і на яду, і на ўсе свае хатнія клопаты і абавязкі.

Зранку Стэпка Фэлькава развозіла па вёсцы скруткі тоўстага, сплеценага з сямі столак серабрыстага алюмініевага дроту. Васіль датуль наогул не

бачыў такога цудоўнага дроту і кавалачка, а тут, дай веры, яго былі цэлыя скруткі, па метраў сто, пэўна, а можа, і па паўкіламетра. Хлопцы гойсалі ад скрутка да скрутка, мацалі дрот, спрабавалі, ці мяккі, ці не ломкі, і ў душы спадзяваліся займець хоць па невялікім кавалачку.

А пасля абеду на вуліцы паявіліся хлопцы і дзяўчаты (дзяўчат было ці не больш) у чорных картовых камбінезонах. З кішэняў у іх вытыркаліся пласкагубцы, кусачкі, у многіх у руках былі свярдзёлкі, а на плячах жалезныя крывулі з шыпамі. Васіля найперш здзівіла тое, што дзеўкі былі таксама ў штанах, як і хлопцы. Гэта былі маскоўскія студэнты, прывезеныя дацэнтам. Хлопцы і дзеўкі гучна перагаворваліся між сабою, смяяліся.

Услед за імі ехала Фэлькава Стэпка. Хлопцы бралі з калёс жалезныя крукі і фарфоравыя ізалятары, раскладвалі іх кучкамі ля слупоў. Пасля, пачапіўшы жалезныя крывулі на ногі, палезлі на пастаўленыя ўчора слупы. Там, наверсе, гэтак жа сама весела перагукваючыся, яны свідравалі ў слупах дзіркі, укручвалі-ўвінчвалі ў іх жалезныя крукі, намотвалі на крукі пасмачкі пянькі, навінчвалі на іх фарфоравыя ізалятары — такія ж, як і на тэлефонных слупах, толькі трошку большыя.

На другі дзень звоніцкія хлапчукі таксама да поцы прападалі на вуліцы. Яны былі найпершымі памочнікамі ў маскоўскіх студэнтаў-электрыкаў, як іх адразу ж ахрысцілі ў вёсцы. Паслугі хлопцаў электрыкі прымалі ахвотна. Ледзь што трэба было, так і крычалі:

— Пацан, падай!

— Мальчык, прыдзяржы!

— Дружок, памагі!

І «пацан», і «мальчык», і «дружок» кідаліся выконваць гэтыя просьбы напярэймы.

Электрыкі раскруцілі скруткі серабрыстага дроту, расцягнулі яго ўздоўж слупоў з канца ў канец вёскі ў тры столкі, потым зноў палезлі на слупы, і ўслед за імі паўзлі, звіваліся, зіхацелі па сонцы алюмініевыя ніткі, каб, нацягнуўшыся, тут жа зазвінець пад лёгкім летнім ветрыкам звонкімі струнамі.

А пасля электрыкі разышліся па хатах. У Васілёву хату завіталі дзве дзяўчыны. Яны паставілі

свае сумкі-торбы на канапу, паклалі на стол інструменты, спыталіся ў маці:

— Мамаша, гдзе вам паставіць выключацель і разетку?

Маці разгублена азірнулася на хату, знайшла вачамі Васіля, бы просячы яго дапамогі, сказала:

— Вы ўжо самі, дачушкі, глядзіце, дзе што. А то ж хіба я разумею? Мо ўжо ў сына во пытайцеся?

Ці зразумелі што дзяўчаты з мацерынага адказу — наўрад, адно ўлавілі, пэўна, наконт сына, бо пасля ўвесь час загаворвалі да Васіля:

— Ну так што, здзесь разетку паставім? Ты гдзе ўрокі дзелаеш? Здзесь? Вот і харашо, лампу сібе настольную паставіш і будзеш дзелаць.

Яны спрытна прыбівалі да сцен ролікі, нацягвалі на іх ізаляваны, скручаны ўдвая, быццам вяровачка, белы провад, свідравалі дзіркі ў перагародках, устаўлялі ў тыя дзіркі фарфоравыя трубачкі, падвешвалі да столі чорныя патроны і тут жа ўвінчвалі ў іх лямпачкі. Шрубы, малаток, кусачкі, тыя ж самыя патроны, трубачкі, выключальнікі падаваў ім Васіль. Пад канец ён ужо ўгадваў, што ім спатрэбіцца ў наступную хвіліну, і стаяў напагатове, трымаючы ў руцэ той ці іншы інструмент ці дэталь. Студэнткі жартавалі:

— Вот відзіш, ты ўжэ ўсё панімаеш! Мог бы і без нас усё здзелаць? Змог бы, да? Не сцесняйся! Падрасцёш і будзеш электрыкам...

Васіль чырванеў яшчэ больш, губляўся, упускаў з рук шрубу ці якую-небудзь пракладку і хутчэй кідаўся на падлогу падымаць, старанна поўзаў там на каленях, шукаючы тую вёрткую шрубу пад сталом, пад канапай, пад ложкам...

## 4

Колькі гадоў з тае пары мінавала, а Васіль і сёння памятае тое незвычайнае ўзрушэнне, калі ў іхняй хаце дзве маскоўскія студэнткі ў чорных картовых камбінезонах і ў велікаватых для іх кірзавых ботах ладзілі электраправодку. Сын часта просіць расказаць, як яны жылі ў вайну і пасля вайны. Васіль не адмахваецца, расказвае. Сын слухае, пера-

пытвае, не верыць. Ён ужо не можа ўявіць, як гэта так, каб не было радыё, электрасвятла, тэлевізара.

«Не было, Цяльпук, ні таго, ні другога, ні трэцяга. У вайну пры лучыне сядзелі. Ведаеш, што гэта такое — лучына? Доўгая і тонкая сасновая трэсачка. Запаліш яе, уставіш у шчылінку ў сцяне, лучына гарыць і асвятляе хату...»

«Дык жа цёмна! Гэта ж як ад запалкі?»

«Ага, як ад запалкі. Цёмна, а што зробіш? Другога нічога не было. І пасля вайны яшчэ доўга пры лучыне сядзелі».

«І ты ўрокі пры лучыне рабіў?»

«Рабіў, Цяльпук, рабіў. А пасля пры газнічцы. Таксама не ведаеш, што гэта такое? А гэта бутэлечка з газай, у бутэлечку ўстаўлены кноцік, ён гарыць, як свечка навагодняя. Толькі свечка пахне, а газнічка смярдзіць і курадыміць».

Колькі Васіль пасядзеў начэй з кніжкамі пры такой газнічцы — хіба лічыў? Маці ляжа спаць, а ён ціхенька ўстане, за газнічку і на печ. Запаліць, паставіць у куточак, каб на хату і водбліску не было, і чытае.

Таму і радасць была такая вялікая, калі ў хаце завіхаліся тыя маскоўскія студэнткі. І маці радавалася. Усё ім то малачка прынясе — наце, дачушкі, папіце халодненькага; то вішань ці парэчак місачку — прысядзьце, дачушкі, хай рукі адыдуць, а то ўсё задзёртымі ўгору іх трымаеце, пасядзіце хвілінку і паешце; то па акрайцу праснака гарачага — падсілкуйцеся, дзевачкі, пакуль цёплы, то, здэцца, і есці можна...

Даўно тое было, нават вельмі даўно, ужо і маці няма чатыры гады, і ён сам, можна сказаць, састарэў, а чаму ж не забываецца, чаму трывожыць? Ды не, бадай, не трывожыць, а салодзіць душу ўспамін гэты. Быццам яму і сёння не сорак сем, а ўсяго толькі адзінаццаць, як і тады, калі ўсе ў Звонічах чакалі і не маглі дачакацца святла Бачылаўскай гэс.

Студэнты тады зрабілі праводку ў хатах, нацягнулі драты на слупах па вёсцы і ад вёскі да гэс і паехалі. А Муравіцкі застаўся — яшчэ шмат было работы на станцыі. Тады Васіль быў малы і многага не разумеў. Яму тады здавалася, што дацэнт корпаецца там з мужчынамі, абы корпацца, замест таго каб усё

хуценька зрабіць і «пусціць святло». Гэта ж трэба — стрэшку над турбіннай камерай рабілі ці не два тыдні! А стрэшка тая — два на два метры, на чатырох цагляных слупках. А колькі правалаводзіліся з павецтачкай, каб схаваць ад непагадзі генератар? А колькі таўкліся з драўляным махавіком, а пасля з тым, каб насадзіць яго на вал турбіны? Тады Васілю здавалася, што ўсё гэта рабілася вельмі марудна. Лета скончылася, восень канчалася, а святла абяцанага ўсё не было.

Цяпер жа, на сталы, цвярозы розум думае Васіль зусім інакш. Наадварот, здзіўляецца, як умудрыўся Муравіцкі разам з Барэйкам і Супруном за такі кароткі час пабудаваць тую электрастанцыйку на Бачылаўцы, дзе і якім чынам здабывалі тую самую цэглу, цэмент, дрот, ролікі, патроны і іншыя матэрыялы.. Не было ж за што, як кажуць, рук зачапіць, хамут новы агараць было праблемай, а тут — замахнуцца на электрастанцыю! Памаглі, вядома, у раёне, сакратар райкома партыі, Васіль памятае, прыязджаў не адзін раз — значыць, пэўна, таксама спрыяў, каб штонебудзь перапала будоўлі на Бачылаўцы. Але ж і Муравіцкаму варта было б помнік паставіць. Гэта ж ужо і тады легенды пра яго хадзілі. Пра тое, напрыклад, як з самой Масквы на ўласным, можна сказаць, гарбе прыпёр у Звонічы вал ад турбіны. Пра тое, як праўдамі і няпраўдамі, стукаючыся ў розныя дзверы і па шмат разоў у адны і тыя ж, здабыў у Мінску генератар...

Муравіцкі тады затрымаўся ў Звонічах надоўга. Прыехаў у канцы чэрвеня ці ў пачатку ліпеня, а паехаў ці не ў снежні. Ды ці паехаў бы, калі б не...

Тады гаварылі ў вёсцы пра гэта шмат, гаварылі па-рознаму, Васіль з таго мала што разумеў. Пасля дайшло да яго, што здарылася, чаму было тады ў Звонічах крыку і бабскай шапатні-балбатні.

Наязджаючы ў Звонічы, Муравіцкі не мог не спаткацца з Альбінай. Рыгор яе загінуў у партызанах, і жыла яна ўдваіх з сынам. Убачыў яе Муравіцкі раз, другі, і вярнулася ў яго колішняя закаханасць. Мо і не вярнулася, мо і жыла ў ім яна заўсёды, воляй прыспаная. А тут тая воля паслабла, жонка з дачушкамі была далёка, ды, казалі людзі, нібы не надта каб і лад быў у іх у сям'і, у Муравіцкіх. Вось і паваp-

нулася ўсё на ранейшае. Альбіна напачатку нібы, як і раней, адварочвалася ад яго, а пасля ці то звыклася, ці то і душою пагарнулася, але пусціла ў хату. Першыя разы як прыязджаў, Муравіцкі жыў у сястры. І апошні раз таксама адразу ў Тэклі спыніўся, але праз некалькі дзён перайшоў да Альбіны. Людзі яму роспытамі не назалялі — ёсць свая галава на плячах, тым больш што з Масквы яму ні благога, ні добрага. Дык калі жыве чалавек, хай жыве. Ужо і электрычнае святло ў Звонічах і ў Будзе загарэлася, ужо людзі пакрысе і прывыкаць да святла пачалі, пакідаючы работу на вечар з прыкідкай, каб зрабіць яе да дванаццаці, бо ў дванаццаць святло выключалі, а Муравіцкі нікуды не ехаў. Бабы, вядома, пасміхаліся з Альбіны — маўляў, у Маскву паедзеш, масквічкай задзелаешся, але ўрэшце папрыхоўвалі языкі за зубамі, перасталі імі мянціць.

І тут, як гром на голае голле, прыкаціла з Масквы жонка Муравіцкага з дачушкамі. Прывёз яе ў Звонічы сам Барэйка на сваім вазку. Быў ён у Міжгорску на нарадзе і, вяртаючыся дадому, напаткаў іх. Пакінула жонка дачок у Тэклі, а сама — да Альбіны. І дармо што масквічка, што вучоная, а дзейнічала так, як і іншая звоніцкая баба дзейнічала б. Пахвастала-пабіла ў Альбінінай хаце два вакны, што ў двор выходзілі, і саму Альбіну трохі за валасы патузала, а дацэнта свайго кухталямі ў спіну выперла з хаты і прыгнала да Тэклі, забрала там дзяцей і, не пераначаваўшы нават, паехала назад. Само сабой, з дацэнтам...

Не ведае Васіль, ці прыязджаў ён зноў калі-небудзь у Звонічы. Пры выпадку трэба будзе папытацца ў каго. Цікава ўсё ж, ці прыязджаў, ці быў хоць на пахаванні Тэклі, ці жыве сам яшчэ. Як бы там ні было, а ў Васілёвай памяці, у памяці многіх звонінцаў пакінуў Муравіцкі, дацэнт з Масквы, добры след, добрую памяць.

А святло загарэлася ў Звонічах вечарам сёмага лістапада 1947 года — у дзень 30-й гадавіны Кастрычніка. У клуб, які месціўся пад адным дахам з сельсаветам, народу набілася біткам — чакалі пачатку ўрачыстага вечара і канцэрта. А галоўнае — чакалі электрасвятла. Ды хоць ужо даўно ацямнела, па-ранейшаму на сцэне, злева і справа, ля партрэтаў

Леніна і Сталіна, гарэлі звычайныя лямпы. У клубе шумелі, час ад часу пляскалі ў ладкі — падганялі-напаміналі, што час пачынаць.

Нарэшце на сцэну, за стол, засланы чырвоным паркалём, падняліся старшыня сельсавета Шалак, старшыня калгаса Барэйка, Муравіцкі, некалькі чалавек праўленцаў. У зале пакрысе пачало ціхнэць, адно яшчэ перад сцэнай, кешкаючыся на падлозе, ля ног дарослых, таўкліся і перашэптваліся дзеці. Але і яны заціхлі, калі Шалак падняў руку і сказаў:

— Таварышы!

І нечакана ўсміхнуўся:

— Сёння ў нас даклада не будзе! Сёння ў нас...

Людзі ў зале пляснулі ў далоні. Шалак махнуў рукою, абрываючы недарэчныя воплескі, і працягваў:

— Сёння ў нас незвычайны дзень. Усе мы чакаем раданай і ўрачыстай падзеі. І яна зараз будзе, дарагія таварышы! З мінуту на мінуту.— Ён выняў з нагруднай кішэні вайсковага кіцеля гадзіннік, пстрыкнуў вечкам, паглядзеў на яго, зноў пстрыкнуў вечкам і схаваў у кішэню. Счакаўшы хвіліну, падняў руку і нечакана рэзка махнуў ёю, бы секануў каго пугай:— Давай, Ваня!

Усе ў зале павярнулі галовы туды, куды махаў рукой Шалак. Там ля дзвярэй, амаль упоцемку, стаяў сакратар сельсавета Іван Мурашка. Людзі, пэўна, не паспелі згледзець яго. Бо ў тое ж імгненне, як Шалак крыкнуў: «Давай, Ваня!», Іван пстрыкнуў выключальнікам. Пад столлю зырка, нібы маланка ўначы, успыхнулі ажно тры лямпачкі — дзве ў зале і адна на сцэне. Усе — ад старога да малога — паўскоквалі з месц, замахалі рукамі, закрычалі «ўра». Асабліва віравалі перад сцэнай дзеці. Шалак доўга тупаў па сцэне, то заходзіў за стол, то выходзіў з-за яго на край сцэны, падымаў то адну, то другую руку, прасіў цішыні, а пасля і сам запляскаў у далоні, і ў зале з новай сілай успыхнулі воплескі.

— Вось, дарагія таварышы, тая галоўная падзея, пра якую я гаварыў,— пачаў зноў са сцэны Шалак, калі крыху пацішэла.— І гэта здорава, таварышы! — раптам закрычаў ён.— Здорава, што іменна ў гэты дзень у нас успыхнула электрычнае святло. Вялікі Кастрычнік у векапомным семнаццатым прынёс у нашы хаты святло волі і шчасця. І яго святло непагас-

нае. Непагаснае, таварышы! Колькі ворагаў намагаліся яго пагасіць — не ўдалося! Савецкія людзі паўставалі як адзін, не шкадавалі ні крыві, ні жыцця, але святло Кастрычніка абаранілі. Абаранілі, таварышы! І вось сёння, у дзень гадавіны Вялікага Кастрычніка, у нас засвяціліся лямпачкі Ільіча. Ура, таварышы!

У зале зноў закрычалі, запляскалі ў ладкі.

— І што я хачу сказаць, таварышы,— перасільваючы шум, гаварыў Шалак.— Святло Кастрычніка прыходзіла да нас заўсёды з Усходу, з Масквы. І гэтае, сённяшняе святло таксама прыйшло да нас з Усходу, з Масквы. Хіба няпраўда, таварышы? З Масквы, бо наш паважаны Аляксей Ігнатавіч — з Масквы. Калі б не ён, не яго галава і рукі, не круціла б сёння наша Бачылаўка турбіну і не было б у нашым клубе так светла. Ура яму, таварышы!

І зала зноў выбухнула апладысментамі.

— Мы пакуль што бедныя, таварышы,— сцішыў голас Шалак.— Такія бедныя, што хоць ты нікому ў тым не прызнавайся.— Ён замоўк на хвіліну, і зала таксама раптоўна ацiхла.— Вайна была, гора, пажары: смерцяў было многа... Вельмі многа... Але мы жывём. І будзем жыць. І добра будзем жыць. Як да вайны жылі і нават лепей. Будзем! Назло Гітлеру — будзем! І гэтыя лямпачкі асвецяць нам шлях. Відней нам будзе з імі, весялей. Бачыце, якая ў нас відната сёння? Во, лямпы патушыце, таварышы, хай не куродымяць. Іх і не відаць, што гараць. Яны гараць, а пры гэтым святле і не відаць. А прыйдзеце дадому — і дома ў вас будзе відна. Відна будзе, таварышы! Дык няхай жыве 30-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!

Пасля быў канцэрт. Спачатку старэйшыя школьнікі паказалі ўрывак з «Партызанаў» Кандрата Крапівы, пасля разам з малодшымі спявалі песні, танцавалі, чыталі вершы і байкі. Васіль таксама спяваў у хоры і танцаваў з Нінкай, Толікавай сястрой.

А потым у клубе пачаліся танцы. Іншым разам Васіль, пэўна, патоўкся б трохі пад вокнамі ці на сцэне, за спінамі старэйшых хлопцаў, што звычайна акружалі музыку, але сёння яму было не да вечарынкі. Адразу ж пасля канцэрта ён паджгаў дадому. Дома нікога не было. Максім не прыязджаў з Янавіч,

Волька засталася на вечарынцы, а маці, пэўна, яшчэ ідзе з клуба. Васіль намацаў у першай хаце на сцяне выключальнік і пстрыкнуў язычком. Успыхнула святло. У куце, над сталом, шуснулі па сценах тараканы і забегалі-замітусіліся, не знаходзячы прывычнага цёмнага кута. Васіль зарагатаў і кінуўся церазь парог у другую палавіну хаты, таксама піхнуў усёй даланёй язычок выключальніка ўверх. Святло быццам рассунула сцены, і хата падалася куды большай, чым выдавала заўсёды. Зыркае святло збудзіла, падняло з бэлек і з цёплай грубкі мух, і яны зазвінелі-затумкалі вакол лямпачкі-грушы.

Васіль не ведаў, што рабіць далей. Скінуў з пляч ватоўку, шпурнуў яе на ляжанку, услед за ёю шапку. Крутнуўся па хаце сюд-туд, пасля схапіў з этажэркі нейкую кніжку, разгарнуў, уткнуўся ў старонку — літары былі відаць, як і днём. Ён адставіў кніжку на даўжыню выцягнутай рукі — і гэтак таксама можна было чытаць. Васіль ажно прысвіснуў ад радасці і задавальнення.

Прыйшла маці. Зачыніла за сабою дзверы і зажмурылася. Доўга стаяла ля парога, быццам не ў сваю хату прыйшла, а ў чужую, не рашаючыся загаварыць з незнаёмымі гаспадарамі. Пасля ўздыхнула, распранулася, села на нізенькім зэдліку, прываліўшыся спіною да грубкі — у другой палавіне, дзе Васіль усё прымерваўся, як добра будзе пры такім святле рабіць урокі. Доўга сядзела маці, моўчкі водзячы вачамі па хаце — па сценах, па століі, па падлозе. Потым загаварыла да Васіля, як да сталага:

— А хай жа яго ліха, сынок, нашу беднасць! Як пры газнічцы, дык хавалася яна, не так лезла на белы свет. А то ж зірні! — усё відаць. Столь учарнела — ці здолею адшараваць, сцены голыя, у клапавых крапінках, ложкі трантамі захінутыя... Трэба нешта думаць, сынок...

За хату маці ўзялася ці не назаўтра. Схадзіла на ямішча, прынесла вядро жарсцвяку і некалькі вечароў запар старанна шаравала і мыла столь. Думала абклеіць сцены хоць бы газетамі, але і газет дастаць не змагла — калі каму і ішла якая газеціна, дык мужчыны і меншыя курцы пасля чытання ўжывалі на самакруткі. Парашыла, што абклеіць вясною, да вясны пастараецца назбіраць газет, а пакуль што вы-

скрабла сцены нажом і памыла. Знайшла недзе кавалак квяцістага, хоць і вылінялага паркалю і завесіла печ, каб не было відаць кучы рызманоў на яе чарэні. Схадзіла ў Альхоўку і прынесла ад цёткі Ганны дзве пасцілкі — рызаўку і танейшую, ільняную, тканую ў чатыры ніты, каб захінуць ложкі, на адным з якіх спала Волька, а на другім Максім, як прыязджаў з Янавіч дадому. Васілёвага ложка з-за шырокай драўлянай шафы амаль не было відаць, а сама маці спала на канапцы ў запечку ці, часцей, на печы.

Прывыклі людзі да электрычнага святла вельмі хутка. Ужо ці не праз тыдні два, калі на станцыі што-небудзь здаралася і ўвечары ў хаце, як ні пстрыкай уключальнікам, не запальвалася ніводная лямпачка, каторая кабета ўжо і бурчала: «Напартачылі нешта, што не запальваецца. Каб ім так сляпіла, як тут во слепішся...» Васілёва маці таксама сердавала, хоць і спакайней, прынамсі, нікога не кляла, адно бедавала, што зноў забылася наліць у газнічку газы, а цяпер давядзецца поркацца ўсляпую. Васіль дык злаваўся, мусіць, больш за маці, бо рабіць урокі пры смаркачцы-каптцілцы — пасля электралямпкі — было проста пакутліва: як ні падсоўвай газнічку, нават пад самы нос, усё адно хоць ты вочы абувай. Васіль у такі вечар ёрзае за сталом, злосна тыцкае пяром у чарніліцу, а пасадзіўшы кляксу, бурчыць на ўсю хату. Маці слухае-слухае ды і не стрывае, абзавецца:

— Ну, чаго ты, сынок? Ці ж забыўся, ці ж даўно тое было? Нашто ж бурчэць? Гэта ж машына, не чалавек. Ці зламалася што, ці пас парваўся, казалі ж — гнілы зусім, трэба новага старацца... Супакойся ты! Можа, яшчэ і ўключаць, пазней трошкі...

— Ага, уключаць! Вады няма! Нехта падняў заслаўкі і спусціў! — агрызаўся Васіль.

— Хто табе казаў?

— На вуліцы чуў.

— Дык жа за гэта вушы адкруціць блазну таму! — пачынала ўжо сварыцца і маці.— Я ж думала — няспраўнае што!

— Вартаўніка трэба ставіць,— кажа па-даросламу Васіль.

— Таксама казалі пра гэта?

— Я кажу. Трэба вартаўнік. Дурню катораму не закажаш!

Маці нейкі час глядзіць на яго, быццам думае, разумна гэта ці дурната адна, і, не прыйшоўшы да пэўнай думкі, кажа:

— Можа ж... Але ж хіба без цябе да гэтага не дадумаюцца? Трэба будзе, дык і паставяць... Рабі ўжо ўрокі! Як ёсць, так і рабі сёння, не выдумляй абычаго!..

— Я і раблю,— кажа Васіль.

Маці таксама робіць сваё, доўга маўчыць, Васіль ужо і забыўся за ўрокамі, пра што яны гаварылі, а яна нечакана абзываецца:

— Пэўна ж, да добрага чалавек прывыкае хутчэй, чым да благога. А благое пасля добрага яшчэ горшым робіцца, сынок.

Васіль не чуе, што маці кажа, таму перапытвае:

— Што ты сказала?

— Нічога, сынок, нічога, гэта я так, сама сабе. Каторы вечар святла няма, дык мы ўжо і злуемся. А нам жа вунь як зайздросцяць і ў Альхоўцы, і ў Міхалкавічах, і ў Чэрневе...

Васіль згаджаецца — вядома, зайздросцяць! Зайздросцяць, што ў Звонічах ёсць святло, што вечарамі ў іх відна не толькі ў хатах, але і на вуліцы. Яшчэ як зайздросцяць!

Вунь нядаўна цётка Ганна да іх прыходзіла. Дык ажно перахрысцілася — так здзіўлялася. Колькі сядзела, столькі і войкала: ой, як відненька, ой, якія ж вы шчаслівыя, ой, як жа ў вас добранька, ой, да якога ж вы жыццейка дажыліся, ой, ці дажывём жа мы калі-небудзь да такога!..

Васіль любіць цётку Ганну, любіць ужо за адно тое, што яна вельмі падобна на маці, не кажучы пра тое, што цётчына душа — сама дабрыня, і яму хочацца сказаць ёй нешта добрае, неяк суцешыць, але што скажаш? Што скажаш, калі ў Звонічах святло ёсць, а ў Альхоўцы — няма і невядома, калі яшчэ будзе? Ён не дадумваецца ні да чаго лепшага, як сказаць:

— У нас відна, вядома, але ад электрычнага святла, цётка, і хата можа згарэць, як замыканне будзе.

Цётка Ганна глядзіць на яго і палохаецца:

— Праўда, можа такое быць?

— Ну, не ў кожнай хаце, але можа. Хлопцы казалі, каторыя старэйшыя,— кажа Васіль.

— Ай, ты ўжо, мусіць, хочаш сказаць, каб я дужа не перажывала, што ў поцемках сядзім,— не то пытаецца, не то сцвярджае Ганна.

Васіль бянтэжыцца, але ўсё ж бароніцца:

— Не, праўда, замыканне можа быць, калі правады злучацца. Гэта мне электрыкі гаварылі, ну, тыя маскоўскія дзеўкі, што праводку ў нас рабілі.

Маці таксама кажа:

— Нешта гаварылі такое, праўда, Ганначка. Але яны ўсё па-свойму шчабяталі, дык я не ўсё шалопала. Але, здаецца, пра нейкае замыканне казалі, дальбог.— Маці паварочваецца да Васіля.— Толькі ты ўжо цётку не палохай, а заадно і мяне. Ні разу не казаў ні пра якое замыканне, а то во...

Цётка Ганна знячэўку смяецца, падыходзіць да Васіля і чмокае яго ў галаву, потым паварочваецца да маці і кажа:

— Гэта ж ён сказаў, каб я дужа не перажывала. Пашкадаваў цётку. Праўда ж, Васіль?

Маці таксама заўсміхалася. Заўсміхаўся і Васіль.

Васіль, здаецца, усміхнуўся і цяпер, на не мулкай, але і не мяккай канапе. Ён ужо ў такім узросце, калі мо і праўда ўспаміны пра маленства робяцца ўсё больш ружовыя, калі чалавек праводзіць усё больш рэзкую мяжу паміж тым, што было калісьці, і тым, што робіцца, чым жыве сёння, пахвальваючы мінулае і ганячы сённяшняе. Усё гэта так. Аднак жа вялікая чалавечая радасць, якая прыйшла ў пасляваенныя Звонічы позняй восенню сорак сёмага, была вялікай чалавечай радасцю, і рабіць яе большай, чым яна была, наўрад ці ёсць патрэба, а галоўнае — немагчыма. Дрэвы ў дзяцінстве былі вышэйшыя, рэчкі — шырэйшыя і глыбейшыя, дарогі і дні — даўжэйшыя,— гэта праўда, а чалавечая бяда і чалавечая радасць былі такія, якія былі. Ён жа мае на ўвазе не сваю ўласную радасць, а радасць усіх звонінцаў і буданцаў. І яму, Васілю, цяпер, гэтай бяссоннай ноччу, цёпла на душы менавіта ад той людской радасці. Найперш — ад людской. Ад радасці маці, цёткі Ганны, Толікавай маці, Шалака, Барэйкі, ад радасці

ўсіх-усіх звонінцаў. А пасля ўжо — ад яго, Васілёвай, уласнай радасці, на якую ён таксама не забыўся, хоць і прайшлі, мінавалі гады. А сёй-той, здаецца, і забыўся...

Недзе праз тыдзень пасля прыезду ў Звонічы Васіль пайшоў з сынам пахадзіць па сваіх дзіцячых сцежках. Пайшлі перш-наперш на Красную горку, куды бегаў у маліну і вязаць венікі, дзе капаў з хлопцамі зямлянку і ставіў буданы. Потым спусціліся ў Глінішча і ў Паповы раўкі, дзе не адзін раз пастушком сустракаў узыход сонца і адкуль бегаў напрасткі, паўз могілкі, дахаты на снеданне, адпушчаны іншымі пастушкамі. З Паповых раўкоў падняліся ў Гай, адтуль зноў спусціліся ўніз, у мокрыя Прылукі, потым уздоўж канавы, пракапанай немаведама дзеля чаго, выйшлі да лесу і яго краем рушылі да Бачылаўкі.

Хадзіў, паказваў Васіль свайму Цельпуку, дзе калісьці знаходзіў ён качыныя гнёзды, дзе спаймаў у шапку маладога вожыка (вожык той доўга жыў у іх у хаце, а пасля ў гародзе), дзе адзіны, першы і апошні, раз пабачыў белага ваўка, дзе стаяў да вайны і пасля вайны маяк — высачэзная драўляная трынгуаляцыйная вышка з пляцоўкай наверсе, куды яны, пастушкі, узлазілі па дрогкіх круглых прыступках-драбінах і адкуль адкрывалася наваколле далёка-далёка; расказваў пра колішнія свае хлапечыя забавы і гульні ў гэтых раўках і гаях, на гэтых лужках і палявых сценках, а самому было чамусьці сумна і тужліва. Усё, што бачыла вока, па чым ступалі яго ногі, неяк змізарнела, здрабнела, паблякла.

Ну вось хоць бы Красная горка. Зусім не тая яна, якой была ў пару яго дзяцінства. Дарога, што праставала праз яе з Альхоўкі у Звонічы, была тады надта ж крутая — старчаком. Памятае, вазілі з-пад Краснай горкі снапы, і Васіль ускараскаўся на воз да цёткі Стэпкі. Ускараскаўся, а пасля быў не рады. Як з'язджалі з Краснай горкі, яго апанаваў такі жах, што сядзеў на тым возе ні жывы ні мёртвы. Здавалася, воз коціцца проста ў прорву і паратунку няма і не чакай. Ён учарэпіўся абедзвюма рукамі ў парубень і, пакуль калёсы не скаціліся з гары і пакуль коні не пайшлі крокам, а воз, ціха парыпваючы, спакойна пакалываўся з боку на бок, Васіль, мусіць, не дыхаў.

А цяпер ні дарогі тае не стала — ездзяць зусім у іншым месцы, і сама гара бы асела.

А Паповы раўкі? Некалі ж выбрацца з іх было цяжка, калі даводзілася спускацца ўніз, каб падагнаць чыё-небудзь цялё,— такія крутыя і высокія былі адхоны. Ледзь успаўзеш, бывала, наверх, грабучыся нагамі і рукамі. А цяпер ужо быццам і не роў гэта, а невялікі равок, спрэс густа парослы выносістым, гонкім альшэўнікам і бярэзнікам.

У Прылуках яны, вясковыя пастушкі, звычайна спынялі кароў на лежку — тут была вада. Каровы пілі з растаптанай, здратаванай, скапычанай канавы-рачулкі, а яны, пастушкі, бегалі ўверх, туды, дзе з-пад карчэўя, ля самага падножжа крутога пагорка, біла крынічка. Калі часам у крынічку падала сонца, тады было добра відаць, як з дна пульсуюць пясчаныя колцы — як быццам дыхаў там чысты пясочак-жарсцвяк. Пульсавала там не дужа моцна, аднак жа пульсавала, выбівалася з-пад зямлі напаверх заўсёды, шмат гадоў запар, і заўсёды можна было, апусціўшыся на калені, зачэрпнуць з крынічкі прыгаршчы чысцюткай, халоднай і смачнай вады, якая праганяла смагу лепш, чым каторае цяперашняе самае мудронае пітво. А цяпер ён з Цельпуком тупаўтупаў там, у Прылуках, і ніяк не мог натупаць на тую крынічку, аж пакуль не зразумеў, што знікла яна, прапала, зацягнула яе ілам і тванню.

У лес Васіль не зварочваў, прайшоўся толькі краем яго, узлессем. Тады, у дзяцінстве, ён бегаў сюды ўлетку амаль штодня — у грыбы і ў ягады. Грыбоў было процьма. Падымецца разам з маці, за кошык і сюды. Не паспее маці снядання зрабіць, а ён ужо дома, і кошык яго паўнюткі калі не баравікоў, дык падасінавікаў, рыжыкаў, груздоў, лісічак, сыраежак. Вёдрамі насілі адсюль звонінцы і чарніцы. А цяпер, кажуць, не знойдзеш ні грыба, ні чорнай ягадзіны, сям-там на санцапёку зрэдку надараюцца толькі суніцы.

Але больш за ўсё засмуціўся Васіль, калі дадыбаў з Цельпуком да Бачылаўкі, да таго месца, дзе некалі было возера-ставок, дзе звонінцы і буданцы з асаблівым настроем аптымізму і веры, што пасяліліся ў душах людзей пасля вайны, пасля вызвалення і перамогі, будавалі свой гонар, сваю гэс. Возера не было.

Пабочны чалавек, бадай, і не падумаў бы, што яно і было тут калісьці: дно колішняга возера, па самыя берагі Бачылаўкі, было засеяна цімафееўкай. Бачылаўка пакрысе сачылася-цякла, яе звілістае рэчышча было шчыльна атулена вербалозам. Васіль патупаў берагам далей, туды, дзе ўгадваліся рэшткі насыпу, які перагароджваў рэчку і стрымліваў ваду, адхоны якога ён з хлопцамі абкладваў дзёрнам. Датупаў і яшчэ больш засмуціўся. Насып быў размыты і знесены няйначай паводкаю. Там, дзе быў бетанаваны масток з пад'ёмнымі застаўкамі, усё зарасло хмызняком. А на месцы турбіннай камеры і бетанаванага шлюза, па якім вада кіравалася да камеры і падала ўніз, на рабочыя лопасці турбіны, у глыбокай і шырокай вымоіне ляжалі кучы сцэментаванай цэглы і шэрага бетону. Праз гэтыя рукатворныя, парослыя мохам камяні пераліваліся, журчалі, падаючы ўніз, чыстыя, серабрыстыя струменьчыкі.

Васіль не стрымаўся, уздыхнуў:

— Вось, брат, што засталося ад колішняй нашай радасці і гонару з гучнай і магутнай назвай гэс.

Сын не зразумеў, перапытаў:

— Што ты сказаў?

Васіль прытуліў сына да грудзей:

— Тут, кажу, была наша калгасная гідраэлектрастанцыя.

— Тая, пра якую ты расказваў?

— Тая, брат, тая.

Сын павёў галавою наўкруг і нічога не сказаў. Васіль бачыў, адчуваў, што Цяльпук не паверыў яму. Што ж, яму самому таксама цяжка паверыць. Было, ды сплыло. Але, але, менавіта сплыло. Няйначай вясною. Не дадумаліся своечасова падняць застаўкі, вада, набіраючы сілу, і пайшла верхам — пачала сваю разбуральную работу. Астатняе было справай часу.

Васіль не сумняваўся, што менавіта так, а не інакшай загінула і возера, і гэс. Але чаму? Чаму не дагледзелі? Саўгас, які зрабілі з колішніх навакольных калгасікаў, даўно падключаны да дзяржаўнай электрасеткі. Дык і што з таго? Ужо хай і прападае гэтая малюсенькая, нікому не патрэбная, слабасільная гэс? Хто ж так распарадзіўся яе лёсам?

Неяк ён чытаў у «Праўдзе» артыкул пра лёс малых рэчак. Ішла там гаворка і пра маламоцныя гідраэлектрастанцыі, пабудаваныя на малых рэках і рэчках да вайны і пасля вайны для ўласных патрэб калгасаў, саўгасаў, прадпрыемстваў. Аўтар артыкула з гаркотаю пісаў аб тым, што многія з іх сёння занядбаны, паціху ржавеюць і разбураюцца. А ці ж былі б, пытаўся ён, лішнія тыя сотні і тысячы кілават энергіі, якія яны маглі б выпрацаваць? А ці не маглі б яны, выкарыстоўваючы бясплатную сілу падаючай вады, круціць жорны млыноў, пілаваць дошкі, рабіць іншую карысную работу?

Васіль тады, вядома, успомніў і іхнюю гэс на Бачылаўцы. Падумаў быў, што, як будзе пісаць у Звонічы, папытаецца, ці працуе яна. Але, здаецца, забыўся, не папытаўся. Не папытаўся і тады, як прыязджаў чатыры гады назад хаваць маці. Не да таго было ў тыя дні. А яе, аказваецца, і зусім няма. І няма, па ўсім відаць, даўно, мо ўжо дзесяць, а то і больш гадоў, бо — як і не было.

Ішоў Васіль да вёскі маркотны. Як быццам пахаваў каго роднага. А як жа інакш! Немудрагелісты будыначак гэс паўставаў перад вачамі. Які там і будыначак — паднавесік, аднак жа — гэс! На зашчытку, які быў забіты не дошкамі, а закладзены цэглай і атынкаваны, было так і напісана буйнымі літарамі ГЭС. Цагляныя слупкі, як і зашчытак, таксама былі атынкаваны і пабелены, і гэс была відаць здалёк — і са Звонічаў, і з Буды. Адтуль праз поплаў беглі да вёсак, праўда, трохі ўлукаткі, бо пахіліліся, слупы, аплеценыя дратамі, па Звонічах і Будзе ад тых дратоў адгаліноўваліся кароткія ніткі да зашчыткаў хат, і кожная хата, а разам з ёю і тыя, што жылі ў ёй, былі злучаны і з гэс, і адно з адным. Але, але, сэрцы людскія паяднаны былі тым сціпленькім, без сцен нават будыначкам. Пасылаў ён вечарамі пад стрэхі чароўную сваю сілу, успыхвалі пад тымі стрэхамі зыркія лямпачкі, асвятлялі і заадно падвясельвалі жытло і жыццё людское, і на сэрцах у людзей цяплела, адтайвалі яны, мякчэлі, рабіліся больш здатнымі на дабро, спагаду, чуласць, ласку. Дарагі, самы што ні ёсць родны быў той будыначак на беразе Бачылаўкі.

Як выйшаў на крыжавыя ля школы і клуба, уба-

чыў Васіль на лаўцы пры сваім гародчыку дзядзьку Валодзю, па-вулічнаму Цвыркуна. Не стрымаўся, спытаў:

— Уладзімір Іванавіч, каму яна замінала? Я ж і не ведаў, што ад яе нічога не засталося.

— Ты пра што, Васіль?

— Пра гэс. Пра возера.

— Ты як з неба зваліўся, хлопец! Ці цяперся нічога там няма! Ужо гадоў дзесяць, а мо і ўсе пятнаццаць. Сядай, калі прыпыніўся,— Цвыркун ляпнуў далонню па лаўцы побач з сабою.— Вясной прарвала застаўкі і так паразварочвала — каб ты бачыў! Так і згібела ўсё.

— А чаму? Нікому хіба непатрэбна?

— А нікому й непатрэбна.

— І возера нікому не трэба?

— От, ты ў мяне пытаешся! Папытайся ў дырэктара. У таго, што быў, у Хадасевіча. Яму нічога не трэба было. Хату толькі сабе паставіў, каб пасля прадаць. Прадаў і паехаў, адкуль прыехаў.

Васіль, так і не прысеўшы, стоячы пабедаваў:

— Шкада... Няўжо ў гаспадарцы пашкодзіла б? Там жа, памятаю, пры калгасе і млын быў, і дашказэзны станок, і гонту рабілі. Як вада збіралася, так і работа знаходзілася.

— А няўжо ж! Я ж і сам там трохі камандаваў. Як ужо святло пастаяннае далі. Дык пасік перакінеш з генератара на камень ці на цыркулярку — і круціш. Дармовая, можна сказаць, сіла, ні піць, ні есці не прасіла,— пусціўся ва ўспаміны Цвыркун.

— А я во пайшоў з сынам, дык гляджу — размыта ўсё, разварочана,— уздыхнуў Васіль.— Хоць бы хай возера было...

Цвыркун перапыніў яго:

— Дык жа Пятровіч, наш новы дырэктар, думае нанова будаваць. Быў тут у нас, у Звонічах, збіраў людзей. Дык так і казаў — плануецца пабудаваць возера... Вялікае, не тое, што было. Не саматугам будзе рабіцца, як калісьці. Меліяратары павінны, казаў, узяцца, ужо ці не сёлетняй восенню.

— Кажуць, гаспадарлівы чалавек?

— Бярэцца памаленьку. П'яніц прыціснуў, праходу не дае, вольна жылі, а цяпер застагналі.

— То і добра, п'яніц шкадаваць мы не будзем.—

усміхнуўся Васіль.— Пойдзем мы, Уладзімір Івана-віч. Яшчэ ж без абеду — так забавіліся.

— Ну, то вядома. Я ж выйшаў глянуць, ці не зай-маюць у поле, каб не праміргаць.

— Глядзіце, пільнуйце,— крануўся Васіль сам і падштурхнуў сына.

## 5

«Колькі ж гэта цяпер часу, цікава?»

Васіль падняў руку, пакруціў ёю і так, і гэтак, каб у цьмяным водбліску акна адбіўся цыферблат. Гадзіннік у яго быў стары, куплены яшчэ недзе ад-разу пасля дэмабілізацыі з першых палучак. Колькі гадоў назад хацеў быў памяняць, але от так проста выкінуць стары і купіць новы не рашыўся, на ўсяля-кі выпадак зайшоў у майстэрню. Стары, з дрыжачымі рукамі майстар, пакорпаўшыся ў гадзінніку, падняў да акенца вочы і сказаў:

— Дык а чаго вы, малады чалавек, раскідваеце-ся? Выкідаць такі механізм грэх. Паставім вам новы корпус і цыферблат, і будзе ў вас машына — не раў-ня новай. Ну, адно, што каштаваць гэта будзе рублёў сем-восем. Што скажаце?

Васіль як абрадавана кіўнуў у знак згоды, запла-ціў шэсць рублёў з капейкамі і праз паўгадзіны па-чапіў на руку зусім новы, быццам і не свой гадзіннік. Па дарозе, каб паінтрыгаваць Валю, купіў новы ра-меньчык. Валя, вядома, здзівілася, спытала, за што ён купіў новы гадзіннік; Васіль сказаў, што пазычыў; Валя папракнула — няўжо гарэла? Васіль агрызнуў-ся — добрыя жонкі самі пойдуць, і выберуць, і ку-пяць; Валя на тое — ты мне ні разу не заікаўся пра гадзіннік; Васіль — сама не бачыла хіба, што перад людзьмі сорамна; Валя — а пазычаць у людзей не со-рамна? Аж пакуль Васіль не зарагатаў і не паднёс гадзіннік Валі пад нос: прыглядзься, маўляў, не ка-жы абы-чаго. Ну, Валя яго спачатку лупянула па спіне, добра лупянула, аж запякло між лапаткамі, а пасля пахваліла: і правільна зрабіў, нічым не горшы на выгляд за новы...

Ага, дык майстар цыферблат паставіў новы, з фос-фарнымі кропачкамі замест лічбаў, кропачкі тыя ў цемнаце свецяцца, а стрэлак люмінесцэнтных не знай-

шоў, стрэлкі старыя пакінуў — чорненькія, фігурныя. І цяпер ноччу захочаш паглядзець, колькі націкала, дык кружок кропачак-лічбаў відаць, а супраць якой кропачкі стрэлкі — не відаць. Трэба добра прыглядзецца, так павярнуць гадзіннік, каб святло трохі збоку падала на цыферблат, тады толькі можна ўгледзець, ды і то не так угледзець, як здагадацца.

Вось і цяпер круціў Васіль, вываочваў руку ўсяляк, пакуль злаўчыўся пабачыць, што ўжо больш, чым палова другой. Не агледзішся, як світаць пачне, а ён так і не заснуў. І не засне ўжо! Чуе, што не засне. Але ж і ўставаць не будзеш.

Паварушыўся Васіль, крануў плячамі, павёў сюд-туд, лепш уладкоўваючыся, споўз з падушкі трошкі ўніз. Як спіць чалавек, дык не заўважае, зручна яму ляжаць ці нязручна. Гэта, пэўна, таму, што ў сне чалавек расслабляецца і цела лягчэй, можна сказаць, само знаходзіць найлепшую для сябе позу і месца. А як не спіцца, дык усё табе не так: і мулка, і вузка, і рукі пад галавой дранцвеюць, і ног няма як выпрастаць.

Здагадваецца Васіль аб прычыне сваёй бяссонніцы. Здагадваецца, але не толькі каму іншаму баіцца пакуль прызнавацца ў гэтым, а і сабе самому. Пачалося гэта ці не тады, як прыязджаў хаваць маці. Ды пэўна ж тады! Нечакана неяк поруч з адчуваннем віны перад маці ўзнікла ў ім і пачуццё віны перад роднай вёскай, перад людзьмі, сярод якіх рос, гадаваўся.

Не памятае, з чаго тое пачалося. Мо з прыемнага здзіўлення, што развітацца з маці прыйшлі ўсе, хто толькі мог прыйсці. Гэтак жа дружна праводзілі маці і на могілкі, і гэтак жа дружна прыйшлі ў хату за жалобны стол. Галоўныя турботы тут выпалі на долю Волькі. Яна хацела і стол рабіць у сваёй хаце, але і Максім, і Васіль пераканалі яе, што так рабіць не трэба. Хай ужо будзе так, як вядзецца ў людзей: у якой хаце памёр чалавек, дзе правёў апошнюю ноч у труне, там павінен быць і стол жалобны. І вось тут, у матчынай хаце, сабраліся звонінцы памянуць яе апошнім словам. Васіль разы са два быў у жалобным застоллі — разам з жонкаю, калі паміралі іхнія знаёмыя ці суседзі, і ў яго засталося гнятлівае, цяжкае ўражанне: людзі сядзяць моўчкі, штосьці жуюць, штосьці п'юць, чакаючы, як збавення, той хвіліны,

калі можна будзе падняцца з-за стала і пайсці адсюль.

За мацерыным жалобным сталом было інакш. Максім, як старэйшы сын, запрасіў людзей наліць чаркі і выпіць за добрую памяць «нашай мамы». І людзі не прымушалі сябе ўгаворваць. А пасля без напамінку, без прымусу падымаліся і гаварылі пра маці, пра іх, Максіма, Васіля і Вольку, яе дзяцей, добрыя словы. І стары, ужо нядужы Барэйка (памёр ён неўзабаве пасля маці) гаварыў пра яе добра, і Стэпка Фэлькава, і дзядзька Міхалка, іх звоніцкі каваль, і суседка цётка Манька.

Сядзелі доўга, не надта п'ючы, а больш гамонячы — ціха, памяркоўна, амаль па-сямейнаму. Гамонка тая круцілася ўжо не толькі вакол маці, вакол іх, яе дзяцей, а шырылася, захоплівала іншыя, хоць і блізкія, вясковыя беды, трывогі, клопаты. І часцей за ўсё вярталіся людзі да аднаго: вось і яшчэ не стала ў Звонічах аднаго звонінца, вось і яшчэ апусцела ў сяле адна хата, далучылася да іншых такіх, асірацелых за апошнія гады. І з нейкім незвычайным спакоем, які напачатку надта ж уразіў Васіля, гаварылі людзі пра тое, чыя цяпер будзе чарга, хто каго апярэдзіць, хто каму саступіць, прапусціць наперадзе сябе туды, адкуль не вяртаюцца, а сам яшчэ паспрабуе дачакацца новай вясны ці лецейка.

— Я дык ужо баюся, хто мне дол выкапае,— казаў, быццам пытаўся, дзядзька Міхалка.— Крыўдна ж будзе: я стольніх звонінцаў пахаваў, а самому здарыцца паехаць туды, дык ці знойдзецца хто?

— Не бядуй, Міхалка, загадзя,— казаў яму Цвыркун.— Калі ўжо, не дай бог, давядзецца, дык я выкапаю. Не сумнявайся, зраблю як след.

— Не, браце, не будзь такі мондры, як католік даўгінаўскі! Чаму ж гэта ты мне, а не я табе? Ці ты мне сваю чаргу саступаеш?

— Саступаю, Міхалачка, саступаю. На ўсе чатыры гады, на якія я старэйшы. А магу і на больш.

— Не зубаскаль,— сказала Цвыркуну Стэпка.— Не на вяселлі!

— Нічога, Стэпачка, нябожчыца не пакрыўдзіцца,— не збянтэжыўся Цвыркун.— Яна і сама любіла пасмяяцца.

— Хай сабе, але — памаўчы!

Васіль не ўвесь час сядзеў за сталом. Ён то прысаджваўся на колькі хвілін, то зноў падымаўся, каб памагчы Вольцы і Максімавай Надзі падаць на стол, прыбраць брудны посуд. Калі ён прысеў у чарговы раз да стала, суседка, цётка Манька, раптам спытала:

— А пра хату, Вася, не гаварылі? Што будзеце з ёю рабіць?

Васіль не адразу і дацяміў, пра што цётка Манька.

— Пра якую хату? — перапытаў ён.

— Пра гэтую, Вася, у якой сядзім. Не гаварылі між сабою, што рабіць з ёю будзеце?

— Не, не гаварылі,— дайшло да яго.— Хай стаіць, што з ёю рабіць?

— Прадаць каму. Чаго ж яна будзе стаяць? Максіму не трэба і Вольцы не трэба, а ты ж сюды не вернешся?

Васіля паклікала Волька — папытацца, ці трэба яшчэ што-небудзь на сталы падаваць, і ён так і не адказаў цётцы Маньцы. Зрэшты, ён і адказаць нічога не змог бы. Ні пра хату, ні пра сябе. Пра хату яны ні словам не абмовіліся, не да таго было, а пра сябе... Пра сябе таксама паціснуў бы плячамі: куды ж ужо яму варочацца! Адразу не вярнуўся, дык куды цяпер...

На тое Маньчына пытанне забыўся ён неўзабаве. А вось адчуванне віны перад роднай вёскай не праходзіла. Наадварот нават: гэтае пачуццё расло ў ім, асядала ў душы ўсё больш важка, выцясняючы адтуль колішнюю лёгкую, у многім дзіцячую, а калі і не дзіцячую, дык юначую замілаванасць і любоў да мясцін, дзе нарадзіўся і рос. Быццам ніякавата стала яму глядзець людзям у вочы. Не абы-якім людзям, а звонінцам, вядома. Быццам боязь нейкая пасялілася ў ім. А раптам хто-небудзь з іх возьме ды спытаецца ў яго: чаго ён з'ехаў з сяла, што лепшае знайшоў недзе ў свеце, няўжо спакайнейшая яго душа там?

Адказаў на гэтыя пытанні ён не знаходзіў, ды, бадай, не надта і шукаў, але, тым не менш, пад грудзі ўсё больш і больш падкочвалася гарчэча ягонай надуманай ці сапраўднай віны. Але, але, і ён вінаваты, што ад гэтага дня ў яго родных Звонічах будзе

глядзець пустымі, цёмнымі вачніцамі на вуліцу і яшчэ адна хата, ягоная хата. У якой ён нарадзіўся, рос. У якой некалі яму было так добра. Лепей, чым дзе-небудзь у іншым месцы.

На змену гэтым хвілінам чулліваспі прыходзілі хвіліны цвярозасці, хвіліны одуму. І тады Васіль супакойваў сябе. Ягонай віны ў тым, што здарылася, няма. Ён быў не першы і не апошні. Ці падлічваў хто калі-небудзь, колькі звонінцаў разбрылося па свеце? Уга колькі! Сярод іх і ён, Міхалінін Васіль. Нікуды ён адсюль не ўцякаў. Пасля сямігодкі ўзяў коней і рабіў у калгасе. Сумленна рабіў. Хай цётка Стэпка скажа. Яны ж разам і аралі, і баранавалі, і снапы, і гной вазілі. А потым была служба ў арміі. І хто ведае, калі б не закінуў яго лёс так далёка, калі б не напаткала яго маладосць там Валю, дык мо і вярнуўся б ён у Звонічы, і працаваў бы тут, і жыў бы ў гэтай матчынай хаце. Хутчэй за ўсё — вярнуўся б. Бо не рваўся ж ён пасля сямігодкі нікуды, не спакусіўся, як іншыя яго аднагодкі, лёгкім хлебам у горадзе.

Пра хату ён усё ж пагаварыў перад ад'ездам з братам і сястрою. І Волька, і Максім паціснулі плячамі: а што з ёй рабіць, хай стаіць, пакуль стаіць. І Васіль таксама пагадзіўся: хай стаіць. Прынамсі, спяшацца з рашэннем яе лёсу не трэба. З цягам часу будзе відаць. Нейкіх намераў у яго тады не было і ў паміне.

Тады, як памерла маці, ён прабыў у Звонічах нядоўга — усяго пяць дзён. Мог бы пабыць і больш, вядома, але замінала тая самая вінаватасць — на гэты раз перад сястрой і братам. Мо і смешна казаць, аднак жа яму было ніякавата бадзяцца госцем, калі бачыў, што і Максім з Надзяй, і Волька са сваім Міхалаем завіхаюцца, бы заведзеныя, ад цямна да цямна — маці памерла ў жніўні, гарачай парою, у разгар жніва і ўсё яшчэ няскончанага сенакосу. Каб ён, Васіль, прыехаў па сваёй волі ў водпуск, мог бы тады памагчы сёе-тое зрабіць — скасіць выдзеленыя соткі на балоце ці яшчэ што, а так ён ні госць, ні работнік. Таму і парашыў асабліва не затрымлівацца, не тунькацца і не перашкаджаць, не адрываць сваякоў ад работы. Пабылі от разам у хвіліны гора, пасядзелі, паплакалі, пагаварылі — пара і дадому ехаць.

Апошні вечар, перад ад'ездам, пасядзелі ў Максіма. Чужога нікога не было, адно Веня самохаць прыблукаў. Веня — сусед, той яшчэ сусед, па мацерынай хаце. Злева — цётка Манька, а справа — Веня, ні хлапец, ні мужчына, ні дзед, адзінокая, непрыкаянная душа, добрая і расхрыстаная, усявед і баечнік, а яшчэ трохі і аматар дармовай чаркі.

Каб не Веня, дык яны, пэўна б, і павячэралі без чаркі. А калі ўжо зайшоў у хату чалавек, дык, хоцькі-няхоцькі, і яго да стала трэба запрасіць, а як запрасіць, дык і пляшку паставіць. А пасля самай малой кроплі тае празрыстае пякучкі язык ходзіць жвавей. У іх за сталом гаворка таксама ажывілася. Гаварылі пра лета тагачаснае, што даўно такога лета не было — другі месяц ні кроплі дажджу і цеплыня, як на поўдні. Васіль вазьмі ды скажы, што дні такія пагодлівыя, а на работу ў саўгасе ці не ў дзесяць гадзін выходзяць. А Максіму тое быццам толькі і трэба было. Паклаў відэлец, у гаворку пусціўся.

— А таму, што людзям балець перастала,— заартачыўся ён.— Не на чорта ж лысага мы робім, а — не баліць! І зарабляем цяпер — не раўня таму, што некалі. Памятаю, у эмтээсе рабіў, пасля вайны адразу. Ну, праўда, зараблялі, нам плацілі, калгаснікам як выпадала, а нам плацілі. Але ж і рабілі, як чэрці! Гэта ж ноччу аралі. Навылёт усю ноч на трактары гоцаешся...

— Ну дык жа пэўна, рабілі, а як жа,— заківаў галавой Мікалай.

— Ну, дык а я пра што? — перапыніў яго Максім.— Пра тое, што мы нейкія нераўнадушныя былі. Да душы ўсё прымалі, за работу сваю перажывалі. Я, калі перападала ад механіка, плакаў, бывала. А цяпер як усё роўна — мая хата з краю. Загадаеце — зраблю, перарабіць трэба — перараблю, але адчапіцеся, не лезьце ў душу...

— Не лезьце ў душу, бо задушу,— мармытнуў Веня.

— Не, ты пачакай, я сур'ёзна,— махнуў на яго Максім.— На сходзе ў гаражы я аднаго разу не сцярпеў. Хто мы такія, кажу, дзе мы, на чым робім? На зямлі, кажу, робім. А хто калі так рабіў на зямлі? Хто і калі ехаў у поле араць у дзевяць гадзін раніцы? Хто і калі ехаў з поля, калі сонца яшчэ вуньдзе-

ка — качаргой не дастаць? Ды ніхто і ніколі. Дык чаму ж мы, ведаючы гэта, пасля нараду поркаемся, нешта шукаем, нешта падцягваем, курым, марудзім, у дзевяць раз'язджаемся адсюль на работу, едзем да работы паўгадзіны, а то і больш, зрабіўшы там ці не зрабіўшы што-небудзь, не забываемся раней часу на абед прыперціся, а пасля абеду вечара ў полі дачакацца не можам? Чаму, пытаюся? Чаму нават тыя кароткія гадзіны робім не так, як след было б рабіць? Чаму не азірнемся назад і не парупімся, каб перарабіць зробленае дрэнна? Чаму ў нас душа не баліць, калі мы плугам вывернем напаверх пясок-плывун ці на развароце ўздзяром нарогамі дзярніну на лузе? Чаму мы не шкадуем ні зямлі, па якой ходзім і ездзім, якая нас поіць і корміць, ні дрэва, якое не задумаўшыся скалечым ці зломім машынаю, ні той самай машыны, за рулём якой сядзім? Чаму мы баімся сказаць таму, хто дрэнна робіць, што ён дрэнна робіць, і пахваліць ад душы таго, хто робіць добра?

— Ну, а чаму, чаму? — уткнуўся Мікалай.

— Ведаў бы, не пытаўся б,— уздыхнуў Максім.— Адно ведаю, што гнаць нас усіх трэба к чортавай матары, такіх работнічкаў!

— Таксама скажаш — гнаць! — усміхнуўся Мікалай.— А кім замяніць? Дзе знайсці лепшых?

— От, от! Лепшых няма, гэта мы разумеем. Таму і супакойваемся, і робім абы-як...

— Ты, Максім, не крычы,— пачаў Веня.— Ты падумай і паразважай. Гэта ж не аб адным дні зрабілася ўсё. Вунь як даўно пачалося. Ты ж успомні. Калгасікі былі маленькія і слабенькія. Іх аб'ядналі ў вялікія, але таксама слабыя. На месцы іх зрабілі саўгас — яшчэ большы, але таксама слабы. А хлопцы і дзеўкі як ехалі ў горад з малых калгасаў, так і цяпер едуць з вялікага саўгаса. І дай жа веры, лепшыя едуць. Ну, калі не лепшыя, дык граматнейшыя.

— А чаго едуць, каб хто спытаў? — ускінуўся зноў Мікалай.— Раней ехалі, каб хлеба кавалак мець. А цяпер? Што, тут хлеба не хапае?

— Чакай, чакай,— браў па звычцы лейцы ў свае рукі Веня.— Чаго едуць — гэта няцяжка зразумець. Жыцця лягчэйшага шукаюць. Часам нават і не самі шукаюць. Тата з мамай штурхаюць у плечы — едзь, дзіцятка, ці ж ты горшае, чым каторае... І едуць...

Але ж, кажуць, і ў газетах пішуць, што так і павінна быць, што вёска павінна аддаваць гораду лішкі.

— Лішкі, а не пагалоўна ўсіх! — не стрываў Максім.

— От пра гэта я і хацеў,— Веня крутнуўся на крэсле, ладкуючыся ямчэй.— Ці ведаеце вы, колькі з нашых Звонічаў паўцякала ў горад, калі ўзяць ад вайны і па сёння? Не ведаеце, не лічылі? А я неяк палічыў. Палічыў і за галаву хапіўся! Нейкіх шэсцьдзесят хат у нас, а яны, гэтыя хаты, выправілі ў Мінск і іншыя гарады больш чым паўтары сотні чалавек. І ўсе ж гэтыя чалавекі маладыя былі, здаровыя, рабацяшчыя.

— Паўтары сотні? — не паверыў Васіль.

— А можа, і ўсе дзве,— кіўнуў Веня.

— Не можа быць!

— Не верыш? Давай лічыць. З якога канца пачнём? З гаранскага ці канчанскага? — Веня паставіў локцем на стол руку і загнуў палец.— З канчанскага дык з канчанскага. Першыя — Ліцвіны, колькі ў іх было дзетак? Тома, Воўка, Валерык — трое. Усе трое — у Мінску. Усе на камвольным. За Ліцвінамі — Волька Рулькевіч. У яе чацвёра, адзін дома, значыць, трое ў Мінску. Гэтыя на трактарным.

— Дык жа ўжо і Коля там, Пеця забраў яго на трактарны,— падказала Надзя.— Яны ж так адно аднаго і перацягвалі, як толькі падрасталі.

— Ну, дык чацвёра,— загнуў пальцы Веня.— Далей — Алёшка Базылёў. У гэтага колькі гаўрыкаў было? Двое. Адзін у Мінску, другі — у Міжгорску, а тут — хай дзядзька робіць. За Алёшкам — Фунцік, ну гэты — Паўлюк Жырбуль. У яго адны дочкі. Чатыры ці пяць? Чатыры, добра. Дзе яны? Дзве ў Мінску, адна быццам у Маладзечне, а чацвёртая ў Данбасе... За Фунцікам — Фенька Сымонава...

— Ну, у гэтай усе дзеці дома,— заўважыў Максім.

— Усе, ды не ўсе,— Веня загнуў палец.— Ты забыўся на старэйшага яе, Федзю, што пасля вайны ў леспрамгас пайшоў, а пасля ўжо ў Мінск перабраўся. Пойдзем далей. Хто наступны? Правільна, Надзя Яўхімава. У яе пасля вайны трое трымалася за падол. А цяпер — нікога, адна, як сыч.

— Ну, не кажы, Коля яе далёка не ўцёк, у Янавічах робіць, Волька за вайскоўца выскачыла, дык

з'ехала некуды, адна Зіна ў Мінску ў швейнай робіць,— запярэчыла Волька.

— Далёка — не далёка, а дома нікога. Значыць, прыплюсуем яшчэ трох,— зазначыў Веня.— За Надзяй — Анэта. Хто ў яе быў? Шурка, Вася, Валя і апошні...

— Пеця,— падказала Волька.

— О, точна, Пеця,— падхапіў Веня.— Шурка і Вася ў Мінску, на шарыках, Валя, кажуць, у Салігорску, а Пеця гэты самы на Алтаі недзе ці ў Карагандзе...

— Мо хопіць? — азваўся Максім.

— Стой, не перабівай! — Веня ціскаў то адзін палец, то другі.— Калі ўжо ўзяліся, дык палічым... Але ж от збіў, здаецца. Колькі мы налічылі?

— Дык жа і так ясна,— зноў запярэчыў Максім.

— А можа, палічым? Цікава ўсё ж,— Васіль паклаў яму руку на плячо.

— Лічыце,— Максім махнуў рукой.

— Веня, хто наступны? — падагнаў яго Васіль.

— Ну, пасля Юліка ідзе Смаляк. Яго абедзве дзеўкі ў Мінску, на галантарэйнай фабрыцы, здаецца. Пеця Тонькі Шыхавай шафёрам у саўгасе, а дзяўчынкі-блізняткі ў Барысаве на мастакоў вучацца. У Ганны Барысікавай толькі Маня дома, а Зіна ў Мінску, Сяргей у Наваполацку, а Галя афіцыянткай у Міжгорску. За Ганнінай хатай — Папок. У Папка шасцёра было ці сямёра? Га, Волька?

— Я ж і сама думаю,— нахмурыла лоб Волька.— Зараз палічу. Старэйшая — Валя, пасля яе Таццяна, за ёй Ваня, пасля Вані была Наташа, за Натай Алёшка і самы меншы Валерык.

— Шэсць, значыць? От, а Папок адзін веку дажывае,— заўважыў Максім.

— Ці ж толькі Папок?

— Дык як баба адна, неяк звычней, на тое яна і баба, а мужчына адзін — не дай бог,— пакруціў галавой Максім.

— Не кажы,— азваўся і Мікалай.— Чулі ж, пэўна, пра Курашчупа з Буды? Палез юшку закладаць, табурэтка пад ім кульнулася, ён і загрымеў. Ударыўся бокам аб рог ложка так, што і падняцца не мог — прытомнасць страціў. Так і ляжаў без памяці амаль

суткі. Можа, і больш бы ляжаў, але карова пачала ў хлеве дужа рыкаць, дык суседка пачула, зайшла і ўбачыла.

— Гэтак і акалець мог адзін, без паратунку,— уздыхнула Волька.

— Як піць даць,— кіўнула галавой Надзя.

— Ну, от зноў мяне збілі,— як пакрыўдзіўся Веня.— Ты, Вася, хоць лічыш?

— Лічу, лічу,— усміхнуўся Васіль.— Калі я так-сама не збіўся.

— Калі трохі і збіўся, дык ліха з ім, нам матэматычная дакладнасць ні для чэга,— сказаў Веня.— Пайшлі далей. За Папкамі ідуць... Хто за Папкамі? Цьфу ты! Мая ж хата пасля Папковай. А пасля — ваша хата. Ну, тут мы цябе, Вася, палічым. Загні палец. Так...

Лічылі яны доўга і старанна, ажно пакуль Волька не падала нарэшце голас: — Ну дык і ўсё ж, можна сказаць.

— Ды ўжо ж! Тры хаты засталіся, каторыя за рэчкай пастаўлены пасля вайны ўжо,— адказаў Веня.— Ну, там каго мы палічым? Алега Аркадзевага, двух хлапцоў Шыкуновіча і трох Мантуровых — хлапца і дзвюх дзевак. От і гамон! Колькі ў цябе атрымалася, га, Васіль? У меня дык роўненька сто сорак дзевяць.

— У мяне дык усе сто пяцьдзесят,— усміхнуўся Васіль.

— Ну, для роўнага ліку хай будзе сто пяцьдзесят.

— Хто б мог падумаць! — ажывіўся Максім.— Гэта ж такая сіла! Усе маладыя, дужыя.

— А ўжо, браце, і не ўсе,— запярэчыў Веня.— Ужо некаторыя з тых, што адразу пасля вайны падаліся ў горад, на пенсію выходзяць. Во, Курашчупава Зінка — пенсіянерка ўжо.

— Дык жа яна ў пяцьдзесят пайшла на пенсію, па ўрэднасці,— сказала Волька.

— Ліха з ёй, з Зінкай Курашчупавай,— сказаў на тое Максім.— Я ж ніколі не задумваўся, што такая армія збярэцца толькі з адной вёскі, з нашых Звонічаў. А яны ж усе пажаніўшыся ўжо, і дзяцей маюць, хай сабе па цяперашняй модзе па адным — па двое. Гэта ж каб хоць палова іх тут жыла — грымела б сяло!

— Дык жа некалі і грымела,— Веня пазіраў на ўсіх так, быццам цяпер ён быў тут галоўны.— Ты ж, Максім, успомні, што рабілася вечарамі на вуліцы? Аж кішэла ад жэўжыкаў і падшыванцаў. А канцэрт які ў клубе ці вечарынка? Носу ж было туды не ўткнуць!

— А цяпер я вечарам прайшоў па сяле, дык рэдка дзе акно свеціцца,— заўважыў Васіль.

— А ў каго яно будзе свяціцца? Дзе яшчэ хоць якая сям'я ёсць, там свеціцца. А дзе баба адна ці як Папок той, дык чаго яно будзе свяціцца? Спарэла — дык яны, як і куры, на куросадню,— з усмешкай сказала Волька.

Веня, усё яшчэ трымаючы локці на стале, загаварыў гучней:

— А мы яшчэ не ўсіх палічылі, мы ж забыліся на пустую Юстынаву хату, на Рыгорышыну хату, якую купілі ў Альхоўку, на Еўчыну і на Васіля Крайняга хату... Яшчэ б больш было! Во, мы ж і вашых не палічылі. І тваіх, Максім, і тваіх, Мікалай. Шмат набіраецца.

Максім, таўхануты Волькай, наліў у чаркі, сказаў:

— От цяпер і ясна, чаму ў нас у саўгасе не ўсё добра, чаму мы ўсё ніяк не можам на ногі стаць.

— Чаму нас каторы год шэфы выручаюць — едуць і будаваць, і бульбу выбіраць, і касіць, і тэхніку рамантаваць,— дадаў Мікалай.

— Праўда, праўда,— заківаў галавой Максім.— Каб гэта вярнуць у сяло такую сілу... Ды трасцу вернеш! — Ён памаўчаў, дадаў: — Бярыце чаркі, вып'ем, а то лічылі-лічылі...

Мужчыны выпілі, пачалі закусваць. Выпіў і Васіль, узяў нешта жаваць. Жаваў, а з галавы не выходзіла лічба: сто пяцьдзесят чалавек! З адных невялікіх іхніх Звонічаў!..

Яны тады яшчэ даўгавата сядзелі ў Максіма і не раз вярталіся да тых Веневых падлікаў, а што толку? Хто тое чуў, каму тое ў галаву ўдарыла? А нікому! От і ён, Васіль, тады здзівіўся, вушам сваім не паверыў. Паехаў назаўтра, і зусім іншыя клопаты выціснулі тое з галавы.

Было і сплыло...

Толькі ж, мусіць, не забыўся ўсё ж. Бо вось жа — чатыры гады прайшло, а раптам згадалася, вярнула-

ся ў памяць. Значыць, недзе жыло ў душы, цепліла-ся, каб ад чагосьці прачнуцца, ускалыхнуцца, усплыс-ці з дна. Ад чаго ж?

За акном, здаецца, пачало шарэць...

## 6

Заварочаўся, закруціўся, а потым раптам сеў на ложку сын.

— Што? — шапнуў Васіль.

— На двор хачу,— гэтак жа прашаптаў сын.

Васіль скінуў ногі з канапы, намацаў тэпці, ціха падышоў да сынавага ложка:

— Ну, пайшлі.

Ён ішоў паперадзе сына, ціхенька, каб не рыпнуць, адчыніў дзверы ў першую палавіну хаты, а пасля і ў сенцы. У сенцах хацеў уключыць святло, а пасля пе-радумаў — можа разбудзіць жонку. Намацаў паль-цамі кручок, скінуў яго з прабойчыка, прытрымліва-ючы, расчыніў дзверы ў двор.

Сын шмыгнуў з ганка пад навісь вішанніку, а Ва-сіль так і застаўся стаяць у праёме дзвярэй. На дварэ, аказваецца, было не так і цёмна, як у хаце выдавала. Хату атулялі і дрэвы, і кусты бэзу, язміну, акацыі, у гародчыку ад вуліцы раскашаваліся здзічэлыя, па-саджаныя яшчэ маткаю кветкі, і таму, пэўна, у ёй было так цёмна — як восеньскай ноччу. А ноч была самая што ні ёсць жнівеньская — ціхая, зорная, ха-ладнаватая і досыць светлая, хоць і бязмесячная. Ад-нак жа і з бязмесячнага неба долу струменілася свят-ло, і яго хапала, каб вока ўлавіла край небасхілу і чарнату могілкавых соснаў на гэтым самым небакраі.

Васіль сцепануўся, не разумеючы, ад холаду ці ад гэтай улоўленай вокам купы старых, разгалістых сос-наў. Прапусціў сына наперад, шапнуўшы, каб ён ці-хенька нырнуў у пасцель, сам жа зачыніў дзверы, ужо не беручы іх на кручок, чамусьці таксама ху-ценька прашмыгнуў у хату і лёг, спадзеючыся нарэш-це заснуць.

«Цяльпук зараз скруціцца і зноў засне, як быццам і не прачынаўся. Хай бы і мне так...»

Сапраўды, сын неўзабаве задыхаў роўна, ціха і спакойна — заснуў, а Васіль па-ранейшаму лавіў начныя гукі і ў каторы раз акунаўся ў думкі-згадкі,

што набягалі і набягалі на яго, нібы рачныя ці азёрныя хвалі...

Тады, пасля пахавання маці, з Мінска да Масквы ён ехаў цягнікам, а з Масквы да Уладзівастока ляцеў самалётам. Побач з ім сядзеў вайсковец — чамусьці Васілю падалося так, хоць чалавек недзе яго гадоў быў не ў форме, а, як і ён сам, у штанах і тэнісцы. Дарога, нават і ў самалёце, няблізкая, і яны, вядома, разгаманіліся. Перагаварылі ці не пра ўсё на свеце, пра што толькі можна было перагаварыць, пра што звычайна і гавораць людзі ў дарозе — пра надвор'е, пра футбол, пра парадкі на вакзалах і ў аэрапортах, пра знаёмства і блат у магазінах, пра дзяцей — чужых і сваіх, пра тое, што дзеецца ў свеце — блізкім і далёкім.

А пачалося, што сусед — ён сапраўды аказаўся вайскоўцам, афіцэрам, лятаў на поўдзень у санаторый — спытаўся ў Васіля:

— Дадому ляцім?

— Ага, дамоў,— згодна кіўнуўшы галавой, адказаў Васіль.

Ды нечакана злавіў сябе на думцы, што падумаў не пра Мучную і не пра цешчыну хату ля падножжа сопкі, а пра Звонічы і пра апусцелую матчыну хату. Сусед пытаўся ў яго пра нешта яшчэ, а Васіль ад гэтае думкі быццам зніякавеў ці нават спалохаўся: хоць бы не на бяду якую падумалася так? А мо і не падумалася? Мо гэта пасля, як мільганула ў памяці Мучная і хата ля сопкі, згадалася і мясціна, адкуль едзе?

Ляціць ён, вядома, дадому, аднак жа, аказваецца, нягледзячы на гады і нават дзесяцігоддзі, жыве ў чалавечай памяці поруч з іншымі мясцінамі і дамамі, дзе і ў якіх даводзіцца яму жыць, і той першы куток, дзе нарадзіўся, і той першы дом, у якім рабіў першыя крокі і праз вокны якога ўпершыню зірнуў на свет. І, пэўна, не проста поруч, сярод іншых мясцін і дамоў, а нязменна першым у гэтым, незалежна, кароткім ці доўгім, шэрагу. Мусіць, гэта вельмі важна, дзе чалавек першы раз пабачыў узыход і заход сонца, дзе ўпершыню, свядома ці несвядома, сарыентаваўся ў гэтым свеце. Адчуванне радзімы, якую цяпер чамусьці ўсе пачалі зваць малою, а якая на самой справе завецца бацькоўскім кутам ці проста бацькаў-

шчынай, мусіць, і пачынаецца вось з гэтага — з разумення, дзе ўстае і сядае сонца. Смешна каму сказаць, але ў Мучной, пражыўшы і год, і другі, і трэці, ён усё круціў галавой і круціўся сам, асабліва будучы ў хаце ці ў якой-небудзь іншай будыніне, пакуль сарыентоўваўся нарэшце па сонцы.

Доўгі час, ціха гамонячы з суседам, ён зноў і зноў думаў пра гэта. Ну, добра, казаў ён сам сабе, усё гэта ў чалавеку, пэўна, і праўда жыве ў душы, жыве да самага канца, да смерці. І, значыць, у тым, што ў адказ на словы суседа ён падумаў быў пра Звонічы і пра матчыну хату, няма нічога дзіўнага. Але ж чаму тады ў Мучной ён як забыўся на гэта і праз усе пражытыя там гады не надта часта ўспамінаў бацькоўскі куток? А калі і ўспамінаў, дык так, амаль раўнадушна, без цяперашняга болю, хай нават і не болю — без цяперашняй шчымлівасці, неспакою, нейкай трывогі.

Хутчэй за ўсё прычына ў ягонай маладосці. У маладыя гады — дзіўна, чаму? — чалавек вельмі лёгка развітваецца з усім родным і блізкім. Куды больш прывабныя яму чужыя далі і чужая краса. Хіба тут, сярод гэтых пясчаных, парослых сасоннікам ды бярэзнікам пагоркаў і лазняковых балацявін, ёсць што вартае ўвагі?

І сапраўдная прырода, поўная красы, велічы і спракавечнай нечапанасці, недзе там, за сіняй смугой небакраяў, і людзі, поруч з якімі і сябе адчуеш сапраўдным чалавекам, таксама недзе там, куды бягуць бліщчастыя і бясконцыя рэйкі, далёка-далёка, куды далей таго месца, дзе тыя дзве рэйкі збягаюцца-зліваюцца ў адну, там, дзе яны прыбягаюць у вялікія-вялізныя гарады...

І трэба гады і гады, каб чалавек пачаў сумнявацца ў гэтым, пачаў думаць аб тым, што і там, дзе былі тыя пясчаныя пагоркі і лазняковыя аселіцы-балацявіны, дзе бралі пачатак ягоныя жыццёвыя рэйкі, было не горш, а можа, нават і лепш, чым дзе-небудзь пасля. А кажуць жа, што прыходзіць і такі час, калі ўсё тое пачынае цягнуць да сябе магнітам, і чалавек песціць у душы ўжо адну-адзіную думку-спадзяванне — каб хоць апошні свой прыстанак знайсці ў роднай зямельцы, у родным куце.

Васіль верыць, што так яно і ёсць. Валя, а най-

больш цешча не адзін раз расказвалі яму, як хацела перад смерцю трапіць на родную Барысаўшчыну і спачыць там Валіна бабуля, а цешчына маці. А ён слухаў, стараўся слухаць, а сам не надта і ўнікаў у іхнія словы, і не надта верыў у тое, што бабулі сапраўды перад смерцю таго жадалася.

А чаго, каб хто спытаў, было яму ўнікаць і верыць? Ён быў малады, дужы, здаровы, усё ў яго было яшчэ наперадзе, а галоўнае — у яго была Валя. Валя — гэта ўсё. Пляваць ён хацеў на тое, што сёй-той з суседзяў і на рабоце калі-нікалі пакеплівалі: у жонкі пад абцасам! Ён не адбрэхваўся, ён пасміхваўся: самі вы ў сваіх сварлівых супружніц пад абцасамі, каму што баліць, той пра тое і пішчыць. А ён з Валяй жыў і жыве душа ў душу. З першага дня. Ён прыйшоў у цешчыну хату, а не наадварот. І Васіль парашыў: у цешчы былі дзве дачкі, ён будзе сынам. У адной хаце дзве сям'і рэдка калі жывуць мірна і дружна, значыць, хай будзе, як і была, адна сям'я. І ў іх была адна сям'я. Чацвёра душ — маці, дочкі Валя і Тома, ён, сын Васіль. Цешча іначай яго і не звала — сынок. Ён таксама зваў яе мамай. Ад пачатку да смерці. Потым Тома выйшла замуж, з'ехала са сваім мужам-вайскоўцам далёка, і сям'я іхняя паменшала: іх стала трое. Але ўрэшце знайшлася ў Валі Ядвіська, і іх зноў стала чацвёра...

Недзе Васіль ці то чуў, ці то вычытаў упадабаныя ім словы пра шчасце. Нешта накшталт: шчасце — гэта калі чалавек раніцаю ахвотна ідзе на работу, а ўвечары з радасцю спяшаецца дахаты. Ён пагадзіўся з гэтымі словамі адразу і цалкам: маўляў, ён, Васіль, сказаў бы тое самае, калі б у яго спыталі, што такое шчасце, і калі б ён змог сказаць так гладка, коратка і трапна.

Сваю шафёрскую работу ён любіць. Васіль наўрад ці вытлумачыў бы гэтую любоў, аднак жа ніколі і думкі ў яго не было аб тым, што ён мог бы рабіць нешта іншае, акрамя як шафёрыць. Свой колішні «газон», а цяперашні ЗІЛ ён — смейцеся, калі ахвота! — лічыць і ўспрымае жывой істотай. Сваёй раўнёю. У дарозе ён і пагаворыць з машынай, і паспачувае ёй, і папросіць, калі трэба, а часам і прыкрыкне — ці мала што бывае ў дарозе! Гэта толькі для чэрствага чалавека, а яшчэ для такога, які ні разу не

сядзеў за рулём, здаецца, што машына, грузавік той жа, скажам, нямое стварэнне. А ён, Васіль, ведае, што машына колькі едзе, столькі і размаўляе, вядзе гамонку са сваім гаспадаром і сябрам-шафёрам. Голас машыны — яе матор. Лёгка ёй бегчы-імчаць па добрай дарозе — значыць, і голас матора мажорны, бадзёры. Недарэмна ж кажуць: спявае матор! А калі даводзіцца калывацца па калдобінах-рытвінах, паўзці, як чарапасе, па разбітай, гразкай і глыбокай каляіне, дык тут ужо не да песень — ные матор, енчыць, плача. І тады Васілю таксама не весела, таксама як усё адно ў яго сэрца баліць. Кідае машыну то туды, то сюды, выкіроўваючы яе на лягчэйшы, сушэйшы, раўнейшы шлях, і сяды-тады нават уголас прыгаворвае: «Ну, даражэнькая, патрывай, не падвядзі, разумею, што цяжка табе, а што ж зробіш? Трэба выбрацца адсюль, яшчэ трошкі, вунь за той сопкай будзе лягчэй — там добрая насыпанка, пакоцімся-пабяжым мы з табой — ажно ветрык зашуміць...»

Трэці дзесятак гадоў круціць баранку Васіль, а не захварэў на распаўсюджаную шафёрскую хваробу — ліхацтва. Не, ён, вядома, не які-небудзь недарэка, што не едзе, а пхнецца. Дзе дарога добрая, дзе можна, ён, Васіль, дае машыне разгон — трэба ж і ёй парадавацца-пацешыцца хуткім бегам, трэба ж і матору даць магчымасць перайсці з басу на альт, а то і зазвінець высокай звонкай струной. Але і тут ён на злом галавы не папрэцца, не! Каму не трэба гарачкі пароць, дык гэта шаферу — пра іншых ён не кажа, іншыя самі павінны ведаць. Заплюшчыць вочы і кýляю ў белы свет — толькі дурань на такое здатны. А машына? А ты сам? Не апошні ж раз у дарозе. Значыць, трэба шчасліва з гэтай дарогі дахаты вярнуцца. Бо дома цябе чакаюць, шафёр!

Яго дома чакала Валя. Васіль ведаў і ведае гэта. Яна чакала заўсёды і верна. Калі ён казаў, што вернецца сёння, хоць позна ноччу, але сёння,— яна чакала. У бальніцы натупаецца-натоміцца, а ўсё адно не засне, пакуль не дачакаецца, пакуль не падасць яму познюю вячэру і не пасядзіць, акрыўшыся халатам, насупраць, гледзячы, як ён есць; пакуль не прымусіць яго легчы, каб пасля ўжо, прыбраўшы са стала і выключыўшы святло, юркнуць да яго пад коўдру, туды, да сцяны, на сваё ўлюбёнае месца. І ён, Васіль, ве-

даючы гэта, не мог не вярнуцца з любой, нават самай цяжкай дарогі сюды, дзе яго чакалі,— каб пачуць з-за дзвярэй лёгкае і дробнае тупаценне Валіных ног з глыбіні пакоя да яго, да дзвярэй, каб дакрануцца тут жа, ля адчыненых яму дзвярэй, сваімі халоднымі вуснамі да яе цёплых, мяккіх вуснаў, каб пасля сядзець за сталом у майцы, уплятаць за абедзве шчакі крыху прысохлую, але ўсё адно смачную вячэру і бачыць перад сабою яе рукі, прыпаднятыя пад халатам плечы, лавіць пагляд яе добрых шэрых вачэй, а яшчэ пасля адчуваць яе побач з сабой усю, цёплую, родную і адзіную.

Ці пасварыліся яны калі-небудзь з Валяй усур'ёз? Здаецца, не. Такога не здаралася. І вялікая заслуга тут, Васіль лічыў і лічыць, цешчына. Яна вяла гаспадарку, яна была галавою ў хаце, а яшчэ, апроч гэтага,— кухарам, пекарам, прачкай, нянькай і ўсім, чым толькі можа быць добрая, працавітая, шчырая, увішная жанчына. Васілю з Валяй лацвей было пры ёй і гадаваць Ядвіську з Цельпуком і жыць наогул. Пакуль цешча была здаровая, яны не ведалі многіх і многіх клопатаў. Ім, быццам нядаўнім маладым, яшчэ не абцяжараным дзецьмі і іншымі сямейнымі турботамі, былі даступны і кіно, і танцы, летам — рэчка, зімою — лыжы, дамы адпачынку і санаторыі. Але, але, за цешчай ён, Васіль, быў з Валяй як у бога за пазухай.

Што ж дзіўнага ў тым, што не так часта згадваўся яму там, у Мучной, пакінуты бацькоўскі кут? Згадваўся ён, бадай, у тыя дні, калі прыходзілі рэдкія пісьмы ад Максіма ці Волькі, а яшчэ тады, калі пасылаў маці пераводы. Тут Васілю трошкі сорамна і па сёння. І ні маці, ні Максіму з Волькай не прызнаўся, што тыя рэгулярныя штомесячныя пераводы, якія прыходзілі ўвесь час з Мучной у Звонічы, ажно пакуль маці не памерла, падказала яму, Васілю, пасылаць цешча. «Жывеш, сынок, далёка,— казала яна,— з'ездзіць адведаць не можаш, а матку забываць няможна, пасылай ёй штомесяц хоць рублёў пятнаццаць, хай ведае, што сын у яе ёсць, хоць і далёка, перад суседкамі будзе ёй лацвей, брахаць лішне не будуць. Пражыве маці без гэтых рублёў, вядома, але ты — пасылай...»

Лёгка, весела, нават мо трошкі і бесклапотна жыў

Васіль у Мучной. Зрэшты, можа, і не тыя ўсё гэта словы. Можа, прасцей было б сказаць — добра жыў. У ахвоту, з душою, сумленна працаваў — акрамя шматлікіх грамат і падарункаў мае і медаль, кахаў і не даваў у крыўду жонку, шанаваў цешчу, любіў і вучыў расці добрымі і чэснымі людзьмі дачку і сына. Пра высокія матэрыі не надта задумваўся? Не ўсім жа быць філосафамі. Ён робіць сваю справу, а філосафы — сваю, і не трэба прымервацца, чый хлеб лягчэйшы ці смачнейшы. Галоўнае — каб ён быў сумленны. А калі сумленны, дык і смачны.

Аднак жа і прасцячком, гэтакім Іванкам дурнаватым ён не прыкідваўся таксама. Сёе-тое ён разумеў, хоць і не мог, як іншыя маладыя мужчыны, праводзіць лішнія гадзіны ля тэлевізара ці прыёмніка. Васіль кампенсаваў не ўбачанае па тэлебачанні і не пачутае па радыё праз газету. З газетай не расставаўся. Спачатку выпісваў «Правду», пасля — «Труд», а потым неяк прызвычаіўся да «Известий» і ўжо не здраджвае ім добрых пятнаццаць гадоў. І як бы ні быў заняты, а выкройваў хвіліну, каб прачытаць кожны нумар ад апошняй старонкі да першай, а яшчэ часта і на тое, каб выразаць і пакласці ў папку ці ўпадабаны артыкул, цікавую заметку, ці хоць бы некалькі радкоў, якія чымсьці ўразілі яго — невядомымі раней лічбамі, думкамі, фактамі.

І найчасцей «Известия» давалі штуршкі і спажыву ягоным доўгім, хоць і бязладным дарожным думкам. Рукі і ногі машынальна робяць сваю звычную шафёрскую работу, падпарадкоўваючыся галаве, найперш пільным і ўсёбачным вачам, а недзе ў той частцы галавы, якая не занята дарогай і машынай, снуюцца і снуюцца думкі. Само сабой, знаходзілася ў гэтых думках месца жонцы і дзецям, але, прывык Васіль, з імі было ўсё заўсёды добра, і таму думкі пра іх былі лёгкія, светлыя і непрыкметна саступалі месца іншым, якія хвалявалі, дзіўна сказаць, больш, чым думкі пра цёплага, мяккага і надта ж роднага нават па паху Цельпука.

Пра што толькі не думаў ён у дарозе!

Ну, скажам, думаў пра тое, як гэта англічане мыюцца і палошчуцца пасля мыцця ў адной і той жа вадзе, налітай у ванну па лічыльніку; і абураўся той капіталістычнай эканомнасцю, якая, аказваецца,

абарочваецца плюшкінскай скнарлівасцю: гэта ж нібыта ў ванных пакоях у іх і душа няма, бо лічыльнікі не могуць падлічыць, колькі той вады ўцячэ праз душавое рэшатца.

А то знячэўку пачне думаць пра касманаўтаў, пра тое, як цяжка, пэўна, даводзіцца ім, сустракаючы на працягу сутак пятнаццаць разоў узыход і заход сонца, і ці можа гэта чалавек прывыкнуць да такіх дзевяностамінутных сутак, і якая сіла прымушае іх, касманаўтаў, там спаць у строга вызначаныя гадзіны, і як гэта наогул можна спаць, калі ты не адчуваеш, ці ты ляжыш, ці сядзіш, ці вісіш уніз галавой, і як паляцяць касманаўты да Марса ці да Венеры, калі на іхняй паверхні такая высокая тэмпература?..

Часцей жа за ўсё думкі яго круцяцца вакол падзей, што адбываюцца ў свеце. Гэта ж так неспакойна на зямлі! Як сёння, так і дзесяць, і дваццаць год назад. Як падумае часам Васіль, дык ажно боязь нейкая падкочваецца.

І расчуліцца Васіль, і пачне думаць пра весялейшае — пра невядомую жывёліну, якую ловяць і ніяк злавіць не могуць, нават не тое што злавіць, а і проста пабачыць у тым загадкавым возеры Лох-Нес, пра тайны Бермудскага трохкутніка, страхі якога наколькі рэальныя, настолькі ж і выдуманыя, пра парад планет, пра камету Галея, якая імчыцца са страшэннай хуткасцю да Зямлі...

А потым знянацку ўкоціцца ў галаву думка пра тое, што надта ж шмат развялося розных хціўцаў, якія без спросу-дазволу шнырāць па тайзе, нішчаць жэнь-шэнь, лімоннік, элеўтэракок, валяць дзеля шышак стогадовыя кедры, страляюць дзеля пантаў аленяў...

Вось так і здаралася чамусьці, што сярод ягоных касмічна-зямных глабальных думак не часта знаходзілася месца думкам пра матчыну хату і маці ў ёй, пра Максіма і Вольку, пра канчанскіх і гаранскіх звонінцаў. Нават і пасля таго, як двойчы з'ездзіў да іх у адведкі — спачатку ўдваіх з Валяй, а пасля з Валяй і Ядвіськай. Маці, пабачыў і адзін раз, і другі, пачувалася нядрэнна, усё было добра і ў Максіма з Волькай, і таму не было нейкіх асаблівых прычын думаць-турбавацца пра іх. Уяўлялася, мо нават не

ўяўлялася, а недзе падсвядома мроілася, што так будзе заўсёды — прынамсі, яшчэ доўга-доўга.

І раптам — тэлеграма ад Максіма. У той дзень ён быў у рэйсе. Праўда, у недалёкім, але ўсё ж у рэйсе. Вярнуўся надвячоркам, а тут тэлеграма: з маці блага, прыязджай. Рукі, твар спаласнуў, кас-цюм лепшы на плечы — і на станцыю. Пашанцава-ла ўпрошчыцца на цягнік, дабраўся да Хабараў-ска — туды прасцей, хоць і далей, чым да Уладзі-востока. А там — білетаў на Маскву няма. Тэлегра-ма такая, што не надта бралі яе пад увагу. Але неяк усё ж выпрасіў білет, паляцеў. Ды, як ні спяшаўся, не паспеў, убачыў маці ў труне. У просценькай, не-фарбаванай, збітай дзядзькам Міхалкам з танкава-тых, але затое, казаў, сухенькіх дошак...

Пасля тае неспадзяванае паездкі ў Звонічы не-шта як зварухнулася ў Васілёвай душы. Не, не тое, каб яму раптам захацелася-закарцела махнуць на сваё — ужо лічыў сваім! — Прымор'е і вярнуцца ў бацькоўскі кут. Такога жадання не было ў яго, не будзе прыкідвацца, але думкі пра Звонічы пачалі прыбягаць да яго чамусьці ўсё часцей і часцей. Ду-мае пра тое, што робіцца ў свеце, пра тое, чаму аме-рыканцы ўсюды на ражон лезуць, напоруцца ж не-калі — і тут жа пра Звонічы, пра нешта нейкае, што было з ім калісьці там, на радзіме.

І сны пачалі сніцца пра тое ж, даўняе: бачыў сябе ў сне малым — свіным (успомнілася неўспа-дзеўкі, што калісьці была ў іх вялікая рабая свіння з парасятамі і ён, Васіль, катаўся на ёй верхам) і каровіным пастушком; бачыў сябе школьнікам (ад-нойчы ўсплыў у сне Бздыка, загадчык іхняй сямі-годкі, які любіў зацягнуць якога-небудзь падшыван-ца ў настаўніцкую, балюча ўперці свой тоўсты і су-хі палец гэтаму самаму падшыванцу ў падбароддзе, там, дзе гарляк, і шыпець: «Чаго зубы скаліш? Ты ў мяне давыскаляешся. Ой, давыскаляешся...»); ба-чыў сябе падлеткам, ужо трошкі вусатым кавале-рам, той парою, калі пасля сямігодкі рабіў на ко-нях — часцей за ўсё снілася, што ідзе, угнуўшыся, за плугам, з-пад лемяха паўзе-выварочваецца бясконцая чорная і быццам тлустая скіба, і, прачы-наючыся пасля такога сну, быццам напраўду балелі ў яго рукі, ныла спіна і мільгацела ўваччу.

Мінуў год, другі, сны і думкі пра Звонічы не пакідалі яго. А тут яшчэ ні з таго ні з сяго пачало балець у яго сэрца. Не вострым пякучым болем, а от быццам ные ўсё і ные. Найчасцей тады, калі надаралася вольная хвіліна, час адхлання ад работы, а яшчэ — ноччу. Ляжа спаць, а яно раптам заные і быццам задрыжыць-затрапечацца! Не можа тады заснуць Васіль, ляжыць ціхенька, каб не турбаваць, не трывожыць Валю, а думкі ў галаву благія плывуць, хоць урачы навыперадкі адзін перад другім супакойвалі: нічога, маўляў, страшнага, хутчэй за ўсё на нервовай глебе гэтыя непрыемныя адчуванні ў вобласці сэрца, што гэта не само сэрца ные, не таму, што яно хворае, а штосьці правакуе яго на гэтае ныццё.

І адной такой ноччу, калі ён доўга не мог заснуць, прыслухоўваючыся да тужлівага і, нягледзячы на ўсе заспакойваючыя словы ўрачоў, трывожнага ныцця ў левым баку грудзіны, прыйшло да яго нечаканае рашэнне: трэба з'ездзіць у Звонічы. І з'ездзіць не ў адведкі, не на адзін-другі дзень, а на тры, а то і на ўсе чатыры тыдні — правесці там адпачынак. А што? А чаму б і не? На поўдні яны былі, і не адзін раз, у доме адпачынку на беразе Ціхага акіяна таксама былі, ездзілі турыстамі на Камчатку і Сахалін, дык чаму не выправіцца летам на захад, на яго і жончыну, калі на тое пайшло, радзіму? Цяльпук во не быў там ні разу, а ці ж гэта добра? Які ж ён пасля гэтага бацька, калі ні разу не звазіў сына — а ён паспеў пражыць ужо дзесяць гадоў! — у краіну свайго маленства? Гэта проста грэх, а то і злачынства з яго, Васілёвага, боку. Цяльпук, чаго добрага, і пакрыўдзіцца можа. Не, трэба рашыцца. З жытлом клопату не будзе — матчына хата, пэўна ж, стаіць, бо каб што — Максім ці Волька напісалі б; крама ў Звонічах ёсць, так што хлеба, цукру, мукі, круп, кансервіну якую можна купіць; малако, яйкі, бульбу можна ўзяць у Максіма ці ў Волькі, а то і ў той жа Манькі, па суседству; а да ўсяго і ягадзіна нейкая павінна быць, і грыб, калі пашчасціць, знойдзецца. Дальбог жа, трэба паехаць!

Валя, калі ён, трохі як пабойваючыся, а мо проста адчуваючы нейкую ніякаватасць, загаварыў з ёй пра гэта, нечакана не ўспрыняла ягонай прапановы

ў штыкі. «Калі табе так хочацца, дык паедзем. Мама, шкада, не дажыла, паехала б з радасцю. Бабуля ёй усё наказвала з'ездзіць у Беларусь, на яе Барысаўшчыну»,— Валя гаварыла зусім памяркоўна.

Ядвіся таксама была загарэлася ехаць разам з імі, але пасля перадумала: маўляў, ёй няможна, трэба абавязкова ехаць са студэнцкім будатрадам на БАМ. Васіль з Валяй паразумела перагляпуліся і не сталі яе ні ўпрошваць, ні адгаворваць: дайшло да іх, што ў тым будатрадзе і хлапец яе, дык бегала ў камітэт камсамола, прасіла, даказвала, плакала, каб і яе ўключылі. Студэнтка ж яна не з апошніх, троек за тры гады не мела, дык прыслухаліся да ўпрошванняў, уключылі ў той атрад. Неўзабаве Ядвіся паехала ў Хабараўск, у свой інстытут, каб адтуль выправіцца на БАМ.

А яны, Васіль, Валя і сын, пачалі рыхтавацца ў далёкую дарогу. Хацелі тады ж, у пачатку ліпеня, як Ядвіся паехала, і выправіцца, але Валю не адпусцілі з бальніцы — папрасілі трошкі пачакаць, пакуль вернецца з адпачынку дзяжурная сястра. Давялося адкласці ад'езд на канец ліпеня. Васіль дык, зрэшты, быў і рады гэтаму. Як ні даўно адтуль, з бацькоўскага кута, а памятаў, што канец ліпеня — пачатак жніўня — самая лепшая пара на Беларусі: і цёплая, і грыбная, і вішнёвая, а самае галоўнае — пара маладой бульбы і маласольных гуркоў.

Прыехалі яны з Мінска рэйсавым аўтобусам, выйшлі ў Звонічах і перш-наперш падаліся да Максіма. Брата дома не было, жаў жыта недзе за Цагельняй, але Надзя сустрэла іх радасна, кінулася на шыю і Васілю, і Валі, адразу ж завінулася збіраць на стол, бегаючы раз-пораз у склеп і носячы адтуль то адно, то другое, гаварыла, што гэта хай яны перакусяць з дарогі, а пасля ўжо, вечарам, як вернецца з поля Максім, тады па-людску пасядзяць, Вольку з Мікалаем паклічуць,— так мітусілася, што Васіль ледзьве спыніў яе, змусіўшы і самую яе прысесці да стала і разам з імі хоць што-кольвечы ўкусіць. Усё было надзвычай смачнае — можа быць, сказвалася тое, што хоць і самалётам ляцелі, з Масквы да Мінска таксама самалётам, але прабылі ў дарозе, можна сказаць, двое сутак і амаль сухама. Валя найбольш упадабала мясную тушонку — На-

дзя сама гатавала яе і закатвала ў шкляныя літровыя слоікі, Васіль смакаваў сыр з маслам і з жытнім хлебам, а сын дарваўся да малака і, мусіць, перабраў меру, бо пасля, ноччу, не даў усім спаць — разбалеўся жывот.

Васіль тады ж, за тым абедам-перакусам, сказаў Надзі, што жыць яны будуць у матчынай хаце. Надзя на тое замахала рукамі:

— Не выдумляйце! Чатыры гады пустуе хата, як там жыць? Даўно не была, не бачыла, але, можа, там і шпалеры ўсе паабвальваліся, і грубка раз'ехалася... Жывіце во! Месца мала, ці што?!

Але Васіль, падзякаваўшы, адмовіўся: ён жа, можна сказаць, і ехаў сюды, каб пажыць у матчынай хаце, у сваёй хаце, успомніць маленства і ўвогуле развеяцца, акрыяць душой, бо нешта як пазбавіла яе ранейшага спакою і раўнавагі.

— Добра, добра,— заўсміхалася Надзя, невядома, зразумеўшы яго ці не зразумеўшы,— як сабе хочаце. Але ж сёння вы там, каб і хацелі, начаваць не будзеце, і ў мяне месца хопіць. Ты ж схадзі туды, паглядзі, а пасля ўжо гаварыць будзеш...

Ён, Васіль, таксама заўсміхаўся:

— От і пайду...— І спытаў: — Там жа, пэўна, замкнёна? А ключ у вас ці ў Волькі?

Надзя матлянулася на веранду:

— У нас ключ, у нас, на цвічку вісіць...

Яна прынесла ключ на скураным раменьчыку, падала Васілю, і яны ўтраіх выправіліся на сярэдзіну сяла, дзе стаяла замкнёная вось ужо чатыры гады матчына хата.

Васіль ішоў і думаў, што там, мусіць, як казала Надзя, сапраўды будзе так, што не да жыцця. Праўда, Надзя гаварыла, што сяды-тады Максім заходзіў у хату, нават нібы колькі разоў за зіму і грубку prапальваў, але ўсё роўна пастаянна ў хаце ніхто не жыў, і таму маглі там і шпалеры паадклейвацца-паадвальвацца, магла і грубка патрэскацца, цячы дымам, і печ на драўляных яшчэ апечках у першай палове хаты асунуцца, і электрычная праводка збуцвець, не кажучы пра тое, што паўсюль можа быць плесень і затхласць.

Ключ у замочку-самаскоку, які вісеў на прабойчыку сенечных дзвярэй хутчэй дзеля прыліку, чым

для аховы, пракруціўся з натугай і з рыпам. І дзверы ў сенцы таксама адчыніліся з цяжкасцю, бо аселі і скасабочыліся. Злева ў сенцах была кладовачка, дзверцы туды былі на кручку; справа на зэдліку стаяла пацямнелае, пабітае ржою вядро, таз з пабітай эмаллю, аплеценая шкляная бутля і кубак, а на акаваным іржаваю бляхаю крэсле стаяў такі ж іржавы керагаз. Вялікае сенечнае акно, падзеленае на маленькія квадратныя шыбкі, было завешана зрудзелай і, пэўна ж, сатлелай ад часу марляй.

Злева ад дзвярэй у хату чарнеў на сцяне выключальнік, а над дзвярамі ў чорным патроне тырчала пакрытая тоўстым пластам пылу і павуціння лямпачка. Васіль машынальна пстрыкнуў тым выключальнікам, і лямпачка над дзвярамі цьмяна загарэлася. Ага, значыць, праводка цэлая, не паспела сатлець! І Васіль, як абрадаваны гэтым, смялей тузануў за клямку і адчыніў дзверы ў хату.

Пераступіўшы парог і апынуўшыся — усе трое — у хаце, яны, праўда, трошкі сумеліся — было тут і праўда непаглядна. Парудзелыя шпалеры ў куце абвіслі — там, пэўна, недзе трошкі працякаў дах, маснічыны пад нагамі ледзьве ліпелі — згнілі амаль ушчэнт, печ пагрозліва чарнела незаслоненым чэравам, гатовая вось-вось абрынуцца на хату.

Затое ў другой палове хаты было куды лепей. Падлога не зыбалася і не прагіналася, нават калі Васіль тупнуў па ёй, яна азвалася зусім яшчэ моцным, драўняным гудам; толькі ля паўночнай сцяны, пад ложкамі, захінутымі старэнькімі, выцвілымі пакрываламі, дзве ці тры маснічыны, няйначай, былі з'едзены грыбам, бо пакарабаціліся, а сям-там і паправальваліся. Шпалеры тут, хоць і відно было, што паклееңы даўно, аднак жа былі цэлыя і трымаліся надзейна. На сценах над ложкамі і над канапкай, побач з пацямнелым люстэркам, віселі ў драўляных рамачках пад шклом пажаўцелыя не так ад часу, як ад клею фотакарткі. Пры дзвярах, справа, прысунутая шчыльна да сцяны, стаяла шафа; між акон, што былі абапал кута, стаяў круглы стол, засланы даматканым абрусам. Калісьці стол гэты быў у акаймаванні вазонаў — маці любіла разводзіць іх, адусюль прыносіла і садзіла ў бляшанкі і дзіравыя гаршчочкі флянцы і атожылкі. Цяпер стол быў дзіўна

голы, адзінокі, адно на ім у шкляной не то вазачцы, не то падстаўцы для алоўкаў тырчэла некалькі штучных, пластмасавых жоўтых кветак з такімі ж пластмасавымі зялёнымі да непраўдападобнасці лісточкамі. Злева ад дзвярэй была грубачка-стаячок, ад яе да сцяны былі зроблены нядоўгія — наколькі можна было — палаці, з іх звісала амаль да падлогі старая, няпэўнага колеру пасцілка, і можна было падумаць, што гэта не палаці пры грубачцы-стаяку, а грубачка-ляжанка.

Васіль і ў гэтай хаце пстрыкнуў уключальнікам — святло гарэла і тут. Ён заадно праверыў і радыёкропку — уткнуў штэпсель рэпрадуктара ў разетку, і рэпрадуктар глуха, як з-пад зямлі, з нейкім далёкім папіскваннем загаварыў.

У шафе віселі мацерына балоневая куртачка, нейкая шарсцяная старэнькая хустка, кофта, фартух, унізе ляжалі складзеныя чыесьці вялізныя, няйначай Максімавы, ватовыя штаны, валяліся розныя анучы-рызы, стаялі гумовыя боты і суконныя фабрычныя бурачкі.

Да вечара яшчэ было далёка, і яны тут жа ўзяліся за работу. Перш-наперш пазнімалі з вокнаў занавескі і парасчынялі рамы. Павыносілі з хаты ў двор, на сонца, пакрывалы з ложкаў і пасцілку з грубкі, выцягнулі і матрацы — хай прасыхаюць-праветрываюцца, тады ўжо будзе відаць, што з імі рабіць, ці можна будзе на іх спаць. Акрамя вядра ў сенцах Васіль знайшоў у кладовачцы пластмасавае вядро, некалькі разоў разам з сынам збегаў да калодзежа, нанасіў вады ў таз, у бачок пад рукамыйнікам — ён, дзіўна, таксама не цёк, у вялізны малочны бітон без накрыўкі, які таксама знайшоўся ў кладоўцы. Веніка, колькі ні шукаў, не знайшоў, давялося зрабіць з дуддзяў маркоўніку, які ў гародзе цераз вуліцу разросся так, што не ўлезці.

Бачыў Васіль, што Валя без асаблівай зацікаўленасці пазірала на ўсё гэта, у тым ліку і на яго крыху лішнюю мітусню-завіханне, энтузіязм яе падупаў, але яна заўсёды была малайцом, умела стрымліваць эмоцыі, таму з заўсёднай між імі паразумеласцю скінула кофту, павязала мацерын фартух і ўзялася мыць, скрэбці, выціраць, падмятаць. Ён, Васіль, з палёгкай уздыхнуў і заняўся грубкаю. Пасправа-

ваў быў запаліць напхнутыя ў яе паперы і іншае смецце, але зрабіць гэта не ўдалося — дым вярнуў на хату. Палез хутчэй адчыніць юшку — якая ж яшчэ можа быць прычына, што дым пакаціўся на хату? — а там усё забіта якімсьці смеццем-галлём. Ледзь здагадаўся, што гэта галкі замуравалі комін ажно па юшку. Давялося лезці на гарышча, вымаць колькі цаглін з лежака, выкідваць галчыныя кватэры-гнёзды. Прыгадаў Васіль, што незадоўга да смерці маці Максім пісаў яму, што перарабляў у матчынай хаце грубку. Дык мо дзе кропля гліны засталася? Агледзеў падворак і такі знайшоў — пад плотам ад вуліцы, трошкі наўзбоч ад варот: пэўна, там і скідаў гліну з калёс Максім. Гліна была ўсярэдзіне нават сырая, перапрэлая, яе і размешваць асабліва не трэба было, і Васіль абмазаў не толькі парушаны ляжак, але і пазамазваў усе трэшчыны і шчыліны на грубцы, і неўзабаве ў ёй весела гуло полымя, ад чаго, нягледзячы на тое, што на двары стаяла спякотнае і сухое лета, неяк палягчэла на душы — як усё адно пацяплела ад таго вясёлага і — самае галоўнае, мабыць,— роднага полымя.

У той жа дзень Васіль яшчэ паспеў збегаць у краму — зачынялася яна тут не строга па гадзінах, як у горадзе — і купіць новае вядро, керагаз, электраплітку, каністру і газы ў яе, патэльню, тры алюмініевыя кубачкі і каструлю. Валя, угледзеўшы яго, абвешанага ўсім гэтым, ці не ўзлавалася: навошта купляў? Ці не мог у сястры ўзяць на час сёе-тое? Каму ўсё гэта застанецца? Іржавець тут, у гэтай гнілой разваліне? Ён не азмрочыўся, спакойна сказаў, што ўсё гэта каштуе капейкі, а калі яны ўжо наважыліся пажыць тут тыдзень-другі, дык як ні круці, а без усяго гэтага — ён страсянуўся, і вядро, керагаз, каструля, кубкі забразгалі-зазвінелі — не абыдзешся. Цяльпук, гледзячы на бацьку, засмяяўся, засмяялася і Валя, і на тым усё скончылася.

А ў Максіма і ў Волькі яны ўзялі падушкі, прасціны, ватовы матрац, каб паслаць наверх спружыннага, які ўжо даслужыў сваю службу, ватовую коўдру, каб падаслаць пад бок Цельпуку, ды от гэты кавалак паралону, на якім ён, Васіль, ляжыць во і ніяк не можа змружыць вачэй, хоць ужо, дзякаваць богу, як кажуць, і ноч праходзіць — вунь як пасвят-

лела ў вокнах,— глядзі, што неўзабаве і сонца з-за Сялібнай выкаціцца.

Тады яны і праўда толькі адну ноч параначавалі ў Максімавай хаце, а ўжо на другі дзень пасля прыезду перабраліся ў матчыну, і ўладкаваліся няблага, здаецца. Зважаючы на тое, што прыехалі яны ненадоўга, Васіль не надта каб турбаваўся за хату. Як ёсць, так і добра, жыць можна. Адно — папрымацоўваў маленькімі цвічкамі абвіслыя шпалеры — яны калісьці клаліся адны на адны і тапоршчыліся тоўстай непадатлівай карою, ды злёгку падлатаў дзіркі ў падлозе ў першай палове хаты, каб хоць ступаць можна было, каб нагі не звіхнуць. Для гэтай работы спатрэбіліся яму сякера, нажоўка, малаток. Да Максіма ісці было далекавата, і ён, Васіль, пайшоў па гэтае начынне да дзядзькі Міхалкі.

Толькі цяпер, на спадзе ночы ці на пачатку новага дня, дзядзька Міхалка згадаўся яму, здаецца, не толькі таму, што пазычаў у яго тады сякеру ды нажоўку...

## 7

Адчыніўшы веснікі і ўзышоўшы на падворак да дзядзькі Міхалкі, папярэдне пужнуўшы ад сябе малога, калматага, няйначай гарадскога пакаёвага сабачку, Васіль пачуў за хатай цюканне сякеры і падумаў быў, што дарэмна зайшоў, што гаспадар, відаць па ўсім, сам штосьці такое робіць і яму самому патрэбна начынне, па якое ён, Васіль, прыйшоў сюды. Але не паспеў зрабіць кроку ні ўперад, ні назад, як з-за вугла хаты паказаўся сам дзядзька Міхалка і загаманіў:

— Дык чаго стаў? Звера нашага збаяўся? Гэта ж Мішка прывёз. Абрыдзеў у горадзе, дык мне падкінуў гэтага малога звягалу... Праходзь, Вася, сюды.

— Ды не, я на хвілінку. Хацеў дзірку у падлозе залатаць — мусіць, грыб з'еў, а ні сякеры, ні нажоўкі, дык, думаю, падыду да вас,— таптаўся на месцы, ля веснiц, Васіль.

— Дам, дам табе і сякеру, і нажоўку, і яшчэ калі што трэба,— гаварыў дзядзька Міхалка,— але не спяшайся, сёння ўжо ўсё адно мала што зробіш, бо

вечарэе. Лепш прайдзі далей, прысядзь вунь на бярвенца ды раскажы, што ў свеце робіцца.

Васіль без вялікай ахвоты прайшоў у глыбіню двара, прысеў на нядаўна акораныя, але ўжо добра падсохлыя нятоўстыя бярвенцы, дзядзька Міхалка апусціўся побач.

— Гэта ж мы з Лёнькам хляўчук новы надумаліся паставіць, а то ў старым і карове, і свінні з парасятамі, і курам тым самым цесна... Ты ж Лёньку майго хоць ведаеш, самага меншага, га? Старэйшых дык, пэўна, памятаеш, а Лёньку наўрад. Ты ўжо ў арміі служыў, як ён, пазнюрок, у нас знайшоўся. Не ведаеш жа, мусіць, што ён і інстытут скончыў, і во — дамоў вярнуўся, ажаніўся, настаўніцу ўзяў, а сяголета яго галоўным інжынерам у саўгасе прызначылі,— ахвотна і хутка, бы выстрэльваў слова за словам, хваліўся-расказваў дзядзька Міхалка.

Васіль і праўда не ведаў ягонага Лёнькі, як не ведаў ужо многіх і многіх маладых і маладзейшых звонінцаў. Што ўжо гаварыць пра таго ж Лёньку, калі сваіх родных пляменнікаў, Максімавых Валерыка і Сяргея і Вольчыных Анюту і Толю, каб раптам прыехалі са свайго Мінска, дык наўрад ці пазнаў бы.

А дзядзьку Міхалку хлебам не кармі, а дай пагаварыць:

— Я другімі сынамі хваліцца не буду надта. Ну, хлопцы як хлопцы, не крадуць, як кажуць, робяць, дык і хлеб ядуць, але галовы пуставатыя маюць. От Лёнька — не раўня ім, хоць і малодшанькі. Дваццаць шосты гадок, а — галоўны інжынер. І не здурнеў, не папёрся, куды вочы глядзяць, у бацькаву хату вярнуўся, да сваіх людзей. Леанід Міхайлавіч ужо, не абы-хто...

З-за старога хлява, поруч з якім узвышаўся ўжо на сем ці на восем вянкоў новы хляўчук-прыбудоўка, выйшаў хлопец — высокі, танклявы, у джынсах і ў расшпіленай ледзь не да пояса тэнісцы, паздароўкаўся з Васілём, сказаў дзядзьку Міхалку:

— Не адвучышся ты, бацька, так і цягне цябе штосьці за язык!

— От гэта і ёсць мой Лёнька,— Міхалка нібы не пачуў сынавых слоў.— Ты з ім, Вася, пагавары, пагавары!

Лёнька, дастаўшы з нагруднай кішэнькі цыгарэту і апускаючыся таксама на бярвенца, матлянуў галавой:

— Ты б усё ж памаўчаў.

Васіль не думаў, што заседзіцца ў дзядзькі Міхалкі. Але выйшла з хаты маладзіца з малым на руках — жонка, аказалася, гэтага самага Лёнькі, настаўніца, нешта спытала ў дзядзькі Міхалкі, той падняўся і пайшоў услед за ёю ў хату, яны засталіся — ён, Васіль, і Лёнька — удвух, прасіць у яго той сякеры і нажоўкі Васіль не рашыўся, аднак жа і сядзець моўчкі таксама не выпадала, і яны пра штосьці загаварылі. Ці не пра мох? Здаецца, праўда, пра мох. Васіль, кіўнуўшы галавой на кучу доўгага светлаватага моху, добра падвяленага на сонцы, спытаўся, адкуль цяпер возяць звонінцы мох.

— З Дамашоўскага лесу,— адказаў Лёнька.

— Усё адтуль? — шчыра здзівіўся Васіль, бо, памятаў, і тады, як жыў дома, да арміі, звонінцы ездзілі дзерці мох за Дамашы.

— Дык а больш нідзе не засталося,— улавіўшы гэтае Васілёва здзіўленне, растлумачыў Лёнька.— Надараўся раней латкамі ў Ганцавіцкім лесе, за Лішчыцамі, яшчэ пад Альхоўкай, а цяпер прапаў. Як прайшліся меліяратары, дык грунтовыя воды панізэлі, балоты і балотцы перасохлі, вось і моху не стала.

— А ў Дамашоўскім лесе во ёсць яшчэ. Там, мусіць, і журавіны ёсць?

— Ёсць. Жанчыны ходзяць, збіраюць. Нават у Мінск возяць, цяпер жа яны ў модзе, ад ціску, кажуць, памагаюць,— усміхнуўся Лёнька.

Пасля гэтага яны зноў памаўчалі, пакуль Васіль зноў-такі не папытаўся:

— Дык вы інжынерам у саўгасе?

— Нядаўна. Году няма.— Было не зразумець, ахвотна хлопец адгукнуўся на гэтае пытанне ці без жадання.

— Ну, і як... прыжываецеся? — папытаў Васіль, хоць хацеў, здаецца, спытацца пра іншае: ці атрымліваецца ў яго.

Лёнька зірнуў на яго і — а мо тое падалося? — усміхнуўся:

— Прыжывацца мне няма патрэбы. Я ўсіх ведаю,

і мяне ўсе ведаюць. Я ж тут і практыку праходзіў. Толькі які я к чорту інжынер?

— Чаму? — не зразумеў Васіль.

— Даставала я, а не інжынер. На заводах хоць штурхачы ці выбівалы, а нам тут часцей даводзіцца выпрошваць, выклянчваць, слёзна вымольваць любую дробязь, каб тэхніка была на хаду.

— А «Сельгастэхніка»? Яна ж павінна вас забяспечваць, рамантаваць...

Лёнька скептычна махнуў рукой:

— Абдзіралы! На іх спадзявацца, дык ці мелі б мы з чым у поле выйсці!

— А з кадрамі ў вас як?

— Ай, не пытайцеся! Усіх пад восемдзесят чалавек, але тых, хто па-сапраўднаму працуе, на пальцах пералічыць можна. А з астатніх вока спусціць нельга. Многіх, каб мог, і блізка да машыны не падпусціў бы. Тэхніка ж догляду патрабуе, правільнай эксплуатацыі. А ў нас каторы за год новы трактар да ручкі даб'е. Ну, я не скажу, малады, але ж бацька расказвае, як даўней жылі. Гаспадар кожны дзень, калі не вечарам, дык ранічкай вупраж агледзіць, калёсы дзёгцем змажа, на рассохлыя калодкі новыя рэхвы наб'е, стальвагу з бярэзіны выража... А сёння каторы трактарыст ні разу ў маторы не папоркаецца, нават і не загляне ў яго, пакуль трактар у баразне ці па дарозе не стане. Адбуксуем на машынны двор, у майстэрню, тады ўжо будзе калупацца...

— Дысцыпліны малавата,— зазначыў, бы падтрымаў гаворку, Васіль.

— Якая можа быць дысцыпліна, калі п'юць? Былі выпадкі, што ссаджваў з машыны — за рулём выпіўшы. Вытурыў двух, самых апівох. Да дырэктара бегалі, скардзіліся. А я Пятровічу так і сказаў: з п'яніцамі ў мяне дружбы не будзе. На першы раз — вымова, другі раз папаўся — прагрэсіўка і трынаццатая далоў, а за трэцім разам — матай на ўсе чатыры... Ну, Пятровіч мяне падтрымлівае, а п'янчугі ўжо і рэбры палічыць грозіліся...

Нечым Васілю пачаў падабацца гэты малодшы Міхалкаў сын. Дваццаць пяць гадоў усяго, а ўжо — галоўны інжынер саўгаса, а саўгас — не раўня колішняму, кіламетраў, пэўна, дваццаць з канца ў канец, пятнаццаць дык факт. І разважлівы, цвярозы. І сме-

лы. Не пабаяўся, бач, узяцца кіраваць такой гаспадаркай. Гэта ж калі чалавек восемдзесят механізатараў, дык можна думаць, колькі пад яго рукой трактароў, камбайнаў, машын і іншай тэхнікі. І па-хлапечы смелы. З усмешачкай сказаў, што грэзіліся рэбры палічыць. Ён, Васіль, у такім узросце не такі быў. Дурнейшы дык мо і не дурнейшы, не пра грамаць кажучы, але ж нейкі як сарамлівы, да жыцця не падта падрыхтаваны. А чаму так атрымлівалася, дык і не зразумець. Кажуць жа, хто гора зведаў, дык лепш жыццё разумее. Мо яно і так, а мо і не так. Бо — гора не толькі вучыць, але і мучыць.

— Чарнільшчыкі гэтыя во дзе ў мяне сядзяць,— Лёнька ляпнуў сябе па патыліцы.— Каб улада мая...

Выйшаў з хаты дзядзька Міхалка, падышоў да іх. Пачуў, пэўна, апошнія Лёнькавы словы, бо заначыў:

— Ён жа ў мяне ў рот не бярэ. Прынцыпова. Нічога ні кроплі. Нават пасля лазні.

Лёнька, згледзеў Васіль, паморшчыўся, і дзядзька Міхалка таксама тое згледзеў, бо паспяшаўся апраўдацца:

— Гэта я так, хоць і люблю яго за гэта. Я і сам ніколі не перабаршчваў. П'яніца — горш, чым дурань. Ад дурня хоць ведаеш, чаго чакаць, а што п'яны выкіне?.. Ёсць у нас тут адзін, Чомбам завуць. Дык роднаму бацьку нічога не зробіць без чарніла. Так і кажа: будзе, бацька, на стале пляшка, дык дровы нарэжу, а не — можаш рэзаць сам.

— А хто гэта — Чомба?

— Не ведаеш хіба? Гэта ж Мантуровага Валодзю так ахрысцілі.

— А чаму Чомба?

— Дык жа ўчарнеў увесь ад таго чарніла і язык вечна заплятаецца, не разабраць, што гамзае,— растлумачыў дзядзька Міхалка.— А як ты там жывеш, Вася? Як людзі там?

Васіль пацiснуў плячамі:

— Жыву. І людзі жывуць, як і тут.

— Можа ж, п'юць не так? Ці совесці болей? — дзядзька Міхалка зноў апусціўся на бярвенца.

— А ліха яго ведае! Хто п'е, а хто і не п'е. І робяць таксама па-рознаму. Што, хіба тут усе лайдакі ды абібокі?

— Хто кажа, Вася! Але ж каторы яшчэ нічога не зрабіў, а ўжо думае, колькі яму заплоцяць. Тут другая бяда. Многія і ў вёсцы па-гарадскому захацелі жыць. Схадзіць на работу і на бок заваліцца, газетку прачытаць ці тэлевізар паглядзець. Ты надоўга прыехаў? На ўвесь водпуск? Ну, дык паглядзіш, колькі каровак цяпер у Звонічах. Як сам пасвіў, колькі было ў статку, помніш ці не? Больш чым сто! А яшчэ ж і авечкі былі, Вася. А цяпер усяго каровак трыццаць. Ну, старым каторым цяжка трымаць, а маладыя, дай веры, не хочуць, лянуюцца. У Мінск, у Міжгорск на аўтобусе падскочыць, смятаны, тварагу купіць, а то і кішку малака. Ну, гэты белы цэлафанавы трыбушок, у ім малако перакіпячонае, дык не кісне доўга...

Васіль, счакаўшы, пакуль выгаварыцца дзядзька Міхалка, сказаў раптам пра тое, што яго заўсёды здзіўляла там, на Далёкім Усходзе:

— Ведаеце, там, у Прымор'і, нямала людзей адчуваюць сябе часовымі. Жывуць, працуюць, нават, бывае, і дом ставяць, а настрой у іх такі, што не сёння-заўтра могуць зняцца з месца і паехаць. Я дык...

На гэта адгукнуўся, ці не перапыніўшы Васіля, не дзядзька Міхалка, а Лёнька, адгукнуўся з той жа сваёй гарачлівасцю:

— Бяда гэтая і да нас прыйшла. Колькі ў нас перабывала і дырэктараў, і спецыялістаў розных, і ўсё часовыя. Усе ж бачылі, што яны часовыя. Асабліва спецыялісты — заатэхнікі, аграномы, інжынеры. Адпрацаваць абавязковы тэрмін! А з часовых які спрос? І колькі гадоў так было? Толькі цяпер во пачынаюць разумець, што зямлі патрэбен гаспадар. Пастаянны работнік.

— Чуеш, Вася, як чэша мой Лёнька? Ай праўду ж гаворыць, рыштант! — Дзядзька Міхалка тузануў Васіля за рукаў.— Правільна, гаспадар трэба. Правільна, пастаянны работнік. Бо на зямлі робячы, за адзін гадок разбагацець няможна, зямлю трэба паступова да сябе прыручыць, як і сябе да зямелькі. Яна сілу набірае не адразу. Толькі гаспадарова вока ўбачыць, што і як трэба пасеяць на ёй сёлета, а што налета, а калі і адпачыць даць, каб сілу сваю вярнуць.

Васіль спахапіўся, паказаў рукою на новы зруб хлеўчука:

— Адарваў вас ад работы. Вянок бы, другі паклалі, а то...

Але дзядзька Міхалка і Лёнька закруцілі галавамі:

— Зробіцца, нідзе не дзенецца. Вечарамі два-тры кіно прапусцім па тэлевізары, дык і хлеў будзе пад дахам стаяць. Пасядзі, пагамані, калі сам не спяшаешся,— дадаў дзядзька Міхалка.

Васіль, быццам адгукаючыся на гэтае запрашэнне-просьбу, сказаў:

— Вы, дзядзька Міхалка, гаварылі, што кароў паменела... Не ведаю, я рэдка прыязджаў дамоў, можа, памыляюся, але здаецца мне, што... Ну, гляджу, а вёска быццам пабагацела, але быццам і пабяднела. Авечак тых жа ўспомніў. Некалі ў кожным двары былі, а цяпер, мусіць, ні ў кога няма, я нешта не бачыў, каб з поля разам з каровамі ішлі...

— У нас, у Звонічах, ніхто не трымае, праўда, а ў іншых вёсках памалу заводзяць. Але рэдка хто,— адказаў дзядзька Міхалка.

— А гусей колькі было некалі? — зноў загаварыў Васіль.— Я ж малы яшчэ і пасвіў іх. На аселіцы, бывала, бела ад гусей, а цяпер пуста. Індыкоў толькі ў некага бачыў.

— Гэта ў Цвыркуна!

— Ага, у яго. У краму ішоў, дык у яго па двары хадзіла індычка і малых вадзіла,— кіўнуў Васіль.

Дзядзька Міхалка ўздыхнуў:

— Дык, Вася, тут адно на другое заходзіць. Надта ж і трымаць жыўнасць няма каму. Адной бабе старой не пад сілу, а каторы маладзейшы ды здаравейшы, дык не хоча, казаў ужо, а яшчэ ж — на чым трымаць? На хлебе? Калі толькі за малако камбікорму таго палучыш...

— Дык жа гусей... Што там ім трэба? Аселіца ды рэчка!

— Ага, аселіца і рэчка! А дзе яны? Перасыхае рэчка. Толькі як дождж пройдзе, тады сочыцца па аселіцы...

Нечакана ўмяшаўся ў гаворку Лёнька.

— Што вы ўсё ўспамінаеце тое, што некалі было? Якую кнігу ні вазьму пачытаць, дык там таксама — усё ўспамінаюць, і ўспамінаюць, і ўздыхаюць,

што даўней лепей было,— загаварыў ён.— Не ведаю, можа, і лепей...

— А і лепей,— сказаў дзядзька Міхалка.— Хляўчук во — глупства, не работа, але мы з табой удвух таўчомся, а раней гукнулі б людзей і за дзень-другі скідалі б.

— Талакой? — перапытаў Лёнька.

— Але, сынку, талакой. І той талакой, якая без грошай абыходзілася, калі толькі дык пачастункам.

— Дык няма цяпер такой талакі, адмерла,— запярэчыў Лёнька. — Раней вунь і калгас звалі арцеллю!

— І блага, думаеш? У арцелі заўсёды згода была, гуртам усё рашалі. І што перш-наперш зрабіць, і што і дзе пасеяць-пасадзіць,— гарачыўся дзядзька Міхалка.

— Па-рознаму, бацька, было,— гнуў сваё Лёнька.— Ты ж сам расказваў. І сам трохі нашу звоніцкую арцель узначальваў.

— Я пра што, Лёня? Пра тое, што гаспадара зямелька страціла. Раней, скажам, рабіў я на конях. Дык жа я ведаў, што калі ўзару лепей, забараную, пасею, сажну чысцей той жа жняяркай, дык і палучу болей,— не здаваўся дзядзька Міхалка.— А цяпер аб чым твой трактарыст думае, га?

— У гэтым і бяда ўся, што ні аб чым ён не думае. Узараў, пасеяў па-людску ці проста папоркаўся на полі, напартачыў — яму ўсё роўна, ён сваё атрымае,— Лёнька як злаваўся на некага.— Жыў не буду, а зраблю ў трактарнай брыгадзе звенні. Дайце час, падбяру чэсных хлопцаў і... І каб па тым налічалі зарплату, што вырасце пасля іхняй работы.

— От гэта, сынку, будзе правільна! — падхапіў дзядзька Міхалка.— А то ж смешна. Трактарысты саўгасныя, а робяць як даўнейшыя, эмтээсаўскія. Як наёмныя работнікі. Як тыя парабкі колішнія.

Лёнька з Васілём засмяяліся. Дзядзька Міхалка быццам пакрыўдзіўся:

— Вы не смейцеся, вы хоць і разумнейшыя, а не ўсё петрыце. От ты, сынку, гаворыш правільна. А ці думаў, чаму той трактарыст ці камбайнер так робіць? Ну, абы-як? Старых жа, даваенных трактарыстаў, не пазаставалася, ужо і тыя, каторыя пасля вайны на трактар селі, на пенсію просяцца, а то ўжо і на печы

сядзяць. А машынамі кіруюць усё больш маладыя. А скажы ты мне, галоўны інжынер, хто іх вучыў тую зямлю любіць? Раней бацька з маткай вучылі, дзед з бабай, усё сяло вучыла дзяцей з самых малых гадоў быць на зямлі гаспадарамі. А цяпер? Не вучаць, а адвучваюць. Мы ж навыперадкі адзін перад адным праганяем дзяцей сваіх з сяла ў горад.

Лёнька сказаў:

— Не ўсе ж такія.

— Не ўсе, вядома, але ж надта многія. Выпіхаюць дзяцей самі, а тады крычаць: рабіць няма каму!

— Ты ж, бацька, таксама выпхнуў,— падкалоў дзядзьку Міхалку.

Той неспадзявана зноў пакрыўдзіўся:

— Не брашы, сынку! Нікога я не выганяў, не выпіхваў з хаты. Наадварот! І Мішку казаў, што і тут шафёрам рабіць можна, і Коля мог бы ў майстэрні слясарнічаць, і Ваня быў бы не лішні — электрыкі не валяюцца. Адзін хіба Саша... Ён жа ў нас, Вася, майстар пагоды. Гэта з яго браты так смяюцца, як збяруцца разам. Робіць ён у тым цэнтры, дзе пагоду ўгадваюць, лабарантам ці тэхнікам, я дык добра і не ведаю.

Лёнька сказаў мякка, лагодна:

— Ты не сярдуй, гэта я так, хоць, як ні круці, дома я ўсё ж адзін застаўся з пяцёх.

— А ў многіх ніводнага ці ніводнай.— Дзядзька Міхалка ўсё яшчэ быццам злаваўся.

Васіль, не жадаючы, каб яны яшчэ, чаго добрага, напраўду пасварыліся, загаварыў пра іншае:

— Паглядзіш тэлевізар, газеты пачытаеш, дык, здаецца, павінна ў нас усё пайсці лепей у сяле. Гэта ж столькі грошай кінута на гэты самы аграпрамысловы комплекс! Я ж чытаў Харчовую праграму, дык — мільярды рублёў! Недзе ж адгукнецца...

Лёнька хмыкнуў:

— Ага, адгукнецца! Калі сядзець і чакаць, дык трасцу адгукнецца! Трэба ўсім брацца. Усім чыста. Ад трактарыста да міністра. Ці наадварот. Я таксама чытаў, і не адзін раз, удоўж і ўпоперак. І колькі ні думаў пасля, да аднаго і таго ж вяртаўся: кожнаму з нас трэба пачынаць з сябе. Колькі ў нас такіх, што думаюць: гэта для некага прымаюць пастановы і рашэнні, гэта нехта павінен іх выконваць і рашаць, а

яны... А яны альбо нічога не будуць рабіць, альбо правяраць, як гэтыя нехта будуць выконваць і рашаць.

Лёнька дастаў з кішэні другую цыгарэтку, смачна, відочна хвалюючыся, зацягнуўся, зноў загаварыў:

— Кажам: людзей не хапае, машын не хапае, угнаенняў не хапае, запчастак не хапае... Праўда, не хапае. Але каб і тое, што ёсць, выкарыстоўвалася як след, зусім іначай усё было б. З чалавека трэба пачынаць. З кожнага канкрэтнага чалавека. Я пра гэта на кожнай нарадзе кажу. Не паказвай пальцам на другога, а працуй сам так, каб на цябе не паказвалі. Есці дык усе мастакі, і выпіць нават, а як рабіць...

Васілю, чэснае слова, пачынаў усё больш падабацца Міхалкаў Лёнька. Калі так разважае, дык, пэўна ж, і робіць так, стараецца рабіць. А калі стараецца, дык мо і даможацца чаго. Якія б людзі ні былі, але як бачаць, што начальства не лянуецца, выкладваецца, дык хоць-няхоцькі, і самі патрошку падцягваюцца. Мо і хлопцу гэтаму пашанцуе. Па ўсім відаць, упарты. Па бацьку пайшоў. Міхалка дармо што языком памянціць любіць, часам мо і прыплесці трошкі, але калі што было не па-ягонаму, дык не ўламаць. Васіль змалку гэта ведае. Цяпер дзядзька Міхалка, па ўсім відаць, ужо не той, састарэў, на восьмы дзесятак пайшло, а як быў малады, дык і ўпарты быў, і гонару яму было не пазычаць. Лёнька яго — па ім, няйначай. Малады во, апрануты, як усе цяперашнія маладыя вераб'і, наросхрыст усё, на нагах чаравікі галапятыя, як у дзевак, а прыгледзішся — не абы-які хлопец, сабе цану ведае. Добра будзе, калі хопіць сілы і ўмельства павярнуць механізатарскі цэх к лепшаму, бо, казаў Максім, пакуль што мала ў іх парадку...

— Ну, а ты, Вася, як, надоўга да нас? — абарваў яго думкі дзядзька Міхалка.— Во, дурная галава, я ж і забыўся, што ты па дзелу зайшоў. Лёнька, ты ўжо скокні пад паветку, прынясі сякерку, тую, лягчэйшую, і нажоўку з жоўтай ручкай, яна добра рэжа.— Сказаўшы гэта сыну, дзядзька Міхалка зноў павярнуўся да Васіля.— Дык і пытаюся: надоўга ты да нас ці толькі ў водпуск? Але ж — падлогу во латаць хочаш...

— Даўно не быў, дык от прыехаў... Сын радзімы

бацькавай не бачыў.— Васілю чамусьці не надта хацелася шчыраваць.

Дзядзька Міхалка таксама сумеўся:

— Па мне, дык яно, Вася, усё адно... Прыехаў дык прыехаў. Бацькаў куток забываць нельга, няможна. А я к таму гэта папытаў... Бабы з крамы ішлі, дык казалі: Васіль Міхалінін панакупляў усякага гаспадарчага начыння і прычындалаў, як усё роўна нанова ўсім абзаводзіцца, дык ці не назусім ён прыехаў, і жонку з сынам прывёз, бо каб жа ў адведкі, дык і ў Максіма ці ў Волькі перабыў бы, а то панакупляў...

Падышоў Лёнька, падаў Васілю сякеру і нажоўку. Васіль падняўся, але от так адразу пайсці не мог, было такое адчуванне, што дзядзька Міхалка хоча ўсё ж пачуць на тыя пытанні адказ ад яго самога.

— Панакупляў, дзядзька Міхалка, кабеты праўду казалі.

— То, можа, надумаўся, Вася, сюды? Абрыдзела па свеце бадзяцца?

— Не думаў пра гэта, дзядзька. Я ж і не бадзяўся, калі на тое. Як адслужыў армію, дык на адным месцы і асеў. Больш чым дваццаць гадоў на адной і той жа аўтабазе раблю,— адказаў Васіль.

— Але ж матка-нябожчыца казала — далёка надта,— не адпускаў Васіля Міхалка.— Помню, казала: дзе ты хочаш, каб часта прыязджаў Васіль наш, калі адной дарогі ў адзін канец тыдзень, не меней.

— Як поездам, дык і будзе тыдзень,— пасміхнуўся Васіль. І нечакана прызнаўся: — А па дому, дзядзька Міхалка, па Звонічах нашых, дык, праўда, засумаваў. Нешта сніцца ўсё пачалі...

Дзядзька Міхалка жвава падняўся з бярвенца і гэтак жа жвава загаварыў:

— А што ж ты хочаш! Радзіўся тут, рос... І матку тут пахаваў. Ды і гады ўжо не тыя, калі... Во, гляджу, ссівеў увесь, не маладзён ужо. А такім векам чалавека цягне на сваё котлішча...

— От і прыехаў,— трохі бянтэжачыся, пераступаў з нагі на нагу Васіль,— пажыць у матчынай хаце.

Дзядзька Міхалка як падміргнуў раптам яму, узяў за руку:

— І правільна, Вася, зрабіў. Але б ты і не на водпуск... А пакуль во ёсць куды, вяртаўся б зусім. Шчы-

ра табе кажу. Га, Вася? Здаецца мне, што муляецца ў табе нешта, спакою не дае.

Васіль яшчэ больш сумеўся, сказаў:

— Не так гэта і проста. Не адзін жа я — жонка, дзеці. Валя там нарадзілася і вырасла, дачка — тое ж самае, вучыцца ёй яшчэ трэба, не сарвеш.

Дзядзька Міхалка выпусціў яго руку са сваёй, але не змаўчаў:

— Яно вядома, толькі ж... Дома лепей чалавеку, чым дзе. Ці ж табе работы не знойдзецца? Во, Лёнька мой цябе з радасцю возьме. Праўду кажу, сынку?

Лёнька, угнуўшы галаву і пыхкаючы цыгарэтай, прамармытаў:

— Дзве без шафёраў стаяць — бартавая і лятучка. Прыблудаў бяром, а свайго чалавека...

— Ага, чуў? — падхапіў дзядзька Міхалка.— І жонцы работа знойдзецца. Яна ў цябе хто?

— Медсястрой у бальніцы,— адказаў Васіль.

— Ну дык во! У нас жа пункт то зачыняюць, то адчыняюць, бо фельчаркі-акушэркі то няма, то ёсць яна,— зноў тузануў Васіля за рукаў дзядзька Міхалка.— Падумай, Вася, ды рашайся. От не ведаю чаму, а я тваю матку паважаў, і Максіма паважаю, хачу, каб і ты прыблукаў сюды. І ёсць жа куды — хата стаіць, пустуе.

Васіль паморшчыўся:

— Ай, якая там хата! Вецер дзьмухне, дык і паваліцца. Асела, асунулася, вугал адзін заваліўся зусім, ці не зацякае...

Міхалка перабіў яго:

— Не кажы! Пастаіць яшчэ ваша хата — будзь здароў! Я ж помню, як і лес бацька вазіў, і як ставіў яе. Гэта ж незадоўга перад вайной. Падруб даць, шыферам ці во, бляхай, як я, накрыць, дык зносу яшчэ не будзе. Пасля можна будзе і вокны памяняць, на большыя, як сёння ставяць.

Ліха яго ведае чаму, але прыемна было Васілю гаварыць пра ўсё гэта і не надта спяшаўся ён пайсці з падворка Міхалкавага, хоць ужо і звечарэла, і недзе Валя з Цельпуком думаюць ужо, дзе ён прапаў. Каб ведала Валя, пра што ён тут гамоніць, пасмяялася б, пэўна. А можа, і не? Кажа ж во, што падабаецца ёй тут. І Максім з Волькай, і людзі прыветныя, і прырода — аселіца з купамі лазняку і высокімі, калісьці

ацярэбленымі альшынамі, і блізкі лес, і пярэстыя пагоркі вакол...

— Гэта лёгка сказаць,— паўтарыў Васіль, быццам і праўда наважыўся даваць той хаце подруб, пера-крываць шыферам і мяняць старыя вокны на новыя.— А як да дзела, дык — дзе таго лесу ўзяць, шыферу ці яшчэ чаго?

— А не, Вася, не ведаю, як у вас там, а ў нас жа цяпер няма ніякіх праблем ні з лесам, ні з шыферам, ні з цэглай. Ідзі ў сельсавет, выпісвай лес, гатовы нават, звалены і выцягнуты, калі на тое пайшло. А шыферу таго, цэглы, цэменту — едзь у Плешніцу і купляй, колькі хочаш, ці ў Міжгорску.

Васіль амаль шчыра здзівіўся:

— Няўжо праўда?

На гэта адказаў Лёнька:

— Праўда. Цяпер гэта проста. І з лесам, і з шыферам.

А дзядзька Міхалка засмяяўся:

— Я ж, помню, да вайны Грыпіны Фэлькавай матка прыйшла ў сельсавет лесу прасіць. Хатка ў яе была — у іншага чалавека хляўчук-свінушнік лепшы. А ў сельсавеце ў нас старшынёй яўрэй быў, Гольдзін такі. Прыйшла яна, матка Грыпініна, і кажа: выпішы мне, старшынька, лесу, трэба ж неяк хацёну перасыпаць. А колькі ж табе, баба, лесу трэба, пытаецца Гольдзін. А бо, колькі! Два бярвенцы подрубу, два — подрубу, два пад вокны, два на вокны, два пад бэлькі і два на бэлькі, от і ўсё, старшынька. Памаўчаў Гольдзін, а пасля зарагатаў. І хто гэта, кажа, баба, так навучыў цябе прасіць? Гэта ж, не лыпнуўшы вокам, на ўсю хату просіш!..

Пасмяяліся разам, утрох. Усё яшчэ смеючыся, Міхалка сказаў:

— От і ты ідзі да нашага Шарэйкі і гэтаксама папрасі!

— Што ж застаецца рабіць? Пайду і папрашу! — жартам на жарт адказаў Васіль.

Развітаўся ён пасля гэтага з Міхалкам і Лёнькам, пайшоў дадому, несучы ў руках сякеру і нажоўку. Заўтра, думаў, падрамантуе разам з сынам падлогу ў першай палавіне хаты, хоць збольшага, ад дзвярэй да дзвярэй, каб прыступней было. Але думаў не толькі пра падлогу. Мо нават не столькі пра падлогу, як

пра іншае. Як бы там ні было, як ні далёкі быў Васіль, едучы сюды, у Звонічы, ад усяго таго, пра што неспадзеўкі зайшла гаворка ў двары дзядзькі Міхалкі, а вось жа аказалася, што ўсё тое яму, Васілю, быццам і блізка, і балюча.

Думаў, думаў ён і раней пра Звонічы, сны сніў і ў снах тых бачыў гэтыя звоніцкія пагоркі, лужкі-балотцы, узлескі-пералескі ды сцежкі-дарожкі. Мо і не проста думаў, прыгадваў іх пасля сноў тых,— мо і сумаваў, мо і хацелася яму пабачыць іх, пахадзіць па тых пагорках, лужках-балотцах, па сцежках-дарожках свайго маленства-юнацтва. Аднак жа толькі пасля тае неспадзяванае гаворкі з дзядзькам Міхалкам і ягоным Лёнькам, які, дай веры, ужо галоўны інжынер, пачало смактаць Васіля іншае, куды больш турботлівае і пякуча-пакутлівае, чым ягоны ранейшы сум, шчымліва-салодкі покліч душы пабываць у бацькоўскім куце. Цяпер жа асела ў галаве і ўсё больш адчувальна паколвала — таксама пакуль што не балюча, а салодка-шчымліва — думка пра тое, што мо і праўда рашыцца, адважыцца зрабіць гэты круты паварот у сваім жыццёвым лёсе — вярнуцца сюды назусім?

Менавіта гэта і не дае яму заснуць каторую ноч. Менавіта пра гэта варушацца-свіргочуць у галаве неадступныя думкі і не даюць сплюшчыцца цяжкім, набрынялым павекам, забіраюць у яго сон...

Недзе далёка нясмела, хрыпата кукарэкнуў певень. Потым другі. Трэці азваўся ўжо смялей і званчэй.

Ляжыць Васіль на цвердаватым і трошкі вільготным паралоне і качае-перакочвае, нібы Цяльпук блішчасты металічны шарык па полі настольнага футбола, думкі-згадкі па звівах-баразёнках свайго шэрага рэчыва. Пэўна ж, шэрага, дурнаватага, бо каб было яно не такое шэрае і не такое дурнаватае, дык мо даўно парашыў бы для сябе, што рабіць, як быць, даўно б паставіў кропку ці на тым, ці на гэтым. А то ж ляжыць, і пакутуе, і вагаецца — быццам і праўда гайдаецца на арэлях сваёй бяссоннай памяці.

І дагайдаўся: за акном вунь ужо зусім развіднела. Ночы як не было, а ён так і не змружыў вачэй. Аднак жа і хутка світае ўлетку. Відочна ўцякаюць шэрыя цені з хаты, нават з самага далёкага кута, што за грубкай, там, дзе ляжанка-палаці.

Штосьці рыпнула дзесьці, потым глухавата дзынкнула. Пэўна, цётка Манька ці цётка Зося паднялася і пайшла даіць карову. Зірнуў на гадзіннік — палова пятай. Хутка і ў поле пачнуць займаць.

І сапраўды, неўзабаве гулка, нават прарэзліва зарыкала ў ранішняй цішыні карова: пэўна, рупная гаспадыня, падаіўшы, выпхнула раней часу на вуліцу, і жывёліна, не ўгледзеўшы ні ў тым, ні ў другім канцы сваіх пярэстых рагатых сяброўак, зарыкала роспачна і прызыўна...

## 8

Ён усё ж задрамаў на світанні, хоць і ненадоўга. Ноч у яго атрымалася, няйначай, касмічная — доўжылася хвілін трыццаць — трыццаць пяць, як на арбіце, пасля якой наступае такі ж кароткі — на хвілін пяцьдзесят — пяцьдзесят пяць — касмічны дзень.

Аднак хоць і драмаў ён сапраўды нядоўга, недзе з паўгадзіны, усё ж паспеў сасніць сон. Дзіўны гэта быў сон. Мо і не сон зусім, а згадка, даўні ўспамін.

Ён адыходзіць у армію. Хлопцы і дзяўчаты, бітком набіўшыся ў кузаў калгаснага — тады яшчэ калгаснага — «газона», гарлапаняць песні, а машына хутка імчыцца па дарозе, і ў твары б'е тугі, пругкі вецер, перахоплівае дыханне, быццам хоча заглушыць, не пусціць з грудзей песню. Ён, Васіль, тут жа, у кузаве, разам з усімі. Яны не сядзяць, а стаяць, абняўшыся, самыя першыя абапершыся на кабіну, і насуперак ветру пяюць песню. Якую — Васіль не ведае, не чуе. Бачыць, што ўсе разяўляюць раты, спяваюць з усіх сіл, намагаючыся адужаць вецер, свіст у вушах, а песні не чуваць, і ён, Васіль, у сне намагаецца пачуць яе, каб разам з усімі падхапіць прыпеў.

Машына злятае з крутога пагорка па вузкай высокай насыпанцы ў Міжгорск — мякка, быццам па асфальце, пракочваецца па разбітым бруку міжгорскай вуліцы і, як укопаная, спыняецца перад зачыненымі, шчыльнымі і высокімі, варотамі ваенкамата. Хлопцы і дзяўчаты выкульваюцца праз барты долу, смяюцца, гучна перамаўляюцца, Яська з Міхалкавіч рэжа на гармоніку польку. Васіль здзіўляецца: чаму ж колькі хвілін назад ён, быццам глухі, нічога не чуў, а цяпер яго аж глушыць і гэтае Яськава гранне,

і віскат дзяўчат, і трошкі роблены, бы п'янаваты, рогат хлопцаў? І чаго, каб хто спытаў, яны так рагочуць? Здаецца ж, тады, ля тых шчыльных ваенкамацкіх варот, яны так не рагаталі. Танцаваць дык танцавалі, і Яська, падкурчыўшы пакалечаную нагу, рэзаў польку, рыпаў вальса і кракавяка, але ці было так шмат рогату і ці было наогул там так шмат хлопцаў і дзяўчат? Гэта ж ці не ўся вуліца запруджана! Васіль прабіраецца праз гэты вірлівы і гаманлівы натоўп да кабіны, адчыняе дзверцы і жахаецца: а дзе ж маці? Яна ж сядала ў кабіну да шафёра, Пецькі Яскевіча, ён жа добра памятае, што сядала. Дзе ж яна? Ён кідаецца ў адзін бок, у другі, усюды натыкаецца на людзей, і людзі ўсе ўжо быццам зусім чужыя, не звоніцкія хлопцы і дзяўчаты, якія сядзелі ў яго ў хаце за сталамі і пасля біткам запоўнілі кузаў, а нейкія незнаёмыя, сталыя. Потым ён апыньваецца перад веснічкамі, зробленымі ў тых вялікіх і шчыльных варотах, веснічкі расчыняюцца, там паяўляецца вайсковец, у яго на пагонах блішчаць тры маленькія зорачкі, і той старшы лейтэнант называе яго, Васілёва, прозвішча, нават не называе, а выкрыквае. Васіль ідзе да тых расчыненых веснічак, ужо хоча пераступіць цераз дошку — веснічкі ж выразаны ў варотах, і ўнізе — дошка, як ззаду яго за плечы нечакана ашчарэпвае маці, паварочвае да сябе тварам, бярэ ў свае шурпатыя, цёплыя далоні яго галаву, цалуе ў шчокі, у вочы, у лоб, у валасы, ён адчувае цёплую макрэчу яе слёз і чуе яе шэпт: «Сынок, Васечка, баюся я за цябе, надта ж доўга буду я чакаць цябе... Ці ж дачакаюся, Васечка? Чаму ж ты так надоўга выбіраешся? Чаму, сынок?..» Васілю ад гэтых яе слоў смешна. Ён адымае ад свайго твару яе рукі, сам цалуе маці ў адну шчаку, пасля ў другую, кажа: «Ну што ты, мама? Чаму надоўга? Як усе, на тры гады. Не агледзішся, як буду дома!» Маці зноў моцна ашчарэпвае яго і ўжо не шэпча, а крычыць: «Не, сынок! Не! Чуе маё сэрца — надоўга ты едзеш! Ой надоўга!..» Васіль ужо, здаецца, злуе, рашуча вызваляецца з яе абдымкаў і пераступае тую дошку. Апынуўшыся за варотамі, у двары ваенкамата, ён праз расчыненыя веснічкі бачыць маці. Яна прыціскае рукі да грудзей, нешта крычыць яму, але ён зноў чамусьці не чуе нічога. Не чуе і сябе, хоць, ве-

дае, штосьці таксама крычыць маці і махае ёй рукой. А пасля веснічкі зачыніліся, і ўсё знікла...

Прачнуўся Васіль і доўга не мог дайсці да памяці. Сон гэта быў ці недарэчнае трызненне? Усё было так, як у сапраўднасці. Амаль так. Не было толькі тых дзіўных мацерыных слоў на развітанне. А можа — былі? Можа, ён, Васіль, забыўся? Можа, ён не пачуў іх тады, у тлуме і гармідары, што панавалі тым адвячоркам ля ваенкаматцкіх варот? Але ж каб не пачуў, дык адкуль бы яны ўзяліся ў сне? Значыцца, маці іх гаварыла? Крычала, шаптала яму тыя словы тады, перад расчыненымі насцеж веснічкамі, ля якіх нецярпліва стаяў, вачамі падганяючы іхняе развітанне, той старшы лейтэнант? Былі ці не былі яны, тыя мацерыны словы? Калі былі, дык што гэта — прадчуванне? Але ж калі і праўда былі, дык чаму ніколі раней не прыходзілі да яго — ні ў снах, ні наяве? Чаму? Чакалі свайго часу? Чакалі, пакуль ён не апынецца тут, у матчынай хаце? А можа, іх усё ж не было, тых слоў? Можа, пачуў ён іх у сне таму, што хацеў пачуць? І такое ж, кажуць, бывае. Ну, што чалавек сніць не толькі тое, што калісьці чуў, бачыў, перажыў, а і тое, што яму хацелася б пачуць, пабачыць, зведаць...

Памалу адыходзіў Васіль ад ачмурэння, якое прынёс з сабой нечакана дзіўны сон. Не адразу ўразумеў, што ўзышло сонца, аж пакуль не спаймаў на шафе, на самым верхнім ражку, малюсенькі і трапяткі залаты зайчык, што неяк прабіўся праз густую лістоту за акном. Уразумеў, што прачнуўся, што ўзышло сонца, але ўсё адно нейкі час ляжаў не то ў дрымоце, у тым сне, не то на гэтым ужо свеце. Канчаткова прачнуўся ад мух — іх было дзве ці тры на ўсю хату, але лезлі сляпіцаю. Мухі, няйначай, яго і разбудзілі.

Падымацца, аднак, не спяшаўся. Зноў і зноў вяртаўся да сну. Але ўжо думаў не так пра тыя мацерыны словы, што вярнуліся да яго праз столькі гадоў, як пра самую маці. Яна і цяпер, наяве, стаяла ў вачах — як жывая, памятаў пасля сну яе твар да кожнай драбнюткай рыскі, косы з заплеценымі ў канцы пярэстымі, чырвона-сіненькімі каснікамі, кофту ў дробную, як на рэшаце, клетачку — сама кофтачка была белая, а палоскі, што гусценька перасякаліся па

белым, былі блакітныя, трошкі выгаралыя ці то ад сонца, ці то ад таго, што кофта тая не адзін раз мылася ў лузе і перылася пранікам на кладцы; бачыў мацерыны рукі, мо не так бачыў, як адчуваў іх шурпатасць і мяккую цеплыню на сваіх вушах і шчоках; і слёзы яе, тыя гарачыя слёзы, што вымачылі яго твар перад расчыненымі насцеж веснічкамі, быццам яшчэ і цяпер высыхалі на ягоным твары...

Васіль ляжаў, адмахваўся ад мух і з нейкім незразумелым, утрапёным здзіўленнем думаў, што даўно ўжо, наяве і ў снах, не бачыў маці так блізка і так выразна. У сны, якія частавата прыходзілі да яго апошнім часам, маці сяды-тады прыходзіла, але прыходзіла не так, як сёння. Пасля тых сноў яснай, празрыстай карціны не заставалася ў памяці — было нешта агульнае, невыразнае, як у тумане, усё бачылася неяк так, як бачыцца светлай нямесячнай ноччу — абрысы, трошкі размытыя, нагадваюць штосьці знаёмае, але дэталей, асобных рыс і штрыхоў не відаць. І наяве, калі прыгадваў маці, дык таксама апошнім часам воблік яе нібы ўжо трошкі змазваўся, расплываўся, і Васіль нават палохаўся гэтага: тры-чатыры гады мінавала, як не стала маці, а ён, бач, пачаў быццам забываць яе твар.

А сёння во нечакана ўбачыў. Ды так, быццам вярнулася ўсё на шмат гадоў назад, калі і ён, і маці былі маладыя, быццам не было ні яго службы ў арміі, ні жаніцьбы, ні Валі з Ядвіськай і Валерыкам, быццам ён наогул не жыў гэтыя амаль ужо трыццаць гадоў, быццам і маці не старэла і не памірала.

А галоўнае — словы яе. Прачнуўся во, ужо ці цеперся прачнуўся, а словы: «Чуе маё сэрца — надоўга ты едзеш!» так і стаяць у вушах. Што гэта — знак які? Покліч ці мо загад, каб ён усё-такі вяртаўся сюды, у родны кут, на матчына котлішча?

Матлянуў галавой Васіль: можа, ужо лішне ён тармосіць сябе, калупаецца ў сабе, шукае нейкага прарочага ці патаемнага сэнсу там, дзе яго няма? А можа, прыснілася ўсё таму, што перад тым, як знячэўку на світанні задрамаць, думаў пра тую гаворку з дзядзькам Міхалкам і ягоным Лёнькам, пра сябе і сваё жыццё? Ды пэўна ж, таму!

Пакуль ляжаў і думаў от так, адмахваючыся ад мух, сонца вышэй хаты, пэўна, падскочыла і высвеч-

вала зыркія, хоць і пярэстыя ад лістоты квадраты ўжо не на сцяне і не на старой, яшчэ даваеннай шафе, задняя сценка якой, мусіць, і дасюль зберагае Максімавы і яго, Васілёвы, крэмзы,— квадраты тыя жаўцелі ўжо на падлозе. Ён, павярнуўшы галаву набок, назіраў, быццам малы, як над падлогай, куды падалі праз вокны ўжо зусім крутыя сонечныя праменні, мігцелі-іскрыліся зіхатлівыя пылінкі.

Прачнулася жонка, паднялася, села на ложку, спусціўшы долу белыя, гладкія маладыя ногі. Васіль куточкамі вачэй убачыў іх і чамусьці згадаў Вольчыны, сестрыны ногі — з сінімі вяроўчынамі вузлаватых вен, азызлыя, бы налітыя вадою, спрэс пабітыя старымі падсохлымі і свежымі сіняватымі болькамі-язвамі.

Валя пазяхнула, пацягнулася, азвалася ціха да Васіля:

— Зноў не спаў? А куды гэта ты пільна ўглядзеўся?

— А от гляджу на сонечныя праменні і думаю, чым мы дыхаем — паветрам ці пылам? — адказаў ён, усё яшчэ ўзіраючыся ў мітуслівы танец безлічы пылінак.

— Учора ж перацірала падлогу, адкуль таму пылу ўзяцца?

— Ты як злуешся,— сказаў Васіль, таксама сядаючы на канапе.— Як усё роўна я цябе папракаю... Самае чыстае горнае паветра, каб ты ведала, і тое не без пылу.

— Дык а чаго ты? — голас у Валі і праўда быў як нездаволены.

— Анічога,— нечакана ўсміхнуўся Васіль, падняўся, ступіў колькі крокаў да жонкі, абхапіў яе адной рукой за плечы, другой — пад калені і лёгенька кульнуў на ложак.

Яна не адштурхнула яго, але і не расслабілася, рукі яе спружыніста ўперліся ў яго грудзі.

— Не дзяцінься,— шапнула Васілю ці не ў вуха.— Валерык ужо даўно варушыцца, а табе дурное ў галаве...

Васіль не выняў рукі з-пад жончыных плячэй, наадварот, яшчэ шчыльней прыціснуў Валю да сябе, тыцнуўся губамі ў яе вуха:

— Спіць наш Цяльпук Цельпуковіч!..

Але яе кулакі не памякчэлі, костачкі пальцаў ужо зусім балюча ўпіліся ў Васілёвы грудзі:

— Каму кажу — не дзяцінься! Не маладзён...

Васіль адступіўся. Аднак жа нешта цёплае, лагодна-пяшчотнае засталося ў душы, і ён з гэтай ціхай радасцю нацягнуў на сябе спартыўны касцюм і выйшаў у двор.

Дзень сённяшні пачаўся хораша і абяцаўся быць гэтакім жа сонечным, цёплым, ціхім, як і ўчарашні, і пазаўчарашні — Максім казаў, што такога лета даўно не было: цэлы ліпень і во палова жніўня ўжо, а не ўпала ні кроплі дажджу, усё спякота і сухмень. І сённяшні ранак таксама нічым не гаворыць пра тое, што днём ці надвячоркам можна будзе чакаць нечага іншага.

Васіль пайшоў на гумно. За варывенькай прыпыніўся ля зарасніку разынак. Змалку зваў гэтыя ягады разынкамі, як усе звонінцы, і змалку любіў імі ласавацца. Іх штогод на тонкіх і гонкіх прутах-галінах было процьма, паспявалі яны рана, і калі рабіліся чорнымі, былі салодкія-салодкія, нават прытарныя. Кусты іх раслі настырна, як лаза: досыць было пасадзіць дзе-небудзь адно каліва, як праз год-другі каліва тое пускала дзесяткі атожылак. Маці, памятае Васіль, хоць і не зводзіла іх зусім, аднак жа кожную вясну прарэджвала, высякала маладыя парасткі, бо іначай яны маглі б заглушыць увесь гарод. Разынкамі назваў іх нехта, пэўна, па той прычыне, што нечым, асабліва калі сонца выспельвала іх і нават падсушвала, яны нагадвалі сапраўдныя разынкі. Для Васіля яны ўсё жыццё былі разынкамі. І толькі зусім нядаўна даведаўся з тэлевізійнай перадачы «Ану, дзяўчаты!», што кусты гэтыя ніякія не разынкі, што маюць яны зусім іншую назву — ірга. Цяпер, у жніўні, на кустах ужо амаль не было ягад — што абабралі птушкі, а што сам ён, Васіль, разам з Валерыкам, адразу па прыездзе, але ён усё ж угледзеў на самым версе некалькі ягадзін, нагнуў росную яшчэ галіну, сарваў іх і ўкінуў у рот.

Жуючы іх, пайшоў да маленькай, скіданай яшчэ некалі ім разам з Максімам з вялікага даваеннага гумна пунькі. За ёй маці пасадзіла калісьці сад — восем ці дзесяць яблынь, у два шарочкі. Аднак раслі яны тут блага. Памятае Васіль, што маці скардзілася

на гэта, як ён прыязджаў дадому разам з жонкай — першы раз. Казала, што, пэўна, нізкая мясціна там для саду, вада надоўгу застойваецца. Як бы там ні было, а сад выміраў пакрысе, цяпер тут тырчала адна папяроўка — праўда, зялёная і шчодра ўсыпаная драбнаватымі, але ўжо, жнівеньскім часам, досыць смачнымі, салодкімі яблычкамі, і напалову ссохлая, з чорным, ад долу парослым мохам ствалом цыганка.

Бліжэй да хаты, у гародзе, і цяпер расло яшчэ нямала кустоў парэчак, агрэсту, некалькі сліў і вішаннік па ўзмежках. Але і гэта ўсё пакрысе чэзла, дзічэла, зарастала бадыллём, дзядоўнікам, маркоўнікам і крапівой. Максім і Вольга не рупіліся тут ні аб чым пасля смерці маці, адно скошвалі загуменне: і маці калісьці сеяла там канюшыну, і Максім, казаў, падрапакаваў быў, падсыпаў амiячкі і падсеяў той самай канюшыны. А на добры лад трэба было б падняць і наставіць паваленьі штыкетнік, абрэзаць кусты ягад, высечы ссохлы вішаннік і прапаўшыя па невядомай прычыне слiўкі — хай бы было сёе-тое пры хаце. Ды лёгка пра гэта казаць яму, Васілю, а Максіму ці Вольцы ўсё тое — навошта?

Маладой, крамянай і надта ж роснай атавай Васіль мінуў загуменне, выйшаў на сцежку, пратаптаную да аселіцы цёткай Манькай, паволі дадыбаў да кладкі цераз рачулку. Вада ў ёй сачылася ледзь-ледзь, і з кожным днём усё слабей. Гэта было асабліва відаць па вірку-вымоіне пад кладкай. Васіль часта, амаль штодня, бываў тут — часта раніцою прыходзіў сюды спаласнуцца, а ўвечары амаль заўсёды ўсе разам мылі тут ногі. І з кожным разам трэба было нагінацца ніжэй, каб зачэрпнуць у далоні вады з кладкі — вірок высыхаў.

Цяпер вада пад кладкай яшчэ больш паніжэла. Але Васіль усё ж сцягнуў цераз галаву футболку, шырэй расставіў ногі, каб было льга сагнуцца і зачэрпнуць вады, і з асалодаю папялёхаўся — пасля начы вада была чыстая. Пасля выпрастаўся і, стоячы на кладцы, падстаўляў сонцу спіну і грудзі — хай сушыць.

Добра было яму стаяць так. Зыбалася, трошачкі прагіналася пад ім кладка, дыхалася лёгка і глыбока, ціхуткі ранішні ветрык прыемна абвяваў-абсушваў увачавідкі мокрыя грудзі, спіну, твар, рукі — бы вы-

ціраўся Васіль дастаным маці з шафы халаднаватым, але мяккім, добра выкачаным ільняным ручніком.

Дастаным маці з шафы... Што гэта сёння з ім? Зноў пра тое ж самае? Калі, калі тое было? Калі ён выціраўся тым ручніком? Што, гэтая нечаканая згадка — зноў знак таго, што недарэмна ён прыехаў сюды, што яму трэба добранька над чымсьці падумаць?

Над чым яму трэба падумаць, ён ужо ведае. Ведае ўжо даўнавата, а не толькі гэтыя няпоўныя тры тыдні, што прабыў з сям'ёй у Звонічах. Вяртацца ці не вяртацца ў Звонічы — вось яно, гэтае пытанне. Але каб адказаць на яго, яму, Васілю, трэба вырашыць для сябе нешта яшчэ. Што? Здаецца, сёння ноччу ён намацаў гэтае нешта. Яму трэба знайсці адказ на пытанне: што яго кліча, вабіць, цягне сюды? Што?

Найперш, вядома, пачуццё. Пачуццё любві, замілавання да ўсяго вось гэтага, што ён бачыць нават адсюль, з гэтай зыбкай кладкі над рачулкай свайго маленства, што адкрываецца ягоным вачам з роднай аселіцы. Цягне яго сюды ён, маленства кут, які навек уваходзіць у чалавечае сэрца і навек забірае яго ў палон. Васіль гэта ведае. Дзе б ні быў пасля, састарэў во, можна сказаць, а кожны новы куток міжволі параўноўваў з гэтым, родным і блізкім з дзяцінства, і параўнанне гэтае было заўсёды на карысць яго, а не таго, чужога...

Але ж... Але ж, мусіць, кожны чалавек любіць свой родны кут, любіць і памятае, і, можа, яго таксама цягне туды, у маленства, ды толькі ж не кожны вяртаецца туды, правільней будзе сказаць — рэдка хто вяртаецца, амаль ніхто не вяртаецца. Каб вярнуцца, значыцца, трэба, каб яшчэ нешта завалодала душой, акрамя любві і замілавання. Ці не трэба для гэтага, каб нечакана занyла душа ад пачуцця віны перад родным кутам? Каб пасяліўся ў ёй пякучы боль за яго?

Уздыхнуў Васіль глыбока, на ўсе грудзі — як з палёгкаю. Гэта ж, мусіць, так яно і ёсць. Віна і боль. Спачатку — віна, а пасля — і боль. Віна — што паехаў, з'ехаў, уцёк ад таго, што любіў, што ведаў, у што верыў; ад таго, што ў сваю чаргу прызнавала і яго сваім, патрэбным, родным; з'ехаў адтуль, дзе, нягледзячы на ўсё, яму было найлепей, найлягчэй, най-

шчаслівей. А пачуццё вінаватасці заўсёды спараджае адчуванне болю. Ён пасяляецца ў душы тады, калі ты аднойчы падумаеш: гэта ж і твая віна ёсць у тым, што там, у бацькоўскім куце, у родным краі, на планеце твайго дзяцінства не ўсё добра; гэта ж каб ты быў там, то, можа, зусім іначай усё было б там — і зямля, і дрэвы, і хаты, і людзі, і лад, і парадак на гэтай зямлі, сярод дрэў, хат і людзей. Не, не, ты не ўсямоцны, не чарадзей, але ты быў бы там, і, хто ведае, што мог бы зрабіць, здзейсніць, ажыццявіць, проста паправіць...

Вось так. Мог бы! Абавязкова мог бы! Але ты збег, уцёк, выракся, здрадзіў. І колькі пасля трэба часу, ды і не толькі часу, каб зразумець, усвядоміць сваю віну, каб паклікаў цябе, вярнуў назад боль...

Сарваў Васіль з лазовага куста, што атуляў вірок-вымоіну, футболку, перакінуў яе цераз плячо, паклыпаў назад, туды, дзе чырванеў — відаць было здалёк — бляшаны, пабіты ржою дах пунькі...

А жыццё ёсць жыццё. Яно і абвастрае боль, і прытупляе. Вось што рабіць канкрэтна яму, Васілю? Дваццаць сем гадоў гэтак проста не адкінеш. Ён жа там не лынды біў — працаваў. Сумленна працаваў. Ніхто не папракаў і не папракне. Не бегаў нікуды, не шукаў лепшага месца ці доўгага рубля. Як уладкаваўся на аўтабазу, так і круціў баранку год за годам. З людзьмі зжыўся, з многімі пасябраваў, душою зрадніўся. І ўсё гэта — псу пад хвост? Ну, ды, дапусцім, рашыцца ён, разлічыцца там, прадасць цешчыну хату і перабярэцца сюды. Работа, вядома, знойдзецца, тут сумневу няма. А як на той рабоце будзе? Як з людзьмі сыдзецца? Колькі ягоных равеснікаў, колішніх знаёмых па дзіцячых і юначых гадах, засталося тут? Адзінкі. А ўсе астатнія? Хто — малады, а хто прышлы, як Лёнька казаў. Як яны паглядзяць на яго, Васіля? Ці зразумеюць? Ці не пачнуць кпіць і пасміхвацца? А ён жа сябе ведае. З непарадкамі, з расхлябанасцю, і нядбайствам мірыцца не будзе. Значыць, без таго, каб не счапіцца з кім, не абыдзецца. А нервы ў яго даўно ўжо не тыя, як калісьці, калі малады быў...

Датупаў Васіль да гумна, сагнуўшыся, падлез пад голле папяроўкі, знайшоў у траве некалькі ападкаў. Дармо, што чарвівыя, чарвяк таксама не дурань,

смачнейшае, саладзейшае грызе, вось і ён, Васіль, пагрызе. Наклаў з дзесятак паданак у футболку, пайшоў да пунькі, расчыніў насцеж дзверы, прысеў на парожку, шмаргануў яблыкам па штаніне, пачаў хрумстаць...

Пунька за плячамі была пустая, хоць шаром пакаці. Меркаваў, як прыехаў, нацягаць сюды з хлеўчука жэрдак — там яны ляжалі на бэльках густа, намасціць стажар'е, укасіць якую капу-другую травы, высушыць ды хоць адну ноч паспаць з сынам, як калісьці ён спаў у дзяцінстве, на сене. Але так і не браўся. Яно, можа б, і сабраўся, і зрабіў бы, ды як убачыў, што дах на пуньцы бляшаны, прапала ахвота. Пад бляхай спаць, хоць і на сене,— лепш ужо ў хаце. Калісьці гумно іхняе было крыта саломай, дык там — і днём на сене паляжаць прыемна, бо прахалодненька, а ноччу, наадварот, цёпла — нават позняй жнівеньскай, расянай, ужо зыркай парою, і паветра, пах пад саламянай страхой зусім не той, што пад бляшанай. Бляха як пастаіць дзень на спякоце, дык пад ёй — як у печы, сена пад ёй не сенам пахне, а той жа нагрэтай іржавай бляхай...

Ну, а жонка як паглядзіць на ягоны выбрык? Выбрыкам палічыць, няйначай! Каб у горад перабірацца, дык другое дзела. Тут бы яна абедзвюма рукамі. А ў вёску — ці рашыцца ж? Так-то яна дык нібы памяркоўна глядзіць на яго беларускасць, не пярэчыць, калі ён Цельпуку вершы, песенькі беларускія чытае і спявае, сама сябе нават трошкі беларускай лічыць. І во сюды ў адпачынак з ахвотай ехала і не шкадуе, што прыехала, падабаецца ёй тут. Ну, але ж гэта — на тыдзень-другі. А калі сказаць — назусім? Яе ж радзіма — там, магілы бабуліна і матчына там, сястра там. Мо і згодзіцца, паедзе за ім, а пасля раптам шкадаваць пачне, сумаваць? А яшчэ ж калі і сэрца забаліць па сваім куце, як у яго во — па сваім?

А з дачкой як быць? Дарослая-то дарослая, але ж яшчэ не адрэзаная, як кажуць, луста. Адно добра, што вучыцца дзеўка на пяцёркі. Калі што, дык можна ж, напэўна, і перавесціся ў Мінск той жа. Але ж ужо і хлопец нейкі завёўся, таксама можа быць прычынай, каб заўпарціцца.

З адным Валерыкам няма клопату. Тры класы — гэта яшчэ не вучоба, пераломіцца. Беларуская мова —

гэта не французская якая ці кітайская, што ні бэ ні мэ хлопцу. А тут во пабегае па Звонічах тры месяцы, дык і насабачыцца ўмэнт, ад іншых звоніцкіх хлапчукоў неўзабаве і не адрозніш. Яму, дарэчы, і развітацца з Мучной будзе найлягчэй, яго душа яшчэ не прыкарэла так моцна да ўсяго. Э, ды што гаварыць, дзеці ёсць дзеці. Як дрэва маладое лёгка перасадзіць, так і дзіця. Бывае, што, як і дрэва, на новым месцы яшчэ лепей расце і квітнее...

Задумаўся і не ўгледзеў Васіль, як куснуў чарвівае месца. Праўда, паспеў выплюнуць, але ўсё ж...

Ні з таго ні з сяго падумалася пра тое, як хутка бяжыць час. Саджанцы гэтых яблынь, у тым ліку і папяроўкі, пад якой ён толькі што быў, маці брала ў дзеда, у Васілёвага дзеда, а ў свайго бацькі. Брала, праўда, ужо без яго — дзед памёр тым годам, як ён, Васіль, ішоў у армію. Дзед жыў у Альхоўцы, гэта кіламетраў шэсць ад іхніх Звонічаў, і Васіль не надта часта стыкаўся з ім. Часцей бачыў, як той сам прыходзіў ці прыязджаў да іх у Звонічы. Запомніў дзеда, як ён быў у іх летам пяцьдзесят трэцяга. Яму штосьці нядужылася, але дзед храбрыўся і нават жартаваў: «Эт, не бяды, хаця во і са скрыпам, але йшчэ жыву».

Аднак жа радаваўся дзед дарма, памёр праз два гады, пад восень. Мусіць, той восенню, ужо без яго, Васіля, маці і прынесла з Альхоўкі саджанцы яблынь і пасадзіла. Маці даўно гаспадарыла адна, з Васілём. Максім недзе ў сорак дзевятым ажаніўся і перабраўся ў Янавічы, там і хату паставіў, а ў Звонічы вярнуўся пасля таго, як МТС не стала; Волька перайшла да Мікалая неўзабаве пасля Максімавага вяселля; Васіль той парою яшчэ ў школу бегаў, от маці і вымушана была сама рашаць усё — і ў хаце, і пры хаце. Вось і сад даўмелася пасадзіць сама.

А от ужо і маці няма, і ад саду засталося, можна сказаць, адно дрэва. Бяжыць час, бяжыць, ой, як бяжыць!

Ды што там далёка азірацца! Во, толькі ж, здаецца, прыехалі, а ўжо трэба і назад збірацца. Чакай, чакай, дык жа — ці трэба? А мо і праўда рашыцца? А чаму б і не? Разважыўшы цвяроза, дык гэта не так ужо і страшна, як можа падацца на першы погляд.

Ну, як бы там ні было, а вяртацца трэба будзе не

на пустое месца. Хата хай сабе і не новая, але стаіць. А даць ёй подруб і новы дах, дык, як той казаў, яшчэ сто гадоў прастаіць. А можна ж паравое зрабіць, як у Максіма, па цяперашняй модзе, і веранду прыбудаваць, каб кухню вынесці, усё гэта варыва-печыва разам з каструлямі-скавародамі і чапёламі-бразгаўкамі. Варывенька — таксама стаіць, агледзець харашэнька — паслужыць яшчэ. І хляўчук ліпіць. Хай сабе невялікі, але ж маці трымала ў ім і кароўку, і парсючка, і курам месца знаходзілася. Зрэшты, курэй можна будзе трымаць пад паветкаю між хлеўчуком і варывенькай. Калі на тое пайшло, дык дашчаныя сценкі-перагародкі можна будзе перарабіць — закідаць бярвенцы ў шулы. Ну, і пунька стаіць, не развалілася, цяперашнім часам, акрамя сена, у ёй няма чаго складваць, а як на адно сена, дык і досыць такой.

І сядзіба сама, гарод — таксама ж не пустка. Во — дагледзь усё, што ёсць, што расце яшчэ, дык засыпешся і ягадамі, і вішнямі. І яблыні, тыя, што на гародзе ля хаты, хоць старыя, ды яшчэ плодныя. Дзве, ад вуліцы, дык і гатункамі добрыя, познія, але, помніцца, і маці казала, і Максім, што ляжаць добра — ледзь не да вясны.

Яго, Васіля, гэта ўсё пераконвае, а от Валю ці пераканае — невядома. І заікнуцца перад ёю цяпер ці пасля ўжо, як вернуцца на сваю Мучную, пагаварыць, разам з дачкою, у поўным, так сказаць, сямейным складзе?..

Для сябе самога дык ён, Васіль, здаецца, паставіў у душы апошнюю кропку. Трэба вяртацца. Бо чым далей цягнуць, тым горай будзе. Калі ўжо засвярбела, дык з гадамі ўсё больш свярбець будзе, а на пераборы рашыцца — усё цяжэй, ды і сілы тае не прыбудзе, і дачка, сын карэнні там пусцяць...

А захацеўшы, наважыўшыся, усё можна зрабіць. Ён жа во, гуляючы, за гэтыя два-тры тыдні, што прабыў тут, паспеў сёе-тое зрабіць. Штыкетнік ад вуліцы, лічы, нанова паставіў, замяніўшы слупкі і жэрдкі,— раз. Грубку і ляжак хоць збольшага агледзеў — два. Зашчытак падрамантаваў, каб вецер снег на гарышча не заносіў, і адліў бляхай абабіў, каб дождж сцяну не заліваў,— тры. На гэтай самай пуньцы вецер сям-там бляху пазадзіраў, дык ён папрыбіваў і

жэрдкамі-апухамі папрыціскаў — чатыры. Тую падлогу ў хаце падлатаў — пяць, шыбкі ў вокнах пазаменьваў — шэсць... Трэба яшчэ па другі бок вуліцы штыкетнік падлатаць, падгнілыя слупкі хоць каламі надзейней падперці. Мо сёння ж і зробіць. Сам дырэктар прасіў...

Усміхнуўся Васіль, падумаўшы так. Якое дачыненне мае дырэктар саўгаса да яго ці ён да дырэктара? Але ж і праўда — прасіў!

Гэта было на чацвёрты ці на пяты дзень, як прыехаў ён у Звонічы. Васіль якраз тады штыкетнік ставіў ад вуліцы. Зрэшты, сам штыкетнік паставіў ужо — разам з Цельпуком збіваў са старых штыкецін новыя вароты і брамку. Кленчыў на панадворку і не ўгледзеў, як насупраць іхняй хаты спыніўся блакітны «козлік». Спахапіўся толькі тады, калі ўбачыў перад сабою, побач з брамкай, якая ляжала на зямлі і да якой ён прыбіваў завескі, чыесьці чаравікі, а пасля пачуў і голас:

— Добры дзень работнікам!

Падняў Васіль галаву — стаіць перад ім хлопец, ну, можа, малады мужчына, гэтак на гадоў трыццаць.

— Добры дзень,— адказаў.

Хлопец ці мужчына гэты самы нечакана спытаў:

— І што вы тут робіце?

Васіль, не пазнаючы чалавека, але думаючы, што гэта нехта з маладых звонінцаў, пачаў тлумачыць:

— Ды во паразвальвалася ўсё. Перад людзьмі няёмка. Плот сяк-так паставіў, навешу брамку і вароты пастаўлю, дык хоць трошкі з вуліцы будзе паглядней.

— Гэта і без спросу відаць. Я іншае меў на ўвазе: чаму вы гэта робіце? Як вы апынуліся ў гэтай хаце?

Васіль не стрымаўся, у сваю чаргу спытаў:

— А вам што да гэтага? Я ў гэтай хаце нарадзіўся і вырас, хацеў бы ведаць, вы хто, што дапытваецеся?

— Я дырэктар саўгаса,— адказаў мужчына.— А вы... Чакайце, чакайце, а вы брат Максіма Мікалаевіча?

— Брат,— кіўнуў галавой Васіль.

— То будзем знаёмы,— мужчына падаў Васілю руку, назваўся: — Мікалай Пятровіч.

Васіль падняўся на ногі, стаяў, не ведаючы, што гаварыць.

— А мне Максім Мікалаевіч нічога не казаў, што вы прыехалі. У водпуск? — дырэктар паглядзеў неяк запытальна.

Васіль зноў моўчкі кіўнуў.

— А я еду, гляджу, нехта корпаецца. Хто, думаю, такі? Хата пустуе каторы год... Падумаў быў — Максім Мікалаевіч, але ж ён на жніве,— дырэктар гаварыў ахвотна і зычліва.— Засумавалі па радзіме?

— Прыехаў от,— пацісну́ў плячамі Васіль.— Сыну паказаць, дзе рос, жонцы.

— Вы ж недзе далёка, чуў ад Максіма Мікалаевіча. Ажно ў Прымор'і? Тады можна засумаваць, вельмі нават можна. Я блізка быў, пад Мінскам, а таксама засумаваў. Вярнуўся дадому.

— Дадому? А вы адкуль? — асмялеў Васіль.

— З Буды я. Ведалі Равяку Рыгора? Ён брыгадзірам трактарнай брыгады быў пасля вайны, у яго Максім Мікалаевіч рабіў...

— А-а, помню, помню,— ажывіўся Васіль.— Не раз і ў хаце ў нас быў.

— Дык я яго сын. Скончыў сельгасакадэмію, працаваў у інстытуце, у навукова-даследчым, ёсць такі інстытут пад Мінскам, цяпер ужо, можна сказаць, у самім Мінску, але нецікава было. Вось і вярнуўся. Прызначылі дырэктарам.

Васіль слухаў малодшага Равяку з нейкай ніякаватасцю. Узнікла яна з самага пачатку, як ён падышоў да Васіля, прывітаўся і гэтак сурова, падалося, па-начальніцку запытаўся, што ён тут робіць. Потым тая першапачатковая ніякаватасць мінулася, асабліва пасля таго, як дырэктар загаварыў пра Максіма, штораз велічаючы яго Максімам Мікалаевічам, як даведаўся, што дырэктар — сын таго самага Рыгора Равякі, якога Васіль у дзяцінстве добра ведаў. А збянтэжыўся зноў, калі пачуў, што гэты самы малодшы Равяка рабіў у навуковым інстытуце ў Мінску і па ўласнай ахвоце вярнуўся дамоў, стаў дырэктарам саўгаса.

— А я во плот паправіў, бо паваліўся быў,— паўтарыў ён.

— І добра зрабілі,— падхапіў дырэктар.— Я ўжо хацеў прасіць Максіма Мікалаевіча ці брыгадзіру

сказаць, каб паставілі новы штыкетнік. Выгляд вуліцы псуе. Вы ўжо мо не палянуйцеся ды і на тым баку падлатайце, га?

Васіль згодна кіўнуў, сказаў:

— Добра, зраблю, пашукаю штыкецін ды падлатаю. У мяне ж во і памочнік ёсць.

Дырэктар паляпаў Валерыка па плячы:

— Памочнік самы раз!

Ён задам адступіў на колькі крокаў да вуліцы, Васіль думаў, што пойдзе наогул да машыны, але нечакана Мікалай Пятровіч ціха спытаў:

— Вяртацца дамоў — не было ў вас такой думкі? Не крыўдуйце, я ўсім дачнікам задаю такое пытанне.

— Якім дачнікам?

— А такім, як вы. Іх шмат у нас. Хто на суботу і нядзелю, а хто і на ўвесь адпачынак, на ўсё лета.

— Якія ж яны дачнікі? — здзівіўся Васіль.— Яны ж радзіліся тут, выраслі, бацькі ў многіх жывуць, сваякі.

— Ну і што? Правільна, Васіль Мікалаевіч, тут нарадзіліся і тут выраслі, а натуры ўжо — дачніцкія. Начхаць на тое, што тут робіцца і як робіцца. Ды каб толькі гэта!

— А што яшчэ?

Дырэктар неяк дзіўна паглядзеў на Васіля, горка ўсміхнуўся:

— Не чулі? Самі яшчэ на промысел не хадзілі?

— На які промысел? — яшчэ больш здзівіўся Васіль.

Замест адказу дырэктар павярнуўся да вуліцы, паказаў рукою за гароды, на Сялібную, дзе ўгадваліся лапушыстыя баразны бульбы ў блакітным цвеце, сказаў:

— Схадзіце, паглядзіце, колькі карчоў «падгледжаны». Тут, ад аселіцы, дзе сырэй, добрая бульбачка ўжо вымахала, дык цішком, вечарам на цямку ці ранічкаю, так і шныраць. Вядро-другое накапае, чысценька абтрасе, у модную сумку з замком — і ў Мінск. На тыдзень сям'і ёсць. А ў наступную пятніцу зноў прыедзе... Схадзіце, паглядзіце — цэлыя гоні пустых баразнаў.

Васіль вушам не верыў. Толькі і змог выціснуць:

— І гэта нашы, звонінцы?

— І вашы, звонінцы, і нашы, буданцы.— На дырэктаравым твары ўжо не было ўсмешкі.— А ў гарох з сынам не хадзілі? Не? Даруйце, але ажно не верыцца. За Гаем, пад Роўніцай, пасеялі гарох з аўсом. Папраўдзе, больш гароху, чым аўса. І ўрадзіў надта ж струкаты! Дык хоць ты вартаўніка стаў. Латошаць мяшкамі. Адны так, у стручках, і вязуць у Мінск, каб прадаць слоічкамі па Камароўцы, іншыя ж лушчаць, абварваюць ці што там робяць і закатваюць у слоікі — робяць самі прыправу да салаты. Самы сапраўдны зялёны гарошак. Навучыліся, чэрці!

Васіль развёў рукамі:

— Дзівосы на калёсах!

— Вось вам і дзівосы! Таму і кажу: не люблю дачнікаў!

Мікалай Пятровіч, кіўнуўшы, пайшоў да машыны. Адчыніўшы ўжо дзверцы, зноў спытаў:

— Дык не было такой думкі — вярнуцца?

Васіль толькі моўчкі паціснуў плячамі.

— Ну, добра. За дачніка не крыўдуйце,— сказаў дырэктар ужо з машыны і сарваўся з месца.

Васіль пасля папытаў у Максіма пра Равяку. Нічога пэўнага не пачуў. Мала ён пабыў у нас, сказаў Максім, рана што гаварыць, хлопец, здаецца, не дурны, за п'яніц узяўся, за абібокаў розных, будавацъ бярэцца — і майстэрню харошую за кароткі час адгрукалі, і дзве фермы будуюцца, адна амаль гатовая, і дамоў некалькі ставіцца, не абы-якіх, а з выгодамі, з мансардамі; да лазні ў Будзе прыбудоўку зрабіў — пральню, машыны ў ёй паставіў, цяпер бабам клопату няма з бялізнай, з трантамі рознымі...

Дачнікаў ён не любіць, прыгадаў цяпер Васіль. Пэўна ж! А за што іх любіць? Ён, Васіль, на месцы дырэктара таксама іх наўрад ці любіў бы. Не любіць, а пытанне задае. Як гэта ён казаў: няма такой думкі, каб вярнуцца?

Ёсць, ёсць такая думка, таварыш дырэктар! Думка ёсць. Мо ты яе мне найпершы і падкінуў. Толькі не так усё гэта проста, як табе здаецца. Дачнікаў ты не любіш, але дачніку — лягчэй. Прыехаў, пазагараў, папіў сырадойчыку, паеў маладой бульбачкі з маласольным агурочкам і ўкропчыкам, наладаваў торбу ці авоську іншых вясковых прысмакаў — і па-

ехаў, каб у наступную пятніцу ці суботу зноў прыкаціць на той жа сырадойчык, на тую ж маладую бульбачку з салам і ўкропам, каб пазагараць і падыхаць чыстым, не атручаным гарадскім, паветрам, балазе, што зрабіць гэта лёгка нават і тым, у каго няма яшчэ ўласных колаў — аўтобусы ходзяць рэгулярна, білеты прадаюцца загадзя, і можна прыехаць і вярнуцца назад амаль з камфортам. Дык вось, дачніку, таварыш дырэктар, лягчэй. А паспрабуй з дачнікаператварыцца ў таго, каго б ты прыняў [illegible] душой і нават палюбіў? Гэта табе не тое, што прыкаціць у пятніцу вечарам, а ў нядзелю вечарам назад пакаціць. Ты прымеш і палюбіш таго, хто прыкоціцца, але ўжо назад не пакоціцца. Застанецца. Абжывецца. І прыжывецца. Як мой брат Максім, якога ты, я не забыўся, называеш Максімам Мікалаевічам. Я таксама хацеў бы вярнуцца. І застацца. І асесці. І прыжыцца. І каб мяне ты таксама называў гэтак жа паважна — Васіль Мікалаевіч. Але скажы ты мне, дырэктар, як гэта зрабіць? А мо не так, як гэта зрабіць, як пра тое, што з гэтага выйдзе? Га, дырэктар?..

— Вася, дзе ты? — гукнула ад хаты Валя.— Дзе ты прапаў?

— Тут я,— адклікнуўся ён.

— Ідзі снедаць!

— Іду!

Ён падняўся, атрос футболку, паляпаў сябе па штанах, там, дзе сядзеў, зачыніў дзверы ў пуньку і падаўся сцежкай — паспелі ўсё-такі за гэты кароткі час пратаптаць! — да хаты. Зрабіў колькі крокаў і неспадзеўкі ажно скалануўся ад думкі: гэта ж некалі, яшчэ да вайны, калі яны — Максім, Волька і ён, Васіль,— былі малыя, маці гэтак жа клікала снедаць бацьку, і ён, гэтак жа, як цяпер Васіль, ішоў сцежкаю да гэтай самай хаты.

# Тэлеграма з Кавалевіч

— Бацька тэлеграму прыслаў,— сказала Рэня Антону, адчыніўшы яму дзверы.

Ён быў падумаў, што недачуў. Бацька? Тэлеграму? Не можа быць! Ці пісаў яму бацька калі-небудзь увогуле? Не ў памяці нават! А то раптам — тэлеграма!

Антон ступіў у кватэру, зачыніў за сабою дзверы і ўзяў з Рэніных рук складзены ў чатыры столкі лісток. Рэня, падаючы яго, як папікнула:

— На, чытай. Нечага спатрэбіўся — кліча прыехаць...

Ён, не распранаючыся, тут жа, у пярэднім пакоі, разгарнуў сіняваты тэлеграфны бланк і прабег вачамі наклееныя друкаваныя радкі: СЫН ПРЫЯЗДЖАЙ ПЯТНІЦУ БАЦЬКА. Прабег і здзівіўся яшчэ больш. Бацька просіць прыехаць? А чаго? Што здарылася? Калі б якая бяда, дык, пэўна, напісаў бы, а то — прыязджай адно...

Антон у недаўменні крутнуў галавой (была ў яго такая звычка), і Рэня, улавіўшы гэты яго рух, дадала:

— Можа, хоча, каб памог што зрабіць?

Ён прапусціў жончыны словы міма вушэй. Сказала — як пугай па вадзе ляснула! Бацька ніколі не прасіў яго ні аб чым нават тады, калі ён, Антон, бываў у Кавалевічах, а цяпер будзе выклікаць тэлеграмай, каб памог нарэзаць дровы ці прывезці брыкет з-пад Прусавіч? Таксама скажа!

Антон зняў плашч, скінуў чаравікі і, намацаўшы пад пуфікам тэпці-шлапакі, ступіў у пакой. Следам

за ім зайшла і Рэня. Гледзячы на тэлеграму, якую Антон усё яшчэ трымаў у руцэ, спытала:

— Дык паедзеш?

— А што?

— А тое, што на пятніцу мы дамаўляліся з табой схадзіць разам куды-небудзь!

Жонка, адчуваў, злавалася, але ён зноў прамаўчаў. Прамаўчаў па звычцы. Ужо даўно няма між імі таго, што павінна было б быць між добрых сямейнікаў,— узаемнай павагі, лагоды, паразумеласці. Ужо даўно яны не жывуць, а, як стала модна з некаторай пары гаварыць, суіснуюць, хоць, як для чужога вока, сям'я ў іх — як сям'я. Ён, Антон, змірыўся. Трэба жыць! Да такога немудраслоўнага рашэння даўмеўся сам, без чыёй-небудзь падказкі ці парады. Трэба жыць хоць бы дзеля Аляксея — сына. А каханне і ўсе іншыя эмоцыі, відаць, і праўда не вечныя, як і ўсё пад сонцам.

Калісьці ён думаў, вядома, іначай. І не толькі ў юнацтве. Але тыя ружовыя думкі адляцелі прэч, як спалоханыя птушкі, пасля першай жа сваркі, што ўсчалася з-за нейкай дробязі, з-за нейкага глупства, якое і ўспомніць зараз цяжка. Перапалка тая забылася даўно, пасля яны неаднойчы сварыліся куды больш зацята, але і па сёння памятае Антон, што менавіта тады ён зрабіў для сябе нечаканае адкрыццё: лагічна жанчыне нічога не дакажаш, як і не адшукаеш у яе паводзінах якую-небудзь логіку.

І Рэня яго тут — не выключэнне. То ціхая і пакорлівая, як зямля перад немінучымі халадамі, то капрызлівая і наравістая, як запозненая вясна, што можа неспадзеўкі абрынуць на садовую квецень марозную сцюжу ці завіхурыць мяцеліцай над зялёнай шчэццю порсткай ярыны,— ён усё яшчэ, нягледзячы на тое, што пражыў у горадзе большую палову жыцця, мысліў вобразамі свайго вясковага маленства і юнацтва. І ў такія хвіліны, калі жонка была не ў гуморы, ён альбо адмоўчваўся, альбо адбываўся жартам.

І цяпер ён быў прамаўчаў, і жонка памкнулася была ўжо крутнуцца і пайсці з пакоя, але раптам Антон схамянуўся. Падумаў пра тое, што, пэўна ж, нейкая прычына паслаць такую тэлеграму ў бацькі ўсё ж была і што, на добры лад, трэба было б на яго

просьбу адгукнуцца, і ён, нечакана ўсміхнуўшыся, амаль лагодна сказаў да Рэні:

— Дык мо разам у Кавалевічы і падскочым, га?

Рэня, быццам і чакала ад яго нечага такога, адразу ж ускінулася:

— А хіба ён мяне запрашае?! Згарадь хай яны там, твае Кавалевічы, чым я паеду туды калі!

Антон паморшчыўся, як ад болю, але стрымаўся, сказаў па-ранейшаму спакойна:

— Што яны табе такога благога зрабілі, мае Кавалевічы?.. Не хочаш — не едзь. Можа, і я не паеду. Яшчэ толькі серада. Там пабачым. Мо ў суботу падскочу, зранку...

Рэня, выходзячы з пакоя, агрызнулася напаследак:

— Хоць сабе і заўтра!

Антон уздыхнуў, пакруціў у пальцах тэлеграфны бланк, быццам не ведаючы, куды яго палажыць. Урэшце запхнуў яго ў нагрудную кішэньку пінжака, спакваля пераапрануўся ў хатні — спартыўны — касцюм, узяў з паліцы часопіс «Наш современник», які ўчора выняў з паштовай скрынкі, і прысеў пад бра на тахту. Прагледзеў змест, адгарнуў быў старонку з пачаткам аповесці, якую, хтосьці казаў сёння на рабоце, варта пачытаць, нават кінуў быў вокам на колькі абзацаў, аднак — не чыталася: не выходзіла з галавы бацькава тэлеграма.

Просіць прыехаць у пятніцу, а чаго, каб хто спытаў? Якраз як Рэня кажа: на нешта спатрэбіўся... Блазнуе стары, няйначай. Старое, мусіць, і праўда, як малое...

Нечакана падумаў Антон, што з бацькам у яго дзіўныя адносіны. Папраўдзе, дык — быццам няма ніякіх адносін, быццам чужаніцы яны адзін аднаму. Пачуўшы ад Рэні пра бацькаву тэлеграму, ён, Антон, не захваляваўся: мо бяда якая? Адно — здзівіўся: чаго раптам? Але ж хіба ён у чым вінаваты? Хіба ён настройваў сябе калі-небудзь супраць бацькі? Здаўна, як памятае сябе Антон, так павялося ў іхняй хаце, што бацька заўсёды быў як у цяню, яго прысутнасць у сям'і не надта заўважалася. У хаце заўсёды гаспадарыла маці. Ці зрабіць што, ці прыдбаць — ва ўсім першае слова было матчына. І яны, дзеці, найперш слухалі і слухаліся яе. А калі часам

выкідвалі якога коніка, дык, зноў жа, перападала ім ад маці, а не ад бацькі, перападала часам балюча, хоць цяпер пра ўсё тое думаецца без аніякае крыўды. А бацька ці быў у хаце, ці не быў — і маці, і ўслед за ёю яны, дзеці, не надта зважалі на тое. Ды бацька рэдка калі і бываў дома. Ад вясны да зімы, лічы, яны не бачылі яго — той пасляваенны парою ён са сваім трактарам прападаў па калгасах. Тыднямі, было, вачэй не паказваў, прыязджаў дахаты адно каб схадзіць у лазню і памяняць нацельнае.

Тыя рэдкія бацькавы наезды найперш і памятае Антон...

Пасля лазні, узяўшы «законную» з такой прычыны чарку, бацька, заўсёды ціхманы, маўклівы, надта ж непрыкметны ў хаце, нечакана і нязвычна для ўсіх ажываў, у яго раптам, як жартавала маці, «прарэзаўся голас». А самае галоўнае, пад чаркаю бацька ўспамінаў, што ён — гаспадар у хаце.

— А што, Параска, мо цялушачку пакінем на племя? — казаў раптам бацька да маці, і казаў такім тонам і з такім выглядам, быццам толькі пра гэта апошнім часам і думаў і быццам зараз толькі ад яго залежыць, ці быць той цялушачцы праз год-другі ўдойнай кароўкай, ці неўзабаве выправіцца туды, дзе не давядзецца ёй ні мычэць, ні цяліцца.

Маці, робячы што-кольвек па хаце, усміхалася сама сабе і адмахвалася ад бацькі, як ад назолы-дзіцяці, якому раптам закарцела ўплішчыцца ў дарослую гаворку, укінуць туды і свае два грошы.

— Ат, памаўчы, бацька! Цалуйся ўжо са сваім трактарам! Хай табе галава па іншым не баліць!..

Бацька на хвіліну панурыўся, але не крыўдаваў. Моўчкі пакоўзаўшыся некаторы час дзеля прыліку на лаве, ён знячэўку зацягваў песню, нават не песню, а прыпеўку, заўсёды адну і тую ж, і Антон па сёння памятае нязменны бацькаў рэпертуар. Седзячы на лаве, прытопваючы босымі нагамі па падлозе, бацька спяваў:

> Дай мне, божа, усяго,
> Чаго хочацца:
> Папіць, паляжаць,
> Па-ва-ро-чац-ца...

Маці, перакрыўляючы яго, казала:

— Чаго ты стогнеш? Кладзіся і варочайся! Ужо ж і наеўся, і напіўся! Ото ўжо чалавек! Як заведзены...

Бацька і на тое не крыўдаваў. Ён падхопліваў на рукі Маню ці яго, Антона, садзіў яе альбо яго на сваю босую нагу і гушкаў, прыгаворваючы:

— Чорт на грушы трасе душы, гоп-ля, гоп-ля!..

Вось на тым гушканні, бадай, і скончыліся яго, Антонавы, узаемадачыненні з бацькам...

Ён, вядома, разумее, што бацькава роля ў хаце была куды большая і значная, чым выяўлялася тое вонкава. Калі ў іх тады, па вайне, часцей, чым у каго, быў на стале хлеб, і калі яны, дзеці, не так свяцілі локцямі, як іншыя, дык заслуга ў тым была найперш бацькава: ён, трактарыст, прыносіў у хату і хлеб, і сякую-такую капейчыну. Ды ўсё ж рэй вяла маці, яе слова ў сям'і было галоўнае.

Не бацька, а маці клапацілася аб тым, каб дзеці, найперш яны, малодшыя,— ён, Антон, і Маня, вучыліся. Сама не дужа ведаючы граматы — магла толькі сяк-так злажыць у слова друкаваныя літары,— маці з нейкай апантанасцю хацела, каб вучыліся дзеці.

Памятае Антон, як засмучалася маці, калі іхняя Томка ў сорак сёмым нечакана выскачыла замуж. Томка да вайны адолела чатыры класы, у сорак чацвёртым, як вызвалілі, пайшла адразу ў шосты, скончыла сямігодку і паступіла ў педвучылішча. Маці радавалася: будзе дачушка настаўніцай! А тая дачушка на самым пачатку сорак сёмага, калі яшчэ і першага курса не скончыла, нespadзеўкі крутнулася замуж за аднарукага Андрэя Давідовіча, хлопца з іхніх жа Кавалевіч, былога лётчыка-лейтэнанта. І з тым замуствам было па Томчынай вучобе. Вось маці і бедавала, што ўся даччына навука пайшла кату пад хвост.

Памятае Антон, і як лупцавала маці Маню — вучылася тая слабенька, з троечкі на двоечку. Перападала матчыных грымякоў Мані ўсе сем гадоў, пакуль бегала ў Кавалевіцкую сямігодку, але грымякі не памаглі. Сястра, можна сказаць, не скончыла школу, а выпхнулі яе са школы, выкацілі на тройках, і

з імі Маня нікуды вышэй не патыкалася — пайшла рабіць на ферму цялятніцай.

І, пэўна, пасля гэтых дзвюх няўдач спраўдзіць сваю мару — бачыць дзяцей адукаванымі — уся матчына апантанасць перакінулася на яго, Антона. А разам з ёю, з гэтай апантанасцю, з гэтым прагным жаданнем вывучыць хоць яго, меншанькага, на Антона перакінулася і ўся матчына любоў.

І ён, не разумеючы як след гэтай любові і не ўсведамляючы сваёй адказнасці перад ёю, вучыўся лепш за многіх, скончыў амаль на пяцёркі сямігодку і пайшоў у восьмы клас, у Бабры. Пачыналі з ім вучобу ў Бабрах ці не дзесяцёра хлопцаў і дзяўчат з Кавалевіч, але пакрысе паадсыпаліся: адно што далёка было хадзіць (а інтэрната тады пры школе не было), а другое — тады яшчэ трэба было плаціць за навучанне. Скончыў дзесяць класаў у Бабрах тады з Кавалевіч адзін ён, Антон. Скончыў таксама ледзь не на адны пяцёркі і паступіў ва універсітэт.

Не чакаў, не спадзяваўся, што паступіць. Конкурс тым годам быў, як на ліха, дужа вялікі. Каб паступіць, трэба было ледзьве не ўсе экзамены здаць на пяцёркі. А экзаменаў тых было ажно сем! Але яму шанцавала. Па гісторыі атрымаў пяцёрку, можна сказаць, выпадкова. Перад ім некалькі чалавек зрэзалася. Выкладчык зазлаваў, пачаў адно і тое ж пытанне задаваць усім, хто сядзеў у аўдыторыі. І ніхто чамусьці правільна не адказваў. А ён, Антон, сказаў якраз тое, што трэба было. І выкладчык, болей ні пра што яго не пытаючы, паставіў яму пяцёрку. Пашанцавала і на экзамене па нямецкай мове, якога баяўся, пэўна, болей, чым іншых. Здаваў Антон апошнім, выкладчыца папрасіла яго сабраць са сталоў слоўнікі, чарніліцы і ручкі і занесці ўсё ў дэканат. Ён, вядома, з ахвотаю згадзіўся, і за гэтую паслугу, напэўна, «немка» і пашкадавала яго, паставіла чацвёрку, хоць «шпрэхаў» ён, сам разумеў, не болей чым па тройку.

Пасля субяседвання яму, аднак, нічога не сказалі, і ён паехаў дахаты ў няведанні: з дзвюма чацвёркамі, казалі, праходзілі не ўсе.

Канчаўся жнівень, а выклік на вучобу яму не прыходзіў. Ён, Антон, здаецца, і не хваляваўся надта — чамусьці яму было як усё роўна, пройдзе ён па

конкурсе ці не пройдзе. Затое маці штодня пыталася ў паштаркі, ці ёсць пісьмо. Прайшоў яшчэ адзін дзень. Зранку, каб не бачыць трывожлівага матчынага пагляду, Антон пайшоў у арэхі. Бадзяўся па лесе ажно да абеду — абы час прабавіць, бо арэхаў не было: далёка, пад Масцішча ці пад Гліпішча, ён не забіраўся, хадзіў больш па ўскрайках, дзе кожны куст быў даўно аблатошаны пастушкамі. Вярнуўся, а дома яго чакала жаданае пісьмо: «... залічаны студэнтам першага курса са стыпендыяй і інтэрнатам...»

Маці прымусіла яго чытаць тое пісьмо некалькі разоў, ад радасці яна нават паплакала. Абнімаючы яго, быццам малога, шчасліва казала:

— Нічога не пашкадую, сынок, сама рызманамі свяціць буду, сухую скарынку грызці, адно — каб ты вучыўся...

І ён бянтэжыўся ад гэтай яе расчуленасці, шчаслівых слёз у яе ў вачах.

І, пэўна, толькі ў той дзень падумаў быў пра тое Антон, што ён у сям'і на асаблівым становішчы, што маці рабіла ўсё, каб ён толькі вучыўся і не ведаў больш іншых клопатаў. Праз гэта лішне перападала сястры. Маня была ўсяго на два гады старэйшая за Антона, але на яе маці спіхвала ўсё. Нават такую хлапечую службу, як ганяць каровы на ранкі, несла ў хаце Маня.

Яна за гэта сердавала на Антона. Калі маці досвіткам катурхала яе, каб ішла да каровы, Маня агрызалася:

— Хай Тонік праветрыцца! Чаму ўсё я?..

Адбрыквалася Маня і тады, калі маці пасылала яе прынесці вады ці дроў з-пад паветкі. Але маці казала на тое заўсёды адно і тое ж:

— І цябе не ўбудзе! Тонік, бачыш, чытае!

— Дык і я ўрокаў яшчэ не рабіла! — пускала слязу Маня — тады яшчэ, як хадзіла ў школу.

— Яна не рабіла! — павышала голас маці.— Усё адно карысці мала, рабіла ты ці не рабіла!

Здаецца, сяды-тады Антону было ніякавата ад гэтых сварак, быццам сорамна і перад маці, і перад сястрою, зрэдзь часу ён парываўся збегаць да студні ці пад тую ж паветку, але маці штораз перапыняла:

— Сядзі, сынок! І Маня не зломак! — І яшчэ зласней пакрыквала на дачку: — Каму кажу, Маня!

Дзіўна, але, мусіць, і Мані нешта перадалося ад той матчынай апантанасці, бо ўпарцілася яна, бачыў Антон, проста так, хутчэй ад дзіцячай гарэзлівасці, заўсёды ўрэшце прыносячы ў хату і суды вады, і бярэма дроў, і кошык малачаю з-за аселіцы...

А бацька не ўмешваўся ні ў матчыны сваркі з Маняю, ні ў яго, Антонаву, вучобу — быццам усё тое яго ні кропелькі не турбавала. Адно пасля лазні, калі набываў дар голасу, ён мог падысці да Антона, які рашаў за сталом задачы ці пісаў сачыненне, зазірнуць цераз сынава плячо ў сшытак і, кудлацячы Антонавы валасы, радасна гукнуць да маці:

— Дальбог, Параска, пугу яму грэшна ў рукі даваць! Ты зірні — не піша, а друкуе! Быць яму сакратаром сельсавета! Во!

Не бацька, а маці праводзіла Антона і ў Мінск — спачатку на экзамены, а пасля і на вучобу, купіўшы яму ўсё неабходнае: паліто, чаравікі, адразу ажно тры сарочкі — адну святлейшую, святочную, а дзве цямнейшыя, у клеткі — на кожны дзень. Купіла яму нават гадзіннік — «Победу», за трыста сорак два рублі на тыя грошы (суму гэтую Антон памятае і сёння, бо той гадзіннік насіў, пэўна, гадоў дваццаць, ажно ўрэшце ён яму надакучыў). Маці правяла яго да гравійкі, сама спыніла самазвал (тады з іхняга боку вазілі ў Мінск каменне) і ўпрасіла шафёра давезці Антона да Камароўкі.

А бацька той раніцаю, калі Антон павінен быў ехаць у Мінск, адно пацiснуў яму, ужо як даросламу, руку і сказаў:

— Будзь здароў, Тонік! Глядзі ж там...

Ці ўспамінаў ён калі пра ўсё гэта? Успамінаў, вядома. Але ж дзіўна: успамінаў часцей тады, калі здаралася штосьці благое ці непрыемнае. Тады і згадваліся Кавалевічы, бацька, маці, сёстры і сам ён — там часовы, калі быў школьнікам і студэнтам.

Сёння, здаецца, нічога благога не здарылася, гэтая Рэніна незадаволенасць — няўзнак, аднак жа быццам нейкая трывога ў душу завітала — як жаль нейкі. Да каго? Да бацькі? Да маці? Ці мо да сябе,

сённяшняга і колішняга? Крутнуў Антон галавой, сцепануўся. Чаго ён калупаецца ў самім сабе, каб хто спытаў? Бацька тэлеграму прыслаў, просіць прыехаць? Дык жа ўсё можа быць вельмі проста. У Кавалевічах ён даўно не быў? Даўнавата. А пісьмо калі апошні раз пісаў? Яшчэ даўней. Вось і захваляваліся старыя, вось і даўмеліся паслаць тэлеграму. На пісьмо мог сын і не адгукнуцца, а на тэлеграму прынята рэагаваць іначай. Тэлеграма грошай каштуе, яе без патрэбы не пасылаюць! Вось табе і ўвесь гамон, Антоне! Можа быць так? Вядома ж, можа! А ты...

Антон закінуў на тахту ногі, лёг, падклаўшы пад галаву ясік (жонка і цешча называюць гэтую малюсенькую падушачку падлакотнікам, а ён з цесцем — ясікам, як насуперак), і зноў разгарнуў часопіс. Аднак жа ўсё адно не чыталася. Нечакана пахіліла на сон. З некаторай пары не рашаўся драмаць надвячоркам — тады спаў кепска ноччу, таму, адкінуўшы ад сябе часопіс, Антон сеў, некалькі разоў, каб прагнаць млявасць, махнуў рукамі, потым нагнуўся, падсунуў бліжэй тэпці, уззуў іх і выйшаў у пярэдні пакой.

У кватэры было ціха. Рэня — пабачыў праз прыадчыненыя дзверы — сядзела ў цешчыным пакоі перад трэльяжам.

— А дзе Аляксей? — спытаў Антон, абы-што спытаць.

— Бегае недзе,— адказала Рэня, шмаруючы далонямі шчокі.

— А бацька з маці?

— На дачу паехалі,— зноў адгукнулася жонка.

Антон, сам не ведаючы чаго, зайшоў у той цешчын пакой, прысеў на край ложка за спінаю ў жонкі. Пасядзеў, памаўчаў, пасля спытаў:

— А ты куды, што мажашся?

— А табе што?

Ён не хацеў сварыцца, уздыхнуў:

— Проста так.

Але Рэня ўжо ці не завялася:

— Я не мажуся, а наводжу марафет.

— Хай будзе марафет. А навошта — вечарам?

Рэня павярнулася да яго і ўжо зусім са злосцю ў голасе адказала:

— Што табе трэба? Што хачу, тое і раблю! Захацела намазацца, вось і мажуся!

Ён зноў стрымаўся, спакойна сказаў:

— Чаго ты злуешся? Я проста так спытаў. А мажашся ты лішне. Казаў і яшчэ скажу. Ну навошта ты на вейкі столькі сажы наклала? У цябе ж яны і без таго густыя і доўгія! Гэта ў каго вочы жабіныя, дык...

— Адчапіся! Чаго ты лезеш у нашы бабскія справы?

Але і пасля гэтага Антон не падняўся, не пайшоў з пакоя, як зрабіў бы звычайна пры такіх абставінах. З нейкай спакойнай зацятасцю сказаў, быццам папрасіў:

— Рэня, ты ж ведаеш, я не люблю гэтых розных мазідлаў...

Рэня адказала таксама ці не ласкавей:

— А я яшчэ не старая баба і хачу быць прыгожай!

— Для каго?

— Не для цябе, не хвалюйся! Табе ўсё роўна! Табе каб я косы насіла, як Віка, і каб хустку завязвала!

— А чым блага косы? Каса — дзявочая краса! Не намі прыдумана! — Антон, здаецца, нават усміхнуўся.— А толькі мажашся ты... Колькі ты вымазваеш на сябе ўсялякіх крэмаў, пудраў, памадаў, ценяў! Быццам ясі іх!

— Гэта я ем?! Што ты разумееш! Ты мне толькі два разы купіў французскія духі! А Людка Язвінская мела іх ужо ці не дзесяць флаконаў! Яна кожны тыдзень малочную ванну прымае! Таму і белая такая, таму каля яе ўсе мужчыны так і круцяцца!

— Дурніца твая Язвінская! Бязмозглая круцёлка! — Антон, разумеючы, што дарэмна гаворыць усё гэта, чамусьці не мог стрымацца.— Яно, канечне, часам і гэты твой марафет навесці трэба. Але ж меру нейкую знаць трэба! А то выскачыць каторая пад дождж, а па твары чорныя рагі цякуць... А мяне найбольш злуе тое, што я прашу, а ты — як знарок... Раней жа ты не мазалася так! А цяпер у магазін не выйдзеш не падмазаўшыся...

— І не выйду! І адчапіся ты ад мяне! Рабіць няма чаго?

Ён бачыў, што Рэня па-сапраўднаму пачынае злавацца, і парашыў не чапаць яе больш. Сказаў:

— А рабіць і праўда няма чаго.

Рэня адразу быццам супакоілася.

— Дык схадзі ў магазін. Мама прасіла малака купіць і хлеба. Белага. І бульбы прынесці з падвала...

— Дык ты гэта ў магазін збіралася? — усміхнуўся ён, падымаючыся.

— Ну а калі ў магазін, дык што?

— Нічога. Я ж кажу — смешна!

— Пасмейся,— сказала Рэня. І дадала: — Аляксея ўбачыш у двары, скажы, каб дадому ішоў.

«Вось і пагаварылі... Як гусь з парасём,— падумаў Антон, апранаючыся.— Жанчыну і праўда трэба альбо любіць, альбо біць. Шкада, што я не ўмею ні таго, ні другога...»

Ажаніўся Антон, як на цяперашні час, пазнавата — на трыццатым годзе. І, тым не менш, нечакана. І для іншых, і для самога сябе. Сам сабе, праўда, высноўваў думку, што, пэўна, так і жэняцца ўсе, хто па нейкіх прычынах позніцца з гэтай справай, адкладвае яе на потым, аднак жа толкам наўрад ці растлумачыў бы каму, як тое з ім здарылася...

У школе, у Бабрах, падабалася яму адна дзяўчына — Тоня Маеўская. Была яна дробненькая, худзенькая, шустрая — як яшчарка. З маленькай, круглай галоўкі звісалі на плечы дзве тоўстыя і доўгія — як для яе, малой, дык аж занадта тоўстыя і доўгія — касы. Пад высокім чыстым ілбом гарэзліва свяціліся крышку зіркаватыя, але цёмныя, як вугольчыкі, вочы. Тварык упрыгожваў маленькі, кірпаты носік і такі ж маленькі, але з пульхнымі вуснамі раток. На носіку і на шчоках ледзь-ледзь залаціліся вяснушкі. Нічога не скажаш, сімпатычная, нават па-свойму прыгожая была Тонечка Маеўская. Але ўпадабаў яе Антон не за косы, не за кірпаты нос, не за вусны-банцікі і не за вяснушкі, а за тое, што Тоня — адна ў класе з усіх дзяўчат — сёе-тое петрыла ў матэматыцы, алгебры, фізіцы і геаметрыі. Усе гэтыя прадметы выкладаў у іх Уладзімір Антонавіч, цудоўны настаўнік і добры ўвогуле, памяр-

коўны чалавек. І мяняўся ён на вачах толькі тады, калі хто ля дошкі пачынаў мямліць і заікацца. Тады Уладзімір Антонавіч у любую хвіліну мог сарвацца, абазваць вучня ці вучаніцу не дужа прыемным слоўкам і вытурыць з трэскам з класа. Найбольш, канечне, даставалася дзяўчаткам. Досыць было каторай спатыкнуцца на тэарэме ці на рашэнні ўраўнення, як Уладзімір Антонавіч пачынаў:

— Чаго ты ўгледзелася ў дошку, як курыца ў гузік? Што ў цябе там, у тваёй чаропцы? Салома? Мякіна? Няўжо цяжка запомніць, што квадрат гіпатэнузы раўняецца суме квадратаў катэтаў? Сядай! Двойка!

Тоня ж Маеўская ніколі не была ва Уладзіміра Антонавіча ні курыцай, ні авечкай, ні дубовай доўбняй. І, пэўна, па гэтай прычыне вылучыў яе Антон з гурту аднакласніц. Аднак жа гэтае вылучэнне не перарасло ў што-небудзь большае, і хлапечае сэрца па-сапраўднаму ўстрапянулася пазней — ужо ва універсітэце.

Ёкнула ў яго сэрца адразу ж, як толькі пабачыў Віку Двурэчанскую. Тры дні правучыліся новаспечаныя студэнты, а на чацвёрты паехалі «на бульбу». І там, у невялікай вёсачцы пад Мінскам, упершыню чамусьці ўбачыў Антон Віку. Трапіла іх у тую вёсачку ўсяго дзесяць чалавек, выпадкова ці не выпадкова — пяцёра хлопцаў і столькі ж дзяўчат. І была сярод іх Віка Двурэчанская. І вось там кінулася яму ў вочы Віка. Спачатку звярнуў увагу на імя дзяўчыны. Віка — гэта было нешта незвычайнае: ні ў Кавалевічах, ні ў Бабрах, ні ў іншых навакольных вёсках дзяўчат з такім імем не было і ў паміне. І прозвішча — Двурэчанская — таксама ўразіла яго. Не тутэйшае прозвішча! Паэтычнае прозвішча! А пасля ўбачыў, што і сама яна ўся — Віка Двурэчанская — таксама паэтычная. Нечым падобная, дарэчы, на тую ж Тоню Маеўскую. Як і ў Тоні, былі ў яе дзве тоўстыя русявыя касы, на круглым мілавідным тварыку — невялікі, таксама крыху кірпаты нос і надзвычай жывыя, у абрамленні густых і доўгіх веек, вочы. І апраналася Віка гэтак жа, як і Тоня. Прынамсі, запомніў яе Антон у белай кофтачцы і ў чорнай, у складачкі, спадніцы з шырокімі шлейкамі, якія на спіне перакрыжоўваліся. І закахаўся Ан-

тон у Віку на той «бульбе» так, што неўзабаве ні для каго сакрэту ў тым не было, акрамя як для самога.

Недзе праз тыдзень, а мо і праз два, у нядзелю, калі яны, студэнты, мелі, нарэшце, выхадны, пабег Антон чагосьці да цёткі Стэпкі, у якой кватаравалі іхнія дзяўчаты. Ускочыў у першую хату — няма нікога. Памкнуўся ў другую палову — дзверы туды былі адчынены,— а там Віка падлогу мые. У просценькім, без рукавоў, пярэстым халаціку, валасы не заплецены, як звычайна, у дзве касы, а распушчаны па спіне, толькі ля шыі перахоплены касніком, падол халаціка, каб не замачыць, крыху падабраны. Разагнулася Віка над тазікам, угледзела Антона — збянтэжылася. А сам ён збянтэжыўся яшчэ болей. Быццам падгледзеў нешта недазволенае, сарамлівае. Заліўся чырванню, забыўся, чаго і бег сюды, да цёткі Стэпкі.

— А дзе ўсе? — спытаў.

— Паехалі ў Мінск. Каб што цяплейшае з адзежы ўзяць,— усміхнулася Віка.

— А ты?

— А я паленавалася. І ў мяне касцюм шарсцяны ёсць...

Не ведаў Антон, што болей гаварыць, ды Віка выручыла:

— Вы снедалі ўжо? Праходзь, пасядзі трохі, я хуценька дамыю, а тады разам паснедаем, а то мне адной сумна.

Як у яго хапіла рашучасці, і сам не ведае, але паслухаўся, ступіў цераз парог, апусціўся на крэсла. Сядзеў, стараючыся і ў той бок не глядзець, але ўсё ж зіркаў. І тады, як Віка дамывала латку падлогі ля парога, і як выносіла ў першую хату тазік, і як пасля хуценька, на скорую руку, закручвала валасы ў куклу, і як насіла з першай хаты на стол талерку з хлебам, скавародку з яечняй, каструльку з бульбай, жбанок з кіслым малаком...

Потым Віка апранулася, і яны пайшлі на вуліцу. Меркавалі, здаецца, пайсці ў хату да хлопцаў, але апынуліся на сажалцы. Там, на беразе, знайшлі старую лодку-дашчанік, Антон прыладкаваўся грэбці нейкай штыкецінай, і яны амаль да паўдня соў-

галіся пад навіссю пярэстарак-вербаў па зацягнутай раскай, хоць і досыць вялікай копанцы...

З таго дня быццам нанова на свет нарадзіўся Антон. Усё, што ні здаралася, асвятлялася для яго дзівосным святлом, што зыходзіла ад чароўнага воблiку Вікі. Само імя яе гучала для яго музыкай. І калі б хто-небудзь сказаў, што Віка — гэта бліжэйшая родзічка звычайнага вясковага імя Віцця (нават у ягоных Кавалевічах была старая бабуля Віцця),— ён бы біцца палез, што гэта не так.

Дзіўна, але, згадваючы часам сваю колішнюю закаханасць у Віку, Антон міжволі прыпамінаў і сваю былую настаўніцу Людмілу Георгіеўну. Яна прыехала да іх у Кавалевіцкую сямігодку той восенню, калі ён быў ужо выпускніком, і зачаравала ўсіх сямікласнікаў. Людміла Георгіеўна была надзвычай прыгожая. Пра гэта гаварылі ў вёсцы ўсе, нават кабеты. Антону ж яна ўвогуле здавалася прышэльцам з іншага, незямнога свету. У гэтай сваёй няўцямнай, вядома ж, дзіцячай закаханасці Антон дайшоў ажно да «злачынства». Будучы неяк з бацькам у райцэнтры, выпадкова ўгледзеў ля раённай фотамайстэрні выстаўленую пад шклом фотакартку Людмілы Георгіеўны. Тая фотакартка не давала яму спакою ні ўдзень ні ўначы. І аднойчы ён пехатою дапяў да райцэнтра, прасноўдаўся там да вечара, а потым адагнуў сцізорыкам цвік, якім была замацавана рама са шклом, і сарваў са стэнда наклеенае фота. А пасля... А пасля аднойчы ўбачыў, як Людміла Георгіеўна выходзіла з драўлянай будкі, што стаяла за школьнай паветкай з дрывамі. Божа! Дык гэта і яна ходзіць «туды»?! Ягонае «каханне» неяк пакрысе паблякла...

Хлопцы пацвельваліся з яго закаханасці ў Віку Двурэчанскую навыперадкі: то знарок пасылалі яго памагчы дзяўчыне высыпаць кош бульбы ў скрыню, то пачыналі прыгадваць, быццам каля Вікі ўвесь вечар аціраўся вясковы кавалер, пляменнік цёткі Стэпкі Стась. Высыпаць той кош бульбы Антон кідаўся з усіх ног, не зважаючы на посмешкі ўслед, а вось гаворкі пра Стася рэзалі яго без нажа. Бадай штораз пасля вячэры плёўся ён да цёткі Стэпкі, нягледзячы на тое, што і дзяўчаты, і сама цётка Стэпка таксама раз-пораз пачыналі з яго пакеплі-

ваць, ад чаго яму рабілася вельмі балюча. А яшчэ больш балюча было тое, што і Віка зрэдзь часу падтрымлівала тыя кпіны і шчыра смяялася разам з усімі. Ён заракаўся больш ісці туды. Але мінаўся дзень, надыходзіў вечар, і Антон зноў брыў па цёмнай і гразкай вуліцы на другі канец сяла.

Неўзабаве яму «пашанцавала». Побач з вёскай была выпрабавальная машынная станцыя. Той восенню на калгасным полі выпрабоўваўся новы трактар — ці не МТЗ-50? І сталася так, што Віка трапіла на трактар — запісваць колькасць абаротаў, расход паліва і іншыя тэхнічныя паказчыкі. Дзень дзяўчына трэслася на вузкім сядзенні побач з трактарыстам, а ўвечары яшчэ вымушана была рабіць пэўныя разлікі і запаўняць спецыяльныя бланкі ўліку. Не ў прыклад Тоні Маеўскай, Віка Двурэчанская была, відаць, не дужа падкаваная ў матэматыцы, часта дапускала памылкі ў тых нескладаных разліках і аднойчы папрасіла Антона памагчы ёй.

Цяпер ён прападаў у хаце цёткі Стэпкі на «законных падставах», хоць і атрымаў ад хлопцаў мянушку Рахункавод, а Пятрусь Верамей нават спрабаваў накрэмзаць вадэвіль пад назваю «Трактар і каханне». Верамей быў прыгожы і, як усе прыгожыя, занадта самаўпэўнены хлопец. Ён назаляўся Антону не толькі тым ненапісаным вадэвілем, але і пагрозамі ў адзін харошы вечар адбіць у яго Двурэчанскую. І гэтага Антон баяўся больш за ўсё.

Але гэта былі пагрозы, а пакуль што ён, Антон, сядзіць штовечар за сталом з Вікай — запаўняюць разлінееныя стандартныя бланкі радкамі лічбаў. Соладка спяць у другой хаце стомленыя, акалелыя за сіверны, з калючым дажджом дзень дзяўчаты, ціха пасопвае, а часам і па-дзіцячы стогне на печы цётка Стэпка, а яны — Віка і Антон — маракуюць цішком, схіліўшы галовы пад абажурам прыкручанай — каб не надта выгарала газа — лямпы-сямілінейкі.

Ды Верамеевы пагрозы сяды-тады прымалі і рэальныя формы. Аднойчы ён нападпітку прывалокся ў хату да цёткі Стэпкі і пачаў дурэць з дзяўчатамі. Найперш, вядома, здавалася Антону, лез да Вікі: лапаў яе, абдымаў, а то зняпацку ўлепліваў у шчаку і пацалунка. Антон наважыўся ў што б там ні было прызнацца дзяўчыне ў сваіх пачуццях. Цэлы

дзень, возячы ў скрыні бульбу з поля да капцоў на гнядой кабылцы Мурцы, прыдумваў ён тыя словы, якія скажа Двурэчанскай увечары. Словы нібыта і знаходзіліся, але нават сам-насам палохаўся іх і адчуваў, што нізавошта не вымавіць іх уголас перад ёю. І тады ён даўмеўся напісаць ліст. Кароткі, але рашучы. Так, маўляў, і так, ты запаліла ў маім бедным сэрцы пякельны агонь болю і слодычы, непакою і шчасця, трывогі і надзеі, і прашу цябе, дарагая Віка, не пагасі яго сцюдзёным подыхам безнадзейнасці, дай спадзяванку гарэць у тым ласкавым, пяшчотным полымі бясконца. Надта ж кранальна, думалася, і прыгожа, шчымліва атрымалася.

Увечары ён зноў сядзеў з Вікай за сталом у Стэпчынай хаце. Пад ціхае патрэскванне лямпы яны хутка запоўнілі патрэбныя бланкі. Пара было ісці дахаты, а перадаць дзяўчыне ліст Антон усё не рашаўся. Урэшце, не гледзячы на Віку, падсунуў па стале да яе складзены лісток. Віка як здагадалася, што гэта за лісток, бо неяк сарамліва спытала:

— Што гэта?

— Прачытай,— прашаптаў Антон.

— Цяпер? — зноў спытала Віка.

Антон кіўнуў.

Віка разгарнула лісток і хуценька прабегла вачамі акуратна выведзеныя ім тыя некалькі радкоў. Нават пры цьмяным святле лямпы ўбачыў Антон, як залілася Віка чырванню, і ў яго самога сэрца затахкала часта-часта. Аднак ён не паспеў і перадыхнуць, як Віка раптам падхапілася з-за стала і знікла за дзвярамі, што вялі ў другую палову хаты — туды, дзе спалі яе сяброўкі.

Антон няўцямна пасядзеў колькі часу за сталом, пасля паволі падняўся, пайшоў да сцяны, дзе віселі на цвічку яго паліто і шапка, апрануўся, пайшоў зноў да стала, дзьмухнуў у камянок лямпы і ўпоцемку асцярожна падаўся ў сенцы. Тут, у сенцах, яго дагналі таропкія крокі. Ён павярнуўся на тыя крокі, але сказаць што-небудзь не паспеў — дзве цёплыя, мяккія рукі абвіліся вакол яго шыі, шчакою ён адчуў халаднаваты, вільготны дотык вуснаў. Гэтак жа імгненна адскочыўшы ад яго, Віка прашаптала:

— Дурненькі ты, Антон! І сляпы-сляпы! Нічога не бачыш і не разумееш...

Ён хацеў нешта сказаць, памкнуўся ўлавіць нешта ў поцемку сенцаў, але там ужо нічога і нікога не было — рукі крануліся зачыненых дзвярэй. Ён, быццам п'яны, высунуўся на двор, пасля — на вуліцу і пабрыў да хаты, дзе на разасланай на падлозе саломе недзе даўно спалі яго сябрукі-аднакурснікі. У галаве ў яго неадступна стаялі сказаныя Вікаю словы: «Нічога не бачыш і не разумееш...» Чаго ён не бачыць? Чаго не разумее? Не, у тое, што Віка яго кахае, ён не верыў. Нават і думкі такой не дапускаў. Хіба яна можа пакахаць яго, такога нехлямяжага і няўклюднага? Значыць, яна кахае некага іншага, а ён не бачыць? Мусіць, так яно і ёсць... Але ж тады што азначае той адчайны пацалунак? Толькі звычайную ўдзячнасць за адданасць? Чаму ж тады яе рукі былі на яго плячах? Значыць, Віка ўсё-такі нешта мае да яго? Ну, вядома ж!

Ён не заспяваў ад радасці, што перапаўняла яго. Ён жа не які-небудзь Стэпчын пляменнік Стась, а студэнт, хоць і першакурснік, і таму ён не будзе будзіць вёску сваімі спевамі. Аднак жа душа Антонава спявала. З гэтым нямым спевам душы ён прашкробся ў хату, распрануўся і толькі тады адчуў, што змёрз. І тады ён у нейкім гарэзлівым адчаі рашуча разапхнуў хлопцаў і не надта лагодна ўплішчыўся між імі, на нагрэтае месца, і быў засмучаны, што ніхто з іх нават не прачнуўся, каб пабурчаць, пакпіць з яго рахункаводства. Гэ, хай бы прачнуліся, хай бы пакпілі!..

Скончылася тая шчаслівая для яго «бульба», пачаліся заняткі. Ён па-ранейшаму жыў каханнем. На лекцыях стараўся сесці там, адкуль было відаць яе,— ззаду, крыху правей ці лявей. І быў рады, і быў шчаслівы. Калі камсорг курса Таня Буглак ладзіла які-небудзь культпаход ці выезд за горад з лыжамі і калі ў той паход ці выезд запісвалася Віка, Антон таксама быў там. І зноў быў рады, быў шчаслівы. Калі падаралася чым-небудзь памагчы дзяўчыне, выручыць у якой-небудзь дробязі — ён кідаўся, як на паратунак тапельцу. І ўзамен не патрабаваў нічога — наадварот, стараўся рабіць тое неўпрыкмет. Ён быў шчаслівы ўжо ад таго, што Віка прымала гэтую

яго дапамогу ці выручку. Яна адносілася да яго так, як, пэўна, і да іншых аднакурснікаў, аднак жа ён бачыў у кожным яе звароце да яго нейкі свой, асаблівы сэнс і значэнне, і кожнае яе слова, рух, учынак гаварылі яму куды болей, чым тое было на самай справе. Некалькі разоў яны разам выходзілі з вучэбнага корпуса пасля лекцый, і ён праводзіў яе да трамвая — яна была мінчанка і жыла не ў інтэрнаце, а дома, недзе на Старажоўцы. Ні пра што такое яны не гаварылі, ніколі не згадвалі тую «бульбу», ён нават ніколі не рашаўся ўзяць яе пад руку, аднак усё адно вяртаўся ў інтэрнат як са свята — ён пабыў з ёю!

Так скончыўся першы курс, пачаўся другі. Маўклівае, сарамлівае каханне да Вікі па-ранейшаму жыло ў ягоным сэрцы. Антон, як і раней, цешыў сябе яе кірпатым профілем на лекцыях, і яна невідочна прысутнічала ва ўсіх яго думках, мроях, снах, і на нешта, як на цуд, спадзяваўся. Так доўжылася аж да таго навагодняга вечара, які ён правёў разам з іншымі аднакурснікамі ў Вікі на кватэры.

Сустрэць Новы год яны сабраліся амаль той жа кампаніяй, якой былі на сваёй першай «бульбе». Быў там і Пятрусь Верамей, але Антон на тое не надта зважаў. Прынамсі, у застоллі Антон сядзеў поруч з Вікай — леваруч ад яе, а праваруч каля яго сядзеў яе бацька, інжынер станкабудаўнічага завода, і быў Антон на сёмым небе, і тост свой сказаў неўпапад і не надта дасціпна, хоць і абдумваў яго загадзя, і штораз блытаўся, якою рукою трэба карыстацца нажом, а якою — відэльцам, і спатыкаўся, наступаў на мыскі лодачак, калі быў адсунуты да сцяны стол і пачаліся танцы пад радыёлу, і ён танцаваў з Вікай, і шчасліва, да помрачы ў галаве, бянтэжыўся, калі рыльца бутэлькі паказвала, што яму з Вікай трэба цалавацца — хтосьці прапанаваў тую дурную гульню...

А ў дадатак да ўсяго на лесвічнай пляцоўцы, куды ён выйшаў пакурыць (курыць пачаў нядаўна, спачатку забаўляючыся, а пасля пакрысе і ўцягнуўся), да яго далучыўся бацька Вікі. Ён папрасіў у Антона цыгарэтку і, па-змоўніцку падміргнуўшы яму, даверліва сказаў:

— Вы ж, Антон, не прагаварыцеся толькі. Мае

жанчыны катэгарычна забаранілі мне курыць — баяцца за маё сэрца. Кожны дзень, як прыходжу вечарам з работы, учыняюць мне догляд, як на таможні — ці няма ў кішэнях цыгарэт...

Антон курыў, аб чымсьці гаварыў з бацькам Вікі, і зноў быў на сёмым небе.

Разыходзіліся позна. Віка выклікалася праводзіць гасцей. Праводзіны тыя задоўжыліся: усім кагалам дапалі ў нейкім двары да дзіцячых гушкалак і ўсім раптам па-дурному захацелася пагушкацца, потым коўзаліся з ледзяной горкі, потым уздумалі ляпіць снежную бабу і, лепячы, самі качаліся ў снезе, як малыя.

Урэшце яны, Віка і Антон, засталіся ўдваіх. Паволі пайшлі назад — цяпер ён праводзіў яе. У пад'ездзе, ля цёплай батарэі, спыніліся, і Антон, нарэшце, загаварыў аб тым, пра што маўчаў з часу таго «бульбянага» ліста. Віка церабіла кутасы белай вязанай хусткі, накінутай на плечы поверх кароценькай, пэўна, яшчэ школьнай цыгейкавай футэркі, і маўчала. Антон, збянтэжаны, таксама змоўк. Маўчанне задоўжвалася. Нарэшце Віка, узняўшы на яго вочы, прамовіла:

— Не трэба пра гэта, Антон... Я даўно хацела табе сказаць... Застанемся сябрамі...

Прыплёўся ён у інтэрнат пад раніцу. Інтэрнат спаў без задніх ног. Ён ледзь дабудзіўся дзяжурнай, якая таксама моцна спала, скруціўшыся абаранкам на канапцы. Дзверы ў пакоі былі не замкнёны. Ён ціхенька зайшоў, распрануўся і лёг. Аднак сон не ішоў. «Застанемся сябрамі...» Прыгадаў, як той жа Пятрусь Верамей самаўпэўнена гаварыў аднойчы: «Калі дзяўчына прапануе дружбу, значыць, на каханне не спадзявайся. Дружба — гэта безнадзейна...» Не любіў Антон Петруся Верамея, не хацеў бы браць на веру яго слоў, але пагадзіўся з ім. Праўда за ім, за гэтым сэрцаедам. Ён паспеў ужо затлуміць галаву не адной дурніцы, бегаючы на спатканні і ў інтэрнат педінстытута, і ў інтэрнат наргаса, і, мусіць жа, сёе-тое пра дзяўчат ведаў: спадзявацца Антону на што-небудзь няварта.

Аднак жа выкінуць Віку з галавы не мог і, як і раней, часам сам таго не заўважаючы, крадком сачыў за ёю на лекцыях, лавіў яе голас на перапынках,

самотна-ўлюбёным паглядам праводзіў яе, калі яна, шчабечучы з сяброўкамі, лёгка выбягала з аўдыторыі...

Здаецца, нешта нават надламалася ў ім пасля той навагодняй начы. Ён не то паспакайнеў, не то, наадварот, загарэзаваў. Не заседжваўся ў чыталцы, без ранейшага імпэту шрайбаваў на лекцыях канспекты, нават да экзаменаў пачаў рыхтавацца без ранейшай стараннасці. А калі надаралася чарка, калі той жа Верамей падбіваў скінуцца па пяцёрцы перад інтэрнацкімі танцамі, не адмаўляўся, як раней. Раней ад віна не меў асалоды. Наадварот, адчуваў сябе брыдка: як быццам знячэўку захварэў на нейкую незразумелую хваробу, ад якой хацелася хутчэй пазбавіцца. Цяпер жа ўпадабаў, калі пасля чаркі нешта ўнутры як развязвалася. Антон рабіўся гаваркі, бяздумна вясёлы, і ўжо шмат што было яму ўсё роўна. На тых скоках пад прайгравальнік у пакоі адпачынку ён ужо не сядзеў ціхенька, як раней, дзе-небудзь у куце, абыякава гледзячы, як шаруюць падлогу іншыя, а ўжо мог сам камандаваць ля таго ж прайгравальніка, на свой густ выбіраючы пласцінкі, і зусім не бянтэжачыся мог пайсці ў круг з якой-небудзь першакурсніцай ці нават пяцікурсніцай.

Праўда, асаблівай ахвотыківацца ў танга ці падскокваць у факстроце ён не меў, але сяды-тады ўсё ж падахвочваўся — дзеля таго, каб пасля танцаў можна было прытрымаць партнёрку і пастаяць з ёй у цямнейшым кутку калідора ці на лесвічнай пляцоўцы. Бывала, што тая ці іншая дзяўчына яму і падабалася, з некаторымі ён у тым цямнейшым закутку нават цалаваўся, але чамусьці ў душы тыя пацалункі следу не пакідалі: ён усё яшчэ думаў пра Двурэчанскую і ў кожнай, што стаяла з ім на калідоры, бачыў яе.

Ён кахаў Двурэчанскую ўсе пяць гадоў вучобы. Нават апошняй студэнцкай вясной яшчэ мог зусім па-хлапечы крыўдаваць на старасту, што той не здагадаўся і не памясціў яе і яго фотакартак у альбоме побач.

Віка пасля вучобы засталася ў Мінску: пастараўся, пэўна, дзеля гэтага бацька, неяк абгрунтаваўшы патрэбу пакінуць дачку ў сям'і. Ён таксама ўмудрыў-

ся застацца ў Мінску. І па-ранейшаму трызніў Вікаю. Былі вечары, калі Антон, не вытрымліваючы, ехаў ці ішоў туды, дзе яна жыла, і падоўгу, крадком, не надта вытыркаючыся, дзяжурыў ля яе дома ў спадзяванні ўбачыць яе хоць бы здалёк.

Так мінула яшчэ сем гадоў. Дзяўчыны, з якой бы звязваў пэўныя намеры, у яго так і не паяўлялася. А Віка таксама чамусьці не спяшалася замуж, і гэта падагравала яго дзіцячыя спадзяванні.

А потым нечакана тое здарылася. Неяк напаткаў на вуліцы сваю былую аднакурсніцу. Прыпыніліся, успомнілі сяго-таго. Успомнілі і Віку. І тут неўспадзеўкі пачуў Антон, што Віка выйшла замуж.

— І ведаеш, Антон, не хачу нічога благога казаць, але неяк непрыгожа ў яе атрымалася,— расказвала, бы пацвельвалася, аднакурсніца.— Быццам жанатага адбіла, ці што...

Антон ведаў, што яны ніколі не былі сяброўкамі, гэтая іхняя аднакурсніца і Віка, і таму не паверыў, што Віка магла зрабіць нешта брыдкае, аднак жа галоўнаму — што яна выйшла замуж — не паверыць было нельга. «Значыць, усё, не лёс. Значыць, праўду казаў Пятрусь Верамей. Ён хоць і нахабнік, і бабнік, але ўсё ж нешта кумекае...» А гэтая аднакурсніца, якая ўсё яшчэ, дарэчы, хадзіла ў дзеўках і мела мала надзей на іншы паваротак лёсу, яшчэ напаследак і падкалола Антона. Пэўна, заўважыла яна нешта на Антонавым твары, бо раптам гулліва зарагатала і сказала:

— Ой, Антон, я ж і забылася, што ты ўсе пяць гадоў яе любіў! Ды ты і цяпер яе любіш! Прызнайся, любіш? Не чырваней, не чырваней, бачу, што любіш! А я, дурная, гавару такое табе...

Так, тое, чаго баяўся Антон, здарылася: Віка выйшла замуж. Ды, пэўна, у думках ён даўно пагадзіўся з тым, што рана ці позна гэта здарыцца. І Антон, наўздзіў сабе, быццам паспакайнеў — скінуў з сябе трывожлівы цяжар няпэўнага чакання.

А неўзабаве пасля таго і з Рэняй пазнаёміўся...

Забавіўся Антон у гастраноме. Прыйшоў, а там якраз разгружалі машыну з хлебам. Парашыў пачакаць і купіць свежага: ведаў ужо, што вячэрняя

машына заўсёды прывозіць яшчэ зусім цёплыя, з мяккай скарынкаю боханы хлеба і батоны. Потым даўгавата прастаяў у чарзе да касы: чамусьці з чатырох кас працавала толькі адна. Але ён не злаваўся, як іншыя. Моўчкі пасоўваўся ў той чарзе, слухаў незадаволеныя, бурклівыя словы жанчын, якім заўсёды няма часу, а думаў пра іншае...

Аднаго разу надвячоркам выйшаў ён прайсціся перад сном. Забрыў па праспекце ажно пад парк Чалюскінцаў. І там, каля цяперашняй «Тысячы дробязей», нечакана напаткаў Верамея — той кудысьці вельмі спяшаўся. Антон, быццам яго штосьці падштурхнула, гукнуў:

— Пятрусь! Куды бяжыш?

Верамей спыніўся, падаў Антону руку:

— Здароў! Бягу, пакуль не позна. А ты не спяшаешся? Тады пайшлі. Пасля пагаворым.

— Дык а куды ты?

— Я ж кажу: бягу, пакуль не зачынілі!

У магазіне Пятрусь укінуў у партфель некалькі пляшак чырвонага алжырскага (акрамя яго, там ужо нічога не прадавалася), і яны зноў апынуліся на вуліцы, прыпыніліся.

— Слухай, а ты куды ці адкуль тэпаеш? — спытаў Верамей.— Мо зазірнеш да мяне?

— А што ў цябе?

— Ды так. Кампанія. Ёсць некалькі чувіх...

— А ты што, хіба не жанаты? Здаецца ж...

— Даўно вольны казак! То пайшлі? Якраз да пары будзеш...

У аднапакаёвай кватэры было накурана і прыцемна — гарэлі толькі свечкі. Паціху, жаласліва плакаўся магнітафон. На раскладзеным дыване-ложку і на крэслах па кутках, зусім упоцемку, адно свяціліся агеньчыкі цыгарэт, сядзелі хлопцы і дзяўчаты. Пятрусь пазнаёміў з імі і Антона. Ён не запомніў, як і каго завуць, за выключэннем адной дзяўчыны — чарнявай, у шэрай вязанай, у абцяжку, сукенцы. Дзяўчына сядзела ля дзвярэй. Яна першай падала Антону руку, назваўшыся Рэняй. Антон пасля і сеў каля яе — між ёй і магнітафонам, на маленькі чырвоны табурэцік.

Пятрусь раскаркаваў бутэлькі, наліў у шклянкі. Пілі без тостаў, моўчкі, кожны сам па сабе. Потым

Верамей пакорпаўся з магнітафонам, паставіў нешта класічнае — ці не Грыга, і пад сціпаную — ад чаго яна зрабілася яшчэ больш трывожлівай — мелодыю пачаў чытаць вершы. Антон спачатку ўслухоўваўся, намагаўся ўлоўліваць словы, спрабуючы зразумець, чые гэта вершы, хто б мог так пісаць, і толькі пасля даўмеўся, што Верамей чытае свае ўласныя крэмзы — прыгадаў, што ён і студэнтам нешта пісаў, нават колькі разоў друкаваўся.

Вершы былі бездапаможныя, сяк-так зрыфмаваныя, а то і ўвогуле без рыфмаў і без рытму, і думак у іх было — кот наплакаў, аднак жа спачатку, падалося Антону, яны чымсьці кранալі. Ад віна крыху кружылася ў галаве, плыла ў пакой з жывой скрынкі шчымлівая мелодыя, чытаў Пятрусь пранікнёна, нейкім глухаватым, надтрэснутым голасам, зрэдзь часу збіваўся на трагічны шэпт, і разам з усім гэтым на душу, здавалася, сыходзіў нейкі трывожны, трымклівы спакой.

Вершы былі пра тое, як кагосьці паступова падточвае хвароба веку і як неўзабаве гэтага кагосьці «выносяць нагамі ўперад»; пра тое, як сумна пачувае сябе чалавек на адзіноце, калі «душу сваю да другой душы нельга прытуліць»; пра тое, як у халодную мокрую руку старога халасцяка, які брыдзе пад дажджом па вуліцы, тыцнулася маленькая і гарачая далонька, і дзіцячы галасок сказаў: «Дзядзька, ты смелы? Будзь маім таткам...» Дзіўна, аднак жа ад усяго гэтага рабілася шкада сябе. Антону падалося нават, што яго агортвае жах — быццам апынуўся ён адзін сярод бязмежнага поля ў навальніцу: шалее вецер, хвошча, сячэ дождж, жахаюць маланкі, а вакол — нічога і нікога...

А потым нечакана яму зрабілася сумна, і ён пашкадаваў, што паддаўся на ўгаворы, прыйшоў сюды. Ён пасядзеў яшчэ колькі хвілін, а пасля падняўся і ціха выйшаў у калідор. Бачыў краем вока, што на гэта ніхто не звярнуў увагі. Тады ён гэтак жа ціха, стараючыся не рыпнуць дзвярамі, выйшаў з кватэры.

На лесвіцы яго дагнала чарнявая суседка — Рэня. Бліснуўшы на Антона вачамі (ён толькі тут заўважыў, якія ў яе вялікія, з дзіўнаватым паглядам во-

чы), яна знячэўку амаль па-сяброўску, быццам яны былі даўнія знаёмыя, сказала з папрокам:

— Што ж вы мне не шапнулі, што ўцякаеце?

Антон сумеўся, прамовіў:

— А хіба вам таксама нецікава?

Рэня ўсміхнулася:

— Абрыдла да чорцікаў! Адно і тое ж!

Ён хацеў сказаць, што яна, напэўна, бывае тут часта, калі вось так гаворыць, але прамаўчаў.

Яны выйшлі на вуліцу. Антона штосьці стрымлівала, каб проста развітацца і пайсці. Падалося, што і Рэня як не рашаецца развітвацца. Каб нешта сказаць, спытаў:

— Вам куды?

Рэня махнула рукой:

— Направа. На Якуба Коласа.

— То пойдзем.

— А вам хіба таксама туды?

— Мне ўсё роўна.

— Ну, то калі так...

Пасля Антон сам з сябе здзіўляўся, як тое атрымалася, што ён тады затрымаўся з Рэняй далёка за поўнач: і нахадзіліся яны ўдосталь па нейкім ціхім завулку сюды-туды, і насядзеліся на лаўцы ў двары яе дома. Рэня расказвала пра сябе: што скончыла політэхнічны інстытут і робіць інжынерам у будтрэсце, што ў бацькоў яна адна, што бацька працуе ў міністэрстве, а маці — хатняя гаспадыня... Антон ва ўладзе нейкай незразумелай, аднак жа прыемнай, крыху хмельнай шчырасці гаварыў пра сябе і ці не ўпершыню адчуваў нейкую незвычайную ўзбуджанасць і, што асабліва хвалявала, рашучасць...

Развітваючыся, дамовіліся сустрэцца...

Антон выйшаў урэшце з гастранома. Аднак дадому не заспяшаўся. На вуліцы прыпыніўся, апусціў долу торбу з трыма бутэлькамі малака, з паляніцай і палавінкай арлоўскага, дастаў цыгарэту, закурыў. Пасля паволі пабрыў уздоўж вуліцы. Пабрыў без пэўнага намеру. Згадкі як растрывожылі яго.

Вечар быў ціхі, бязветраны і, нягледзячы на ка-

стрычніцкую пару, цёплы. Маладыя ліпкі і каштаны, пасаджаныя абапал тратуара, ужо амаль паскідалі лісце, і яно, пакурчанае, пабурэлае, хрумстка шаргацела пад чаравікамі — быццам Антон ішоў не тратуарам, а сухой лясной сцяжынай. І пад гэтае хрумсткае шаргаценне, якое сяды-тады прыглушалася, калі вуліцаю праязджаў тралейбус ці прашмыгвала вёрткае таксі, ціха, памяркоўна думалася...

Назаўтра ён зноў сустрэўся з Рэняй. Убачыў яе і са здзіўленнем адзначыў сам сабе, што рады яе прыходу на ўмоўленае месца, і зноў адчуў, як у душы азвалася незразумелая ўчарашняя рашучасць. З Вікай некалі ён не ведаў, як паводзіць сябе, што рабіць і пра што гаварыць, а тут адразу абняў Рэню за плечы рукою, прапанаваў:

— Не будзем арыгінальнічаць і пойдзем у кіно?

У кіно яны да канца не дaседзелі, выйшлі і зноў, як учора, доўга хадзілі па вуліцах і завулках паблізу яе дома. Хадзілі і размаўлялі. Гаварыла больш Рэня, расказвала пра сваіх сябровак па аддзеле ў трэсце, пра іх усеаддзельскае захапленне. Гаварыла, што ім пашанцавала на начальніка — чалавек ён хоць і не малады, але маладых разумее, падтрымлівае і ў крыўду не дае, а галоўнае — ці не сам з'яўляецца завадатарам амаль штотыднёвых выездаў за горад, часам досыць далёкіх; што за апошнія два-тры гады яны ўсім аддзелам аб'ездзілі і аблазілі ўсю Міншчыну і нямала куткоў Гродзеншчыны і Брэстчыны, не прапусціўшы там ніводнага больш-менш цікавага помніка дойлідства — царквы, касцёла, рэшткаў замкаў і палацавых сядзіб.

Яны ўжо былі на «ты», і Рэня, тулячыся да яго, крыху быццам прыгінаючыся пад цяжарам яго рукі, з непадробным захапленнем гаварыла ледзь не ў грудзі яму:

— Ты ў Сынкавічах не быў?! І не бачыў Сынкавіцкай царквы? Ой, Антон, абавязкова з'ездзі! Гэта — цуд! Гэта — казка!

Антон сарамліва адмоўчваўся. У яго канторы па гандлёвай рэкламе ніхто, здаецца, ніякім хобі не захапляўся.

— А Мірскі замак? Таксама не быў там? І ў Гальшанах не быў? Ну, Антон, як жа так? Няўжо і пад Мінскам, у Прылуках, замка не бачыў?!

Голас яе гучаў ужо ледзьве не дакорам ці папрокам, і Антон заліваўся чырваннню, у думках пакепліваючы са сваёй цемнаты і недасведчанасці.

Развіталіся, як і мінулым разам, пазнавата, дамовіўшыся заўтра ж сустрэцца зноў. Рэня сама дапісала ў ягоны блакнот нумар свайго тэлефона, дазволіўшы званіць у любы час.

І Антон званіў, і яны сустракаліся, хадзілі ў кіно, некалькі разоў пабывалі ў тэатры і на нейкіх выстаўках, двойчы ці тройчы — у рэстаране. Асаблівай радасці сустрэчы гэтыя Антону ўжо не прыносілі, але з незразумелай упартасцю і рашучасцю ён званіў Рэні зноў і зноў.

І аднойчы, недзе на другім месяцы іх знаёмства, Антон, правёўшы Рэню, як заўсёды, да пад'езда яе дома, нечакана прытрымаў яе за руку і... прапанаваў ёй выходзіць за яго замуж. Рэня, колькі хвілін паўзіраўшыся ў Антона сваімі і без таго здзіўленымі вачамі, таксама нечакана — для яго — парывіста ўткнулася яму ў грудзі тварам, і ён у нейкай утрапёнай рашучасці ці асуджанасці абняў яе за цёплыя падатлівыя плечы. Яна цёпла і цяжка дыхала яму ў грудзі, а ў яго зусім напраўду кружылася галава, і, быццам баючыся ўпасці, Антон усё крапчэй і крапчэй абнімаў Рэню — як трымаўся за яе.

Урэшце яна ціхенька вызвалілася з яго абдымкаў, падняла галаву і прашаптала:

— Пойдзем да нас... Мае дома...

Ён нават не дадумаўся сказаць, што мо пазнавата — паплёўся, як п'яны, за ёю. А Рэня, ідучы па прыступках наперадзе, сцішана, неяк дзіўнавата пасміхваючыся, шаптала:

— Ты не бянтэжся. Яны ў мяне добрыя... Асабліва тата... Ты яго палюбіш...

На пляцоўцы яна дастала з сумачкі ключ, але, зірнуўшы раптам на Антона, зноў ціха, з нейкім захлёбваннем засмяялася і схавала ключ, сказаўшы:

— Мы пазвонім, а самі схаваемся, добра? І пазвонім доўга-доўга, хай яны напалохаюцца, выскачаць у калідор, а мы тады — скок на парог!..

Так усё і атрымалася. Пасля доўгага залівістага званка дзверы шырока расчыніліся, і ў палосе яркага святла перад Антонам і Рэняй паўсталі Паліна Іосіфаўна ў халаце, Іван Мацвеевіч у піжаме і белы, пушысты, на кароткіх лапках сабачка — усе трое калі не напалоханыя, дык здзіўленыя.

— Рэня, што гэта значыць? Хто за табой гоніцца? — Гэта сказала маці, Паліна Іосіфаўна.

Рэня, нічога не гаворачы, скокнула за Антона, падштурхнула яго ў спіну, піхнула цераз парог, следам за ім зайшла і сама, зачыніла дзверы і тут жа, у пярэднім пакоі, без пярэдыху выпаліла:

— Мама, тата, знаёмцеся — гэта Антон, мы парашылі пажаніцца!

Бацька кракتануў, неяк дзіўна, падалося Антону, ухмыльнуўся, падаў яму руку, а маці раптам загаласіла і, мінаваўшы Антона, кінулася да Рэні, зачмокала яе ў шчокі, у лоб, у валасы...

Потым яны сядзелі на кухні — цешча, тады яшчэ будучая цешча, распарадзілася па познім часе накрыць стол там,— пілі сухое віно і нешта гаварылі, і Паліна Іосіфаўна называла Антона «зяцёк», а ён бянтэжыўся і чырванеў, а Іван Мацвеевіч усё маўчаў, не сказаў, пэўна, ні слова за ўвесь вечар. А потым яны, Антон і Рэня, апынуліся ўдваіх у яе, Рэніным пакоі. Яна пасадзіла яго на тахту, а сама прылегла на ёй, паклаўшы галаву Антону на калені, і паказвала яму вялікія і тоўстыя альбомы з фотакарткамі. Гарталі яны тыя альбомы доўга, ажно пакуль Паліна Іосіфаўна не ўсунула ў дзверы галаву і, пасміхнуўшыся, не сказала:

— Пара, зяцёк, дадому... Хоць ты і зяцёк, але заставацца тут... Пасля, як распішацеся...

І Антону зноў зрабілася страшэнна няёмка, як і нядаўна, перад вячэрай, калі ён паспрабаваў памыць рукі на кухні, а Паліна Іосіфаўна, лёгенька ўзяўшы яго пад руку, падштурхнула да дзвярэй ванны:

— Рукі, зяцёк, трэба мыць у ванным пакоі, а не на кухні...

І, пэўна, тады яшчэ, у першыя хвіліны знаёмства, неўзлюбіў Антон цешчы. Ну хоць бы за тое, што не прамаўчала, калі ён і без таго не ведаў, як ступіць і што сказаць, напомніла, што рукі трэба мыць у ванне; ну хоць бы за той пошленькі намёк, што

толькі пасля загса яму можна будзе застацца ў Рэні...

Але, мусіць, гэта ён цяпер думае так. А тады быў як у хмельным тумане і нічога, апроч добрага, не заўважаў. А добра і радасна было яму і ад Рэнінага прыцішанага, нейкага груднога смеху, і ад падкрэслена пяшчотнага і ласкавага голасу Паліны Іосіфаўны, і нават ад маўчання Івана Мацвеевіча,— і плёўся ён па аціхлых, апусцелых ранішніх вуліцах дахаты, ачмурэлы ад усяго гэтага...

Антон за гэтымі думкамі-згадкамі не прыкмеціў, як дайшоў да канца вуліцы. Тут зусім нядаўна пазносілі «прыватны сектар», паўсюль валяліся кучы папатрушчаных штыкетнікаў, і дзеці на чыімсьці котлішчы, ля паўразбуранай грубкі, клалі вогнішча. Падумаў, што, можа, сярод гарэзаў-падшыванцаў і яго Аляксей, збочыў і напрасткі падаўся да вогнішча і яшчэ здалёк убачыў у водсветах полымя Аляксея. Антон не стаў клікаць яго, а падышоў да агню. Дзеці, угледзеўшы яго, насцярожыліся, чакалі, пэўна, што дзядзька будзе сварыцца, але ён толькі злёгку паўшчуваў іх, наказаўшы патушыць вогнішча, калі пойдуць дадому. Не сварыўся ён і на Аляксея, які запэцкаўся з галавы да ног. Проста сказаў:

— Пайшлі, Аляксей, позна ўжо.

Дома акрамя Рэні была ўжо і цешча. Яны ўдваіх парадкавалі на кухні яблыкі: мылі, перабіралі, крышылі — збіраліся закатваць у слоікі.

— Дзе ты так доўга хадзіў? — азвалася да Антона Рэня.

— Паўночніка нашага шукаў. Надумаліся вогнішча класці, там, дзе хаты пазносілі,— сказаў ён памяркоўна.

Рэня выйшла ў пярэдні пакой, пачала калашмаціць Аляксея:

— У комін ты лазіў, ці што? Паглядзі, што зрабіў з куртачкай! У чым заўтра ў школу пойдзеш? Скідай ды марш у ванну! — Даўшы сыну плескача, накінулася на Антона: — А ты прывёў і рады?! Адлупцаваў бы як бацька, каб дзесятаму заказаў!

Антон прамаўчаў. Скінуўшы плашч, ён пайшоў

па кухню, выняў з торбы малако і хлеб. Спытаў у цешчы:

— А Іван Мацвеевіч дзе?

— Там застаўся. Кажа, яшчэ не холадна, дык перапачуе. Яблыкі папільнуе.

— Яшчэ сядзяць на яблыні?

— На адной толькі. На пепінцы... Ты ж во не пад'едзеш, не паглядзіш нават!

— Часу ўсё няма,— буркнуў Антон.

— Каб хацеў, быў бы той час,— адказала цешча.— Ні табе, ні Рэні не ў галаве. Нам з бацькам тое толькі і трэба...

Абрыдлі Антону такія гаворкі. І дача агоркла. Праз яе ні свята, ні выхаднога дня: то грады капаць, то палівань, то якая іншая трасца! І ўсё яму, Антону! Цешчы — спіна баліць, рыдлёўкі ў рукі не возьме, у цесця — дыхавіца, у Рэні — ціск, галавакружэнне, адзін ён заўсёды здаровы. Тыдзень нейкі не быў, дык і папрокі ўжо!..

Але спрачацца не стаў. Цешчу сваю, шаноўную Паліну Іосіфаўну, ён, дзякаваць богу, ведае. З ёй лепш прамаўчаць альбо пагадзіцца, чым запярэчыць.

Выходзячы з кухні, адно сказаў:

— Вы ж, Паліна Іосіфаўна, нічога не гаварылі. Калі што трэба, дык я заўтра пад'еду, калі на тое...

— А быццам ты сам не ведаеш, што трэба! — гукнула ўслед цешча.

На гэтыя яе словы Антон не азваўся. Пайшоў у пакой, уключыў бра, лёг на тахту, падкінуўшы пад галаву ясік, і ўзяў у рукі часопіс. Але, прачытаўшы старонку-другую, апусціў часопіс на грудзі — галаве на ясіку было занадта нізка, млелі рукі. Хвіліну паляжаўшы так, з прыемнасцю слухаючы ўнутраным чуццём, як пакрысе адыходзяць замлелыя рукі, Антон перакуліўся на жывот, абапёрся на локці, а часопіс паклаў на ясік — апошнім часам ён чытаў што-небудзь менавіта так.

Нечакана аповесць захапіла яго. Расказвалася ў ёй пра маладога інжынера, які, пакінуўшы ў сталіцы жонку з малой дачкой, махнуў на Камчатку — за два-тры гады «накалыміць» на кааператыўную кватэру і на «Жыгулі»; пра тое, як грошы паступова засланялі яму ўсё іншае, у тым ліку жонку і дачку.

Аповесць была напісана жыва, героі яе размаўлялі надта ж разумна і дасціпна. Тым не менш Антон праз некаторы час спаймаў сябе на тым, што прабягае вачамі радкі машынальна, не вельмі ўдумваючыся ў іх сэнс. Некалькі разоў ён спахопліваўся, вяртаўся вачамі на абзац-другі назад, пакуль урэшце не адсунуў часопіс убок і не ўткнуўся носам у ясік...

Напярэдадні дзяржаўных экзаменаў было ў іх размеркаванне. Антон, здаецца, не дужа хваляваўся, чакаючы сваёй чаргі. Якая розніца, куды пашлюць ці накіруюць? Пэўных планаў у яго, здаецца, не было. Ведаў, што некаторых пакідалі ў горадзе, але для гэтага патрэбны былі важкія прычыны: альбо быць круглым выдатнікам і мецiць у аспірантуру, альбо мець адпаведныя сямейныя абставіны — сёй-той, найперш дзяўчаты, паспеў абзавесціся да пятага курса сям'ёй. Такіх, звычайна, і на размеркаванне выклікалі першымі. Антон жа не значыўся ні сярод выдатнікаў, ні сярод жанацікаў, ён быў у той асноўнай масе, у той большасці, што цярпліва чакала пад дзвярамі сваёй чаргі. А тут можна было чакаць толькі аднаго: прапановы ехаць у вёску і настаўнічаць. Адно, што дазвалялася выбіраць, дык гэта, бадай, вобласць. Для сябе ён даўно парашыў, што паедзе ў любую вобласць, акрамя сваёй Міншчыны: здавалася, што недзе далей будзе ўсё ж цікавей, чым паблізу ад свайго бацькоўскага кута.

Прапанавалі яму Віцебшчыну. Адразу ж, як толькі падышоў Антон да стала, за якім сядзелі члены камісіі, нехта за тым сталом лагодна, усміхаючыся, прамовіў:

— Ну што, Антон Пятровіч, махнём на Віцебшчыну?

Антон таксама ўсміхнуўся:

— Можна і на Віцебшчыну.

На гэтым, уласна, і скончылася размеркаванне, і Антону ажно падалося смешным, што яшчэ хвіліну назад, стоячы пад дзвярамі гэтай аўдыторыі, ён усё ж крыху хваляваўся — прынамсі, уяўляў, што ўсё тое будзе неяк іначай, больш урачыста, урэшце, ці што...

Але на Віцебшчыну Антон не паехаў. Сталася

тое быццам паміма яго волі, хоць яшчэ з трэцяга курса насіў у сабе думку аб тым, каб нейкім чынам застацца пасля вучобы ў Мінску. Тады, на трэцім курсе, ён некаторы час жыў з пяцікурснікамі. Аднойчы да кагосьці з іх прыязджаў бацька. Даведаўшыся, што сын атрымаў накіраванне некуды на Палессе, бацька суцешыў яго:

— Не бядуй, сынку, хай! Ты на паперку тую не зважай. Не едзь, і ўсё тут! Цяпер судзіць за гэта не стануць. А калі там цябе не будуць шукаць, дык і зусім ціха будзе. Уладкоўвайся ў Мінску, калі можаш...

Запомніліся Антону тыя словы, хоць нікому, нават і самому сабе, не надта прызнаваўся ў тым. Наадварот, пры нагодзе любіў сказаць хлопцам, што бачыць сябе гэтакім Лабановічам у ціхай, далёкай ад торных дарог вёсачцы, акружаным усеагульнай (у тым ліку і дзявоцкай) увагаю і пашанаю.

Але калі раптам прыйшоў час ехаць у тую вёсачку, дык начыста зніклі мроі пра яе, і надта ж захацелася бачыць сябе і надалей на асфальце, сярод камяніц і машыннага віравання: ён тут прывык ужо, ён тут свой, ён і сам не заўважыў, як пакрысе прырос душою да ўсяго. Мала што ён нарадзіўся ў нейкіх там Кавалевічах! Месца, дзе паявіцца на свет, выбіраў не сам ён. Вялікая сейбітка-прырода там ураніла яго семя. А сюды, у Мінск, ён прыехаў сам! Тут пачалося яго свядомае жыццё. Дык чаму ж ён павінен вяртацца зноў туды, у «несвядомасць»? Там ён нічога не пакінуў і нікому пакуль што, здаецца, нічога не вінен, бо маці і бацька яшчэ ў сіле...

Няхай сабе сёння гэта гучыць наіўна, няхай сёння ён можа пасміхнуцца з гэтага, а тады... Тады развагі гэтыя выглядалі надта ж пераканальна, і сам сабе Антон здаваўся вялікім разумнікам.

Мусіць, падагравала яго жаданне застацца ў Мінску і тое, што тут заставалася Віка...

І, атрымаўшы дыплом, Антон не паехаў на Віцебшчыну. Спачатку, як і належала, паехаў дахаты, у Кавалевічы. З месяц пажыраваў у бацькавай хаце, а пасля зноў махнуў у Мінск. Спыніўся па-ранейшаму ў інтэрнаце: і камендант, і кастелянка — сварлівая, але добрая душа цётка Дуся — сустрэлі, як роднага, нягледзячы на тое, што будынак ажно

кішэў ад завочнікаў. Пераначаваўшы, пайшоў шукаць работу. І ўвечары вяртаўся ў інтэрнат... карэктарам газеты.

Уранку, калі выходзіў на вуліцу, нікому б веры не даў, што такое можа быць. Зайшоў у рэдакцыю без аніякае надзеі, і на табе — патрэбны карэктар!

Адказны сакратар, да якога Антон нясмела пастукаўся ў кабінет, секануў адразу:

— Мову ведаеш? Філфак канчаў? Карэктарам пойдзеш?

Вымавіць што-небудзь Антон не мог, толькі ківаў галавой.

— Пайшлі да рэдактара!

У рэдактара гаворка была даўжэйшая. Выслухаўшы сакратара, рэдактар — кругленькі, тоўсценькі, лысаваты, з добрымі, хоць крыху і лупаватымі вачамі — зірнуў на Антона, быццам здзівіўшыся:

— Гэта ж дзявочая пасада, карэктар... Не баішся трапіць у жаночую каманду?

Антон і тут адно толькі высільваўся ўсміхнуцца.

— А мо і добра туды хлопца падкінуць, га? — сказаў рэдактар сакратару, а потым зноў вылупіўся на Антона.— Ад накіравання ўвільнуць хочаш? Ліха з табой! Мы нічога не чулі і не ведалі! Але — каб без прэтэнзій! Жывеш дзе?

Антон разгубіўся. Ледзь не ляпнуў, што — пакуль у інтэрнаце, аднак як хто падвучыў:

— Знайшоў... пакойчык... на Грушаўцы...

Рэдактар кіўнуў сакратару:

— Бяры з выпрабавальным тэрмінам, а там паглядзім...

Праз колькі хвілін сакратар завёў Антона ў карэктарскі пакой, пазнаёміў з «жаночай камандай»: з Валяй і Зінай, з Эмай Антонаўнай і Аленай Міхайлаўнай.

— Алена Міхайлаўна звальняецца, вось і падменіш яе. А пакуль яна тут, падвучыся трохі, пазнаёмся, што і як,— сказаў сакратар і пайшоў.

Антон разгубіўся. Не ведаючы, куды прыткнуцца, колькі хвілін ніякавата таптаўся каля дзвярэй. Валя — бялявая, сімпатычная таўстуха і Зіна — хударлявая, доўгая, як жэрдка, што кідалася ў вочы нават і тады, калі яна сядзела, раз-пораз азіраліся на яго, і Антон яшчэ больш бянтэжыўся, ажно па-

куль Эма Антонаўна, адарваўшыся ад газетнага ліста, не павярнулася да яго і не сказала:

— Вас Антонам зваць? Дык вось што, Антон. Не стойце там, бярыце крэсла, і сядайце насупраць, і глядзіце, як мы тут блох ловім. А калі ёсць ахвота, дык падчытайце мне во гэтую заметку... Валя, можаш збегаць сабе ў магазін, а вы, Антон, сядайце на яе месца...

Ён прабыў у карэктарскай ажно да вечара, нават без абеду застаўся: спачатку падчытваў Эме Антонаўне, пасля — Алене Міхайлаўне, счытваў матэрыялы па абзацах з Валяй і Зінай, урэшце яму нават даверылі невялікую кантрольную вычытку. На тое, каб схадзіць у сталоўку, у той мітульзе-спешцы проста забыўся. Ды і не да абеду было яму. Усё не мог ачомацца ад радасці, што проста-такі перапаўняла яго. Гэта ж трэба: так неспадзявана і так лёгка вырашылася для яго тое, што яшчэ ўчора — не, нават сёння ўранку — уяўлялася нязбытным, прынамсі — малаверагодным. А тут яшчэ і Эма Антонаўна, і Алена Міхайлаўна як не навыперадкі адна перад адной пахвальвалі яго: што ён і падчытвае добра — не глытае складоў і канчаткаў, не захлёбваецца ад спешкі, што і радкі адшуквае хутка, быццам яму тое не ў навіну, што і канчаткі назоўнікаў не блытае. І сам ён адчуваў, што ў яго сёе-тое атрымліваецца, што немудроную карэктарскую навуку схоплівае лёгка.

Ён бы, пэўна, праседзеў у карэктарскай да канца, пакуль бы газету не падпісалі пад прэс (упершыню чуў, што газету падпісваюць двойчы — пад прэс і ў свет), але Эма Антонаўна, як спахапіўшыся, сказала яму ўрэшце, ужо звяртаючыся па-свойску на «ты»:

— А ты ж, хлопец, здаецца, і не абедаў? Ай-яй-яй, якія мы харошыя! Чатыры жанчыны, а ледзь не замарылі хлопца голадам! Валя, хопіць табе мурлыкаць па тэлефоне і выскаляцца, сядай на сваё месца, а ты, Антон, ідзі. Ідзі, ідзі, начытаешся яшчэ! Не ўсё ж адразу! — І ледзь не сілком выпхнула яго за дзверы.

Вось так, можна сказаць — з першага дня, прыжыўся ён у карэктарскай, і неўзабаве як забыўся на тое, што калісьці меркаваў быць настаўнікам, пра-

цаваць у вясковай школцы (накшталт Кавалевіцкай васьмігодкі — драўлянай даўгаватай будыніны ў абсадзе ўжо высакаватых, пасляваеннай пасадкі таполяў) і прыязджаць адтуль раз у год на шумную сустрэчу з аднакурснікамі і аднакурсніцамі — такімі ж, як і сам, вясковымі настаўнікамі і настаўніцамі...

Зайшла ў пакой Рэня, сказала:

— Ты што, заснуў?

Антон падняў галаву, азваўся:

— Не, чытаў трохі, ды рукі замлелі.

— Вячэраць будзеш?

Ён скінуў ногі на падлогу, сеў.

— Нешта трэба было б укусіць.

Рэня чамусьці была ў настроі.

— То ідзі, чаю папі, кілбаса ёсць, сыр... Мы нічога такога не рабілі, з яблыкамі заняліся...

— Дык і добра. Я не надта і галодны.

Антон сказаў Рэні няпраўду. Калі яна зайшла ў пакой, ён драмаў. Дрымоту не прагнала і вячэра. Ён без вялікае ахвоты выпіў шклянку не надта гарачага чаю, распрануўся і лёг — каб ужо не перабіваць сну. Але, як знарок, сон не прыходзіў, ляжаў, круціўся з боку на бок...

Кватэру ён таксама неўзабаве знайшоў. Паблізу ад той Грушаўкі, якая тады, калі стаяў перад рэдактарам, міжволі сарвалася з языка.

Як адшукаць тую кватэру, параіла яму Эма Антонаўна.

— Пайдзі ты, хлопец, на Сельгаспасёлак ці на Грушаўку. Там лягчэй знойдзеш. Дзе-небудзь ля калонкі папытай у жанчын, дык яны і падкажуць, хто можа ўзяць на кватэру. Там усе адно аднаго ведаюць...

Ён пайшоў у бок Грушаўкі — балазе, гэта было бліжэй ад інтэрната, у якім ён усё яшчэ аціраўся. З Маскоўскай, не даходзячы да пеніцылінавага завода, павярнуў направа, выйшаў на вуліцу Фабрыцыуса, а з яе нечакана трапіў на... Другі Рыгораўскі завулак. Прачытаўшы на доме гэтую назву, усміхнуўся: во якія дзівосы, аказваецца, ёсць у Мін-

ску. Рыгораўскі ды яшчэ Другі! Значыцца, недзе ёсць ці быў і Першы?!.

Тут ужо амаль нішто не нагадвала горада, хоць да вакзала адсюль нейкіх дзесяць хвілін хады. Завулак быў не заасфальтаваны і нават не забрукаваны, відно было, што і машыны праходзяць па ім рэдка — ён другім канцом упіраўся ў чыгунку, адно ўздоўж платоў справа і злева былі пракладзены вузкія стужачкі асфальту — тратуары. За платамі, часам занадта высокімі і шчыльнымі, стаялі звычайныя, бы зусім вясковыя, хаты, некаторыя рубленыя нават не ў чысты вугал і не ашаляваныя. У платах былі брамкі і форткі. Але куды, у якую з іх пастукацца?

Антон прайшоўся завулкам з канца ў канец раз, другі — нідзе не было ні душы. Ніхто не выходзіў і да калонкі, якая тырчэла сярод вузенькага тратуара бліжэй да гэтага — ад вуліцы Фабрыцыуса — канца. Антон, у каторы ўжо раз дайшоўшы да тае калонкі, прыпыніўся, пашкроб патыліцу: вось і рабі што хочаш! Пайсці куды далей, за чыгунку, на самую Грушаўку? А мо пастукацца вось у гэтыя варотцы, што насупраць калонкі?

Ён быў зрабіў ужо крок-другі да тых варотцаў, збітых з габляваных, шчыльна падагнаных адна да адной дошак, як угледзеў, што на супрацьлеглым баку на тратуар, рыпнуўшы веснiцамі, высунулася бабуля і, падалося, паўзіралася ў яго. Антон крутнуўся і рашуча пакіраваў да яе.

— Добры дзень,— сказаў ён, падышоўшы.

— Дзень добры, дзень добры,— адразу ж адгукнулася старая.— Шукаеце каго? Гэта ж я ў акно глядзела, дык бачу — вы раз прайшлі, другі, трэці... Дык і падумала: мо шукае каго чалавек, а спытацца няма ў каго...

— Кватэру шукаю,— адразу ж выклаў карты і Антон.— Мо падкажаце, да каго тут можна папрасіцца?

— А сабе ж ці каму другому? — бабуля пільней паўзіралася ў яго сваімі калісьці сінімі, а цяпер выцвілымі, зусім празрыстымі вачамі.

— Сабе ж, каму яшчэ!

— А не жанаты яшчэ?

— Не,— усміхнуўся Антон.— І не думаю пра тое.

— А дзе робіш што? — старая ўсё ўчыняла свой допыт.

Антон не ведаў, дзеля чаго ёй усё гэта трэба ведаць, і таму ці не зазлаваў крыху, аднак сказаў:

— Скончыў вучобу толькі што, узялі на работу ў рэдакцыю газеты.

Гэтыя словы на старую не зрабілі ніякага ўражання, яна як прапусціла іх міма вушэй, і зноўку спытала:

— А адкуль сам будзеш? З сяла, пэўна ж? Бацька ці ёсць?

Антон, усё яшчэ не здагадваючыся, навошта старой ведаць гэта, адказаў:

— У вёсцы рос. Там і цяпер бацька, маці, сёстры.

— Ну, а чарку бярэш ужо? Курыш?

Антон, урэшце, засердаваў:

— І пра гэта хочаце ведаць?

Старая раптам усміхнулася, схаваўшы вочкі ў маршчынах, сказала як з выклікам:

— Дык калі браць каго ў хату, то трэба ведаць, што ён за чалавек!

Тут і Антон здзівіўся:

— Дык хіба вы?!.

Але старая, не даслухаўшы яго, павярнулася і пайшла ў веснічкі, запрасіўшы рукою і яго ісці ўслед. На хаду казала:

— Ёсць і ў мяне пакойчык. Вытурыла я аднаго. Апівоху. Як дома, дык спакою няма ў хаце. І да Нінкі чэпіцца, хоць уцякай дзеўцы... І мне тое... Ідзі паглядзі. Калі ўпадабаеш, дык жыві, калі ты такі харошы, што і не п'еш, і не курыш, і дзевак не водзіш...

У двары на Антона кінуўся рыжы, нейкі ўскудлачаны, паклычаны сабака, і старая прыкрыкнула на яго:

— Ціха, боўдзіла! Не бачыш хіба, што я іду! — Павярнуўшыся да Антона, дадала: — Узяла на сваю галаву! Думала, што сабака будзе як сабака, а ён дурны як бот. Баюся часам, каб мяне самую калі не гламзануў. На ўсіх кідаецца. Нінка свайго малога ў двор выпусціць баіцца...

Зайшлі ў хату. У малюсенькім, як павярнуцца, пярэднім пакойчыку справа, на шырокай лаве, сталі два вядры з вадою, бліжэй, ля дзвярэй, вялікі

эмаліраваны таз, над якім вісеў цяжкі, чыгунны, пэўна, умывальнік; злева, між двух дзвярэй, стаяла грубка-стаячок; на адных дзвярах вісеў маленькі замочак-самаскок, другія былі прыадчынены. У хаце стаяў той асаблівы пах, які заўсёды чуваць у старой, не надта дагледжанай будыніне і які, акрамя таго, выдае, што жывуць у ёй такія ж, як і сама будыніна, старыя людзі.

Бабуля запрасіла Антона праходзіць далей, у тыя прыадчыненыя дзверы. Ён ступіў туды і спыніўся ў недаўменні: у пакоі было прыцемна, на покуці, пад абразамі, мігцела свечка.

— Ты на гэта не зважай,— старая, адчуваючы, пэўна, што ён здзівіўся, спакойна сказала: — Яна ў мяне гарыць ужо дзесяты гадок. З той пары, як мой стары памёр. Дала сабе слова, што будзе гарэць, пакуль жыва буду... А ты не стой, а во сюды праходзь, за гэтыя занавескі...

Бабуля ўзяла яго за руку і, як сляпога, правяла ў яшчэ адзін пакойчык, адгароджаны ад таго, са свечкай, дашчанай перагародкай без дзвярэй. Пакойчык быў маленькі, вузенькі, з адным акном. Каля дашчанай перагародкі стаяў жалезны ложак, закінуты зялёнай байкавай коўдрай, побач з ім — стары, пэўна, самаробны стол з голай стальніцай, апрача гэтага, ля стала стаяла табурэтка, пафарбаваная нейкага няпэўнага колеру фарбай, а ў куце — сплеценая з лазовых дубцоў этажэрка.

Старая між тым гаварыла:

— Вось тут можаш жыць, калі ўпадабаеш. Там, за сценкай, Нінка жыве, адзінокая дзяўчына з дзіцем, але яно непакоіць не будзе, Нінка яго ў круглясутачны сад аддала, толькі ў суботу забірае на выхадны. А за гэтай сценкай я сплю... Глядзі сам. Угаворваць не буду. Тут у мяне студэнты ўсё жылі, але надакучылі: дужа галасістыя. Як збяруцца, бывала, дык... Разведзенага была ўзяла аднаго, але, казала ўжо табе, выгнала: піў надта... Дык застанешся?

— Канечне, застануся! — Антон сказаў тое шчыра, нават з радасцю, бо, зноў жа, як і з работай, яму, разумеў, шанцавала.

— А што ж не пытаешся, колькі браць буду? — старая як прыжмурылася.

— Колькі скажаце.

— А й скажу. Як з усіх — дзвесце рублёў. Як усе людзі бяруць.

Антон крыху разгубіўся. Дагэтуль ён атрымліваў толькі стыпендыю, на апошнім курсе — трыста дзевяноста пяць рублёў, і дзвесце — сума для яго немалая. Чуў, што калі хлопцы жывуць у пакоі па трое ці па чацвёра, дык плоцяць усяго па семдзесят пяць, самае большае — па сто, аднак жа ў яго тут — пакойчык на аднаго. Пэўна, за такія апартаменты гэта ўсё ж няшмат. Выбіраць не даводзіцца. Ды, зрэшты, цяпер ён не студэнт, будзе атрымліваць ажно семсот восемдзесят рублёў — так сказаў сакратар. І ён сказаў:

— Дзвесце дык дзвесце.

Старая кіўнула ў знак згоды і нечакана дадала:

— А калі прапісацца хочаш, дык яшчэ дзвесце дасі. За турботы.

Антону і ў галаву пакуль не прыходзіла думка аб прапісцы, меркаваў, што пакуль абыдзецца з інтэрнацкай прапіскай, што пра тое і заікацца рана, а тут, аказваецца, нават і прапісацца можна! Не стрываў, перапытаў:

— А што, у вас і прапісацца можна?

Старая памаўчала, падышла да ложка, паправіла на ім коўдру, разагнулася, сказала:

— І табе ж, пэўна, з прапіскай будзе лацвей. Пажывеш колькі часу, мо зносіць нас пачнуць, дык яшчэ, чаго добрага, хату палучыш... І мне спакайней будзе, міліцыя чапіцца не будзе.

— Дык жа добра! — ажно выгукнуў Антон.— Пра хату, як вы кажаце, думаць не будзем, а калі можна прапісацца, дык гэта будзе няблага.

— А калі перабярэшся?

Антон усё яшчэ ў тым жа радасным узбуджэнні адно толькі і спытаў:

— А калі можна?

Старая азвалася:

— Калі хочаш. Бачыш жа, ложак пустуе.

Тады ж, надвячоркам, Антон і перабраўся на Другі Рыгораўскі завулак. Схадзіў у інтэрнат, перавязаў шпагатам стосік кніг, якія, едучы дахаты, забіў цвіком у верхняй шафцы, у адну руку ўзяў той стосік, у другую — чамадан, сказаў на развітанне дзякуй цётцы Дусі і пешшу прыйшоў на Другі Ры-

гараўскі, каб пражыць там амаль сем гадоў — пакуль не папаткаў Рэню і не перабраўся да яе...

Цяпер, прыгадваючы часам тыя гады, праведзеныя на Другім Рыгараўскім, Антон прыходзіў да думкі, што яму сапраўды тым надвячоркам, калі нясмела падышоў да бабулі Юстыны (альбо Юстыны Маркаўны), пашанцавала: жылося яму там ціха, добра, спакойна, хоць, здаралася, зімовымі завірушнымі днямі і халаднавата — хата ўсё ж была недагледжана. Бабуля Юстына нешта праз тыдні тры прапісала яго. Зрэшты, ён сам схадзіў з дамовай кнігай у аддзяленне міліцыі, пасля чаго ў ягоным пашпарце паявіўся чарговы штампік са словамі: «Прапісаны пастаянна» — тады яшчэ рабіліся ў пашпартах такія адзнакі. Бабуля Юстына, гэта ён адчуваў, упадабала яго. Урэшце, думаў ён, чаму было і не ўпадабаць? Адно, што ён рабіў у хаце, дык гэта начаваў. Карміўся па сталоўках, зрэдку толькі ўвечары піў дома чай, ды і то часцей тады, калі на той чай яго клікалі ці сама бабуля Юстына, ці Нінка. Не мыў таксама нічога, апроч шкарпэтак: пасцелю, сарочкі, нацельную бялізну вазіў спачатку да маці, а пасля Нінка здавала разам са сваёй бялізнай у пральню.

Нінка... Не, нічога не меў да яе Антон. Што мог мець, калі Віка ўсё ў галаве была? Нінка ж не надта і кідалася ў вочы: худзенькая праз меру, вастраплечая, нос з гарбінкай. Але шустрая, руплівая: заўсёды што-небудзь рабіла, з чымсьці поркалася за сваёй перагародкай, часам стракатала на швейнай машынцы. Рабіла яна на скургалантарэйнай фабрыцы. Там і хлопца напаткала, ад якога ў яе, яшчэ зусім маладой, знайшоўся Андрэйка. Што там быў за хлопец, ці была Нінка за ім замужам, ці без таго знайшлося дзіця, чаму яны разышліся — Антон не ведаў і не распытваў, а сама Нінка ніколі пра тое не загаворвала. Што яна стала маткай зусім маладой, было відаць і без роспытаў: была яна на два ці на тры гады старэйшая за Антона, а хлопчыку яе, пульхнаму і кучараваму Андрэйку, у той год, як Антон перабраўся на Другі Рыгараўскі, было ўжо гадкоў пяць. З Нінкай ён зрэдзь часу хадзіў у кіно — ці ў кінатэатр «Авангард», што на Грушаўцы, ці ў клуб будтрэста на Маскоўскай. Дзяўчына заў-

сёды бянтэжылася, чырванела, калі ён стукаўся да яе ў пакойчык, але ніколі і не адмаўлялася, заўсёды збіралася хуценька, як у ахвоту. І, чакаючы яе тыя колькі хвілін, пакуль яна апраналася, Антон быццам злёгку хваляваўся, але і думкі такой не было, каб зачапіць яе гулліва, жартам ушчыпнуць ці прытуліць. Аднак жа ўначы, лежачы ў ложку, пакуль сагрэецца і засне, ён часам усё ж думаў пра Нінку, і думаў не так пра тое, каб цішком ад бабулі Юстыны калі-небудзь трапіць у Нінчын пакойчык, як пра тое, што, можа, няблага было б ажаніцца з Нінкай, усынавіць яе Андрэйку (хлопчыка Антон, здаецца, любіў, па нядзелях гуляў з ім, пасля, калі ён пайшоў у школу, не адзін раз рабіў з ім урокі), і ад думак тых рабілася на душы салодка-трывожна, і хораша думалася ўжо пра сябе самога: вось які ён добры і самаахвярны, ён можа вось так проста, не вагаючыся, выправіць чужую памылку, прынесці шчасце гаротнай, пакрыўджанай дзяўчыне, стаць добрым бацькам чужому дзіцяці... Але мінала ноч, і ад думак тых не заставалася і следу, і яму ўжо пры сустрэчы з Нінкай рабілася ці не сорамна, ці не брыдка ад таго, што мог думаць так, а яшчэ ад таго, што, здавалася, Нінка быццам здагадвалася пра гэтыя ягоныя начныя мроі,— бо чаго ж яна чырванее, бянтэжыцца?..

Даўно ён не быў на Другім Рыгораўскім. Тады, развітваючыся з бабуляй Юстынай і з Нінкай, абяцаў заходзіць, хоць зрэдку адведваць іх, але так ні разу і не зайшоў. Неяк выпадкова напаткаў бабулю Юстыну, і яна кінулася да яго, як да сына, горача распытвала, як ён і што, ці добра ж хаця жыве з Рэняю, папракала, што не заходзіць, казала, ці не пакрыўдзіўся чаго на яе ці на Нінку, перадавала прывітанні ад Нінкі і ад яе Андрэйкі — хлопец яго памятае і пытаецца, чаму не заходзіць дзядзька Антон, а Антон слухаў тое паблажліва і з нецярпеннем чакаў, пакуль старая выгаварыцца і пойдзе сваёй дарогай. Тая сустрэча была, пэўна, праз год, мо праз паўтара пасля таго, як ён з'ехаў ад іх. А больш не сустракаў ні бабулі Юстыны, ні Нінкі.

А нядаўна праязджаў па вуліцы Фабрыцыуса на таксі, дык пабачыў з акна машыны, што ад Другога Рыгораўскага мала што засталося — там разгарну-

лася будоўля, хаціна бабулі Юстыны знесена, і ён з цяжкасцю пазнаў месца, дзе яна стаяла,— здагадаўся па высокай старой таполі, што расла каля хлеўчука. Пад той тапаляй была будка, у якой сядзеў на ланцугу рыжы, паклычаны, дурны як бот сабака, якому бабуля Юстына не знайшла больш арыгінальнага імя, чым Рудзька...

Цесць прыехаў рана, недзе а сёмай гадзіне. Паліна Іосіфаўна яшчэ не выходзіла са свайго пакоя, а Рэня з Антонам былі ўжо на нагах. Калісьці Антон любіў паспаць. На работу ў карэктарскую, а пасля і ў рэдакцыю і ў музей трэба было хадзіць к дзесяці, і ён амаль штодня вылежваўся да дзевяці, а то і пазней, спачуваючы Нінцы, якая бегала на фабрыку раненька — ці не к сямі. Перайначвацца давялося тады, як пабраўся з Рэняй, як паявіўся ў іх Аляксей. Спачатку штораніцы Рэня пасылала яго ў дзіцячую паліклініку па кефірчык і тваражок — у яе недзе праз месяц пасля родаў прапала малако, пасля насіў сына ў яслі, вадзіў у садзік: цешча, хоць і не рабіла нідзе, глядзець унука не захацела. Вось і прывык пакрысе быць на нагах да сямі, а то і да шасці.

Цесць прыехаў у гуморы. Антон адчыняў яму, дык Іван Мацвеевіч, вітаючыся, замест таго каб падаць руку, тыцнуў яму кулаком у жывот, сказаў:

— Ці не лішні здарок завязваецца, малады чалавек? Ах, як мы бяздумна падпарадкоўваемся часу! Не толькі фізічна не працуем, але і хадзіць хутка развучымся!

— Закон часу — няўмольны! — у тон яму адказаў і Антон.— Вось паснедаем, сядзем у аўтамабіль і паедзем на працу, каб там чэсна адседзець належныя восем гадзін.

— А вось якраз і не паедзем,— гаварыў, распранаючыся, Іван Мацвеевіч.— Аўтамабіль наш патрабуе прафілактыкі, ледзь даехаў да гаража. Так што сёння мы з табой пройдземся пешкі.

— Я даўно за гэты стары і надзейны спосаб перамяшчэння сябе ў прасторы,— прымаў гульню Антон.

— Душою і я за гэта,— Іван Мацвеевіч таксама падыгрываў зяцю.— Аднак жа рацыё штораз адольвае кволую душу, і ты ўжо ледзь не з асалодаю плюхаешся на сядзенне аўто, і душа засынае, і ў тых, хто мае гэтае самае аўто, яна засынае досыць моцна, лічы — непрабудна...

Іван Мацвеевіч разжыўся на «Масквіча» даўно; апошнім часам яго даводзілася больш рамантаваць, чым ездзіць на ім, Рэня ўжо часта здзекавалася з бацькі, казала, што ўсе дарэчныя людзі маюць сапраўдныя машыны, а не дапатопныя ламачыны, але Іван Мацвеевіч любіў свайго «старэнькага» і даражыў ім, як каторая кабета кароўкай, з якой зжыла век.

Цесцевым «Масквічом» сяды-тады карыстаўся і Антон, але толькі сяды-тады. Як ні дамагалася, асабліва напачатку, Рэня, каб бацька перадаў машыну Антону, Іван Мацвеевіч кожны раз лагодна, але з цвёрдасцю ў голасе адказваў:

— Якая табе розніца, на каго запісана? Трэба куды ехаць — калі ласка, хіба я шкадую ці забараняю?

Іван Мацвеевіч, сапраўды, быццам не забараняў, аднак чамусьці атрымлівалася так, што калі трэба было Антону куды-небудзь з'ездзіць, дык раптам выяўлялася, што вельмі пільна трэба некуды ехаць самому Івану Мацвеевічу ці Паліне Іосіфаўне альбо што «Масквіч» увогуле на прыколе — штосьці ў ім вымагае замены ці рамонту. І Антон з цягам часу перастаў прасіць цесця даць яму ключы ад гаража і ад машыны — просьбы такія яго ці не прыгняталі.

Зрэшты, Антон не надта і засмучаўся. Ён не з тых, што спяць і бачаць сябе ўладальнікамі «Масквічоў» ці «Жыгулёў». Ён не лічыў сябе яшчэ старым, аднак ад тых, што радзіліся пасля вайны, адасабляўся, нават быццам ганарыўся, што сам з пакалення даваеннага, якое зведала вайну і нялёгкія пасляваенныя гады. І дармо, што асабіста ён, дзякуючы бацьку-трактарысту, не часта збіраў вясною на леташнім бульбянішчы гнілушкі-шайморы, што ў іхняй хаце амаль заўсёды быў калі не хлеб, дык праснак,— затое сёе-тое выпала і на яго долю. Ну, хоць бы тыя штодзённыя кіламетры да Баброў і

назад, якія мераў ён, ходзячы ў восьмы, дзевяты і дзесяты класы. Кіламетраў тых у абодва канцы збіралася добрых пятнаццаць. Цяперашнія кавалеўцы ездзяць у Бабры і назад на аўтобусе, а той, хто не хоча ездзіць, жыве ў інтэрнаце пры школе. А ён, Антон, хадзіў. Хадзіў штодня — у завіруху, у дождж, у разводдзе. І любіў думаць, што менавіта з тае пары засталося штосьці ў душы, тое, што адгукаецца і вось гэтай абыякавасцю да таго, каб мець свой «самаход». Хаця — ці абыякавасцю? Напачатку, як трапіў да Рэні ў сям'ю, яму імпанавала, што ў цесця ёсць уласны «Масквіч». Некалькі разоў яны ўсе разам — Паліна Іосіфаўна з Пушком, Іван Мацвеевіч, Антон і Рэня — прыязджалі ў Кавалевічы, і Антон не мог не заўважыць, што вяскоўцы, найперш тыя з іх, каторыя сталейшыя, які-небудзь дзядзька ці цётка, пачалі глядзець на яго іншым вокам — як зайздросцячы. І Антону ад таго рабілася прыемна: і ён, маўляў, не лыкам шыты!..

Снедалі моўчкі — жанчыны былі нечага не ў гуморы, Іван Мацвеевіч таксама аціх, пакуль мыўся і пераапранаўся, а Антон... Антон увогуле даўно ўжо больш адмоўчваўся. Стараецца адмоўчвацца. Чамусьці вельмі хутка мінулася тое шчаслівае ўзрушэнне, з якім ён прыйшоў у Рэніну сям'ю...

Не любіць і не хоча ўспамінаць таго Антон. Каб мог, дык і не ўспамінаў бы. Ды толькі таго, што было, не адбярэш ад сябе. І не хочучы будзеш успамінаць. Так і ён. Ледзьве што здарыцца — адразу ж так і прыходзіць на згадку ўсё чыста. І той вечар, які так нечакана звёў яго на вуліцы з Петрусём Верамеем, а праз яго — з Рэняй; і той дзень, калі яны былі ў загсе; і тое невялікае застолле, якое сталася іхнім вяселлем; і многае іншае, што было пасля.

Якое там і вяселле было! Нейкія Рэніны сваякі, суседзі, з яго боку — бацька з маткай ды Маня — вось і ўсе госці. Пасядзелі, выпілі, паспявалі, троху паскакалі — і разышліся. І бацька з маткай і Маняй у той жа дзень, надвячоркам, дахаты паехалі. Антон усё яшчэ не мог ачомацца ад такога павароту ў сваім жыцці і таму мала што прыкмячаў у час таго застолля. Здаецца, усё было добра. Аднак жа пасля

пачуў ад Мані, што маці паехала дахаты засмучаная.

— Пра Рэню нічога благога не казала,— расказвала Маня Антону.— І цесця твайго не ганіла. Казала — просты чалавек. А сваццю не ўпадабала. Гэта ж нават і не пагаварыла з ёй, як матка з маткай. Такой паняй задзелалася, казала мама. І ўздыхала: будзе нашаму Тоніку цяжка ў адной сям'і жывучы...

Гэта Маня расказвала Антону дома, у Кавалевічах, калі ён праз нейкі тыдзень упершыню прыехаў туды разам з Рэняй. Бацька з маткай клікнулі гасцей, і не толькі радню, а і суседзяў, атрымаліся не проста госці, а як другое іхняе вяселле — ужо вясковае, нават з дзяльбой каравая і са сватам — сватам быў Томчын Андрэй. Вось тады Маня — расчырванелая ад духаты і чаркі — і шаптала тое Антону: пра яго цесця і цешчу, пра тое, што маці не ўпадабала Паліну Іосіфаўну.

Антон не надта ўзяў тады да ўвагі Маніны словы. Такой бяды! Маці прывыкла да аднаго абыходку, а Паліна Іосіфаўна — зусім іншы чалавек, не палезе ж яна да маці з пацалункамі ды з прыгаворкамі: «А мая ж ты сваццейка!..» Тады, у тое першае гасцяванне дома, Антону кінулася ў вочы раптам зусім іншае: яго Рэня не надта спадабалася і маці, і сёстрам, і цёткам яго, і жанчынам вясковым. Ніхто, вядома, не сказаў яму нічога, але ён адчуваў нейкую быццам адчужанасць да Рэні. І, здаецца, абурыўся, пакрыўдзіўся нават, хоць таксама не паказаў выгляду. Толькі ехаў у горад не ў настроі і, быццам некаму на злосць, яшчэ ласкавей гарнуўся да Рэні.

А маці, на цяперашні яго розум, як у ваду глядзела. Прыняла яго Паліна Іосіфаўна ў сям'ю, ды не ў душу. Вельмі хутка зразумеў ён гэта. Знешне быццам усё як след, зяцёк ды зяцёк, інакш і не звала ніколі, але штораз адчуваў Антон, што ласкавасць і прыязнасць у яе голасе — робленыя, што кожны яго крок і слова цешча быццам рэцэнзуе моўчкі. А неўзабаве і папрокі пасыпаліся. Даволі было яму зайсці на хвіліну ў пакой у чаравіках, як адразу ж чулася: «Ага, можна хадзіць і ў чаравіках, цешча падатрэ...» Даволі было яму не надта чыста вышараваць пасля сябе ванну, як зноў: «Канечне, нашто яе

мыць, калі ў хаце ёсць прыбіральшчыца...» Даволі было Антону штосьці не даесці, як цешча зноў не прапускала выпадку, каб не пабурчаць: «Ну ведама, у сталоўках, зяцёк, смачней...» Паліна Іосіфаўна папікала яго нават за тое, за што павінна была б папікаць Рэня. Неяк ён прыпазніўся пасля работы і пачуў: «А ці не зарана, зяцёк, прыпозніваццa пачынаеш? Дурная будзе Рэня, калі прамаўчыць...»

Скончылася тым, што ён проста перастаў зважаць на цешчыны кпіны і звягі. Гэтаму яго навучыў... цесць, Іван Мацвеевіч.

Аднойчы яны ўдвух заначавалі на дачы. За вячэрай узялі па чарцы і мо ўпершыню, як здалося Антону, разгаварыліся па шчырасці. Вось тады і сказаў Іван Мацвеевіч Антону:

— Ты, Антон, плюй на ўсё гэта. Бабы — яны і ёсць бабы. Каб ты ведаў, як яны мне агорклі, гэтыя мае к....! Думаў, што дачка... Дык жа крапелькі старой падлы пабрала!.. Добра, што ты прыйшоў у хату, хоць я не адзін цяпер... Толькі ты, брат, не паддавайся! Рабі, што табе трэба, і ўсё. А на іхнія звягі не зважай. Беражы здароўе, брат!

Гэта было ці не на першым годзе ягонага жыцця з Рэняй, і Антону чуць тое было надта ж ніякавата. Думаў, што Іван Мацвеевіч падначвае яго, на вудачку бярэ, але з цягам часу пераканаўся, што цесць гаварыў праўду, ад душы, спагады ў яго шукаў.

Антон пасля не адзін раз згадваў тую гаворку з цесцем. Згадваў і думаў: гэта ж трэба, пражыў чалавек жыццё і, пэўна, усё гэтае жыццё моўчкі нёс у сабе цяжар непаразумеласці з жонкай, а пасля і з дачкой, не выяўляючы яго перад імі, а прыхоўваючы пад вонкавай весялосцю, робленай бадзёрасцю і нават жартаўлівасцю. І чым больш думаў, тым больш пранікаўся да Івана Мацвеевіча спагадаю, дзесьці, сам таго не ўсведамляючы, атаясамліваючы яго з самім сабою. Ці і не сам ён, Антон, таксама вось ужо другі дзесятак гадоў нясе гэты крыж адчужанасці між сабою і жонкай, гэты цяжар робленай, паказной прыстойнасці?

А напачатку ўсё было зусім іначай. Тады, калі ён пабраўся з Рэняй, Іван Мацвеевіч і Паліна Іосіфаўна былі для яго ўвасабленнем пяшчоты, дабрыні і сардэчнасці, узорам выхаванасці і духоўнай гжэчна-

сці. Ах, як усё тое, што ён пабачыў у Рэнінай кватэры, не было падобна на бачанае калісьці ў роднай хаце! Яго маці, праўда, не сказаць каб сварылася з бацькам, аднак жа ўсё адно не было паміж імі той цеплыні і мяккасці ва ўзаемаадносінах, якія Антон пабачыў, трапіўшы ў Рэніну сям'ю. Гэтак жа быў ён здзіўлены і тым, як Іван Мацвеевіч і Паліна Іосіфаўна адносіліся да Рэні. Яго маці, не кажучы пра бацьку, не дужа шпыняла іх, дзяцей, як іншыя маткі, не часта і перападала ім ад яе, але ўсё адно ў іх было зусім не тое. Як ні прыгадваў Антон сваё і Маніна дзяцінства, як ні расчульваўся ад гэтых згадак, але ўсё ж вымушаны быў пагаджацца, што ні ён, ні Маня не мелі такой свабоды, як Рэня, ні такой паразумеласці з бацькамі, як яна. Іх, Антона і Маню, яднала з бацькамі, здавалася, толькі матэрыяльнае — яны былі накормлены, апрануты, дагледжаны. Тое ж, што яны чыталі, з кім сябравалі, пра што думалі і марылі,— усё тое, здаецца, мала турбавала і бацьку, і маці. І ён, Антон, зайздросціў Рэні, якая гадавалася ў зусім іншай сямейнай атмасферы, дзе ўсё, нават самая малая дробязь, якая тычылася дачкі, абгаворвалася сумесна, дзе найпершымі дарадцамі і сябрамі дачкі былі бацькі.

Ды паступова спадаў з Антонавых вачэй туман улюбёнасці і замілавання, і арэол святасці і высакародства, які бачыўся яму напачатку вакол Івана Мацвеевіча і Паліны Іосіфаўны, траціў свае абрысы. Чым больш спазнаваў ён сваіх новых сямейнікаў, тым больш апускаў на грэшную зямлю цесця і цешчу, а разам з імі і Рэню.

Калісьці яны жылі ў вёсцы, не так далёка ад яго, Антонавых, Кавалевічаў, хоць, праўда, ужо ў іншым раёне. Іван Мацвеевіч да вайны скончыў педтэхнікум і працаваў настаўнікам. Там, у вёсцы, напаткаў Паліну Іосіфаўну, ажаніўся з ёю напярэдадні вайны. Трапіць на фронт не паспеў: пакуль яны, мабілізаваныя мужчыны і хлопцы, дабіраліся з райцэнтра ў Мінск, горад палаў ужо, а яшчэ праз нейкі дзень іхняя група — яшчэ не салдат (нават не паспелі абмундзіравацца), але ўжо і не цывільных — трапіла ў акружэнне непадалёк ад Мінска. Івану Мацвеевічу і яшчэ некалькім маладым хлопцам удалося пазбыцца палону. Некалькі дзён яны бадзяліся па ля-

сах, кіруючыся на ўсход, спадзеючыся далучыцца да якой-небудзь вайсковай часці, пакуль не пераканаліся, што надзеі гэтыя марныя. Парашылі падавацца дадому. Вярнуўся ў вёску, дзе настаўнічаў і дзе пакінуў Паліну Іосіфаўну, і Іван Мацвеевіч. Ён не адседжваўся, не шукаў зацішнага кутка: спачатку быў падпольшчыкам, а з вясны сорак другога пайшоў у лес...

Іван Мацвеевіч асабліва не расказваў Антону пра сваё партызанства. Зяць ведаў, аднак, што ягоны цесць быў двойчы паранены, адзін раз сур'ёзна — ледзь не скончылася ампутацыяй правай нагі, што ён неаднойчы хадзіў на чыгунку, удзельнічаў у разгроме варожых гарнізонаў, перажыў дзве блакады, у часе апошняй, вясной сорак чацвёртага, нажыў непрыемную і «сарамлівую» хваробу — левабаковую грыжу. Праз гэтую хваробу Івана Мацвеевіча не ўзялі пасля вызвалення на фронт. Ён быў прызначаны загадчыкам сямігодкі. Праз некаторы час яго перавялі ў раён — загадчыкам райана, а пасля стаў Іван Мацвеевіч намеснікам старшыні райвыканкома і потым старшынёй. З гэтай пасады ён трапіў у Мінск — у абком прафсаюза работнікаў асветы. Там, у абкоме, мо праседзеў бы і да пенсіі, калі б не адна выпадковая сустрэча. Неяк выбраўся з жонкай у тэатр і спаткаў там свайго партызанскага сябра. Разгаварыліся, прыпомнілі былыя гады, пахваліліся, хто чаго дамогся за пасляваенны час. Аказалася, колішні сябар Івана Мацвеевіча дарос да намесніка міністра. Не без яго падтрымкі перайшоў Іван Мацвеевіч у міністэрства, дзе ўзначаліў аддзел.

Гэтыя скупыя звесткі пра цесця зяць уведваў пакрысе, паступова, з вуснаў самога Івана Мацвеевіча, з расказаў Рэні, з рэплік Паліны Іосіфаўны. А пра самую Паліну Іосіфаўну Антону расказаў Іван Мацвеевіч тады ж, тым разам, калі яны ўдвух заначавалі на дачы. Пад чарку, як між іншым, цесць сказаў:

— Ліха яго ведае, брат, але, мусіць, мы самі і псуем жанчын. Во, Полю сваю вазьму. Некалі была не дурная баба. І да вайны, і пасля вайны... Добра мы з ёй жылі, Тонік! Любоў была ў нас. Сапраўдная, не тэлевізійная... Вайну ўспомню... Яна ж, Поля, за мяне куды болей баялася і перажывала, чым за сябе. Каб магла, дык, здаецца, за мяне і ў засаду пайшла,

і на чыгунку... І пасля вайны... Я ў школе рабіў зноў, яна — клубам загадвала, разам і спявалі, і танцавалі. Не зважалі, што часам і галадна было, і холадна. Душа ў душу жылі... А ўсё пачалося, як у раён пераехалі. У раённай бібліятэцы нядоўга парабіла. Рэня ў нас (яна ў вайну нарадзілася, ты ведаеш) хваравітая была, вачэй з яе спускаць нельга было. Ну, спачатку мы няньку трымалі, аднак толку мала было. Дык Поля кінула бібліятэку. Не сама кінула, я настаяў... З таго часу Поля мая — хатняя гаспадыня. Магла б, канечне, працаваць, але — дзе ты бачыў! Як перайшоў у райвыканком, дык яна ўжо сама не парывалася, каб на работу пайсці. Як жа — жонка старшыні райвыканкома ды каб рабіла, скажам, у дзіцячым садзіку?! А болей дзе? З адукацыяй у яе не надта — шэсць класаў даваенных, куды пойдзеш? У Мінск пераехалі, дык яна таксама дома пачала сядзець... Вось і пачала вар'яцець. Анучы ўсё засланілі... Я ж, скажу табе, і дачу тую займеў, каб ёй хоць крыху які занятак быў, бо Рэнька ўжо вялікая, самастойная дзеўка стала... І вось паглядзі, у што ператварылася мая колішняя вясёлая і зусім не дурная, зноў скажу табе, Полька-Поля! Калі адну кніжку за год прачытае, дык добра, газеты ў рукі ніколі не возьме, адно што кіно па тэлевізары паглядзіць. Але затое ў курсе ўсіх мод. А развялося іх, гэтых мод, брат, ажно занадта. Раней адна мода была — на анучы, на транты бабскія. А цяпер жа — галава кругам ідзе! На кніжкі — мода, на золата — мода, на крышталь — мода, на абразы — мода, на каміны ў кватэрах — мода... Яшчэ на што? Маўчыш? А ліха яго ведае, брат, яшчэ на што! Мода — ёсць, а чалавек? Памаленьку, памаленьку, а там глянеш — і позна ўжо, спёкся папуас, як цяпер жартуюць... Вось так і мая Паліна Іосіфаўна — спяклася... А мы маўчым, быццам нічога перарабіць нельга, і церпім, пагаджаемся, патураем і суіснуем... Не паддавайся, брат, пакуль малады! А то і Рэнька твая... Ды яшчэ пры маці... Перад табой наглядны, жывы дапаможнік: былы настаўнік, поўны ружовых і смелых планаў чалавек, а цяпер — міністэрскі чыноўнік і абывацель, дабрадзейны супруг дабрадзейнай Паліны Іосіфаўны... Эх, каб было, то і яшчэ варта было б кульнуць па чарачцы, га, Тонік?..

Рэня разам з імі ісці адмовілася.

— Вам — што? Апрануцца — і гатовы! — сказала яна.— А нам, жанчынам, перад выхадам трэба пасядзець перад люстэркам.

— Гм... Толькі цяпер, стары дурань, зразумеў, чаму гэта ранкамі жанчын у тралейбусах і аўтобусах больш, чым мужчын,— адгукнуўся на тое Іван Мацвеевіч.— Мужчыны тэпаюць на работу пешкі, а жанчыны, пакуль прычапурацца, штурмуюць тралейбусы і аўтобусы, каб не спазніцца на работу... Пайшлі, Тонік!

Іван Мацвеевіч і Антон спусціліся ўніз, выйшлі ў завулак. Некаторы час ішлі моўчкі. Антон курыў, а Іван Мацвеевіч на хаду зіркаў па газетных загалоўках. Потым скруціў газету і, павярнуўшыся да Антона, нечакана спытаў:

— Дык як табе працуецца? Я — чаму пытаюся. Бачу, што з табой штосьці не тое.

— Не, нічога, працуецца,— Антону не хацелася гаварыць пра гэта.

— Ты ж, здаецца, не шкадаваў, што перайшоў.

— І цяпер не шкадую,— буркнуў Антон.

Іван Мацвеевіч скоса зірнуў на зяця, хвіліну тупаў моўчкі, потым зноў спытаў:

— Абрыдла ўжо?

— Работа як работа. Не маленькі, трэба ж нешта рабіць.

— Ну, не скажы! — Іван Мацвеевіч ухмыльнуўся і паўтарыў некалькі разоў: — Трэба ж нешта рабіць, трэба ж нешта рабіць... Калі ж, брат, не заўсёды мы выбіраем. Бывае, што і нас выбіраюць.

Антон паспрабаваў пажартаваць:

— Гэта жанчынам здаецца, што не іх, а яны выбіраюць!

Але Іван Мацвеевіч не падтрымаў жарту:

— Каб жа, брат Тонік, каб жа так!

Антон прамаўчаў.

Яны выйшлі на вуліцу Якуба Коласа, спусціліся ўніз, каля інстытута фізкультуры выйшлі на плошчу, пайшлі ўздоўж фантанаў (яны ўжо не струменілі) і помніка. Іван Мацвеевіч нечакана дакрануўся плячом да Антонавага пляча і гучна сказаў:

— А я мо не з таго канца? Мо ў цябе з Рэняй што?

— А што — з Рэняй? — перапытаў Антон крыху знарок, быццам не дачуў ці не зразумеў.

— Не падзялілі чаго, кажу?

— Ды не... А чаму вы пытаецеся?

Іван Мацвеевіч рагатнуў:

— Дык жа, кажу, нейкі ты як у ваду апушчаны!

Антон сказаў адчэпнага:

— А ліха яго ведае! Як стаміўся ўсё адно...

Цесць паглядзеў на Антона запытальна, уздыхнуў. Гледзячы кудысьці ўбок, прамовіў праз колькі часу неяк так, быццам паскардзіўся:

— Калісьці, брат, я думаў, што ты будзеш мне за сына, што сакрэтаў між намі не будзе... Я з табой быў шчыры. З самага пачатку. Думаў: па-мужчынску, па-свойску... А ты...

Скарга яго прагучала надта ж па-бабску, Антон ажно збянтэжыўся. Непрыязнасць да цесця (чаго, маўляў, лезе са сваімі роспытамі?) знікла, саступіла месца звычнай жаласці і спагадзе, і Антон, міжволі прыцішыўшы крок, амаль шчыра сказаў:

— Даруйце, Іван Мацвеевіч, калі вам падалося нешта... Я цаню вашу дружбу, паважаю вас...

— Не трэба, брат Тонік! Ты ж ведаеш, у мяне з імі... Я сам па сабе, а яны... Думаў, што ты...

— Дык я ж таксама...— пачаў быў Антон.

Але цесць перапыніў:

— Давай сядзем у аўтобус ды пад'едзем пару прыпынкаў...

Яны селі ў аўтобус, даехалі да Камсамольскай. Там выйшлі і разышліся: Іван Мацвеевіч пайшоў у міністэрства, Антон — у сваё бюро, якое хоць і было ў сістэме міністэрства, аднак месцілася ў іншым будынку...

Пасядзеўшы гады тры ў карэктарскай, Антон стаў стыльрэдактарам. Хоць работа на новай пасадзе была таксама сумнаватая — чытаць чужыя матэрыялы і вылоўліваць у іх стылістычныя агрэхі, аднак жа Антон па першым часе быў ці не рады. Стыльрэдактар — не карэктар! I самастойнасці больш, і павагі. Карэктар — хто? Тэхнічны работнік, і больш нічога. А стыльрэдактар — правая рука сакратара і рэдактара. Яго права і абавязак — правіць іншых. Без па-

пярэдняй вычыткі стыльрэдактара ніводзін матэрыял не пашлецца ў набор. Загадчыкі аддзелаў прыходзілі да Антона з просьбамі хутчэй прачытаць той ці іншы матэрыял. Пакрысе Антона пачалі называць Антонам Пятровічам. Адно што зарплата не надта павялічылася — прыбавілася дваццаць рублёў. Якраз столькі, колькі плаціў за свой бяздзверны пакойчык. Як ведалі ўсё адно, колькі прыбавіць. Крыху, праўда, пачаў падзарабляць на інфармацыях. Падштурхнуў загадчык аддзела інфармацыі Леў Давыдавіч. Аднойчы ён сказаў Антону:

— Правіш ты нас няблага, а чаму сам не спрабуеш пісаць? Не святыя гаршкі лепяць!

І Антон зрэдку пачаў друкавацца. На што-небудзь вялікае, слухаючыся таго ж Льва Давыдавіча, не замахваўся, крэмзаў інфармацыі, кароткія допісы аб выхадзе з друку той ці іншай кніжкі, аб якім-небудзь вечары ці сустрэчы, аб адкрыцці выставак і іншых падзеях.

Леў Давыдавіч пахвальваў:

— Так і далей трымаць! Інфармацыя — самы выдатны жанр. І ганарарны, і самы бесклапотны. Прозвішчы правільна назваць ды лічбы не праблытаць — асноўны клопат. Барані цябе бог ад крытычных артыкулаў. Павер мне, старому газетнаму ваўку: славы я хоць і не здабыў, але затое сплю спакойна.

Антонавы інфармацыі пахвальвалі і на лятучках але пісаць іх асаблівай ахвоты не меў.

Амаль шэсць гадоў прабыў Антон у рэдакцыі. Прабыў, каб аднаго дня, неспадзеўкі для ўсіх і для самога сябе, збегчы адтуль. Збег, бо абрыдла і бясконцае, з дня ў дзень, чытанне чужых крэмзанняў, і вышукванне інфармацый, і непрыхаванае заляцанне Валі-карэктаркі. Перайшоў у гандлёвую рэкламу, суцяшаючы сябе тым, што, маўляў, там і часу будзе мець вольнага шмат, і сам сабе гаспадаром будзе. Ды знайшоў там сумоту яшчэ большую, чым у стыльрэдактуры. Да ўсяго, ці не з першага дня не памеркаваўся з начальніцай. Прымушала выседжваць рабочыя гадзіны «ад» і «да», прыдзіралася да кожнага ягонага тэксту, патрабавала бясконцых пераробак і правак. Антон неяк не стрымаўся і агрызнуўся. Адэлаіда Леапольдаўна пасля таго і зусім не давала яму

спакою. Ды, пэўна, і ён змог ад'есці ёй пячонкі, бо ўрэшце ці не сама яна падшукала Антону месца ва ўпраўленні кнігагандлю.

Там Антон таксама не затрымаўся надоўга — нешта гады са два пааціраўся. Сябры памаглі, каб яго вытурылі адтуль з трэскам. Тут, у кнігагандлі, у яго ўпершыню завялася процьма сяброў і знаёмых. Даверлівы і дабраахвочы (сам пра сябе так думаў), ён памагаў ім даставаць кнігі. Пасля ж яны і прадалі яго (бессаромна і подла, лічыў ён), і быў рады, што вылецеў адтуль чыстым.

Праз некаторы час яму ўдалося ўбіцца ў музей. Тут Антон націшэў. Працавалі ў музеі адны жанчыны, толькі дырэктарам быў мужчына, пенсіянер. Ціхі і памяркоўны, Міхась Васільевіч ніколі ні на адну супрацоўніцу не павысіў голасу і да маладзейшых звяртаўся на «вы», называючы іх, быццам дачок, Зіначкамі ды Томачкамі, а да старэйшых і зусім звяртаўся паважліва, ніколі не забываючы, як катораю з іх завуць па бацьку. І яны, маладзейшыя і старэйшыя, ледзь не маліліся на яго. З прыходам Антона добрая рэшта шчодрай жаночай пяшчоты і ласкі перапала і яму — другому мужчыну ў калектыве. Прынамсі, жылося яму ў музеі лёгка, бестурботна, дзяўчаты і жанчыны ці не свядома ашчаджалі яго ад лішніх клопатаў, падмянялі яго, калі бачылі, што тая ці іншая справа яму не даспадобы, адпускалі, калі яму трэба было куды адлучыцца. Зрэшты, Міхась Васільевіч асабліва і не загружаў яго работай, больш спадзеючыся на акуратнасць і стараннасць свайго персаналу прыгожага полу.

Вось так, ціха і непрыкметна, беглі для Антона дні, тыдні, месяцы. Антон пакрысе звыкся з ціхамірнай усталяванасцю свайго становішча малодшага навуковага супрацоўніка, і наўрад ці ўзнікала калі ў яго думка аб чарговай перамене лёсу. Куды ісці і чаго шукаць? Пасада — дай бог кожнаму, гучыць больш салідна, чым усе яго ранейшыя пасады. Адно — аклад малодшага супрацоўніка быў невялікі: лічы, голенькая сотня рублёў. Аднак Антон амаль не зважаў на гэта. Неяк так сталася, што пасля таго, як перабраўся да Рэні, заробак страціў для яго ранейшае значэнне. Гэта тады, як халасцякаваў, трэба было думаць, як дацягваць да чарговай палучкі, як

выкраіць на чаравікі ці на касцюм. Цяпер жа ён шчасліва пазбавіўся гэтых клопатаў. У яго зараз клопат адзін: тое, што палучыў, аддаць Рэні альбо Паліне Іосіфаўне. Апошняе, бадай, яшчэ лепей — цешчы як прыемна было, што зяць прызнае яе гаспадыняю ў хаце, а не Рэню. А над тым, што ён прыносіць мала, не вельмі задумваўся. Колькі плоцяць, столькі і прыносіць. Не сам жа сабе вызначае ён аклад! І быў здзіўлены, калі адчуў, што не хто іншы, а сам Іван Мацвеевіч узяў пад абстрэл яго аклад малодшага навуковага супрацоўніка.

Аднойчы ён як між іншым запытаў:

— Ты, Тонік, як да музея — надоўга прыліп?

Антон адказаў нешта няўцямнае, абы адказаць, мо нават проста мармытнуў што ці пацiснуў плячамі.

Аднак цесць не адступіўся. Другім разам, таксама быццам няўзнак, спытаў зноў:

— Павышаць зарплату вам не збіраюцца?

— А што, ходзяць чуткі? — Антон пажартаваў.

Іван Мацвеевіч, аднак, нечакана сказаў сур'ёзна:

— Чуткі ходзяць, ды не тыя. Некаторым здаецца, што мужчыну сядзець на такім акладзе... Ну, як табе сказаць? Ніякавата быццам...

Антон крутнуў галавой і ўсё яшчэ, спрабуючы скіраваць гаворку на жарт, ухмыльнуўся:

— Каму гэта здаецца так?

Іван Мацвеевіч рагатнуў:

— Ды хоць бы жонцы тваёй!

— Рэні?! — шчыра здзівіўся Антон.— Ніколі ж не казала!

— Дык скажа, брат, калі не казала! Жонцы грошы патрэбны! І чым паболей!

— Не магу ж я пісаць заяву, каб большы аклад прызначылі,— пакруціў галавой Антон.

— Канечне, канечне! — нібыта паразумела адказаў Іван Мацвеевіч.

На тым гаворка тады і скончылася. І таму зноў не надаў ёй асаблівага значэння Антон.

Аднак неяк увечары, калі яны ўдвух сядзелі перад тэлевізарам і глядзелі хакейны матч, цесць у перапынку, не зважаючы на нейкі дакументальны фільм, якім студыя запаўняла паўзу, загаварыў з зяцем без ранейшай гуллівасці ці жартаўлівасці:

— А як ты, брат, глядзіш на тое, каб развітацца

са сваім музеем? — спытаў Іван Мацвеевіч, паклаўшы руку на Антонава калена.— Я думаю, Рэня кажа праўду. Сто рублёў, ну няхай сто дваццаць — для мужчыны ў наш час не заробак. Аклад чыста бабскі. Так што давай, Тонік, пішы заяву на звальненне і прамой наводкай да нас, у нашу кантору, дзе будзеш мець без асаблівага высілку значна болей. Напрыклад, сто шэсцьдзесят — сто семдзесят!

Антон усміхнуўся:

— Спакуслівa, Іван Мацвеевіч! Не ведаю, ці дажыву да заўтрашняга дня, каб падаць заяву!

Цесць таксама ўсміхнуўся, але, не знімаючы рукі з калена, сказаў сур'ёзна:

— Да заўтрашняга дня дажывеш. А наконт заявы — падумай. Раю падумаць.— Ён нечакана падняўся, усім сваім цяжарам абапёршыся на Антонава калена, захадзіў па пакоі.— Скажы ты мне, калі ласка, што ты выседзіш у тым музеі? Анічога! Думаю, што і занятак там не надта вясёлы. І аклад, аклад! Ты ж не дзяўчо смаркатае, каб сядзець на такім акладзе!

— Іван Мацвеевіч, вы, пэўна, забыліся, што я — філолаг, гуманітарнік!

— Ну і што? Абы ў галаве нешта было! — Іван Мацвеевіч зноў сеў побач і загаварыў дзелавіта, як пра нешта даўно вырашанае: — У нашай сістэме ствараецца служба НТІ — навукова-тэхнічнай інфармацыі. Цэлае бюро. Нават, брат, цэнтральнае бюро! І табе, не без маёй, канечне, дапамогі, вельмі проста можа перапасці там месца загадчыка — ну, няхай намесніка загадчыка аддзела.

Так, цесць на гэты раз не жартаваў. Аднак усё адно Антон не мог дабраць розуму, якое дачыненне да таго бюро, якое арганізуецца ў іхняй сістэме, мае ён, Антон, настаўнік-філолаг па адукацыі, колішні карэктар, колішні рэдактар гандлёвай рэкламы, колішні работнік кніжнага гандлю, а цяпер — музейны работнік? І як гэта можна думаць пра тое, каб адразу ж прэтэндаваць там, у тым бюро, на пасаду загадчыка сектара ці аддзела? І наогул — навошта яму, Антону, гэтыя збыткі? Што яму — спакойнае жыццё абрыдла?

— Што цябе бянтэжыць? — быццам угадаўшы яго думкі, сказаў Іван Мацвеевіч.— Разваж, брат,

цвяроза. Ці не здаецца табе, што ты апынуўся ў музеі, як раней і ў рэкламе, і ў кнігагандлі, нават і ў газеце калісьці, выпадкова?

Іван Мацвеевіч казаў праўду. Як ні крыўдна было Антону слухаць гэта, аднак жа — сапраўды выпадкова.

— А наконт таго, што філолаг, дык... Дзе, скажы, рыхтуюць кадры для НТІ? Пакуль што, можна сказаць, нідзе і ніхто. Будуць, канечне, рыхтаваць, але гэта — пасля. А цяпер трэба некаму пачынаць. Энтузіястам. Вось і будзь адным з іх... З кім трэба, я пагавару, каб падмацаваць твой энтузіязм. Папрацуеш у бюро, агледзішся — мо і да душы прыйдзецца, а не — там будзе відаць. Тым больш што там, я думаю, на пуп таксама надта браць не давядзецца.

І Антон праз некалькі тыдняў развітаўся з музеем і неўзабаве ішоў на работу разам з Іванам Мацвеевічам — у «міністэрства»...

Трапіў ён у аддзел навукова-тэхнічнай прапаганды намеснікам загадчыка. Чуў, вядома, што ў век НТР прапаганда навукова-тэхнічных дасягненняў і перадавых метадаў працы мае вялікае значэнне, аднак жа пра ўсё гэта меў вельмі прыблізнае ўяўленне. Першыя дні і тыдні ён, можна сказаць, нічога пэўнага і не рабіў,— адно сядзеў, слухаў іншых, сёе-тое чытаў, заходзіў па просьбе загадчыка ў сектары. І доўга не мог звыкнуцца з думкай, што ўсё вакол павінна мець нейкае дачыненне і да яго, Антона.

Сярод работнікаў бюро былі, вядома, і спецыялісты — інжынеры, кіраўнікі вытворчасці, але было нямала і такіх, як ён, Антон. Быў, напрыклад, маёр-адстаўнік, была колішняя настаўніца — выкладчыца гісторыі, быў юрыст, быў журналіст, сёй-той увогуле меў усяго сярэднюю адукацыю. Таму і Антон пакрысе супакоіўся. З загадчыкам аддзела таксама паразумеўся. Пётр Фёдаравіч, ягоны загадчык, раней працаваў у аддзеле міністэрства, дзе займаўся па сутнасці тым жа, чым цяпер у бюро. Ён найперш і дапамог Антону зразумець, што да чаго, што ад іх патрабуецца і чаго ад іх чакаюць. Пётр Фёдаравіч, да ўсяго, аказаўся чалавекам памяркоўным і па натуры мяккім, добрым, умее стрымліваць сябе. Ёсць у яго і такая прывабная рыса, як уменне не пакрыўдзіць,

не прынізіць падначаленага. З Антонам жа ён увогуле трымаўся нароўні, з самага пачатку не прамінаў выпадку, каб параіцца з ім, нават тады, калі Антон глядзеў на ўсё як баран на новыя вароты. А самае галоўнае было ў тым, што Антон, нечакана для сябе самога, займеў славу самага пішучага ў аддзеле чалавека. Пачалося з дзелавых папер — розных адносін, дакладных, запытаў, справаздач. Неяк адну з такіх папер Пётр Фёдаравіч папрасіў напісаць Антона. Антон, пакарпеўшы з непрывычкі досыць доўга, бязлітасна крэмзаючы сябе, напісаў тую паперу, падаў яе загадчыку. Падаваў не так з бояззю, як з хваляваннем — зусім не быў упэўнены, што напісалася як след. Але Пётр Фёдаравіч, прабегшы вачамі яе раз, пасля другі, нечакана ўскінуў на Антона воячы і са шчырай радасцю, як гэта ён умее, са здзіўленнем нават сказаў:

— Э, Антон Пятровіч, дык вы ж, аказваецца, мастак! Вось што значыць філалагічная адукацыя! І вы ўжо не крыўдуйце, але больш я ніякіх папер пісаць не буду. Грэшна адбіраць хлеб у вас, даражэнькі!

З той пары і павялося: калі што-небудзь трэба было напісаць, дык само сабой разумелася, што за гэта павінен быў брацца Антон.

Пазней, не без падказкі таго ж Пятра Фёдаравіча, замахнуўся Антон і на большае — напісаў брашуру аб формах і метадах прапаганды навукова-тэхнічных дасягненняў і перадавога вытворчага вопыту, потым — другую. Брашуры тыя выходзілі асобнымі выданнямі, праўда, гектаграфічнымі, аднак жа ганарар за іх плацілі. І Іван Мацвеевіч жартаваў:

— Ну што, брат, і сам, нябось, здзіўляешся такім метамарфозам? Так, чаго добрага, і ў вучоныя выб'ешся. Ці ў пісьменнікі...

Прыжыўся Антон у бюро, ужо і забывацца пачаў на тое, што калісьці працаваў у музеі ці ў той жа гандлёвай рэкламе. Не сказаць, праўда, каб надта захапіўся работай, аднак жа і не шкадаваў, што перайшоў у бюро. Напачатку было нават цікава. Тут ці не ўпершыню мог раптам з задавальненнем падумаць аб тым, што вось, нарэшце, і яшчэ нешта зроблена ім самім — напісана брашура ці артыкул для часопіса, падрыхтавана выстаўка, распрацаваны падрабязны план экспазіцыі. Там жа, дзе працаваў раней, ён сва-

ёй работы неяк не заўважаў, як не заўважалі яе, так здавалася, і іншыя.

Аднак неўпрыкмет, пакрысе, асабліва недзе на трэцім годзе, страціў Антон цікавасць да работы. Віnavaціў у тым, вядома, не самога сябе, а тое, што іх разумныя і ў прынцыпе карысныя рэкамендацыі, распрацоўкі і методыкі не дужа даходзілі да тых, каму былі адрасаваны, а калі і даходзілі, дык далёка не заўсёды знаходзілі прымяненне. Антон зрэдзь часу выязджаў у камандзіроўкі, бываў на аб'ектах і неаднаразова пераконваўся ў вялікай сіле людскога кансерватызму. Адным словам, хадзіў Антон на работу без ранейшага настрою. Мутарна было на душы і ад заўсёднай падазронасці, недаверу да Рэні...

Сёння ён меркаваў з раніцы сесці за артыкул, які даўно паабяцаў галіноваму часопісу. Недзе з месяц назад быў у камандзіроўцы ў Пінску — знаёміўся з вопытам арганізацыі работы па эканоміі матэрыялаў, з прапагандай гэтага вопыту. Тады ж, вярнуўшыся, падрадзіўся зрабіць у часопіс артыкул. Ды ўсё ніяк не выпадала ўзяцца. Наважыўся накрэмзаць — хоць чарнавы накід — сёння, у чацвер: дзень гэты быў у аддзеле спакайнейшы, вольны ад пасяджэнняў і іншых масавых мерапрыемстваў. Аднак так, як меркаваў, не атрымалася.

Не паспеў і за стол сесці, як сакратарка паклікала да дырэктара — на кароткую, так было сказана, нараду па пытаннях удзелу ў адной міжнароднай выстаўцы. Праўда, Антон усміхнуўся сам сабе, пачуўшы тое слова — «кароткую», бо неяк так атрымлівалася, што нарады ў дырэктара заўсёды зацягваліся. Задоўжылася яна і на гэты раз: міжнародная выстаўка сталася толькі зачэпкай, а гаворка зайшла пра многае іншае — і пра індывідуальныя і групавыя камандзіроўкі, і пра падрыхтоўку да конкурсу прафесійнага майстэрства, і пра злёт перадавікоў і наватараў вытворчасці, які меўся неўзабаве адбыцца.

Потым Антон вымушаны быў займацца праглядам фотаальбома, які рыхтаваўся ў аддзеле, вычытваў тэзісы даклада, з якім Пётр Фёдаравіч павінен быў выступаць на навукова-практычнай канферэнцыі, рэдагаваў чарговы інфармацыйны лісток. За артыкул узяўся па абедзе, папярэдне папрасіўшы сакратарку, каб яго без пільнай патрэбы не турбавалі. Думаў

нават схавацца ад усяго і ўсіх у бібліятэцы, але, паразважыўшы, зачыніўся ў кабінеце — Пятра Фёдаравіча на рабоце не было, мэнчыўся са сваёй пячанню.

Акно кабінета выходзіла ў двор. Нават не ў двор, а ў дворык — цемнаваты, без адзінага дрэўца, у яшчэ дарэвалюцыйны дворык-калодзеж, выбрукаваны круглым, адпаліраваным за гады падэшвамі каменем. Захавалася іх, такіх дворыкаў, у Мінску адзін-два. Дворык гэты пуставаў нават улетку, калі ў яго адзіны куток зазірала сонца. Але затое сюды не даходзіў шум вуліцы. Цішыню парушала толькі буркатанне галубоў. Іх Антон бачыў і цяпер. Яны сядзелі, распусціўшы пер'е, на парэнчах балкона трохпавярховага цаглянага дома насупраць, часам не мірыліся, і тады сёй-той з іх зрываўся з месца, пералятаў цераз дворык і падлятаў да Антонавага акна, шкрэбаючы кіпцюрыкамі лапак па бляce вадасцёку і палахліва зіркаючы сваім круглым вокам на яго, Антона.

Антон спадзяваўся, што артыкул напішацца хутка і лёгка, бо ў галаве яго даўно, здаецца, вынасіў, аднак жа сёння яму штосьці не пісалася, ніяк не мог знайсці першых слоў. Ён ці не ў злосці ўжо скамячыў чарговы ліст паперы, шпурнуўшы яго ў драцяны кошык пад сталом, адкінуўся на спінку крэсла.

За акном, па вузкай нахільнай гзымсе вадасцёку, паходжваў голуб — выпнуўшы шызую атласную грудзінку і ганарліва трымаючы маленькую вабную галоўку з цёмнымі круглымі вочкамі і па-драпежніцку кручкаватай дзюбкай. Антон, любуючыся гэтым зграбным, нават грацыёзным стварэннем, неспадзявана для сябе ўсміхнуўся і, працягнуўшы руку да шыбіны, уголас пазваў:

— Гуль-гуль-гуль...

Голуб скасавурыўся, наструніўся — падцягнуў шызае валлё, ледзь-ледзь прыпадняў крылы, гатовы ў кожнае імгненне ўзляцець.

— Чаго ты баішся, дурань? — зноў сказаў уголас Антон.— Я сяджу ў пакоі, за акном, мая рука да цябе не дастане. Ты ж не першы раз прылятаеш сюды, пара гэта зразумець!

І толькі тады, калі Антон апусціў руку і зноў адкінуўся да спінкі крэсла, голуб супакоіўся — зноў

выпнуў грудзінку, склаў крылы, але ўсё яшчэ касавурыўся і штосьці зласнавата буркатаў.

Нечакана зазваніў тэлефон.

Антон зняў трубку.

— Ты? — спытала трубка Рэніным голасам.

— Я,— адказаў Антон.

— Што ты робіш?

Ён памарудзіў з адказам. Калі Рэня пыталася, што ён робіць, значыць, у яе добры настрой. Дык ці варта псаваць яго?

— З голубам размаўляю.

— Што, што? — перапытала Рэня.

— Размаўляю з голубам. Да мяне на падаконнік прыляцеў стары, сівы буркатун і ўсчаў са мной сварку: яму, бачыш, не падабаецца, што я сяджу ў пакоі,— адказаў Антон.

Рэня, чуваць было, усміхнулася.

— Хто гэта цябе так развесяліў?

— Мая ўласная бяздарнасць. Сем разоў браўся за артыкул, і ўсё дарма, так і не пачаў.

— Дык для натхнення пусціўся ў размовы з галубамі?

— Тут з самім д'яблам загаворыш! — нечакана для сябе падтрымліваў гаворку Антон.

— Слухай, ты ў гадзін шэсць вызвалішся? — Рэня пыталася ўжо сваім звычайным голасам.

— Гэта мы магём,— Антон быццам не заўважыў перамены ў жончыным голасе.

— Нашы збегалі тут, прынеслі білеты на выстаўку чэхаславацкага дызайна. Сходзім?

— А гэта што, цікава?

— Цемната! Не задавай дурных пытанняў!

— Маўчу, маўчу,— Антон таксама змяніў тон.— Дзе сустрэнемся?

— Ля ўваходу. Недзе ў пятнаццаць сёмай, добра?

— Добра.

Трубка шчоўкнула, пачуўся гудок. Антон паклаў яе на рычагі. Нейкую хвіліну пасядзеў нерухома, бы вагаўся, што рабіць. Потым падсунуў да сябе чысты ліст паперы і ўзяў аўтаручку. Буйнымі літарамі напісаў загаловак, падкрэсліў яго дзвюма тлустымі лініямі. Потым падняў галаву, зірнуў на голуба, які ўсё яшчэ кешкаўся на падаконніку-вадасцёку, быццам падміргнуў яму, ямчэй узяў у пальцы ручку і

нахіліўся над сталом. І — дзіўная рэч: напісаўшы першую фразу, адчуў, што на гэты раз справа ў яго пойдзе, артыкул напішацца.

Ён і праўда да шасці гадзін амаль напісаў артыкул. Заўтра, а калі не заўтра, дык у панядзелак яшчэ раз пройдзецца па ім на свежую галаву, перадрукуе і адашле ў рэдакцыю. Антон сабраў са стала паперы, паклаў іх у шуфлядку, потым зачыніў фортку — прывучыла да гэтага прыбіральшчыца пасля таго, як абсталявалі бюро аўтаматычнай сігналізацыяй, замкнуў дзверы ў пакоі і выйшаў на вуліцу.

Вечарэла. Сям-там запальваліся агні. Ля кінатэатра «Перамога» збіралася чарга.

Антон падняўся ўверх, да праспекта, перайшоў на другі бок і сеў у тралейбус — да ўмоўленай сустрэчы з Рэняй заставалася не больш чым дзесяць хвілін, трэба было спяшацца. Ехаў Антон і, па даўняй ужо звычцы, пасміхаўся з сябе, са свайго становішча сямейніка. Аднак ад гэтага пасміхвання рабілася не лягчэй, а яшчэ больш прыкра і тужліва...

Тады ўжо ў іх быў Аляксей, калі Антон гэтак жа выпадкова, як і год з гакам назад, сутыкнуўся на вуліцы з Петрусём Верамеем. З таго вечара, як Антон забрыў да Петруся на кватэру і пазнаёміўся там з Рэняй, яны не бачыліся. Сябрамі яны, хоць і жылі калісьці ў адным інтэрнацкім пакоі, не былі, нейкіх агульных інтарэсаў не мелі. Антон, як, пэўна, і Пятрусь, наўрад ці думаў калі аб тым, каб пабачыцца. Аднак жа недарэмна кажуць, што свет цесны — сустрэліся і мінулым разам, і цяпер, крыху больш чым праз год.

Антон з работы ішоў. Зазірнуў па дарозе ў магазін — на праспекце, што насупраць рэстарана «Нёман» (яго пасля пераабсталявалі ў «Цэнтральны» універсам), і там знячэўку злавіў Антона за руку Пятрусь. Быў ён нападпітку, як і тады, тым надвячоркам, але цяпер Антон міжволі звярнуў увагу і на тое, што колішні яго аднакурснік яшчэ больш апусціўся — увесь нейкі пакамячаны, сяк-так паголены, аброслы і як некалькі дзён не мыўшыся.

— Антоша, старычок, здароў! — закрычаў Пятрусь занадта гучна і з робленай радасцю.— У якое

ты падполле пайшоў, га? Па адных і тых жа вуліцах ходзім, а бачымся гады ў рады. Як маешся?

Антон без асаблівай ахвоты падаў Петрусю руку (з гадоў студэнцтва памятаў, што рукі ў Верамея заўсёды былі мокрыя, ліпкія ад поту), адказаў:

— Жывём — хлеб жуём... А ты?

Верамей адмахнуўся:

— Ат, не пытайся! Кручуся...

— Дзе ты што робіш?

— Ды зараз міністрам шляхоў зносін, дай веры,— зарагатаў Пятрусь.— Магу бясплатна пракаціць цябе, куды захочаш.

— А ўсё-такі? — перапытаў Антон.

— Вагоны суправаджаю, стары! Часам з чарнілам, а часам і з каньячком!

— Я сур'ёзна пытаюся,— паморшчыўся Антон.

— Дык жа і я сур'ёзна,— адказаў Верамей.— Суправаджаю вагоны з каштоўнымі грузамі... Што, дакаціўся Верамей?

— Дзіўна, канечне. Я думаў...

— Не спачувай, брат, не трэба.— На Верамеевым твары зноў заблукала блазенская п'янаватая ўхмылка.— І ў гэтай рабоце ёсць свая асалода. Адно — грошыкі невялікія. А так жыць можна. А наконт таго... Сярод нашага брата-суправаджаючага, каб ты ведаў, якія людзі ёсць. Адзін нават кандыдат навук! А ты думаў...

Антон не ведаў, пра што з ім яшчэ гаварыць. Верамей, пэўна, заўважыў ці адчуў гэтую яго нерашучасць, зноў ухапіў Антона за руку, шапнуў:

— А ты чаго сюды забег? Мо пляшачку чарнілка ўзяць? Дык я з радасцю складу табе кампанію. З харошым чалавекам чаму і не выпіць? Га, старычок? Цябе мне сам бог паслаў! Прасіць у цябе рубля — не буду. Шчыра прызнаюся — не аддам! Лепш вазьмі пляшачку, і ўсё тут! Ад Верамея сухім ты не выкруцішся, старычок!

Хацеў Антон паслаць яго куды-небудзь, але штосьці стрымала яго. Мо згадка пра студэнцкія гады? Як-ніяк, пяць гадоў разам пасвіліся, гэтага ж не адкінеш... І Антон здаўся:

— Бачу, што не адкручуся. Але чарніла браць не будзем. Пайшлі, зойдзем куды, дзе можна больш-менш па-чалавечы прычасціцца.

Верамей расцвіў:

— Дальбог, я заўсёды верыў, што ты чалавек! Пятрусь Верамей не такі дурань, як каму здаецца, ён умее цаніць людзей...

Яны пайшлі па праспекце. Дайшлі ажно да плошчы Якуба Коласа і там, на рагу, зазірнулі ў старое яшчэ кафэ, пасля, напярэдадні Маскоўскай Алімпіяды, перараблёнае. Антон узяў дзве шклянкі віна — здаецца, белага крымскага партвейну, на закусь — вараныя яйкі і бутэрброды з сырам. Ім удалося нават прысесці — за столікам у самым куце нечакана вызваліліся два месцы. Верамей, асушыўшы залпам сваю шклянку, неяк адразу ж ап'янеў, аднак жа прымусіў Антона напоўніць яе яшчэ раз. Другую шклянку ён ужо цадзіў памалу. Цадзіў і плёў нешта не надта ўцямнае пра свае дарожныя прыгоды. Урэшце ён зусім асалавеў, і Антон, злуючыся на сябе, ледзь не сілком вывалак яго на вуліцу, не ведаючы, што будзе рабіць з ім далей.

Але на вуліцы Верамей раптоўна акрыяў.

— Ты, старычок, не бойся, я цябе пад манастыр не падвяду. Ніводны сабака да нас не прычэпіцца. Верамей яшчэ моцна стаіць на нагах,— гаварыў ён, трымаючыся за Антонаў локаць.— Ты сабе ідзі, куды табе трэба, а я пайду туды, куды мне трэба. Будзь здароў, Антоша! — Верамей цмокнуў яго ў шчаку і пайшоў.

Антон ужо быў з палёгкай уздыхнуў, гледзячы яму ўслед, ды нечакана Верамей крутнуўся і вярнуўся назад.

— Слухай, старычок, ледзь не забыўся,— Верамей зноў ухапіўся за Антонаў локаць.— Увесь час хацеў табе сказаць, папытацца ў цябе, але з галавы вылятала... Слухай, мне нехта казаў, што бачыў цябе некалькі разоў з Рэнькай. Ну, з той, што тады пабегла за табой... Помніш, ты тады да мяне зайшоў... Гэта, канечне, тваё дзела, старычок, але я, як друг твой, павінен цябе папярэдзіць... Калі ты, старычок, сур'ёзна з ёю, дык... Не раю, старычок! Так яна дзеўка апетытная, але — пасцілка... Не для жонкі, старычок!.. Па-сяброўску кажу... Ну, будзь!

Павярнуўся Верамей і рашуча, амаль зусім цвёрда пакрочыў прэч. Не паспеў Антон ні зразумець, што да чаго, ні перапытаць. І не тое што не паспеў.

Не змог. Аглушыў яго Верамей. Такая раптам цвярозасць апанавала, як і не піў той шклянкі белага крымскага. Каб пра Рэню такое? Няўжо Верамей і праўда не ведае, што ён, Антон, ажаніўся з ёю, што ў яго і ў Рэні ёсць ужо Аляксей? Але ж каб ведаў, дык ці сказаў бы такое? Ці асмеліўся б сказаць? А калі не ведае, дык тады...

Моташна зрабілася Антону. Не па сабе. Брыдка, сорамна і — крыўдна...

Не пайшоў ён адразу дадому. Вярнуўся ў кафэ, з гадзіну, пэўна, зноў пасядзеў там у п'янаватым тлуме над шклянкаю таго ж крымскага. Думкі круціліся-вярцеліся роем у галаве, і разам з імі кругам ішла галава. Засяродзіцца на нечым адным, на пэўным не мог. То ахопліваў нейкі незразумелы жаль, і на вочы нагортваліся слёзы, то раптам рабілася весела, як дурному, ажно хацелася зарагатаць на ўсё горла.

Калісьці, у маладосці, калі ўжо часам мроіліся думкі пра жаніцьбу, будучае сямейнае жыццё ўяўлялася ў надзвычай ружовых фарбах. Больш праўдзіва сказаць, не сямейнае жыццё, а ўзаемаадносіны з жонкай. Яе, сваю будучую абранніцу, ён, Антон, будзе літаральна насіць на руках. Нікому не дасць у крыўду і сам не пакрыўдзіць ні словам, ні рухам. А як жа іначай! Яна ж будзе не толькі яго жонкай, але і маткай яго дзяцей. Што ні здарыцца, як цяжка ні будзе, а ён не папусціцца да дробязей, да нікчэмных сварак, да бязглуздых прыдзірак і папрокаў.

Само сабой, вядома, гэтыя ружовыя ўяўленні спалучаліся ў яго з воблікам Вікі Двурэчанскай.

Гэткія ж наіўныя летуценні чапляліся ў яго душы і тады, калі побач з ім аказалася Рэня. І па першым часе ён, Антон, мусіць, і зведваў блакітнае пачуццё шчасця. Крывіць душою не будзе і зараз: кахаў ён Рэню. Кахаў, канечне, не так, як некалі Віку Двурэчанскую. Віка — што? Віка была ўсяго марай, ён бачыў і ўспрымаў яе як з экрана, як жывы, ды плоскі партрэт. А Рэня... Рэня — вось яна, побач, уся яго, жывая, аб'ёмная, цёплая, нейкая асабліва мякка-падатлівая ўранку, калі ён, прачынаючыся першым, будзіў яе; азябла-дрыготкая ўвечары, калі ён лавіў яе рукамі і вуснамі — яна часам прасіла яго класціся раней, каб нагрэў месца... Ён любіў Рэню і

тады, калі яна хадзіла Аляксеем: зусім не бянтэжылі яго ні крапінкі, што нечакана густа высыпалі на скулах, ні зласнаватая завостранасць носа, ні качынае павільванне ў хадзе. Ва ўсім гэтым ён знаходзіў нават нейкую асаблівую прывабнасць.

І Рэня яго, здаецца, кахала. Было, было!.. Яна ж умела быць увасабленнем паслухмянасці, пяшчоты, пакоры. Антон ажно здзіўляўся часам: няўжо гэта ён, такі няўклюда, можа вось так цалкам падпарадкаваць сабе кагосьці?! Рэня, здавалася, угадвала кожны яго рух, кожнае памкненне, была сама ўвага і адданасць. Нават тады, калі Паліна Іосіфаўна дазваляла сабе кінуць каменьчык у Антонаў агарод, Рэня кулём кідалася бараніць яго — як квактуха на ката ці на варону, а пасля, калі яны заставаліся ўдваіх, казала яму: «На маму ты не зважай. Ёсць ты і я! А больш нікога!..»

З такім крутам галавы плёўся Антон дадому. І толькі недзе на лесвічнай пляцоўцы цюкнула адно: нічога не здарылася. Так, так, нічога ні Рэні, ні каму іншаму — ні слова! Мала што мог збрахаць п'яны Верамей! Яму, Антону, сорамна так неразумна браць на веру ўсё, давярацца, як маламу. Хіба ён не ведае Рэні? Калі б хоць доля праўды была ў тых словах, дык жа б ён... Дык жа б яна... Трэба было б, на добры лад, расквасіць Верамею нюхаўку, па-мужчынску...

Цвёрда наважыў Антон: выкінуць тое з галавы. І выкінуў. Начыста, здавалася, выкінуў. Як ніколі і нічога не чуў і не бачыў. І супакоіўся, здаецца, і зноў па-ранейшаму са светлай радасцю гуляў з сынам, вазіў яго, становячыся на карачкі, па спіне, уранку садзіў Аляксея на плечы і, прытрымліваючы рукамі за ножкі, уподбежкі — сын гоцаў па шыі, як на сапраўдным коську — нёс яго ў яслі. І Рэню абнімаў і мілаваў з ранейшай пяшчотаю, і калі адчуваў яе ля сябе, такую падатлівую, пакорлівую, трапяткую і гарачую, дык нават на самога сябе забываўся Антон...

Не, не будзе хлусіць: былі ў яго з Рэняй такія харошыя хвіліны і пасля той сустрэчы з Верамеем. Аднак жа, аказваецца, як ні глыбока загнаў ён на дно душы п'яную Верамееву балбатню, але ўсё ж не пахаваў яе там — жыла яна ў ім. Не памерла зусім,

а толькі прыкінулася, што памерла, а на самой справе — спала, каб прачнуцца нечакана ад першага ж штуршка...

Тым вечарам нічога благога не чакаў Антон — прыйшоў з работы, схадзіў у яслі па Аляксея, пагуляў з ім з гадзінку. Потым і Іван Мацвеевіч з работы прыйшоў, дурэлі з малым удвух — бацька і дзед, пакуль Паліна Іосіфаўна гатавала вячэру. А Рэні ўсё не было. І павячэралі без яе. Паліна Іосіфаўна, кормячы Аляксея, нават папрыгаворвала: «Нештачка нашай мамачкі няма...» Казала так, пэўна, зважаючы на Антона, які хаваў і не мог прыхаваць незразумелай трывогі. Не стрываў і Іван Мацвеевіч. Устаючы пасля вячэры з-за стала, таксама буркнуў: «Штосьці Рэня і праўда затрымліваецца...»

Даўно ўжо спаў Аляксей, пасл̌аліся Паліна Іосіфаўна і Іван Мацвеевіч, лёг, прыхапіўшы з сабою кніжку, і Антон, а Рэні ўсё не было. Ён ужо не ведаў, што і думаць. Вярзлося благое: што Рэня трапіла пад машыну, што здарылася нейкае няшчасце. А потым зусім знячэўку ўсплыў Пятрусь Верамей і яго словы «Дзеўка яна апетытная, але — пасцілка...» І Антон ужо не мог улежаць на месцы. Фантазія так разгулялася, жахлівыя карціны набягалі адна за адною, што ён урэшце падняўся і, не апранаючыся, у адных трусах нервова захадзіў-забегаў па пакоі. Няхай, думаў ён, няхай толькі паявіцца на парозе! Ён адразу ж убачыць, адкуль яна прыйшла! Ёй нішто не паможа абвесці яго вакол пальца!.. Што ён зробіць з ёю, не ведаў,— нешта страшэннае, нешта жахлівае. Не паглядзіць на тое, што ў хаце яе мамачка і татачка. Ён проста заб'е яе!..

Яе таропкія крокі на лесвіцы, а неўзабаве і нясмелы кароткі званок у дзверы пачуліся тады, калі гадзіннік паказваў пятнаццаць хвілін на першую гадзіну ночы. Антон чамусьці сунуў ногі ў калашыны спартыўных штаноў, пайшоў адчыняць.

Рэня ўскочыла ў пярэдні пакой задыханая, расчырванелая і, падалося, знарочыста вясёлая і бесклапотная.

— Ты яшчэ не спаў? — спытала яна і памкнулася цмокнуць яго ў шчаку, але Антон дэманстратыўна адхіснуўся.— Даруй, Тонічак, што так па-дурному атрымалася,— казала яна, распранаючыся, быццам

не заўважыўшы таго, што ён адвярнуўся ад яе пацалунка.— Спадзявалася пазваніць пазней, а — усе цакоі пазамыкалі. Хоць ты бяжы на вуліцу ў аўтамат... У нашай Людачкі Язвінскай дзень нараджэння быў. Вось і адзначалі пасля работы ў лабараторыі, і заседзеліся, здаецца...

Антон маўчаў. Тыя словы, якія падрыхтаваў для яе, чамусьці не зрываліся з языка. Ён крута павярнуўся і пайшоў у пакой. Там скінуў штаны і лёг.

Рэня не пабегла за ім. Яна, чуваць было, пайшла на кухню, нечым там бразгала, пазвоньвала лыжачкай у шклянцы. Потым ён чуў, як шумела вада ў ванне. Прыйшла Рэня ціхманая, быццам і праўда ў нечым вінаватая. Ціха прычыніўшы за сабою дзверы, Рэня лёгка юркнула пад коўдру, узвалілася Антону на грудзі, хуценька пацалавала, дыхнуўшы ў твар:

— Ты злуешся, дурненькі?

І гэтае «дурненькі», і пах віна, які ўчуў у яе дыханні, яшчэ больш раззлавалі яго. Антон досыць рашуча адпіхнуў Рэню ад сябе, спытаў:

— Дзе ты была?

Яна, павярнуўшыся да яго, лежачы, абапёршыся на локаць, усё яшчэ гулліва і пяшчотна ўсміхнулася:

— Ты напраўду злуешся? Я ж кажу: у Людкі Язвінскай быў дзень нараджэння...

— Дзе ты была? — паўтарыў Антон, не паварочваючыся да яе.

Рэня ўспыхнула, адкінулася на спіну. Крыху памаўчаўшы, нейкім чужым, не сваім голасам прамовіла-прашыпела:

— Ты ж ведаеш, дзе была! Гуляла я! Піла, цалавалася...

Яна не дагаварыла. Антон раптам прыпадняўся, павярнуўся да яе і заехаў аплявуху. Рэня закрыла твар рукамі. Некаторы час ляжала моўчкі. Потым паднялася, адкінула коўдру, саскочыла з ложка і выбегла з пакоя.

Антон, падклаўшы рукі пад галаву, бяздумна глядзеў у столь.

Праз некаторы час у пакой да яго зайшла Паліна Іосіфаўна. Не зачыняючы за сабой дзвярэй, сказала:

— Каб гэта было апошні раз! Чуеш, Тонік?

— Што — гэта, Паліна Іосіфаўна? — Антон сам здзівіўся, што спытаў спакойна, амаль абыякава.

— А тое, каб рук не распускаў! Вярнулася пазнавата, дык адразу біць?

— А вам усё роўна, калі яна прыйшла дадому? Гэтаксама, як было ўсё роўна і раней, да мяне?

— Што ты гэтым хочаш сказаць?

— Што гавораць усе!

— Як ты можаш, Тонік! — Паліна Іосіфаўна, як і Рэня, закрыла твар рукамі.— Яна ж не пытаецца, як ты жыў да яе!

— Хай папытаецца! Мне няма чаго хаваць ад яе...

Паліна Іосіфаўна пастаяла і пайшла. Антон, як толькі яна зачыніла дзверы, выключыў бра...

Ён ляжаў і думаў — з нейкай гаркаватай шкадобай да самога сябе — пра тое, што яму сапраўды няма чаго хаваць ад Рэні. Пра Віку Двурэчанскую ён сам расказаў ёй, на самым пачатку, калі яны толькі знаёміліся, прывыкалі адно да аднаго. Не сказаў толькі пра Лілю. Не мог сказаць. Не таму, што баяўся папрокаў — саромеўся сказаць. Без пякучага сораму і сам сабе не мог прыгадваць нарачанскую сустрэчу з Ліляй...

Тое было роўна праз год пасля таго, як ён уладкаваўся ў карэктарскую. Год той даўся яму ў знакі. Няхай сабе не надта цяжкая работа карэктара, аднак жа яму даводзілася асабліва старацца, апраўдваючы рэдактарскую дабрату і рызыку. І першага ў сваім жыцці водпуска ледзь дачакаўся. І быў невыказна рады, калі ў мясцкоме яму далі пуцёўку на Нарач у дом адпачынку.

Але ўжо ў аўтобусе ў яго сапсаваўся настрой. Антон не парупіўся загадзя з білетам і ледзь упрасіў шафёра ўзяць яго на стаячае месца. Амаль усе пасажыры, як і ён, былі адпачыўванцы. Тут жа, у аўтобусе, пачаліся знаёмствы, якія меліся быць прадоўжанымі там, у доме адпачынку, сёй-той дамаўляўся пасяліцца ў адной палаце. Антон стаяў, слухаў гэты глум, спрабаваў нешта чытаць, але стоячы не надта начытаешся, і нечакана зазлаваў на самога сябе, што не парупіўся з білетам, на суседку-зялепуху, што расселася паненкай адна на шырокім «кандуктарчыным» месцы, на гэты залішні, як п'янаваты, вэрхал у аўтобусе...

Не палепшыўся яго настрой і па прыездзе. Яго

пасялілі ў палаце са здаравенным, загарэлым хлопцам. Ён падаў Антону руку, назваўся:

— Чэслаў Браніслававіч!

Пасля, пад вечар, ставячы на стол бутэльку «быка» (так ён называў «Зуброўку»), Чэслаў Браніслававіч сказаў:

— Заві мяне проста Чэсь. Так мяне дома клічуць. Сам халасцяком будзеш? Я — таксама. Вось давай за знаёмства і вып'ем. Не саромейся! Сёння я ўзяў, заўтра — ты возьмеш. У мяне грошай хопіць. Я экскаватаршчык, меліяратар. Цяпер, друг, гэтае дзела ўзяло ў рукі гасударства, дык мы капейчыну добрую маем. Я з сабой дзве сотні прыхапіў, на дванаццаць дзён хопіць. А ты хто? Студэнт яшчэ ці ўжо робіш дзе?

Яны выпілі па шклянцы таго «быка» і пайшлі вячэраць.

Пасля вячэры яго зноў зладзіў Чэсь, клікаў з сабой на турбазу, дзе паспеў пазнаёміцца з дзяўчатамі, але Антон адмовіўся.

Перад сном, тым першым сваім вечарам у доме адпачынку, Антон пайшоў пахадзіць, прагуляцца па лесе. Набрыў на танцпляцоўку. Там было цесна і тлумна. Танцаваць Антон умеў не дужа хвацка, да таго ж не было настрою, і ён зусім не думаў падавацца ў тую камарыную кашу, што таўклася на цэментаваным пятачку, але баяніст зайграў «блакітны вальс», і Антон не паспеў ачомацца, як да яго падышла дзяўчына. Адмовіцца ён не рашыўся. Партнёрка кружылася лёгка, плаўна, і ён падумаў, што гэта зусім і няблага — пакружыцца вось так у вальсе.

А назаўтра пачаліся дажджы. Вецер і дождж. Ён церусіўся адзін дзень, другі, трэці. Не цёплы, спакойны летні лівень, а халодны, з парывістым, амаль асеннім ветрам, дробны, надакучлівы дождж-імжака. На вуліцу нельга было вытknуць носа.

У тыя дні Антон падымаўся толькі для таго, каб схадзіць у сталоўку, а так ляжаў і чытаў Экзюперы — захапіў з сабой томік. А за дзвярамі, у фае, ляскалі ў даміно, адтуль чуўся рогат, віск, лямант. Экзюперы пад такі акампанемент не чытаўся.

У доме адпачынку ўсё завучана, як азбука. Уся тутэйшняя мітусня не варта аднаго дня дзейнай асо-

бы. Ні праблем, ні сумненняў, ні пытанняў, ні гора, ні радасці. Час бавіцца ў зубаскальстве, адпачываю-цы групуюцца ў калектывы па прынцыпе: двое — тэніс, трое — паўлітра, чацвёра — «казёл». З усіх чалавечых якасцей тут найменш патрэбен розум. Спі, еш, гуляй. А прагулачкі па раскладу, танчыкі (таксама па раскладу), жарцікі прыядаюцца, як танныя песенькі... Здаецца, недзе ён чытаў нешта падобнае і цяпер з ахвотаю пагаджаўся з усім гэтым. Ляжаў і пасміхаўся сам з сябе, з таго, як ён напрамілы бог выпрошваў сюды пуцёўку.

На чацвёрты дзень пасвятлела. Антон абуўся і пайшоў у лес.

Дождж перастаў. Аціх і вецер. З калматых елак падалі цяжкія круглыя кроплі. Пахла свежай ігліцай, чарнічнікам і, падалося, грыбамі — казлякамі. Над гаспадарчымі службамі дома адпачынку прарэзліва крычалі вароны, быццам іх хто рэзаў. Можна было пазнаць старыя дзяркатыя галасы і хрыпатыя, нясмелыя маладыя — з елкі на елку пералятталі падлёткі.

Антон выйшаў з лесу, спусціўся да возера. Бераг быў бязлюдны. Антон прысеў на камень, закурыў. Пасля пачуў за спіною:

— Вы не будзеце супраць пакатацца са мною ў лодцы? Адна я баюся.

Ён азірнуўся. Перад ім стаяла дзяўчына. Тая, з якой ён у першы вечар танцаваў вальс. Ён пазнаў яе і як абрадаваўся.

Антон падняўся, і яны пайшлі да лодачнай станцыі. Яму не дужа часта надаралася раней брацца за вёслы, і ён нясмела спіхнуў лодку з берага. Дзяўчына, быццам аб нечым здагадаўшыся, сказала:

— Вы не хвалюйцеся, мы далёка не паплывём.

Яна села на карме, падкурчыўшы ногі. Антон грэб асцярожна, стараючыся не пырскацца, бо бачыў, што дзяўчына ўсё захінала сваю плісаваную спаднічку. Маўчалі.

Вечарэла. Пара была вяртацца, але пасажырка яго ная не турбавалася. Толькі раз яна ціха сказала:

— Хараша, праўда?

Было сапраўды хараша, і Антон ці не ўпершыню за гэтыя дні адчуў, што яму спакойна, лёгка, не туж-

ліва. Падумаў аб тым, што, мусіць, нехта праўду сказаў: хочаш супакоіцца — сядай за вёслы.

Дзяўчына маўчала. Ён час ад часу пазіраў на яе, яму падабалася, што яна маўчыць, не ляпеча абы-што, і нечакана для самога сябе ён прапанаваў:

— А павячэраем мы, можа, у «Паплаўку»?

У тым амаль бязлюдным «Паплаўку» яна сама сказала афіцыянтцы, што яны будуць піць каньяк, а на закусь папрасіла падаць вугра.

— Быць тут і не пакаштаваць вугра — злачынства,— растлумачыла яна Антону.

Гаварылі і тут яны мала. Яна толькі і сказала пра сябе, што завуць яе Ліляй і што працуе ў раённым банку.

Калі яны вярталіся ў дом адпачынку, Ліля прагаварыла:

— Пойдзем да мяне, у палаце я адна, суседка сёння паехала.

Ад нечаканасці ён разгубіўся, не ведаў, што сказаць. Яна ціха засмяялася, узяла яго пад руку:

— Які ж ты!..

Пасля, прытуліўшыся да яго, яна шаптала:

— Ты не думаеш, што я брыдкая? Не думай...

А ён маўчаў. Ён як бы забыўся на яе. Бо яму было сапраўды брыдка. Ён зусім іначай уяўляў сабе ўсё тое. Зусім іначай! І цяпер было ў яго адчуванне, што ён у нечым сур'ёзным і важным абмыліўся, і гэтае глыбокае, прыкрае расчараванне адолела, спаралізавала яго.

Ён не адразу пачуў яе шэпт:

— Ты не кінеш мяне? Ты жэнішся на мне?

Ён варухнуў сухімі вуснамі:

— Жанюся...

І тады яна нястрымна затрэслася ад смеху, і Антон, урэшце ачомаўшыся, павярнуўся да яе, спытаў:

— Чаго ты?

Яна навалілася на яго і, цалуючы, зашаптала:

— Які ж ты яшчэ хлопчык! Як я люблю цябе! Дурненькі мой! Як сляпое кацянятка... Замужам я! Дачушка ў мяне ёсць... Так што не бойся...

Антон уцёк з Нарачы. Тады ж, той раніцай. Нават снедаць не пайшоў — папёр на аўтастанцыю, на першы аўтобус...

Ён стараўся забыцца на тую нечаканую прыгоду

з Ліляй, аднак жа адчуванне нечага брыдкага, аголена-бессаромнага пры згадцы пра тое засталося. Гэтае адчуванне неспадзявана прыйшло да Антона праз гады, неўзабаве пасля таго, як перабраўся да Рэні — ці не ў хвіліны іх першай блізкасці? Ці не падалося яму тады, што Рэня занадта вольна паводзіла сябе? Хаця — не, пэўна, не тады. Тады ён яшчэ не мог нешта аналізаваць у іхніх узаемаадносінах. Яно прыйшло пазней, аднак жа — прыйшло, і яшчэ да Верамеевых слоў Антон, здаецца, сяды-тады міжволі адзначаў для сябе не то са здзіўленнем, не то з ніякаватасцю, што Рэня магла б быць з ім больш сарамлівай, што ці не занадта хутка пазбавілася яна пачуцця дзявочай цнатлівасці? Зрэшты, яму тое і не падабалася, і падабалася, і калі яна, не бянтэжачыся, пераапраналася пры ім, ён лавіў яе, цёплую і мяккую, у абдымкі, і адначасова ці не мільгала ў яго думка пра тое, што яна магла б і не выстаўляцца перад ім вось так спакойна, амаль дзелавіта...

А потым была тая сустрэча з Верамеем, і былі тыя непаважныя словы Івана Мацвеевіча пра жонку і дачку, і Антон ужо не сумняваўся, здаецца, што Верамей сказаў праўду; і было яму шкада самога сябе — што ён, жаўтароты летуценнік, які да жаніцьбы, можна сказаць, так і не ўведаў ніводнай бабы, трапіў у такое балота, у такі бруд. Выць хацелася ад гэтае жаласці да сябе...

Яны тады, пасля той яго аплявухі, «паміріліся». Рэня доўга хліпала яму ў плячо, шаптала:

— Як ты можаш думаць пра нешта такое? Хто мне патрэбен, акрамя цябе? Я ж люблю цябе, Тонічак! Так люблю, што, здаецца, больш, чым Аляксея! Ведаю, ведаю, нядобра так гаварыць, але — я цябе так бы і зацiскала, так бы і зацалавала! Больш, чым Аляксея, дальбог... А ты можаш пра нешта думаць! Я ніколі і нізавошта! Толькі з табою...

І Антон, слухаючы гэты яе гарачы шэпт, зноў цалаваў яе вусны, нос, вочы, казытаў вуснамі мочка яе вуха разам з кудзеркамі валасоў, і зноў, здавалася, вярталася да яго колішняя душэўная ўлагоджанасць і памяркоўнасць. Але ж і думка пра тое, што гаварыў п'яны Верамей, не забывалася, не прападала. Наадварот — прыбягала на памяць усё часцей і

часцей і штораз рабілася ўсё больш балючай і пакутлівай.

Праўда, будучы дома, ён яшчэ трываў. Але дастаткова было куды-небудзь ад'ехацца — ці на дачу, ці ў камандзіроўку, ці ў Кавалевічы, як думкі пра тое завалодвалі ім без астатку. Так і бачыў карціны Рэнінай здрады, так і здавалася, што яна толькі і чакала, каб ён куды з'ехаў. А калі вяртаўся дадому, міжволі цішком, каб не выдаць сябе, прыглядаўся да Рэні, намагаючыся ў паглядзе вачэй, у паводзінах і ўчынках заўважыць доказы яе віны. І, не могучы ні да чаго прыдрацца, усё адно пакутаваў. І сам сябе пераконваў, што ўжо ранейшых бясхмарных адносін між імі ніколі не будзе, што звязваць іх надалей будзе, бадай, адзін Аляксей.

Так яно і атрымалася. Мо і Рэні абрыдла яго заўсёдная падазронасць і адчужанасць, толькі і яна з цягам часу перамянілася да яго. Былі, канечне, між імі ўспышкі ранейшай пяшчоты і шчырасці, але — толькі ўспышкі. А так недзе з чацвёртага, мо нават з трэцяга года сумеснага жыцця ўсталяваліся між імі адносіны, якія толькі для чужога вока выдавалі нармальнымі, нават прыязнымі, а ўнутры ўжо ў іх не гарэла, а тлела. Жыццё быццам раздвоілася: для бацькоў, для сяброў і знаёмых — адно, для сябе ж — іншае...

Вось і сёння. Перакананы быў Антон, што пазваніла яму Рэня пра выстаўку чэхаславацкага дызайна дзеля таго, каб паказаць сваім сяброўкам па рабоце, што ўсё ў іх добра, і жартавала з ім толькі па той прычыне, што ў той час, як званіла, у пакоі была яна не адна, што гаворку яе чуў яшчэ нехта. Ён гэта разумеў і сам стараўся паводзіць сябе гэтак жа, нават пусціўся ў жарты. А як жа яшчэ павінен сябе паводзіць любячы муж?!

Ля ўваходу Рэня ўжо чакала яго. Была яна, як ён і думаў, не адна — з дзвюма сяброўкамі. Антон калісьці знаёміўся з імі, але цяпер цьмяна памятаў іх імёны. Адну завуць, здаецца, Ядзя, а другую — Інга, але каторая з іх Ядзя, а каторая Інга, не мог успомніць, таму павітаўся кіўком галавы: пакуль будуць хадзіць па выстаўцы, разбярэцца, тады мож-

па будзе выправіцца, пра што-небудзь з імі пагаварыць, кінуць які жарт, каб усё было прыстойна.

Прабылі яны на выстаўцы з гадзіну. Паглядзець там, сапраўды, было што. Антона найбольш уразілі вырабы са шкла. Розны посуд і хатнія рэчы былі проста дзівосныя, зачароўвалі незвычайнымі спалучэннямі формаў і колераў. Здзіўляла гульня святла ў гранях крышталёвых ваз, падвесаў, люстраў, бра. Ад усіх гэтых цудаў настрой у Антона палепшаў, ён нават досыць дасціпна жартаваў з Ядзяй і Інгай.

Але даволі было ім развітацца, як ад таго настрою не засталося і следу. І, вядома ж, вінавацію ва ўсім Рэню. Дурніца і закончаная мяшчанка! Дзеля чаго, каб хто спытаў, хадзіла яна на выстаўку? Толькі дзеля таго, каб прыкінуць, якія з тых шкляных цудаў маглі б упрыгожыць яе ўтульнае гняздзечка!

А Рэня, не хаваючыся, з захапленнем шчабятала яму:

— Як бы я хацела такую вазу ў наш пакой! Памятаеш, высокая такая, з літога шкла, з блакітнымі пацёкамі? Паставіць бы яе ў кут, ля тахты. І бра ў пярэдні пакой... Памятаеш, пад старадаўнюю карасінавую лямпу? Кажуць, пасля закрыцця выстаўкі асобныя рэчы будуць прадаваць. Трэба будзе падпільнаваць. Мо ўдасца што-небудзь адхапіць. Як ты думаеш?

Антон, закруціўшы галавой, не адказаў, а прамычаў нешта — усё ў ім кіпела, і ўжо зусім забыўся пра тое, што і сам, ходзячы па выстаўцы, не адзін раз думаў, што было б няблага сёе-тое з яе экспанатаў мець дома.

Прыйшлі дадому. А тут дадала свае тры грошы Паліна Іосіфаўна, адразу ж засакатала, як толькі яны зайшлі:

— Дзе гэта вы, каб хто сказаў, прападаеце? Бацька чакаў-чакаў, а не мог дачакацца! Як у ваду абое канулі! Хоць бы пазванілі!

— Што зноў, Паліна Іосіфаўна? — Антон знарочыста гаварыў іранічна-ўважліва.

— А хіба ён табе нічога не казаў? Ён жа чакаў, каб у гараж разам паехаць — там жа ў машыне нешта...

— Мы на выстаўку хадзілі, мама,— сказала Рэ-

ня.— Білетаў на яе не дастаць, не будзеш жа адмаўляцца, калі прапанавалі.

— А Іван Мацвеевіч мне нічога не гаварыў,— дадаў і Антон,— за ўсю дарогу раніцай і словам не абмовіўся аб машыне. Каб я ведаў, дык бы...

— Дык бы... Дык бы... Вам ніколі нічога не трэба!

— Мама, ну чаго ты? — не стрывала Рэня.

— Бацька не цябе чакаў, а Тоніка! — агрызнулася Паліна Іосіфаўна.

— Дык мо паехаць туды? — зласнавата спытаў Антон.

— Куды ты паедзеш? — Паліна Іосіфаўна ўскінулася, здавалася, яшчэ зласней.— На ноч гледзячы?

Ды Антона ўжо нешта падмывала на тое, каб ісці насуперак.

— Цяпер рана цямнее, а так яшчэ і не надта позна,— сказаў ён.— Калі невялікая прафілактыка, як казаў Іван Мацвеевіч, дык да адзінаццаці і ўправімся.

— Як сабе хочаш,— памаўчаўшы, азвалася Паліна Іосіфаўна.

Не хацелася Антону цягнуцца за свет у гараж, аднак жа адступаць было позна. Патаптаўшыся ў пярэднім пакоі, ён моўчкі падаўся за дзверы...

— Ну, паглядзі, хіба табе сорамна будзе са мной?

Рэня паявілася ў дзвярах у сукенцы, што Антон купіў, неяк трапіўшы ў суботу на Камароўку. Туды, на рынак, у канцы месяца прыязджалі аўталаўкі з раёнаў, і тады можна было купіць там тое, што ў горадзе на прылаўках не залежвалася. Рэня сукенку вельмі ўпадабала, апранала яе рэдка, не на кожную ўрачыстасць, і заўсёды ў такіх выпадках казала, звяртаючыся да Антона: «Надзену я тваю сукенку, добра?»

Зараз, зірнуўшы на жонку, Антон міжволі кіўнуў галавой і сказаў:

— Ды, бадай, сорамна не будзе...

Рэня пагрозліва паківала пальцам:

— Бадай? Добра ж, я табе гэта прыпомню!

Яна і праўда выглядала хораша. Цёмна-малінавая аднатонная сукенка вельмі пасавала ёй да твару,

нeяк змякчала чарнату яе пышных валасоў. Сукенка была па модзе даўгаватая, і гэта дадавала Рэні росту і стройнасці. Фігурны выраз адкрываў чыстую, яшчэ маладую шыю і матавы клінок грудзей, на якіх пабліскваў залаты кулончык; кароткія рукавы з верхнімі разрэзамі агалялі паўнаватыя, што яшчэ не страцілі летняга загару, рукі, высокая какетка хораша акрэслівала акругласць грудзей.

Ад усяго гэтага як зварухнулася нешта ў грудзях у Антона, і ён ужо амаль лагодна сказаў:

— Ды я ўжо ці не пабойваюся. Напавал будзеш падкошваць усіх там, дальбог!

Яны збіраліся ў рэстаран. Ці не тыдзень перад гэтым Рэня тлуміла яму галаву, каб у пятніцу куды-небудзь схадзіць. І да апошняй хвіліны ўсё не магла рашыць куды. Яшчэ раніцай, за снеданнем, выхапіўшы з рук Івана Мацвеевіча газету, вывучала тэатральную афішу, аднак жа нічога ў ёй Рэні ў вочы не кінулася. Потым, калі ўжо збіраліся на работу, загаварыла была аб тым, што, можа, сходзяць вечарам да нейкай знаёмай, але, не скончыўшы, махнула рукой і толькі папрасіла Антона пасля работы не затрымлівацца, а адразу ісці дадому: маўляў, там нешта разам прыдумаюць.

Антону было ўсё роўна, куды яны пойдуць. Адно парашыў для сябе — не будзе пярэчыць Рэні. Сяды-тады трэба паслухацца і жонкі. Кепска, вядома, што ёй прыспічыла нешта якраз сёння, у гэтую пятніцу, ды такой бяды. У Кавалевічы ён пад'едзе ў суботу, так і быць, паслухаецца Рэнінага капрызу. І не проста паслухаецца, а будзе ўвесь — увасабленне ўвагі, ласкі і нават, па магчымасці, пяшчоты.

З работы ён адразу ж паехаў дадому. Прыйшоў і заўважыў, што Рэня гэта ацаніла.

— Хуценька мыйся і апранайся. Надзень сіні касцюм. Сарочку вазьмі тую, што я купіла табе ў Смаргоні. Яна вельмі табе пасуе. І гальштук не забудзь — той, які ты завеш пікасоўскім,— гэтымі словамі Рэня сустрэла яго на парозе.

— А дазволь даведацца, куды мы збіраемся?

— Нізавошта не здагадаешся,— гарэзліва ўсміхнулася Рэня.

— На дыпламатычны прыём? На званую вячэру

з выпадку эннага юбілею нейкай сіяцельнай асобы? На пасяджэнне кайх-клуба?

— Не, не і не! Мы ідзём, мой даражэнькі, у рэстаран!

— У рэстаран? — Антон артыстычна гэпнуўся на пуфік, што стаяў у пярэднім пакоі ля трумо.— Ваша светласць апусцілася з завоблачных вышынь да звычайнай установы грамадскага харчавання?

— Перастань, Тонік! Ты правільна зразумеў: мы ідзём у рэстаран!

Антон пакорліва падняўся, скінуў з плячэй плашч:

— У рэстаран дык у рэстаран. Праз дзесяць хвілін буду гатовы.

Рэня ў тон яму адказала:

— А мне спатрэбіцца хвілін трыццаць. Галаву я паспела на рабоце зрабіць, а ўсё астатняе... Ты апранайся і пачытай, пакуль я.

— А дзе продкі і нашчадак?

— Паехалі на дачу.

— Аляксею ж у школу заўтра.

— Парашылі ахвяраваць. Забралі і яго з сабой. І сёння не прыедуць. Сёння мы з табой адны. Ты рады?

— Угу, угу,— мармытаў Антон, хаваючыся за дзвярамі ваннага пакоя.

Ён ледзь не задрамаў у крэсле, чакаючы, пакуль жонка навядзе свой марафет, пакуль не пачуў тых яе слоў:

— Ну, паглядзі, хіба табе будзе сорамна са мной?

Ён галантна памог Рэні апрануць лёгкае паліто, накінуў на сябе плашч — і яны пайшлі.

Вечаровым часам месц у рэстаранах не было. Удалося патрапіць толькі ў «Патсдам». Яны селі за першы ж, злева, прадаўгаваты стол. Рэня доўга вывучала меню, перачытвала штосьці, варушачы вуснамі, і Антон, зрэдзь часу пазіраючы на яе, крадком пасміхваўся. Яна яго сёння бянтэжыла. Збіралася, бы на ўрачысты банкет. З такой непасрэднасцю і зацікаўленасцю выбірае стравы, быццам прыйшла ў рэстаран упершыню. І ўвогуле, каму патрэбны ўвесь гэты маскарад? Але ж — абяцаў сам сабе, што будзе паслухмяны, як ягня...

— Тонік, закажам мне віна, а табе — каньяку. Ці ты, як заўсёды, чаго-небудзь сухога?

Антон схамянуўся, кіўнуў:

— Хай будзе каньяк.

Пасля Антон адчуў у Рэні нейкую перамену — яна быццам аддалілася ад яго і сядзела, безуважна пазіраючы перад сабою. Антон таксама ў нейкай бяздумнасці глядзеў то на маладзенькага лейтэнанціка і на ягоную такую ж маладзенькую сяброўку, якія — відаць было — прыйшлі сюды разам упершыню і штохвіліны бянтэжыліся адно перад адным, то на кампанію чырванатварых здаравякоў, якія, узяўшы добрую чарку, ужо не зважалі на свае ахаладзелыя біфштэксы, а захапіліся п'янаватай балбатнёй-спрэчкай, то на танцорак і танцораў, якія канвульсіўна тузаліся ля эстрады і на вузкім праходзе між столікамі.

Ажывілася Рэня тады, калі перад імі паявіліся нарэшце графінчыкі і закусь. Яна, не чакаючы афіцыянткі, сама наліла сабе і Антону, падняла сваю чарку, сказала:

— За нас, Тонік!

Антон чокнуўся.

Пасля чаркі віна Рэня захмялела — расчырванелася, вочы заблішчалі. Яна пацягнула Антона танцаваць. Ён паслухмяна пайшоў за ёю да эстрады і добрасумленна патоўкся там сярод разгарачаных спін. Калі яны, урэшце, зноў селі за стол, Рэня, прыпаўшы да яго плячом, з нейкай празмернай узбуджанасцю зашаптала:

— Тонік, каб ты ведаў, як мне добра зараз!..

Антон амаль шчыра абняў яе за плечы рукою. Хто яго ведае, думаў ён, мо і праўда, што жанчыне трэба зусім няшмат для таго, каб быць шчаслівай: усяго толькі, каб побач быў любячы муж і каб ён, гэты муж, бачыў толькі яе. Што ж, калі так, дык ён зможа быць і такім, сёння ён пастараецца быць здатным і на большае. Хай пазайздросціць гэтая маладзенькая парачка насупраць, што ўсё яшчэ, здаецца, старанна вывучае меню. Што ён зробіць? Ён закажа шампанскага, ён выкіне дзесятку (Рэня дома ўпіхнула яму ў кішэню іх штук дзесяць) аркестрантам, ён будзе, нягледзячы на сваю паталагічную агіду да шэйкаў і казачкоў, вадзіць Рэню на кожны танец. Да канца, да ўпаду, да самага закрыцця рэстарана...

Ён так і зрабіў, і яны бясконца танцавалі, і выйшлі з рэстарана амаль апошнімі, калі ўжо даўно апу-

сцела эстрада ад музыкаў, пасля неаднаразовых напамінкаў адміністратара залы, што рэстаран зачыняецца.

Дадому, нягледзячы на позні час, ішлі пешшу, і Рэня ў цямнейшых месцах, у шэрай, паласатай засені ўжо амаль голых дрэў патрабавала цалаваць яе, і Антон цалаваў, адкінуўшы прэч стрыманасць і прыстойнасць сталасці.

Дома Антон адмовіўся — хоць Рэня і настойвала — лезці пад душ, распрануўся і лёг, а Рэня па-ранейшаму была неўтаймоўная: папырскалася пад душам, нават памыла валасы, завінулася зварыць каву, прыгатавала ў спальні, на журнальным століку, лёгкую вячэру — сыр, цукеркі і бутэльку «Старога замку», падняла Антона, які ўжо зусім спаў.

— Спаць я табе сёння не дам, мой даражэнькі! Не дам! — гаварыла яна, паварочваючы яго на спіну і навальваючыся на яго грудзямі, казычучы яго твар сваімі мокрымі валасамі.— Заўтра субота, выспішся! Расплюшчвай, расплюшчвай вочы, паглядзі, якое тут усё спакуслівае... І сама я, Тонічак, таксама спакуслівая!Ух, якая спакуслівая!

І Антон падняўся, схадзіў у ванну, падставіў спіну і твар пад халаднаватыя струмені вады.

Яны доўга, ці не да трох гадзін па поўначы, дзяцініліся — пілі гарачую каву, цадзілі-смакавалі віно.

Урэшце Рэня знемаглася, заснула. Ён жа заснуў не адразу. Яшчэ некаторы час сядзеў і курыў. А калі лягаў спаць, дык, зірнуўшы на жонку, якая, бессаромна агаліўшыся, ціха пасопвала, ён, нечакана забыўшыся на ўвесь гэты вечар крыху робленай, але ж здаецца, прыемнай шчырасці і блізкасці між сабой і Рэняй, неспадзеўкі апёкся згадкай пра ўсё тое ж, што пачалося з даўняй Верамеевай балбатні, і яму захацелася даць жонцы гладкага і гучнага плескача па яе гэтай галізне. Аднак ён стрымаўся, асцярожна пасунуў жонку да сцяны і лёг сам...

Засынаючы, зноў згадаў бацькаву тэлеграму. Згадаў і нечакана падумаў: а раптам была ў бацькі нейкая пільная патрэба? Але тут жа супакоіў сябе: калі нават і так, дык усё адно не будзе вялікай бяды, калі ён з'ездзіць і заўтра...

Наязджаў Антон дахаты, будучы студэнтам, частавата — балазе, блізка. Наязджаў быццам проста так: пабыць дома. А яно ж атрымлівалася, што асноўнаю прычынаю яго частых адведак было, пэўна, іншае. Прынамсі, яго чорны цыратавы чамаданчык па дарозе з дому да гравійкі заўсёды важка адцягваў руку: маці знаходзіла яму і брусок сала, і дзесятак яек, і загорнуты ў капусны ліст ком масла, і яшчэ сёе-тое. Знаходзіла і некалькі рублёў.

— Вазьмі, Тонічак, на дарогу. А на рэшту цукру купіш,— казала маці, тыцкаючы яму скручаныя, нагрэтыя ў пальцах паперкі.

Ён, Антон,— не, тады яшчэ не Антон, а Тонік,— браў усё тое лёгка, з дзіцячай бяздумнасцю. Зараз ён не хацеў бы прызнавацца сабе, што жыў, бы тое птушанё, якое толькі адно і ведае — раскрываць рот, аднак жа было яно так. Калі-нікалі мо і прыходзілі да яго думкі пра тое, што з цягам часу, калі ён скончыць вучобу, стане зусім дарослым і забяспечаным чалавекам, ён шчодра аддзячыць і маці, і Мані за ўсе колішнія іхнія турботы і клопаты. Але сталася іначай. Пасля, як скончыў універсітэт і асталяваўся тут жа, у Мінску, ягоныя кантакты з домам, з маткай, бацькам і сёстрамі неяк неўпрыкмет паслабелі і парушыліся.

Спачатку не паказваўся дахаты тыднямі, а пасля і месяцамі. А як ажаніўся, дык і зусім, можна сказаць, парвалася тая нітка, што лучыла яго з родным кутам. І калі раней яму яшчэ сяды-тады было няёмка, калі напачатку яшчэ спрабаваў знаходзіць — хоць для сябе — нейкае апраўданне таго, што даўно не быў у Кавалевічах, не бачыў маці і бацькі, Маніных дачок і Томчыных сыноў, швагроў Андрэя і Генуся, дык пасля супакоіўся, звыкся, неяк аднойчы і быццам канчаткова пагадзіўшыся на тым, што так яно і павінна быць, што так яно не ў аднаго яго, а ў тысяч такіх, як ён, што лёс, абставіны мацнейшыя за чалавека, за яго жаданні і парыванні.

Больш таго, аднаго разу, наведаўшыся ў бацькаву хату, падумаў раптам, што яго ўжо не дужа хвалюе і турбуе тое, як яны жывуць тут, бацька, маці, Томка з Маняю. Злавіўшы сябе на гэтай думцы, ён быў збянтэжыўся — як засаромеўся і спалохаўся, каб хто з іх, блізкіх, неспадзеўкі не здагадаўся, пра што ён

толькі што падумаў. А потым... А потым падалося яму, што і нікога з іх асабліва не хвалюе, чым і як жыве зараз і ён сам, і адсюль неяк сам па сабе лёгка перакінуўся масток да іншае думкі. Пра тое, што ўсе яны, дзеці, даўно дарослыя, што колішняя, чыста сямейная еднасць іх і спалучанасць у сваіх ранейшых формах даўно парушана, што цяпер усё тое выяўляецца не вонкава, а ўнутрана, жыве ў душы і выходзіць напаверх толькі ў хвіліны іх агульнай радасці ці гора. Ён разумее іх, з самага пачатку, змалку ведае іх жыццё, абегласць іх немудроных клопатаў і патрэб,— дык чаго, каб хто спытаў, ён будзе надакучаць ім сваімі роспытамі, спагадамі, рахаваннямі?

Гэтак жа сама вытлумачыў ён для сябе і іхнюю цяперашнюю стрыманасць да яго. Маўляў, у селяніна, у вясковага чалавека спрадвеку жыве прыроджанае пачуццё тактоўнасці ў абыходку з адукаваным чалавекам, якое падказвае яму адпаведную меру паводзін: больш слухаць і менш гаварыць. І якая розніца, што ён ім не чужаніца, а сын і брат? Можа быць, якраз у тым і выяўляецца вышэйшая ступень гэтай сялянскай спракавечнай тактоўнасці, каб умець захаваць яе і ў дачыненні да блізкага чалавека, скажам, да сына, калі раптам гэты сын назаўсёды вырваўся з іхняга кругабегу, падняўся за іх вышэй? Можа быць, якраз у тым, бо яны, маці і бацька, а таксама і сёстры, рады, што ён вывучыўся, ганарацца ім. У гэтым ён не сумняваўся ніколі — ні тады, калі яшчэ вучыўся, ні цяпер...

Калі да яго ўпершыню прыйшлі такія думкі, ён збянтэжыўся, на душы зрабілася неяк непамысна, ажно прыкра. Ліха яго ведае, да чаго дадумаўся! Няўжо ён і праўда так ачарсцвеў? Няўжо так моцна закарэла яго душа ў гэтым жыцейскім, як кажуць, балоце, каб усур'ёз вось гэтак думаць?!

Раней жа, нягледзячы на ўсё, ён, наадварот, бываў часам, мо аж занадта часта, мяккацелым і сентыментальным. І найперш тады, калі згадваўся родны кут, родныя Кавалевічы, бацькоўская хата, сваякі і суседзі.

Колькі разоў было...

Прыбягала аднекуль здалёк якая-небудзь дробязь з маленства ці юнацтва, пакрысе абрастала падрабязнасцямі, набывала даўно забытыя гукі, пахі, ко-

леры, і тады яму да слёз хацелася тут жа імчацца на аўтастанцыю, што на плошчы Веры Харужай, купіць білет, уціснуцца ў заўсёды перапоўнены аўтобус і, стоячы ля дзвярэй, дзе праз шчыліну ласкава павявае на шчаку халаднаваты струменьчык ветрыку, ехаць дахаты. Дармо, што ў аўтобусе цесната і тлум; дармо, што ў раённым гарадку, дзе аўтобус прыпыніцца на некалькі хвілін ля тутэйшай аўтастанцыі і дзе ў яго нейкім чынам умудрацца ўпліснуцца яшчэ дзесятак-другі цётак, бабуль і дзядзькоў, і ён, Антон, апынецца ўжо не ля дзвярэй, а недзе пасярэдзіне, сціснуты з усіх бакоў гарачымі, ажно мокрымі ад поту спінамі; дармо, што недзе праз кіламетры тры ад райцэнтра скончыцца асфальт, і тады аўтобус напоўніцца густым, як дымавая заслона, воблакам пылу — цёплага, церпка-горкага, перамешанага з пахам бензіну; дармо...

Затое праз нейкі час будзе тая жаданая паваротка на ягоныя Кавалевічы, дзе ён папросіць шафёра прытармазіць і дзе, пераступаючы цераз нечыя авоські і сумкі з батонамі, з цэлафанавымі качалкамі кілбасы, з ролікамі шпалераў, праціснецца да дзвярэй і вываліцца на ўзбочыну, на мяккую і шэрую ад пылу траву; затое будзе наперадзе палёўка ад гравійкі да Кавалевіч з цупкай, выбітай, як ток, сцежкай па ўздоражжу; будзе ельнік — невялікі, змрачнаваты лясок, праз які прабяжыць-крутнецца тая палёўка, каб няўзнак выскачыць на пагорак, з якога адкрыюцца ў вішанніку і прысадах кавалевіцкія хаты; затое будзе вуліца — са старым, ужо аселым, раз'езджаным брукам, з лаўкамі ля весніц, з рэдкімі бабулямі і з такімі ж рэдкімі іхнімі ўнукамі на тых лаўках, са здзіўленымі і шчыра-радаснымі воклічамі аднекуль з садка ці з гарода: «Здароў, Пятровіч! Праведаць сабраўся?»; затое будзе якраз пасярод вёскі, за раўчуком, калісьці вымашчаным каменем, а цяпер размытым і раскалашмачаным, які перасякае вуліцу ўпоперак і служыць для сцёку вады ў канаву на аселіцы,— за раўчуком злева будзе пляскаты, парослы крапівою камень-валун, будуць дашчаныя, на дзвюх, сплеценых з алюмініевага дроту вочапках-завесках весніцы, будзе чыста падмецены, пасыпаны жвірам падворак, будуць дзве прыступкі ганка, нізкія, што трэба прыгнуцца трошачкі, сенечкі з кладоўкаю, высліз-

ганая, ажно адпаліраваная клямка, ціхі рып дзвярэй, родны, даўным-даўно ссечаны сякерай і збіты абцасамі парог...

Божа, што будзе!

Антон у такія хвіліны так расчульваўся, што нараджалася ў душы жаданне не проста пабегчы на аўтастанцыю і паехаць у Кавалевічы ў адведкі, а, махнуўшы на ўсё рукою, падаць начальству заяву, раз і назаўсёды разлічыцца з усім, што звязвае яго з горадам, і падацца туды, у Кавалевічы, не на пару гадзін, не на дзень-другі,— назаўжды, да канца дзён сваіх! Ах, як яму хацелася часам зрабіць так! Дальбог, каб згадзілася жонка — паехаў бы! Наўздзіў усім! Хай пасмяюцца, хай падзівуюцца з дзівака! А ён — не пашкадуе! Не, не пашкадуе!..

Але — усё канчалася толькі гэтым салодкім трызненнем. Ведаў, што ні за якія грошы не вернецца туды, што гэта адно блюзнерства. Аднак жа і сам часам пра тое думаў і жонцы мог паназаляцца. Аднойчы нават пры госцю нейкім сказаў быў, што асабіста ён, Антон Вячорка, мог бы і вярнуцца ў вёску. Сказаў і пабачыў: Рэні тое надта ж не спадабалася. Ажно абразіла яго. Пры чужым чалавеку сказала: «Не думала, што ты такі дурань!..» Ён пакрыўдзіўся, але засмяяўся: «Я ж там, Рэнечка, нарадзіўся, дык што ж такога...» Яна абарвала яго той дурнаваты смех яшчэ больш груба: «Дык і сядзеў бы там!..» Госць адчуў сябе ніякавата, похапкам кінуўся пераводзіць гаворку на іншае, а ён, Антон, ужо ці не са злосцю, нават з нейкаю агідаю падумаў пра жонку: «А сама ж таксама нарадзілася і гадавалася ў вёсцы...» А пасля, супакоіўшыся, ужо ці не з усмешкаю думаў, што ўсё яго цялячае захапленне, салодкае трызненне — глупства, усяго толькі хвілінная слабасць, даніна згадкам пра маленства і юнацтва...

Прачнуліся яны позна — недзе каля дзесяці. Рэня, як і ўчора, памкнулася была да яго з дураслівым казытаннем, але Антон мякка, нібы жартам, астудзіў яе:

— Не трэба, дзень на дварэ...

Рэня засмяялася, але як зразумела нешта — тут жа паднялася, абцягнула сарочку і пабегла са спальні, сказаўшы напаследак:

— Падымайся і ты, калі такі сарамлівенькі ў мяне!

Пакуль мыліся, снедалі, дык набегла і дванаццаць. Антон думаў адразу ж ісці на аўтастанцыю, але Рэня настояла на сваім — угаварыла схадзіць на «Салодкую жанчыну».

— Ты ўсё адно начаваць там будзеш, дык вечарам паедзеш. Сёння ж аўтобусы пустыя будуць...

Антон моўчкі пагадзіўся. Балазе, кінатэатр, дзе паказвалі тую «Салодкую жанчыну», быў непадалёк. Падумаў яшчэ, што ўсё адно білеты яны наўрад ці возьмуць, бо фільм карыстаецца поспехам, таму, так і быць, ён сходзіць з ёй да кінатэатра.

Білетаў, як ён і думаў, не было. Рэня паспрабавала перахапіць у каго-небудзь з рук, але, як ні старалася, не дастала. Чакаць наступнага сеанса не выпадала, і яны вярнуліся дадому.

Не марудзячы, сабраліся ў дарогу: Антон — у Кавалевічы, Рэня — на дачу. Антон, збіраючыся да бацькоў, звычайна сам купляў сёе-тое. На гэты раз Рэня сама сабрала яму партфель-саквояж: некалькі бляшанак тушонкі і кавы са згушчаным малаком, паўпалкі якойсьці варанай кілбасы, трохкутнік сыру, паляніцу і наверх — гронку вінаграду. Рэня правяла яго, чаго не рабіла раней, і на аўтастанцыю. Праўда, чакаць, пакуль падыдзе яго аўтобус, не стала.

— Не маленькі, сам сядзеш, і мне часу няма — я ж таксама еду,— пасміхнулася.— Пабягу на свой аўтобус. Так што — бывай!

Антон кіўнуў і пайшоў да акенца касы, каб узяць білет. Але ўзяць яго не паспеў. Ужо ля самага акенца, калі паперадзе ў Антона ў чарзе засталося двое ці трое чалавек, хтосьці крануў яго за плячо. Антон павярнуўся. Перад ім стаяў Грыша Папкоў.

— Куды сабраўся? — спытаў Грыша і падаў руку.— Бацьку з маткай праведаць?

— Ага,— павдароўкаўся Антон.

— Дык выходзь з чаргі і пайшлі. Завязу бясплатна і з камфортам.

— Ты на сваёй? — здагадаўся Антон.

— На бацькавай! — зарагатаў Грыша.— Вунь стаіць мой «жыгуль». Адзін еду, дык, падумаў, мо хто з нашых будзе, каб весялей ехалася. Пайшлі!

Грыша Папкоў — кавалевец, Антонаў равеснік.

Калісьці разам бавілі час на кавалевіцкіх вуліцах і аселіцах, разам хадзілі ў школу. Праўда, вучыўся Грыша не надта і неўзабаве адстаў ад Антона — ці не ў трох класах сядзеў па два гады. Аднак сямігодку сяк-так дабіў і падаўся да старэйшага брата ў Мінск, паступіў вучнем на завод. Потым, у арміі ўжо, вывучыўся на шафёра. Антон краем вуха чуў, што Грыша, адслужыўшы тэрміновую, зноў вярнуўся на завод, але ўжо не да станка, а на шафёрскую работу — вазіў дырэктара на легкавушцы, а цяпер гойсае па горадзе таксістам.

Ідучы да ярка-аранжавых «Жыгулёў», што прыткнуліся да тратуара па другі бок вуліцы, Антон на ўсялякі выпадак спытаў:

— Ты, мне нехта казаў, на таксі робіш?

— Раблю. Абрыдла да чорцікаў,— Грыша махнуў рукой.

— Што ж так?

— А дзянёк паездзіў бы — не пытаўся б! Нерваў не хапае! І каб хоць заробкі былі, як раней... А ты дзе што робіш? Матка неяк казала — у газеце?

Антон не надта ахвотна адказаў:

— Кінуў газету. Даўно ўжо. У міністэрстве зараз...— І паправіўся:— У сістэме міністэрства.

— Іш ты! І шмат заграбаеш?

— Усе мае,— яшчэ больш неахвотна прамовіў Антон.

Грыша адамкнуў дзверцы, сеў за руль, знутры адчыніў правыя дзверцы, гукнуў Антону:

— Прашу! Дастаўлю хутка і з шыкам! Толькі прышпіліся.— Крануўшы машыну і вырuліўшы на лінію, нечакана сказаў:— Дык усё ж колькі, га?

— Сотні дзве маю,— перасмыкнуўшыся, адказаў Антон.

Грыша прысвіснуў:

— Без прыварку — не грошы, тфу!

Антон прамаўчаў. Даўно размінуліся яны, яшчэ тады, як Грыша першы раз застаўся сядзець на другі год у другім ці ў трэцім класе. З той пары Грыша неяк выпаў з іх кампаніі аднагодкаў, далучыўшыся да меншых кавалеўцаў. А пасля і ўвогуле сустракаліся рэдка. Аднак памятаў Антон, што Грыша змалку меў занадта лёгкі язык, пайшоў не па бацьку — маўклівым Папку, а па маці, якая паспявала абгаварыць

у Кавалевічах усіх, ад старога да малога. І цяпер, сеўшы да Грышы ў машыну, Антон не сумняваўся, што ён не дасць яму сумаваць. Аднак жа неспадзявана загаварыў першы сам:

— Слухай, ці шмат вас, таксістаў? Я к таму, што ні разу за ўсе гады не сеў да цябе ў машыну.

— Мусіць, не часта ездзіш у таксі! — зарагатаў Грыша.— Я землячкоў часта ваджу... А нас, брат, многа. Толькі ў нашым парку машын чатырыста, а мо і больш...

Ехаў Грыша асцярожна, не спрабаваў прашмыгнуць трамвайны прыпынак ці абагнаць каго. Як для таксіста, падумаў Антон, дык аж занадта асцярожна. І, усміхнуўшыся, спытаў:

— Ты заўсёды так ездзіш?

Грыша, не паварочваючыся да яго, нечакана сур'ёзна адказаў:

— Я ж, брат, на сваёй зараз. Не хапала яшчэ, каб пацалавацца з якім дурнем!

— У цябе ж, здаецца, «Запарожац» быў? Чырвоны...— зноў спытаў Антон.

— Быў, ды сплыў! «Запарожац» — хіба машына? Чарапаха! А «жыгуль» — сапраўдная машына! Чуеш, як бяжыць?

Як ні рэдка бываў Антон у Кавалевічах, аднак жа сякія-такія вясковыя навіны чуў. Чуў, што Грыша яшчэ некалькі гадоў назад займеў «Запарожца». Займеў, вядома, не за свае заробленыя — за бацькавых парсюкоў і парасят, як, дарэчы, і кааператыўную кватэру. Хацеў спытацца, падкузьміць Папка-малодшага, але перадумаў: нягожа, карыстаючыся з чужой ласкі, яшчэ і пацвельвацца з чалавека. Сам жа Грыша, напэўна, нізавошта не прызнаецца, за якія такія шышы прыдбаў машыну і кватэру. Ну, і ліха з ім! Якая розніца? Грыша, здаецца, не зусім і благі хлопец. Не кожны здатны на тое, каб вось так, як ён, заехаць на аўтастанцыю і запрасіць у сваю машыну земляка дзеля кампаніі!

Выбраліся, нарэшце, з горада, выскачылі на шашу. Тут Грыша прыбавіў хуткасці, усеўся за баранкай ямчэй і, падалося, вальней. І тут, нарэшце, сам загаварыў да Антона, і загаварыў пра тое, чаго Антон не чакаў:

— Ты, пэўна, думаеш: тарбахват Грышка Пап-

коў! Урвіцель, як усе таксісты! Думаеш, га? А я табе скажу так. Праўду скажу, бо цябе я не баюся. Землякі — як сваякі... Дык па-сваяцку і скажу. Не ўсе таксісты і ўрвіцелі, як вы думаеце. Канечне, свежая капейка, як кажуць, у нас водзіцца, пасля змены, каб і не хацеў, сякі-такі рубель у кішэні збіраецца. Але не столькі, каб за гэтыя рублі машыны купляць. І гэтыя «Жыгулі», як і ранейшага «Запарожца», ты ведаеш, я не за свае купіў. За бацькавы грошы. Але, брат, і не зусім за бацькавы. Да тых грошай і я руку прылажыў. Я на тых парсюкоў і цялушак таксама паўкалваў. Кожны тыдзень у Кавалевічы пёрся — і адзін, і з жонкай. Пёрся, каб сена накасіць, дроў нарыхтаваць, агарод пасадзіць і выкапаць. А колькі мяхоў мукі, камбікармоў папацягаў туды! Праўдамі і няпраўдамі даставаў... А за мае таксісцкія рублі кукіш бы я меў! А ты думаеш...

— Нічога я не думаю,— адмахнуўся Антон.

— Думаеш! — Грыша бліснуў на яго буйнымі, белымі зубамі.— Але хрэн з табой! Думай! А вось каб хто з вас хоць адну змену пакруціўся па вуліцах, па завулках і дварах, каб уведаў, як гэта соладка, калі пад канец змены ўсё ўваччу мільгаціць, рукі і ногі дрыжаць, спіна нямее, а каб яшчэ з п'янымі паваждаўся, дык тады б не зайздросціў каторы, не казаў бы, што таксіст — кум каралю і чорту брат...

Выскачылі на пагорак, з якога адкрываўся Бараўлянскі пасёлак. Грыша нечакана збавіў хуткасць і, кіўнуўшы Антону кудысьці наперад, сказаў зусім іншае:

— Не люблю тут ездзіць. Пракляты ўчастак!

— Чаму? — Антон, прыпадняўшыся, зірнуў на дарогу.

— Не глядзі, нічога не ўбачыш, а — пракляты, тут штогод аварыі бываюць. Роўна, гладка, а — куляюцца. Цыганы праклялі...

Антон пасміхнуўся сам сабе: маўляў, Грыша бярэцца за сваё — пачынае заліваць.

— А ты не смейся,— сказаў Грыша.— Помніш, як яшчэ тут брук быў? Як спрамлялі дарогу, калі асфальт клалі? Дык тут тады цыганы рабілі. Цыганская брыгада ці арцель. І знайшоўся прараб, які і цыганоў вакол пальца абвёў, нешта ім не даплаціў. Вось

цыганы і праклялі гэты ўчастак. І на роўным месцы машыны куляюцца. Я, брат, гэта ведаю і заўсёды тут ціха еду.

— Байкі,— сказаў Антон.

— Мо і байкі,— пагадзіўся Грыша.— А што цыганы гэты ўчастак рабілі, дык гэта точна! Я тым летам з маткай вішні ў Мінск на Камароўку вазіў, сам бачыў...

Грыша змоўк, засяроджана ведучы машыну. Антон таксама маўчаў, нечакана ўражаны Грышавым расказам. Колькі разоў ездзіў гэтаю дарогаю і ніколі не думаў, уласна, аб дарозе, аб гэтых паваротах, пад'ёмах і спусках, якія пазначылі зілісты малюнак асфальтавай стужкі. А шафёры, аказваецца, трымаюць усё гэта ў памяці, для іх дарога — не мёртвая стужка асфальту, а жывая істота, са сваім норавам і характарам...

— Слухай, ну скажы, цікавая твая работа?

Грыша неяк дзіўна паглядзеў на Антона, памаўчаў, пасля азваўся:

— Цікавая... Я ж казаў ужо... Аднойчы па Казлова еду. Здаецца, без пасажыра, па выкліку. Іду, як заўсёды, на шэсцьдзесят. Наперадзе — зялёны. А тут з тратуара нехта матлянуўся на дарогу... Ну, паспеў тармазнуць, задок занесла, мяне крутанула. Выскачыў з машыны — той нехта ляжыць. Кінуўся да яго — стары дзед. Кіёк убок адляцеў, сетачка з двума пакетамі малака побач ляжыць, адзін пакет пацёк... Падымаю старога — вочы расплюшчвае. Жывы, значыцца! Згроб яго, у машыну — і ў бальніцу... Не вінаваты, а сэрца заходзіцца, такія кошкі шкрабуць... Назаўтра да яго ў бальніцу — з яблычкамі, са слоікам кампоту. А стары ачухаўся, у калідоры мяне стрэў, кажа, паздароўкаўшыся: «Дзякуй богу, што хоць ты не скалечыўся... Даруй, сынок, адсохла галава зусім...» Цікава?

Антон прамаўчаў.

— Помню, накіравалі нас абслугоўваць дэлегацыю. Дэкада нейкая была ў Мінску, ці што. Вазілі мы артыстаў, пісьменнікаў... З гасцініцы на канцэрты, на сустрэчы розныя, а пасля зноў у гасцініцу. І на банкеты і з банкетаў вазілі... Помню, Тарапуньку са Штэпселем вёз. Адразу пазнаў. Яны і ў жыцці такія ж, як і на сцэне. Асабліва Тарапунька. Усю

дарогу хахміў... Спевака аднаго вазіў. Яго часта па тэлевізары паказваюць, але я прозвішча пяк не запомню. Цё-ё-ёпленькі быў! Двое, што з ім ехалі, ледзь уламалі, каб спаць ішоў... Ды ўсё гэта ярунда! Нашы не любяць вазіць артыстаў розных ды пісьменнікаў. З іх прыварак невялікі, а клопату... Наш брат, рабацяга, куды шчадрэйшы за іх. А каторы нападдпітку, дык...

Крутнуліся па Радашковіцкай развілцы, справа мільгануў танк на п'едэстале, злева, за прысадамі, паплыў Астрашыцкі Гарадок. Антон, праязджаючы міма, заўсёды міжволі прыгадвае верш, нават не верш, а некалькі радкоў, якія напісаліся ў яго аднойчы ў дарозе да сваіх Кавалевіч. Прыгадаў тыя радкі і цяпер:

Паміж Мінскам і Лагойскам,
Пры шашы, па левы бок,
Лёг не горад і не вёска —
Астрашыцкі Гарадок.
Чым прывабіў уяўленне,
Зваў мяне яшчэ здалёк?
Сама назва, як трызненне,—
Астрашыцкі Гарадок.
Землякі ішлі у горад
(Мінск — не дзедаўскі куток!) —
Адкрываўся ім з пагорка
Астрашыцкі Гарадок...

Болей, колькі ні намагаўся, нічога прыдумаць не мог. Але гэтыя радкі засталіся ў памяці і чымсьці трывожылі яго напраўду...

Аднойчы, даўно ўжо, яшчэ студэнтам, Антон не стрываў, выйшаў з аўтобуса, які вёз яго ў Мінск, і завярнуў у Астрашыцкі Гарадок — паглядзець, што гэта за «не горад і не вёска». Пахадзіўшы па старым парку, пастаяўшы на беразе возера, ля абымшэлых паляў колішняга моста ці млына, не паленаваўся перайсці на другі бераг рачулкі і ўскараскацца на старадаўні вал. Стаяў там, глядзеў зверху на люстра возера, на крутыя пагоркі-ўзлобкі, парослыя лесам, на драўляную каплічку сярод могільнікавых соснаў — і рабілася на душы вусцішна, трымкліва, як бы ён судакрануўся з жыццём, што буяла тут даўным-даўно, ад якога застаўся, бадай, толькі вось гэты ўтравелы вал ды яшчэ, можа быць, гэтае возера ўнізе...

Ён тады, наўздзіў сабе, затрымаўся ў Астрашыцкім Гарадку да самага вечара: выпадкова загаманіў у парку з маладзенькай не то выхавацелькай, не то медсястрой з дзіцячага санаторыя, якая вывела сваіх падапечных на прагулянку. Дзяўчына аказалася надзіва гаваркая і шчырая, нават — смешна ўспамінаць! — прынесла яму, Антону, з санаторыя абед (пэўна, свой, пра што ён падумаў толькі пасля) і запрашала, калі ўжо ён наважыўся пазнаёміцца з іхнім гарадком, застацца яшчэ на дзень, абяцаючы ўладкаваць яго на начлег у дамку рыбака.

Праз гэтае выпадковае знаёмства ён і заставаўся там да вечара, а пасля, калі тое даверлівае і добрае дзяўчо павяло сваіх выхаванцаў спаць, ён бессаромна збег з парку і хуценька пашыбаваў на аўтобусны прыпынак, а потым не адзін раз прыгадваў яе, думаў пра тое, як яна, вярнуўшыся, шукала яго ў парку, і тады яму рабілася няёмка, ажно сорамна, да брыдоты, і як бы нечага шкада...

— Дык ты чуеш? — адарваў яго ад згадак Грыша.— Кажу, што рух па дарозе аднабаковы: колькі едзем, а нікога не даганяем і нас ніхто не пераганяе, усе ў горад пруцца.

— Раніцай з горада ехалі, па зялёнкі,— адказаў Антон,— а цяпер дамоў вяртаюцца.

— Няма зялёнак,— пазяхнуў Грыша.— Я ў мінулую нядзелю з сям'ёй ездзіў, дык грыбнікоў больш, чым грыбоў. Увесь лес здратаваны.

— Дык, выбачай, вы ж і дратуеце! Забіраецеся туды, куды раней ніхто не дападаў!

Грыша не пакрыўдзіўся, наадварот — задаволена зарагатаў:

— Ну, дык а як? Каб я на сваіх колах ды аціраўся там, дзе ўсе ходзяць, дзе адны зрэзаныя ножкі тырчаць? Не, выбачай, я ўжо забяруся, як ты кажаш, туды, дзе мяне грыбы будуць шукаць, а не я іх.

— Таму і няма тых зялёнак,— таксама пасміхнуўся Антон.

— Дык жа я ўжо і вінаваты ў тым? — Грыша зноў паказаў зубы.

— І ты.

Грыша пасур'ёзнеў:

— Э, кінь! Я за ўсю восень разы са тры і выбраўся!

— Усе па тры — колькі збярэцца?

— Дык а нашто я тады «Жыгулі» сабе купляў?

— Каб у грыбы ездзіць!

Грыша зірнуў на Антона, хмыкнуў:

— А пайшоў ты на хутар!

Неўпрыкмет праскочылі Астрошыцы, Чудзенічы, скрыжаванне на Дзяніскі і Жодзіна, на пагорку ля Лагойска павярнулі налева, на гравійку — зашаргацелі па жарсцвяку шыны, па днішчы забарабанілі, бы шротам, дробныя каменьчыкі.

— Тут не разгонішся,— сказаў Грыша, збаўляючы газ.

— Дык і не гані, паспеем з козамі на торг,— падтрымаў яго Антон.

— Казалі ж, і тут асфальт пакладуць,— буркнуў Грыша.— Падымі шкло, менш пылу будзе лезці.

— А ты дадому чаго? — нечакана спытаў Антон.

— Падскочу... Бульбы пару мяшкоў вазьму, яблыкаў... А што?

— Нічога. Я так. Гляджу, адзін едзеш, без сям'і.

— Дык жа хлопец у школе, у другую змену, а ў жонкі сёння рабочая субота.

— Колькі твайму хлопцу?

— Жаніх ужо, брат, у восьмы ходзіць. Паверыш, мае паўбацінкі святочныя цішком стаптаў, а я і не ведаў. Спатрэбілася абуць, дык гляджу — усе збітыя, абшарпаныя. Такі паганец!

Аднак жа ў голасе Грышавым чулася не крыўда, а замілаванасць, гонар ад таго, што ў яго такі вялікі ўжо сын, амаль дарослы,— пакуль хоць па назе, а дагнаў бацьку...

— А ў цябе ёсць хто? Я ж чуў, што ты позна жаніўся. Паспеў абсемяніцца?

— Уга калі! Таксама хлопец. Але мой малы яшчэ. У пяты ходзіць.

— Малы! Не агледзішся, як таксама твае адзежкі будзе прымерваць! Надта скорыя яны на гэта! — Грыша быццам паздзіўляўся нечаму сам сабе.— Ну, а як баба твая? Няма мух у носе? Яна ў цябе таксама вучоная? Ты не злуйся, але я вучоных баб не люблю... Мая баба, скажу табе, як і я, скончыла сем класаў і восьмы калідор, у восьмым не давучылася... І што? І дзякаваць богу. Затое без паршаў! Што ў хату купіць, сабе, мне ці Ігару — сына Ігарам за-

вуць,— тут яна камандуе. Хочаш — купляй, ты — гаспадыня. А што мне рабіць, калі і куды пайсці — ты мне тут не ўказ, тваё бабскае дзела — старана. Я цябе шаную, не крыўджу, бачу і ўдзянёчку, і ў цёмную ночку,— Грыша пырснуў смехам,— так што маліся, баба, богу і не шманай... А інакш, брат, паскуднае дзела. Даць бабе хвастом круціць — адна ярунда палучаецца. Я табе, вучонаму, скажу так. Чаму ў нас зараз шмат разводзяцца? Праз гарэлку, што мужчыны п'юць? І праз гэта. Але, як на мой розум, дык і праз тое, што бабы верх над мужыкамі ўзялі. Ты ж паглядзі на каторых. Ён каля яе і так, і гэтак, і ўгаворвае, і просіць, як ля дзіцяці малога, а яна — нюхаўку задзярэ і азадкам круціць: што захачу, тое і зраблю, ты мне не ўказ, мы з табой роўныя, я ўчора талеркі мыла, а ты — сёння мый, пялёнкі не забудзь прапаласкаць... Я такую бабу, каб уладу меў, так бы адпэндзіў, каб усё жыццё помніла, каму трэба пялёнкі мыць і падлогу падціраць... Няпраўду, думаеш, кажу, га, Тонік?

Антон не то мармытнуў штосьці, не то, па звычцы, моўчкі крутнуў галавой, што Грыша зразумеў па-свойму, бо нечакана кінуўся ў атаку:

— Не, ты не думай, што ў мяне з Іркай маёй, гэта самае... Не! Я Ірку ў крыўду не даю! Баба яна на яць! І гаспадыня, і матка, і за мяне каму хочаш нюхаўку на бок зверне. Жывём мы, брат, душа ў душу...

Грыша памаўчаў, пакуль з'язджаў з дарогі і пыліў па полі — гравейку ў гэтым месцы рамантавалі, клалі на месцы былога драўлянага мастка шырокія, шырэйшыя, чым для студні, бетонныя колцы, а пасля зноў загаварыў:

— Толькі, брат, прызнаюся, адно кепска... На дзяцей нам не пашанцавала з Іркай. Неўзабаве пасля Ігара захварэла мая Ірка. Па-бабскаму... Лячылі-лячылі, а потым на аперацыю паклалі, выразалі ўсё чыста... А мы так хацелі, каб хоць троечка была дзяцей. Два хлопчыкі і дзяўчынка... У цябе таксама адзін? І больш, пэўна, не хочаце? Ну і дурні! Тут бы рады быў, дык... Чорт яго ведае, што гэта цяпер робіцца! Зробяць аднаго выліўка — і ўсё! Каб самім пажыць! Для сябе! А як гэта — для сябе? Навошта — для сябе? Каб кожны стаў жыць толькі для сябе, што

б было? Нечага я тут не разумею. Ты вучоны, скажы, што было б, Тонік?

Антон моўчкі сцепануў плячамі.

— А ты не маўчы! Ты не думай, што Грышка Папкоў балбоча абы-што. Я люблю пагаварыць, гэта праўда. І пасажыраў люблю разгаворлівых. Каторы ўсунецца ў машыну, надзьмецца, як індык,— я такіх не люблю. Сядаеш да чалавека, дык будзь чалавекам. Я такіх вумнікаў катаю па сваёй мятодзе. Скажу, што там вуліца перакрыта, а самога крутану на лішні кіламетр-другі... Але не люблю і тых, хто надта сабе наўме. Вязеш каторага, скажам. Быццам і нішто чалавек: і пра пагоду пагаворыць, і пра што іншае, анекдот раскажа. Прывязеш, дык ён табе на лічыльнік не зірне, суне рубля ці траяка і — «Здачы, друг, не трэба!» Не, выбачайце, трэба! Я такому дам рэшту цюцелька ў цюцельку, да капейкі. Я табе, чалавеча, не жабрак, я таксама, як і ты, зарплату палучаю, рэгулярна, два разы ў месяц... Разумееш, што да чаго? Іншы рубля падае, скажам, калі на лічыльніку восемдзесят сем капеек, і сарамліва кажа: «Дзякую...» Ну, дзякую дык дзякую, мо ты не хочаш чакаць, пакуль я корпацца буду, шукаючы табе трынаццаць капеек рэшты, мо табе час даражэйшы, чым гэтыя трынаццаць капеек... А то ж на лічыльніку два трыццаць, а ён траяка падае — «Здачы, друг, не трэба!» Значыць, пусты чалавек, і я такога не паважаю. З тых, што для сябе жывуць. Правільна кажу?

— Ты, мусіць, кожнага ўжо за вярсту бачыш, што за чалавек?

— Навылёт! — Грыша сплюнуў у акенца.— Тут у мяне вока натрэніравана, як у буфетчыцы на недаліў ці на недамер. Асабліва ж, Тонік, не цярплю фантамасаў. Гэта я так смаркачоў патлатых заву. Ну, бачу ж, што яшчэ і рубля за сваё жыццё не зарабіў, а ўжо сядае ў таксі і ўжо асмельваецца паблажліва, як зялепусе сваёй, працадзіць мне праз зубы: «Мне, шэф, на Пушкіна, не абіджу...» Ды я цябе зараз сам так абіджу, што забудзешся, на Пушкіна табе трэба ці на Глебкі! Але ж — не будзеш! Адно, што магу, дык гэта сказаць: «Не па дарозе, я па заказу ў Чыжоўку...»

— А не баішся? — Антон і сам не ведаў, чаму спытаў так. Пэўна, таму, што сам чамусьці пабойваўся гэтых самых, як Грыша кажа, фантамасаў. Адзін час займеў быў звычку хадзіць перад сном на прагулянку — рабіць некалькі кругоў вакол квартала. І аднойчы прычапіліся да яго смаркачы — ажно чацвёра. Прысталі: дай закурыць. Ён спакойна спаслаўся на тое, што на ім спартыўны касцюм і што цыгарэт з сабою нельга было ўзяць. Тады адзін, старэйшы, з тых фантамасаў сказаў: «Трэба напомніць дзядзю, каб у другі раз браў з сабою «Арбітку» ці «БТ»...» Антон адбіўся ад іх, але з той пары ўсё ж перастаў хадзіць на тыя вячэрнія мацыёны...

Грыша на яго пытанне зарагатаў:

— Хай паспрабуе каторы! У мяне пад сядзеннем на ўсякі выпадак ключ ляжыць. Сунуць туды руку — адна секунда...

Дарога то спускалася ў лагчыну, то падымалася на пагорак, бегла то сярод лесу, то сярод поля, даўно зжатага, парудзелага, шыны нямоўчна шаргацелі па пяску.

— Ну, брат, вось і пад'язджаем,— сказаў Грыша, і Антон спахапіўся і, як пасля дрымоты, агледзеўся.

«Жыгулі» ссунуліся з гравійкі і пакаціліся па вузкай, цяперашнім сухім часам добра прыкатанай дарозе-палёўцы праз лес. Іхнія Кавалевічы, колішні цэнтр калгаса, даўно ўжо страцілі свой ранг самастойнасці, сталі калгаснай брыгадай, і да іх па-ранейшаму бяжыць праз лес гэтая пакручастая, праўда, не дужа гразкая нават у хлюпатную восень — бо пясок — палёўка, у той час як да іншых, больш перспектыўных вёсак, хоць бы сабе да тых самых Баброў, даўно ўжо пракладзены добрыя, уезджаныя ў любую пару года насыпанкі, а то і асфальтоўкі. Грыша вёў машыну асцярожна, абмінаючы выбоіны і каляіны, аднак яе ўсё адно добра-такі пагойдвала, і Антон, які дагэтуль сядзеў, адкінуўшыся да спінкі сядзення, падаўся наперад і ўзяўся рукою за дзяржальнік на дзверцах.

— На гэтых двух кіламетрах машыне больш дастаецца, чым на дваццаці кіламетрах добрай дарогі,— нібы сам сабе заўважыў Грыша.— Кепска, брат, што гэтага не разумеюць кіраўнікі калгаса. Гэтая эканомія ім бокам вылазіць. Няпраўду кажу, га?

— Якая эканомія? — не зразумеўшы, пра што ён, перапытаў Антон.

— Даўно, кажу, трэба было б сапраўдную дарогу зрабіць, а не соўгацца вось так каторы год...

— А-а-а,— кіўнуў Антон.

Грыша зірнуў на яго, усміхнуўся:

— А ты нейкі як не выспаўшыся. Выпіў учора?

— Было,— зноў кіўнуў Антон.

— А я думаю, чаго ты кіслы такі! — Грыша зарагатаў.— Замочка якая была ці так кампанія?

— З жонкай,— адказаў Антон.

Грыша здзіўлена паглядзеў на яго, сказаў, яўна не паверыўшы:

— Ну ты і даеш! Хацеў бы я паглядзець, што там за жонка была!

— Не думай лішняга. Праўда, з жонкай. Пасядзелі ў рэстаране,— шчыра сказаў Антон.

Грыша штосьці хмыкнуў, быццам сказаў: «Ага, ага!», аднак, было відаць, усё ж не паверыў.

Выехалі з лесу, ускочылі на пагорак. Унізе паказаліся Кавалевічы. Грыша не стрымаўся, загаварыў:

— Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы... Няпраўда, брат, памыляецца паэт,— забываем! Ці не так?

— Забываем, Грыша, забываем...

— Табе яшчэ лацвей. Бацька з маткай памруць, дык Маня тут з Томкай. А мае старыя пераедуць да бабкі з дзедам, дык мне, кавалевіцкаму Грышку Папкову, дарога сюды будзе заказана. Як і не радзіўся тут, і не жыў... Дзіўна ўсё гэта, брат!

— Што ж тут дзіўнага? — не чакаў Антон ад Грышы такой гаворкі, няўцям было яму, што яшчэ нехта, як, напрыклад, гэты самы Грыша Папкоў, які чвэрць веку назад стараўся вырвацца ў Мінск, мог думаць так пра тое месца, адкуль з радасцю і бесклапотнай лёгкасцю ўцякаў.

— Усё дзіўна,— паўтарыў Грыша.— Дзіўна і незразумела. Некалі думаў: ну і што, калі паеду? Ліха з імі, гэтымі Кавалевічамі! Што я тут не бачыў? А цяпер, калі бачыш, што — канец, што з каранямі адсюль вырваны, дык і сумна чагосьці... Эх, Тонік! А колькі ж нас было тут калісьці, жэўжыкаў! Сабраўшыся разам, вуліцу запруджвалі... А цяпер і бачымся гады ў рады...

— Лірык, аказваецца, ты,— сказаў Антон.

— Сумная тут лірыка,— зусім сур'ёзна перапыніў яго Грыша.

Машына ўкацілася ў вуліцу...

Калісьці высокая — можна было праехаць з возам сена — брама паніжэла. Ставіў яе бацька даўно. Ён, Антон, хадзіў тады яшчэ ў школу, праўда, ужо ў Бабры — у дзевяты ці ў дзесяты. За гэтыя гады даволі тоўстыя яловыя камлі згнілі ўшчэнт. Бацька разы са два падпіраў браму, каб яна калі-небудзь не рухнула на падворак, аднак падпоркі памагалі мала. І вось, нарэшце, бацька паднавіў яе: зрэзаў ля зямлі і ўкапаў шулы нанова, укапаў неглыбока, а каб яны стаялі, пазаганяў ля іх кавалкі рэек і папрывязваў да іх шулы дротам. Падпілаваў знізу падгніўшыя вароты і веснічкі — калісьці яны былі Антону амаль упоравень, а цяпер трошкі вышэй пояса.

Веснічкі былі расчынены. Ён пераступіў цераз дошку, пакладзеную тут, пэўна, для таго, каб не хадзілі на вуліцу куры, і хуценька пайшоў па падворку да сенцаў, стараючыся не глядзець у вокны, каб не згледзець бацьку ці маці раней часу,— хацелася ступіць на парог па-дзіцячы нечакана, знянацку. Згледзець так нікога і не паспеў, аднак пачуў, што ў хаце ёсць яшчэ нехта акрамя бацькі і маці,— як бы нейкая бяседная гамонка. А мо падалося?

Ён зайшоў у сенцы — яны былі таксама расчынены. Ціхенька, стараючыся не бразнуць клямкай, адчыніў дзверы ў хату і гэтак жа ціхенька прычыніў іх за сабою. Зайшоў і спыніўся ля парога ў нерашучасці і непаразуменні. У першай хаце нікога не было, а з другой плыў сюды досыць густы тытунёвы дым і там сапраўды гучна і п'янавата гаманілі. Антон збянтэжыўся. Што гэта магло азначаць? Якія госці? Дзень нараджэння? Не, маці, памятаў Антон, нарадзілася вясною, у сакавіку, а бацька — у пачатку лета, на Пятра. Хто-небудзь прыехаў? Здаецца, няма каму. А бацькава тэлеграма? Запрашаў, каб прыехаў на гэтыя госці? З якой нагоды? Чаму не напісаў? Няёмка атрымалася...

Антон апусціў долу партфель, зняў плашч, павесіў яго на кручок ля дзвярэй, прыгладзіў валасы і

ступіў на парожак у другую хату. Ужо вечарэла, сутоньвалася, але святла пакуль у хаце не запальвалі, і Антон не адразу разгледзеў застолле. Затое яго ўгледзелі адразу ж. Першай выскачыла з-за стала — сядзела яна з краю, бліжэй да дзвярэй — маці, кінулася да Антона на грудзі, загаманіла са слязамі:

— А Тонічак, а родненькі! Мы ўжо думалі, што там з табой прылучылася! Абяцаўся ўчора прыехаць, а ўжо во і субота звечарэла, а цябе ўсё нямашака... А мой ты сыночак... А дзе ж Рэня, унучак дзе? Ці адзін толькі?

Тонік, у абдымку з маці, урэшце пераступіў парог, зайшоў у хату. Вызваляючыся з мацерыных рук, казаў:

— Адзін, мама. Аляксей у школе, а Рэня занята... І я ўчора не змог... І сёння зранку не выпала вырвацца... Во, толькі цяпер... І то добра, што Грыша Папкоў падвёз — ехаў...

— Грыша падкінуў? А дзе ж ён цябе напаткаў? Гэта ж пашанцавала як! А то ж бы яшчэ ехаў, каб аўтобусам,— тупала каля яго маці.

— Ага, мама, хутка прыехалі,— казаў Антон, азіраючыся на хату, на застолле і чырванеючы, што вымушаны хлусіць маці.

Гасцей, як думаў ён, дык і ніякіх, па сутнасці, не было. За сталом сядзелі бацька, Маня, Томчын Андрэй, сусед Кузьма Цер ды яшчэ Томчын Валерык. Антон даў «добры дзень» спачатку ўсім і памкнуўся да бацькі, каб паздароўкацца з ім па-сыноўску — абняць і цмокнуць у шчаку, але дарогу яму заступіла Маня. Павіснула на ім і, дыхаючы знізу ўверх яму ў твар гарачым і п'янаватым, засакатала:

— Здароў, братка! Добра, што хоць сёння прыехаў... Але ж я не веру, што ўчора вырвацца не мог. Не злуйся, Тонік, але скажы: Рэня не пусціла? Яна? Ну, прызнайся?

Маці тузанула Маню за руку, прыкрыкнула, як калісь на малую:

— Маня, перастань! Якая ты, дачушка, назола! Чаго прыстала? Ці ж Тонік не сказаў? Каб жа мог, дык прыехаў бы!

— Нічога, мама, з ім не зробіцца,— нязлосна адказала Маня.— А я ведаю, што кажу. Братка наш апанеў, мы ўжо яму як чужыя. Бацька тэлеграму

адбівае, каб сынок прыехаў, а сынок не можа... А мо бацьку кепска стала, га?

Антон бачыў, што Маня больш назаляецца яму, чым злуецца, але ўсё ж з ніякаватасцю гаварыў-апраўдваўся:

— Калі б што, дык напісалі б... А то — прыязджай... Вось я і прыехаў...

— Прыехаў! — Маня незласліва ляпнула брата па плячы.— У свіныя галасы ты прыехаў, братка! Бацька цябе прасіў учора прыехаць!

— А што ў вас такое? — нарэшце спытаў Антон.— Сталы стаяць, як для вялікай бяседы, а гасцей — кот наплакаў...

— А-а-а, убачыў?! — Маня зноў затузала яго.— Гасцей табе мала? А ўчора, ведаеш, колькі было? Поўная хата! Усе былі, акрамя цябе!

— Адчапіся, Маня! — падаў голас і бацька.

Але Маня не адпускала Антона.

— Чакай, чакай, тата! Хадзі, хадзі са мной! — сястра тузанула Антона за руку і ледзьве не сілком пацягнула яго з хаты.— Ідзі, ідзі сюды, калі ты сляпы. Пабач, чаго табе тата наказваў прыехаць,— крычала ўжо на двары Маня.

Антон, нічога не разумеючы, упіраючыся, ішоў за ёю. Маня вывела яго на вуліцу, там крутанула тварам да хаты, тыцнула рукою ў бок сцяны:

— Глядзі, чытай!

Антон зірнуў на хату. На сцяне, між вокнаў, што выходзілі на вуліцу, была прымацавана светла-шэрая, быццам мармуровая, дошка. Ён падышоў бліжэй, абапёрся рукамі на штыкетнік гародчыка-кветніка, паўзіраўся ў гусцеючым змроку ў тую дошку. Урэшце не так прачытаў, як здагадаўся: «Тут жыве заслужаны калгаснік калгаса «Перамога» Вячорка Пётр Васільевіч».

— Вось яно што! — сказаў Антон, паварочваючыся да Мані.— Чаму ж бацька не напісаў?

— Як гэта не напісаў? — усё яшчэ злавалася Маня.— Ён жа напісаў, каб прыехаў у пятніцу. Што ж ты яшчэ хочаш? Як табе пісаць трэба было яшчэ?

Антон толькі і змог, што пакруціць галавой:

— Каб жа я ведаў!..

Ён вярнуўся ў хату разам з Маняю. Адразу ж падышоў да бацькі, абняў яго, дакрануўся шчакою

да паголенай, але ўсё адно калючай бацькавай шчакі, прамовіў:

— Віншую, тата! Я вельмі рады... Даруй, што спазніўся,— дадаў нечакана.

Бацька расчуліўся, заміргаў бялёсымі вейкамі. Хаваючы слязу, змахваючы яе ўчарнелымі ад мазуту і металу пальцамі, гаварыў хуценька:

— Нічога, сынку, нічога... Ты ж прыехаў во... І я рады... Нічога, сынку, нічога... Мы ўчора пасядзелі, і сёння во пасядзім... Або! І заўтра пасядзім, сынок, калі на тое! Хай яно, як той казаў...— Нечакана адштурхнуўшы Антона, бацька тупнуў па падлозе ботам і заспяваў: — Дай мне, божа, усяго, чаго хочацца...

Маня, стоячы ля дзвярэй, пстрыкнула ўключальнікам, пад столлю загарэліся ўсе чатыры рожкі люстра. Маці, ужо крыху ачомаўшыся і супакоіўшыся, падышла да стала:

— Ладна, бацька, не заводзься! Тонік з дарогі, а ты... Сядай, сынок, сядай і не глядзі на іх, яны ўжо насядзеліся, налі сабе чарку...

— Дзякую, мама,— сказаў Антон, але за стол адразу не сеў — паздароўкаўся з Андрэем, з Кузьмом, падаў руку пляменніку. Памкнуўся быў пасля гэтага сесці на падстаўленае Маняй крэсла, але спахапіўся:— Чакай, Маня, трэба ж рукі з дарогі спаласнуць.

Ён пайшоў на кухню — адгароджаны ў першай хаце закутак ля печы. За ім услед прытрушкавала маці. Палiваючы яму з кубка на рукі над тазам, пахапкам расказвала:

— Адрабіў, сынок, бацька сваё. Гэта ж да сямі дзесяткаў... Учора ў клубе бацька на сцэне сядзеў. З раёна начальства было і наша, калгаснае. Гаварылі шмат пра бацьку... Прыёмнік далі, маленькі такі, з антэнай... І дыплом нейкі... Ён вельмі хацеў, каб ты ўчора прыехаў, каб пабачыў...

— Каб жа ведаў, мама!..

— Дык хіба ж я не разумею! Калі ж работа тая!.. А пасля канцэрт быў у клубе. І ўсё як па бацькавых заяўках — і спявалі, і танцавалі... Ну, а пасля ці не ўсе, хто ў клубе быў, да нас прыйшлі, на бяседу. Надта ж хораша казаў з раёна чалавек. Казаў, што бацька за свой век на трактары не адзін раз зямлю

аб'ехаў... Гэта каб усе яго барозны ў адну складці... Во якая радасць у нас, сынок!

Ён хацеў выцерці рукі ручніком, які вісеў на цвічку там, у закутку, але маці ледзь не сілком выхапіла той ручнік у яго з рук:

— Ай, сынок, не гэтым, я другі падам! — Яна ўвішна крутнулася з кухні і праз хвіліну вярнулася з другім ручніком.— На, выцірайся, бо тым усе выціраліся, нават і Цер. Культуру паказаў, таксама рукі надумаўся мыць... Прыпёрся, быццам яго хто клікаў... Ну, ідзі ж, ідзі ўжо за стол!

Антон вярнуўся ў другую хату, сеў за стол. Маня наліла яму чарку — поўную, па беражкі. Напоўніў сваю і Андрэй, а Кузьма, Маня і бацька пырсканулі ў свае пакрысе, дзеля прыліку. Антон, разумеючы, што цяпер ён тут у цэнтры ўвагі, падняў чарку і падняўся сам.

Усё яшчэ адчуваючы сваю няёмкасць перад бацькам, сказаў:

— Ну, тата, за тваё здароўе! За тваё высокае званне!

Трэба было, разумеў, сказаць нешта іншае, цяплейшае, але патрэбных слоў не знайшлося, і Антон, памаўчаўшы, стоячы выпіў, паставіў пустую чарку на стол, а потым ужо сеў і сам. Маня падсунула яму сподак, на якім ляжала курачая ножка і горка зялёнага гарошку, сказала:

— Еш! І што табе яшчэ пакласці? Мо скабачку? Ці вантрабянкі? Ай, што я пытаюся! Ты ж вантрабянку любіш! — Яна ўзяла з яго рук відэлец, ускалола некалькі кружкоў кілбасы-вантрабянкі, паклала на сподак.— Еш во. Свежанькая, заўчора толькі зроблена.

— Дзякую, Маня, дзякую, і сам дастану, ты не турбуйся,— гаварыў Антон, беручыся за ножку.— А вы ўсе? Нешта ж ніхто і не выпіў, не падтрымаў мяне.

— Я, Тонік, сваю асушыў,— адгукнуўся Андрэй.— Са шваграм грэх не выпіць.

— А нас, Тонічак, і не прымушай,— сказала Маня.— Мы ж, бацька табе казаў ужо, і ўчора пасядзелі, і сёння во... Ты еш, закусі, а пасля і яшчэ налі сабе.

— Ага, Пятровіч, ты, гэта самае, прыехаў, а мы

ўжо тут уга колькі прамералі! Цер, Пятровіч, дагаsuccessive няй нас, уваж бацьку. Мы з ім усё жыццё ў суседзях пражылі, не лаяліся, не сварыліся. Не сварыліся, праўда, Пётра? Твая радасць — мая радасць, як той казаў. А вось цер, Пятровіч,— Кузьма зноў павярнуўся да Антона,— баюся, што пасварымся. Пабачыў жа, што на хаце пачапілі? Помнік! Чалавек жывы, а яму — помнік! Цер да твайго бацькі без хвігі не падыходзь, да трох не гавары. Не проста пенсіянер, а — заслужаны! Цер...

— Хопіць вам, дзядзька Кузьма,— перапыніла яго Маня.— Дайце паесці Тоніку.

— Не з галоднага краю прыехаў,— не змоўчаў Кузьма.— Цер не той каленкор, як той казаў.

— А паесці чалавеку з дарогі ўсё ж трэба! — ужо зласнавата абарвала яго Маня.— Я табе, Тонік,— павярнулася яна да Антона,— яшчэ налью. Выпі! Ад аднаго такога напарстка і смаку не пачуў!

— Калі вы таксама па кроплі,— усміхнуўся ён.

Ці таму, што быў, па сутнасці, без абеду, а з часу іхняй з Рэняй позняй сняданкі мінулася ўсё ж нямала часу, ці таму, што на стале ўсё было дужа смачнае, Антон уплятаў за абедзве шчакі і неўзабаве здаволіўся. Маня, а потым і маці, якая, зрабіўшы нейкі свой клопат па гаспадарцы, зноў прыйшла ў хату, угаворвалі яго яшчэ пакаштаваць сяго-таго, але ён адмовіўся:

— Усё, мама! Нават і вантрабянкі больш не магу,— усміхнуўся Мані.

— Ну то і добра, сынок,— сказала маці.— Тады і астатнім няма чаго сядзець. А то неяк не так, як у людзей. Селі абедаць, а тут ужо і вячэра — не вячэра. Я, Маня, тут сама прыбяру, ты бяжы дамоў, бо работа не жджэ. А ты, Тонік, мо з бацькам сталы паадносіш?

— Добра, мама, добра,— адказаў Антон.— Мы і тату турбаваць не будзем. Мы з Валерыкам гэта зробім. Так, пляменнік?

Цер без асаблівай ахвоты, але ўсё ж вылез з-за стала і паклыпаў за парог. Маці выправіла дадому Андрэя і Маню, наказаўшы прыйсці пазней — павячэраць разам. Пабег дадому і Валерык, памогшы Антону паадносіць суседзям пазычаныя сталы.

Антон вярнуўся ў хату. Маці на кухні парадка-

вала посуд, а бацька сядзеў у другой палове хаты на канапе і курыў. Антон апусціўся побач, спытаў крыху па-дурному:

— Ну што, тата, рады?

Бацька, атросшы попел у попельніцу, якую паставіў, як Антон сеў на канапу, між сабою і ім, скрывіўся:

— Ат, сынку, што мне ўжо тое? Прыемна, вядома, людзі во сабраліся, уважылі, добрае слова сказалі, а так...

— Ну чаму ж? У нікога ў Кавалевічах такой дошкі на хаце няма.

— У Кавалевічах няма, дык у Стайках ёсць. І ў Раздзялавічах ёсцека,— адказаў бацька.— На Кацярыны Маўчанскай хаце. Яна даяркай рабіла. Усе трыццаць пасляваенных гадоў. І на хаце Рыгора Левановіча. Ён шафёрам адбухаў сорак гадоў, як я трактарыстам... Асталіся во з маткай у хаце, два карчы...

— Вы ж не адны, тата,— сказаў Антон.— Маня тут, Томка, унукі...

— У Мані з Томкай свой клопат... І так... Усё яшчэ каб ім памаглі, не яны... Во, Томка з Андрэем скора, як і мы, адны ў хаце астануцца — Валерык не сёння-заўтра ў армію пойдзе.

— Ужо?

— А ты думаў! Маніны яшчэ малыя, дык жа Генусь яе, сам ведаеш, які гаспадар і бацька. Учора так набраўся, што брыдка перад людзьмі было. Сёння во, бачыш, і не прыйшоў. Ці адсыпаецца, ці сорам вочы паказаць.

— Неблагі ж хлопец, здаецца,— сказаў Антон.

— Што з таго, калі чарку любіць! Я ўжо казаў Мані, мо каб рашалася ды кідала? Пакуль мы з маткай, дык неяк было б,— бацька як пытаўся, што на гэта скажа Антон.

Ён падзівіўся:

— Ажно так?

— Ды ўжо ж,— бацька затушыў недакурак.— Каб нейкі інтэрас у руках меў, дык мо па-іншаму было б. А то адно спрабаваў, другое... Узяў быў у майстэрню. Дык пацёрся-патоўкся — і сарваўся. Душа, кажа, не ляжыць. А да чаго яна ў цябе ляжыць? Зноў — куды пашлюць. Я ўжо казаў: у пастухі ідзі,

заробак добры, водпуск узімку. Дык дзе! Уставаць жа рана трэба. А яго хіба падымеш?

— А як Андрэй? Ён жа раней таксама любіў зазірнуць у чарку,— спытаў Антон.

— А не! Калі тое было! Яго ж дэпутатам выбралі, у народны кантроль увялі... Андрэй паразумнеў. Дзеці яго прыструнілі. І Валерык, як малы яшчэ быў, на бацьку за гарэлку сварыўся, а найбольш Лёнька, старэйшы.

— Ён усё на цагельні?

— Ну а дзе ж? У канторы там сядзіць. Да пенсіі дабудзе.

— Яны з Томкай пастаянныя. Яна ж таксама школы не кідае?

— Дзе ты бачыў! Прыбірае. Магла б даўно на большыя грошы пайсці, дык — прывыкла! Дырэктарка яе трымае. Усё ёй: «Тамара Пятроўна, калі вы тут, дык я ведаю, што ў школе парадак...»

Памаўчалі. Тое, што гаварыў бацька, Антон ведаў: як ні рэдка бываў дома, аднак жа раз ці два на год выбіраўся і пра ўсё тое чуў неаднойчы.

— Ну, а як вы тут з мамай?

Спытаў Антон і пашкадаваў, што спытаў.

— А што мы? Жывём... Вясной думаем карову прадаць. Абыдземся. Які літр малака, дык — у Мані, у Томкі возьмем. Цяжка стала, сынку: сена гэтае, зімою вады нацягай, улетку радоўку не ўпраўляешся адпасваць. Хопіць з нас парсючка і курэй.

— Даўно трэба было б збыць,— ахвотна падтрымаў яго Антон.— Навошта вам лішні клопат? Адпачніце на старасці.

— Яно ведама,— гэтак жа ахвотна пагадзіўся і бацька.— А ты як?

Антон, у апошні раз зацягнуўшыся цыгарэтай і растрыбушваючы яе ў попельніцы, сказаў:

— Усё добра, тата.

Бацька нечага ўздыхнуў, памаўчаў, потым загаварыў:

— Як добра, дык і добра. Мне што, сынку? Я разумею... А матцы ўсё думаецца... Ёй бы і нявестку пабачыць, і ўнука, пагаманіць, паглядзець на іх, а і ты рэдка прыязджаеш, а Рэня і зусім як вырваклася... Аляксея, пэўна, і не пазнаем ужо. У якую гэта групу ён ужо бегае?

— У пяты клас, тата.
— Во, бачыш! А ў нас калі быў? Як у трэці пайшоў, ці што?
— Калі неяк так, тата, атрымліваецца,— пасоўгаўся на месцы Антон.— Не адно, дык другое...
— Яно ведама...
Зайшла з першай хаты маці, спытала ў Антона:
— Мо малачка пап'еш? Толькі што працадзіла.
— Не, мама, не магу. Мо пасля... Халоднага...
— Добра, Тонічак. Я таксама сырадою не люблю, халоднае толькі...— Маці апусцілася на зэдлік ля парога.— Ох-хо-хо, здаецца, і не рабіла нічога, а ўходалася. Дай і я з вамі пасяджу троху. Пра што ж вы тут гамоніце?.. Я ж, Тонічак, дальбог, на тваю Рэню ў абідзе. Ні сама не паказваецца, ні Алёшкі не пускае...
— Памаўчы, маці,— сказаў бацька.— Гаварылі ўжо.
— Ну й што? Ты казаў, і я скажу. Хіба што благое кажу, Тонічак? Як вы там? Ці ўсё ж хаця добра ў вас? Як сват, сваццця?
— Усё добра, мама,— зноў, як і бацьку, адказаў Антон.— Усё ў нас добра,— паўтарыў.
— А Алёшка, унучык наш? Не хварэе? Добра ж вучыцца?
— Не хварэе. І вучыцца няблага. Тройку калі толькі па пісьму схопіць, піша неакуратна.
— А бо ж! Што ж так? Ты ж па тым чыстапісанні заўсягды пяцёркі прыносіў! — шчыра падзівілася маці.
Антон прымусіў сябе ўсміхнуцца:
— Цяпер, мама, чыстапісання няма. Як накрэмзае каторы, так і добра. Абы граматна было.
— Чаму ж так?
— Прагрэс, мама.
— А хай цябе, сынок! — Маці ўсміхнулася лагодна, быццам малому.— Я сур'ёзна пытаюся, а ты дзяцінішся.
— Ён не дзяцініцца, маці, а кажа праўду,— заўважыў бацька.— Час такі. Навукова-тэхнічны прагрэс. Ці да чыстапісання цяпер?..
— А ты памаўчы ўжо! — агрызнулася маці на бацьку, але таксама без злосці, па звычцы, як і даў-

ней, калі ён вяртаўся з лазні, браў сваю «законную» чарку і блазнавата надакучаў і ёй, і дзецям.

Антону раптам зрабілася хораша. На душу павеяла цяплом і бесклапотнасцю дзяцінства. Нейкую хвіліну ён быццам напраўду адчуў сябе малым...

Быццам сядзіць ён вечарам за сталом і робіць урокі. Маці корпаецца ля грубкі — падсоўвае віламі да агню саганок бульбы ці пячэ пульхныя, смачныя, хоць і елкаватыя аўсяныя аладкі; бацька разгарнуў газету, адставіў яе далёка, на выцягнутую руку, складае, варушачы вуснамі, літары ў словы.

Аднекуль з двара ў хату ўбягае Маня. Маці адрываецца ад грубкі, бурчыць на дачку:

— Дзе ты гэта гойсаеш? Бульбу пасеч парасяці ці вядро вады прынесці, дык цябе няма, а як аладкі, дык нос чуе!

— І Тонік мог бы вады прынесці! Чаму ўсё я ды я? — адгыркваецца Маня.

— Тонік не такі недарэка, як ты! — кажа маці.— Ён жа вунь крукам сядзіць, урокі робіць, а ты гойсаеш!

Тонік чуе гэта, і ад мацерыных слоў яшчэ ніжэй нагінаецца над сшыткам, і яшчэ старанней выводзіць у ім радок за радком. Гонар перапаўняе яго, ажно распірае, і яму зусім не шкада Мані, якой так часта перападае ад маці. Так ёй і трэба! Ён не бегае па завуголлі, не ганяе па вуліцы рэхву, не лупіцца ў пікара, а вучыць урокі. А той, хто не робіць урокаў, хай носіць ваду і сячэ парасяці бульбу...

Нечакана ад гэтых згадак Антону робіцца горача. Ён па звычцы пакручвае галавой, быццам зганяючы з сябе гэты нечаканы сон, гэтае дзіўнае, недарэчнае трызненне. Яму сорамна. У хаце зырка свеціць чатырохражковае люстра, і ён здалёк бачыць, як пастарэла маці, як яна неяк уся ўсохлася, змізарнела. Потым позірк яго знаходзіць бацьку, які сядзіць побач, і Антон з яшчэ большай выразнасцю імгненна адзначае ўсё тое ж і ў бацькавай паставе. Так, так, пастарэлі, паблажэлі яго тата і мама. Але ж, але ж... Дзеці не заўважаюць, як старэюць іхнія бацькі. Не адзін ён— усе не заўважаюць. Бацька ці маці для дзіцяці заўсёды старыя. Спытайце ў каго: ці памятае ён сваю маці маладой? Не, маладой ён яе не памятае, яна заўсёды была маці — вечна штосьці рабі-

ла, кудысьці рушілася... Так ён думаў. І лічыў, што не памыляецца. Аказваецца, памыляецца? Ён жа памятае і маці, і бацьку зусім не такімі. Калі і не маладымі, дык, прынамсі, не старымі. І вось яны састарэлі. А ён... А ён не заўважыў, калі і як гэта здарылася. Не паспеў заўважыць ці не ўмеў?

Сорамна Антону. Хочацца яму кінуцца перад маці на калені, прыпасці вуснамі да яе сухіх, пакручаных пальцаў, паплакацца ў цёплыя і шорсткія далоні, папрасіць, каб даравала яму... А што дараваць? За што дараваць? Што ён благое зрабіў ёй ці бацьку? Благое? А што добрае? Ага, ён добра вучыўся. Амаль лепш за ўсіх скончыў школу. Паступіў ва універсітэт. Хіба яны, маці і бацька, не радаваліся тады? А пасля? Аднойчы падарыў ім электрычны чайнік. Калі маці было шэсцьдзесят, ён прывёз ёй хустку. Не абы-якую хустку — прыгожую і дарагую. За трыццаць два рублі. Чорную, у вялікія чырвоныя кветкі, с кутасамі. Бацьку падарыў фінскі плашч. Амаль новы. З падшэўкай са штучнага футра і з такім жа каўняром. Ён тады яшчэ працаваў у рэдакцыі. Памятае, апрануў той плашч, а на рабоце, хто ні сустрэне, здзекліва цытавалі яму ў твар: «Морозной пылью серебрится его бобровый воротник...» Пэўна, таму ён доўга і не насіў той плашч: аддаў бацьку... Ён жа не забываў іх. Хоць зрэдку, а — прыязджаў, адведваў... Значыцца, дзякуй за ласку? Ах, як усё гэта мізэрна! Як ад усяго гэтага прыкра і брыдка на душы! Чайнік, хустка, плашч...

Разумее Антон, усё разумее! Сорамна яму да гарачыні ў твары, да болю ў грудзях. Бы ў злосці на сябе рашуча крутнуў галавой. І — ачнуўся быццам, пачуў, што кажа ад парога маці:

— Маладзец, сынок, што хоць сёння прыехаў. Бацька-то цябе ўчора чакаў. Вельмі ж хацеў, каб ты быў, паслухаў, што там у клубе гаварылі...

— Памаўчы ж, кажу! — як і колькі хвілін назад, абрывае яе бацька, абрывае больш рашуча, патрабавальна.— Што ты ўсё...

— Нічога, тата, не трэба,— выціскае з сябе Антон.— Хай мама... Я ўсё разумею. Не здагадаўся. Чытаў тваю тэлеграму і галаву ламаў. Чаго, што здарылася? Каб захварэў раптам, дык напісалі б... Рэня казала: мо памагчы што зрабіць...

— Ага, зрабіць,— ківае бацька галавой, і не зразумець, смяецца ён ці крыўдуе.— З Мінска тэлеграмай выклікаць, каб зрабіць што памог... Як малыя...

— Дык жа я і кажу, тата! Ніколі пісьма не напісаў, а то — тэлеграма...

— Ага, тэлеграма... Не пісьмо,— зноў ківае бацька галавой.— Значыць, трэба пільна.

— Ну вось, а я не здагадаўся.— Антон трэ далонь аб далонь.

Маці кідаецца бараніць сына, ужо крычыць на бацьку:

— Напісаў бы як след, а не выдумляў бы той тэлеграмы! Думаеш, усе такія здагадлівыя? А цяпер...

Антон замахаў рукамі:

— Мама, не трэба сварыцца! Тата праўду кажа. Дурань я, што не здагадаўся. Самы апошні дурань! Хіба ж тата без прычыны, без пільнай патрэбы, як ён кажа, пасылаў бы тэлеграму? Што ж тут загадкавага, незразумелага? Я проста бязмозглы дурань, і ўсё! І хопіць пра гэта...

— А бо, сынок! А я што кажу? Прыехаў во, дык і добра. І я, і бацька рады... А то...— Памаўчаўшы, маці спытала: — Ты ж калі назад думаеш? Заўтра ці мо раніцаю ў панядзелак?

— Мусіць, мама, заўтра, у панядзелак наўрад ці паспею,— адказаў Антон.

— У панядзелак дык толькі першым. Але ж можна і не сесці, калі людзей многа сюды ехала. Лепш і праўда заўтра. Апошнім аўтобусам. Нанач заедзеш, дык адпачнеш па-людску, а то ж з аўтобуса адразу на работу — гэта не дзела,— памяркоўна пагадзілася маці.

— Канечне,— прамовіў Антон.

Маці паднялася, выцерла рукі аб фартух, сказала:

— Ну, добра, пасядзела, і досыць. Ёсць жа яшчэ работа.

— А якая яшчэ работа, мама? — падхапіўся Антон.

Маці ўсміхнулася, махнула абедзвюма рукамі:

— Ат, работа! Я пра вячэру. Наказала ж Мані з Томкай прыйсці, пасядзець разам, дык пайду збяру на стол чаго свяжэйшага. А вы не сядзіце так, тэлевізар уключыце, мо кіно якое ёсцека.

— Во, мы і забыліся,— ухапіўся за тэлевізар Антон.— «Время» трэба было б паглядзець. Я яго заўсёды гляджу. А ты, тата?

— Як калі,— адказаў бацька, падымаючыся і ўключаючы тэлевізар. Пачакаў, пакуль засвеціцца экран, пакруціў ручкамі настройкі, потым дадаў: — Кіно, здаецца, нейкае ідзе. То пэўна кіно, бо ўжо ж і па часе, «Время» тваё скончылася. Бяры крэсла, падсоўвайся, паглядзім...

Пачатак кіно яны прапусцілі, аднак пачалі глядзець і дагледзелі да канца. І Антон, які меў спадзяванак, што фільм пакрысе скіруе яго думкі ў іншы бок, ужо не рады быў, што пачаў глядзець яго, тое кіно.

У фільме расказвалася звычайная жыццёвая гісторыя: дзеці, апярыўшыся, пакінулі родны кут, а бацька дажывае веку ў вёсцы адзін. І вось бацька, нечакана занядужаўшы, напісаў сыну ліст. Не дочкам, якіх у яго было дзве, а сыну — адзінаму, не надта ўдаламу, мо і зусім шалапутнаму. Атрымаў сын бацькаў ліст... пасля бацькавай смерці.

Але не гэта збянтэжыла Антона, а сам ліст. Бацька пісаў сыну нешта такое: дарагі сынок, чую я, што скора памру, але ты не думай, што я баюся гэтага; я спакойна паеду на той бярозавы пагорак, дзе спяць мае прадзед, дзед, бацька, браты і сёстры, мае далёкія і блізкія сваякі і суседзі; сумна мне праз тое, што ты можаш не паспець прыехаць, каб пахаваць мяне, як гэта спрадвеку вялося ў людзей — каб сын хаваў бацьку, а яшчэ больш сумна і балюча, што пасля ты рэдка, а мо і ніколі не выберашся на той пагорак, каб прыглядзець за маёй, мацярынай, дзедавай магілкамі...

Антону ад ліста таго стала непамысна. Ён неспадзявана перакінуў масток ад тых кіношных бацькі і сына да сябе і да свайго бацькі, ён нават зірнуў крадком на бацьку, каб відочна пераканацца, што ён зусім не падобны на таго бацьку з тэлевізійнага экрана — маршчыністага, шыракатварага, не надта яшчэ і старога чалавека з самотным паглядам вачэй з-пад калматых броваў. Было ў яго ў нейкую хвіліну адчуванне таго, што той ліст адрасаваўся не экраннаму шалапутнаму сыну, які рабіў недзе ў горадзе механікам ці электрыкам, а яму, Антону, і ён доўга

не мог скінуць з сябе незразумелае, але тым не менш трывожлівае здранцвенне.

І Антон ажно зарадаваўся, што скончыўся фільм і што неўзабаве ў двары пачуліся галасы — ішлі, відаць, сёстры са швагрaмі...

Пасля яны вячэралі. Зрэшты, мусіць, не так вячэралі, як гаманілі. Адзін Генусь Манін спачатку быў накінуўся на прыгатаваныя маці прысмакі — амаль цэлы дзень пасля ўчарашняга нічога не трымаў у роце, але і ён хутка здаволіўся. Гаворка была бязладная. Генусь, захмялелы пасля першай жа чаркі, пачаў быў «вумнічаць», як сказала Маня,— усчаў гаворку пра тое, што, маўляў, ракеты і самалёты ўскалацілі ўсё неба, і таму цяпер цяжка разабрацца, якая пара стаіць на дварэ — ці лета, ці восень, ці то ранняя зіма. Яго, урэшце, рашуча «выключыла» Маня, бесцырымонна закрыўшы яму рот даланёю. Аднак ён усё ж кінуў, як кажуць, каменьчык. Пагаварылі пра раннія замаразкі — на самым пачатку верасня, якія прыхапілі нямала бульбы, асабліва па нізкіх месцах, не надта песімістычна пагараваўшы аб тым, што і без таго бульба сёлета ўрадзіла кепска. Потым ускінулася гаворка пра дзяцей, якіх цяперашнім часам у вёсцы вельмі мала. Найбольш гарачылася Томка і з вялікім клопатам гаварыла пра хваляванне школьнай дырэктаркі: баіцца, каб праз год-другі не зачынілі ў Кавалевічах васьмігодку, бо ўжо сёлета на адзінаццаць настаўнікаў і дзвюх тэхнічак усяго шэсцьдзесят сем вучняў, а дырэктарцы той да пенсіі яшчэ ажно шэсць гадоў. Потым усе разам пашкадавалі, што знік гай — не надта вялікі лапік лазняку і бярэзніку, куды кавалеўцы спрадвеку хадзілі вязаць венікі і нават, удалым годам, збіраць чырвонагаловікі,— гай выкарчавалі меліяратары, асушаючы суседняе балота, увогуле праводзячы шырокае акультурванне калгасных палеткаў,— і тут жа пагадзіліся, што замест гаю і прылеглага да яго балота калгас атрымаў багатую ніву, якая заваліць ферму кармамі...

Пасля пачалі навыперадкі адзін перад адным расказваць Антону вясковыя навіны: што памерла Верка Барэйчыха — з тыдзень паляжала без памяці пасля інсульту і памерла; што Алег Кудзелішын, як і Грыша Папкоў, купіў «Жыгулі» — грошы сабралі

бацька і цесць; што ў краму прыслалі маладую дзяўчыну пасля тэхнікума і цяпер крама працуе, як у горадзе, строга па гадзінах, а не так, як раней, пры Валодзю Маслючкевічу, калі можна было ўгаварыць яго адчыніць краму любою парою; што Віцька Каспар прыбудаваў да хаты цагляны трохсценак, а ўсю хату абклаў цэглай, падвёў ваду і паставіў ванну, нават, смяяліся ў вёсцы, змайстраваў у хаце туалет; што Лёнька Гурыновіч ехаў ноччу на трактары і пераехаў п'янага Кастуся Шмэндрыка — той спаў у адхоне пры дарозе і адбыўся шчасліва: трапіў не на той свет, а ў бальніцу з трыма паламанымі рэбрамі; што Соня Руткевіч, даярка, атрымала ордэн «Знак Пашаны»...

І Маня з Томкай, і Андрэй з Генусем, і бацька з маці расказвалі пра ўсё гэта падрабязна, у дэталях і асобах, і Антон ад душы смяяўся, прыгадваючы паўзабытых ужо Кастуся Шмэндрыка і Кудзелішынага Алега. І ён зноў, у другі раз за кароткі час быцця ў бацькавай хаце, адчуў сябе хораша, раскавана і ўтульна, і ўжо не на хвіліну, як тады, калі сядзеў з бацькам і маці, а надоўга і па-сапраўднаму. Цешыла яго і тое, што ўсе, нават Генусь, ставіліся да яго, Антона, з увагаю, як да старэйшага тут і разумнейшага, быццам загадзя пагадзіўшыся, што тут яго роля галоўнейшая, а аўтарытэт — неаспрэчны, і Антону прыемна і ўсцешна было прымаць ад іх гэтыя знакі ўвагі і павагі.

Сядзелі доўга, далёка за поўнач. Антон ужо сам парываўся нагадаць, што час позні і што пара, пэўна, канчаць, закругляцца з гэтай запозненай і нікому не патрэбнай, урэшце, вячэрай, але і маці, і Маня з Томкаю навыперадкі адмахваліся:

— Ат, ліха з ім, заўтра нядзеля, выспімся!

І ўсё гаманілі і гаманілі, зрэдзь часу распытваючы аб тым-сім і Антона, аднак ён, нягледзячы на фізічную і душэўную разамлеласць, усё ж аставаўся і тут самім сабой і альбо адмоўчваўся, альбо адбываўся агульнымі словамі, накшталт: «Усё добра...», «А як жа!..», «І мы таксама...», «Калі ж часу, ліха на яго, вечна няма...»

Маці паслала яму на ложку, які стаяў у хаце без пільнай патрэбы, як аздоба: спаў на ім хіба толькі сам Антон, калі прыязджаў у адведкі з начоўкаю.

І кожны раз ён доўга не мог заснуць у гэтым нежылым ложку — усё выдавала як бы крыху вільготным і, здавалася, злёгку пахла цвіллю.

Не спалася яму і цяпер. Даўно заснуў бацька — Антон праз дашчаную перагародку чуў ягонае пахрапванне, задрамала, скруціўшыся на цвердаватай канапцы ў кухні, маці — ужо не чуваць было прыглушанага рыпу спружыны ў той канапцы, а ён усё яшчэ ляжаў з расплюшчанымі вачамі. Зноў вярнулася да яго тое пачуццё нялоўкасці, як бы нейкай віны перад бацькамі за тое, што ён, Антон, затрымаўся ў горадзе, не прыехаў учора. Бацька хацеў, каб ён быў учора разам з ім. Разам з усімі ў клубе. І маці — таксама. Нездарма ж яна некалькі разоў загаворвала пра тое, шкадавала, што яго не пусціла работа, заўсёдная занятасць. Падумаў пра гэта Антон, і цёплая хваля шкадобы і нейкай жальбы да бацькі і маці падкацілася пад грудзі. «Любыя вы мае,— чулліва думаў Антон.— Вы ўсё яшчэ жывеце салодкімі думкамі пра тое, што вывелі свайго адзінага сына ў людзі, што сын ваш не абы-хто, што ён першы ў вёсцы скончыў універсітэт. Я ведаю, тата, як табе імпанавала само гэтае слова — універсітэт, як доўга ты вучыўся вымаўляць яго, як ніколі не забываўся сказаць каму-небудзь пры нагодзе, што твой Тонік — студэнт універсітэта. І ўчора ў клубе табе да поўнага шчасця не ставала таго, што там не было мяне. Так, так... Цяпер я разумею, чаму ты прасіў мяне прыехаць. Табе хацелася, каб я сядзеў у зале, каб наслухаў, што будуць гаварыць пра цябе людзі і начальства. Каб паслухаў менавіта я, твой Тонік, якога ты — ты і маці — вывелі ў людзі. Ты думаў: ну што можа разумець тая Томка з Андрэем ці Маня з Генусем?! Вось Тонік — той зразумее! І ацэніць! І павіншуе бацьку, як ніхто іншы... Так, так, ты думаў менавіта гэтак, і як жа я не разумеў гэтага раней?! Я ўчора быў табе патрэбен, як ніколі раней. А твой Тонік, тата, твой асвечаны вышэйшай адукацыяй сынок патраціў дзень на глупства, замест таго каб пачуць крык тваёй душы і адгукнуцца на гэты покліч. Вось так, тата... Ты з мамай у сваёй бацькоўскай замілаванасці не заўважаеце, што ваш Тонік — проста няўдаліца і недавярак, чэрствы і абыякавы чалавек, нявартны ўвагі. Толькі вы — ты і мама — і

любіце яго. А болей — аніхто. Не любіць і не паважае. І сам сябе ён, Тонік, таксама не любіць і не паважае. Не любіць і не паважае...»

Ах, як горка і салодка было яму вось так бэсціць самога сябе! Якіх толькі крыўдлівых слоў не кідаў Антон у свой адрас! І паступова тая шкадоба і жаласць, якія былі ўзніклі ў ягонай душы да бацькі і маці, перакінуліся на яго самога, і яму ўжо да болю было шкада самога сябе, і хацелася — ажно да горкага камяка ў горле — пажаліцца каму-небудзь на свой непрыкаяны лёс, на дурную, нікому непатрэбную яго работу-службу, на баламутную пустую бабу, якую так недарэчы — хоць нікому не прызнавайся ў тым! — выбраў сабе ў жонкі, на цешчу, на ўсё, ўсё...

Заснуў ён толькі пад раніцу, калі маці падымалася ўжо даіць карову: ён, здаецца, нават чуў, засынаючы, як ціха, быццам баязліва, зарыпелі ў канапцы спружыны...

Назаўтра дзень выдаўся такі ж харошы, як і ўчарашні: не сонечны, але затое ціхі, сухі і цёплы. Антон з бацькам парадкавалі пад паветкаю дровы. Бацька не прасіў яго падмогі. Наадварот, праганяў, калі Антон зайшоў пад паветку і, паздароўкаўшыся, пачаў падкідваць паленне, каб бацьку было ямчэй браць іх і складаць у торп.

— Кінь, сынку, складзецца і без цябе,— казаў бацька.— Гэта я так, ад няма чаго рабіць. Парэзалі з Генусем, пакалолі во, дык і добра. Ты, бачу, спіш, а я выйшаў, дык ад няма чаго рабіць і пачаў складаць... Кінь, пайшлі ў хату, снедаць будзем...

Антон заўпарціўся:

— Паснедаем, тата, паспеем. А гэта мне замест зарадкі!

— Ну, як знаеш...

Антон і прачнуўся з адчуваннем нялоўкасці перад бацькам, з чым і засынаў. Выйшаўшы ў двор і ўгледзеўшы, што бацька пад паветкай завіхаецца з дрывамі, Антон нават узрадаваўся — ёсць зачэпка падысці, неўпрыкмет згладзіць гэтую ніякаватасць. Якая там ні работа, а ўсё ж — занятак, а пры занятку не трэба асабліва старацца, адводзіць там пагляд ці пра нешта гаварыць. І Антон, з крыху найгранай бадзёрасцю, падахвоціўся памагчы бацьку — заўзя-

та шпурляў палена за паленам, а потым поруч з ім складаў іх у торп, стараючыся як мага шчыльней падганяць іх адно да аднаго, каб кладка атрымлівалася роўнаю і гладкаю, па сцяне.

Дроў было шмат. Бацька з Генусем папілавалі і пакалолі, пэўна, цэлую машыну. І цяпер удвух яны завіхаліся ці не гадзіну, толькі парадкуючы іх. Скончылі кладку пры адной сцяне — ажно пад застрэшак, потым накідалі крыху ніжэйшы торп пры другой, а рэшту скідалі ў кучу абы-як — паліць у печы і ў грубцы зараз, у бліжэйшыя дні. Урэшце бацька ўзяў у рукі жалезныя граблі — падгрэбці трэскі, а Антон прысеў на парожак адпачыць. Лапнуў сябе па кішэнях, шукаючы цыгарэты. Іх не было. Пэўна, засталіся ў пінжаку. Гукнуў да бацькі:

— Тата, у цябе ёсць што курыць?

Бацька падышоў, падаў яму пачак «Прымы», сказаў:

— Ты ж, мусіць, такіх не курыш?

— Анічога,— Антон выцягнуў цыгарэтку, пакамячыў яе ў пальцах, каб стала мякчэйшая, прыпаліў.— Я-то з фільтрам куру, але і гэтыя можна.

Бацька пастаяў, памаўчаў. Беручыся зноў за граблі, сказаў:

— А няхай бы патрываў троху, а то нашчаком цмыгаеш. Мне маці не дае нашча курыць.

— Малайчына мама! — усміхнуўся Антон.

— Ага, малайчына! Кажа, і так уранку бухаю, як у бубен!

— А мая не зважае, нашча я ці не нашча,— сказаў Антон. І, спахапіўшыся, змоўк.

Бацька глухавата сказаў з дальняга кута паветкі:

— А на што-небудзь яна зважае, твая?

Антон паволі павярнуўся да бацькі, таксама глуха спытаў:

— Ты пра што, тата?

Не паварочваючыся да яго і не гледзячы на яго, бацька сказаў:

— А так, сынку... Здаецца мне...

— Што?

— Што не тое нешта... Вы ж маладыя яшчэ. Мы з маткай, бывала, хоць і старых саромеліся, твайго дзеда з бабай, але ж... А вы як нажыліся ўжо, як абрыдзелі адно аднаму... Я хоць і рэдка вас бачу,

але ж вочы не завязаны. Яна — сабе, ты — сабе... Чаму ж во разам было не прыехаць як людзям?

Бацька змоўк. Маўчаў і Антон. Маўчаў, ажно пакуль бацька не паставіў у кут граблі і не апусціўся поруч з ім на парожак. Тады Антон азваўся:

— Хто яго ведае, тата. Мо здаецца табе... Жывём... Як усе цяпер жывуць...

Бацька, таксама закурыўшы, выдыхнуў разам з дымам:

— Во, во, як усе! Каму што ні скажы, дык кожны апраўдваецца: як усе!.. А чаму ж не па-свойму? Хіба ж гэта цікава — як усе? Хіба добра? Га, сынку?

Антон, угнуўшыся, пакруціў галавой:

— Век такі, тата. Усіх і ўсё нівеліруе. Пад адзін грэбень прычэсвае.

Бацька, хутка зірнуўшы на сына, зацягнуўся зноў цыгарэтай, потым, адвярнуўшыся, выпусціў дым, сказаў:

— Ай, сынку, ты — як Генусь Манін. Той пра сваё гэтак жа. Усе, кажа, п'юць, век такі!.. Дык ты ж не Генусь дурны!

Сапсаваўся ў Антона настрой. Толькі, было, лягчэй стала на душы, а тут — зноў. Нечакана зазлаваў на бацьку. Сам кажа, што не сляпы, бачыць, дык — чаго пытаецца?

А бацька як здагадаўся, што зазлаваў Тонік. Дакрануўся сваім плячом да яго пляча, сказаў:

— Не злуйся, сынку. Падумаў во... Старому ж заўсёды нешта ў галаве. Як усе, дык — хай як усе. Абы добра жылося. Чаго ж яшчэ трэба? Ці ж я цябе вучыць буду? Вучаны, дзякаваць богу!.. Гэта маці ўсё. Як успомніць цябе, так і пачынае: а не ўсё ж у Тоніка добра, а нешта ў яго не тое, а нешчаслівы ён з Рэнькаю сваёю, а не пашанцавала яму ў жыцці...

Антон зноў з натугаю ўсміхнуўся, перапытаў:

— Так і кажа? Ну, мама! Што ёй такое здаецца? Ты не слухай яе! Я ж кажу, тата, сур'ёзна: жывём няблага, як усе.

— Чуў, чуў ужо,— адказаў бацька.— Але ж скажы ты ёй гэта!.. Ну, а з работай як у цябе? Я ж добра і не ведаю, дзе ты цяпер робіш што. Як хто пытаецца, дык — у міністэрстве кажу.

— Усё правільна, тата. У міністэрстве. Усё нармальна,— з неахвотаю адказаў Антон.

Бацька амаль гэтак жа, як і Антон, пакруціў галавой, усміхнуўся як сам сабе:

— А я адрабіў сваё, сынку. Падчыстую адрабіў. І — вусцішна неяк. Раней на трактары рабіў, прывычны быў, пасля ў майстэрню шторанак хадзіў, а цяпер... Як будзе?

— А цяпер адпачывай! Сядзі на печы і грэй плечы! — Антон абняў бацьку за плечы.

Бацька асцярожна вызваліўся з сынавых абдымкаў, крактануў:

— Дзе ты бачыў, каб цяпер на печы хто сядзеў! Печчу кот завалодаў. Як самадзержац той раскашуе і днём, і ноччу...

Антон усё ж адвык ад цыгарэт без фільтра — табака лезла ў рот, канчук растрыбушваўся. Не дакурыўшы цыгарэты да канца, ён кінуў асмылак долу, расціснуў абцасам. Лёгка ляпнуўшы бацьку па плячы, сказаў:

— Еш, тата, спі, тэлевізар глядзі і ні аб чым не шманай! Хопіць, нарабіўся!

— Калі ж, сынку, гэта толькі парсюк так — наеўся ды на бок. А чалавеку заўсёды клопат...

— Які табе зараз клопат?

Бацька перасмыкнуў плячамі, папляваў на недакурак, у дадатак таксама кінуў яго пад абцас бота. Сказаў як не да Антона, а кудысьці ў прастору:

— Дзе ж бо яно, каб хто сказаў, бесклапотнае жыццё тое... Да другіх дзеці, зяці, нявесткі, унукі ледзь не кожную суботу прыязджаюць. І пакосяць, і дроў тых нарыхтуюць, і гарод да ладу прывядуць, і тое, што ў гародзе вырасла... А табе як нічога не трэба. Ні бульбіны той, ні ягадзіны...

— Дык жа і не трэба, тата! — ледзь не ўсклікнуў у злосці Антон.— Ты ж ведаеш, што не трэба. У нас жа дача ёсць...

— Ведаю, сынку. А маці... Яна ўсё Тонічку, усё для Тонічка, для ўнучыка гарадскога — сушыць, варыць, крышыць... Мала што ў цесця дача ёсць тая! А ты ж нарадзіўся тут...

— Сантыменты, тата! — абарваў яго Антон.— Сантыменты ўсё! Маму я таксама разумею, а ты... Навошта пра гэта гаварыць? І вас я люблю, і Кавалевічы нашы люблю. Больш скажу, тата. Каб Рэня

пагадзілася, дык сюды б, не задумаўшыся, назусім перабраўся б. Абрыдзеў мне той горад!

Бацька нечакана для Антона запярэчыў:

— Не, сынку! Сябе абманваеш! Не перабраўся б... Не, сынку, не перабраўся б... Яно і не трэба, вядома, але — не перабраўся б! Гэта ты, каб сябе суцешыць, заспакоіць, кажаш так. А ў галаве ў цябе ўжо зусім не тое. Я ўчора бачыў, як ты на рукі глядзеў. На Маніны, на Томчыны, на Андрэевы... Нядобра глядзеў, сынку!

— Як гэта — нядобра глядзеў? — Антон загарэўся, заліўся чырванню. Сам сабе прызнавацца не хацеў, але ж — бацька праўду казаў. Учора ён сапраўды звярнуў увагу на Маніны і Томчыны рукі. Але... Але ж ён глядзеў са спачуваннем, са спагадаю! Яму шкада было Томкі і Мані! І тут жа прыдуманае ён сказаў уголас: — Мне, тата, было шкада Мані і Томкі. Я са шкадаваннем глядзеў, што ў іх рукі такія спрацаваныя...

— Мо і са шкадаваннем,— пагадзіўся бацька,— але нядобра. Не як брат, а як чужаніца.

— Ну, ведаеш, тата! — Антон падхапіўся з парожка.

Бацька не адказаў, бо ў гэты час выйшла з хаты маці, ад ганка гукнула да іх:

— Дзе вы прапалі? Гарэлі б яны, дровы тыя! Якая пара ці цеперся, а за стол не сядалі! Ідзіце ўжо, бо акалее ўсё!

Снедалі, не ў прыклад вячэры, будзённа, амаль моўчкі. Маці паставіла была на стол пляшку гарэлкі, але ні бацька, ні Антон да яе не дакрануліся. Тады маці, зразумеўшы гэта па-свойму, збегала ў кладоўку і прынесла неадкаркаваную пляшку сухога віна. Ставячы яе на стол, сказала да сына:

— Дык мо, Тонічак, гэтага пакаштуеш? Даўно ўжо ўзяла ў краме. Яго ж у нас ніхто не бярэ, а я, помнячы, што ты любіш, узяла... Пакаштуеш, Тонічак?

Антон адмовіўся:

— Дзякую, мама. Грэх за сняданнем,— паспрабаваў пажартаваць.

— А хай цябе, сынок! Ужо і грэх! Ці ж на работу ісці?

— Усё роўна, мама. Не хочацца пасля ўчарашня-

га,— Антон ніякавата пакруціў галавой.— Зрабі мне лепш чаю.

Пасля снедання ён накінуў на плечы плашч і падаўся з хаты. На запытальны позірк маці адказаў:

— Прайдуся па вёсцы. Мо да Томкі, да Мані зазірну, пагляджу, як яны там.

— Прайдзіся, сынок, прайдзіся. І да сясцёр заглянi. Быўшы тут і не заглянуць...

На вуліцы не было ні душы. Толькі там-сям хадзілі куры ды з нечага двара выбег бясхвосты, віславухі сабака — пастаяў, паглядзеў, быццам чалавек, у адзін канец сяла, потым у другі і, крутнуўшы куртатым азадкам, зноў матлянуўся ў двор. Антон, прыпыніўшыся было на хвіліну ля весніц, паволі пабрыў вуліцаю ўніз, да рэчкі — там, за мостам, амаль побач, у суседстве, жылі Томка і Маня.

Але да іх ён не дайшоў.

Спачатку затрымаў яго Валодзя Марылін. Пэўна, корпаўся на гародзе ці ў двары, угледзеў Антона на вуліцы, угледзеў і паклікаў:

— Здароў, Тонік!

Антон ніяк не мог успомніць, як зваць гэтага Марылінага Валодзю па бацьку. Так і не ўспомніўшы, азваўся:

— Добры дзень, дзядзька Валодзя!

— А я гляджу ды думаю — ты гэта ці не ты. Спачатку не прызнаў. Думаю, нехта падобны на цябе, бо ў клубе ж цябе заўчора не было, здаецца,— гаварыў Валодзя, падыходзячы з двара бліжэй да вуліцы.

— Не змог прыехаць у пятніцу, затрымалі,— адказаў Антон і сам спытаў, каб не гаварыць пра гэта: — Як ваш Лёнька? Усё там, у Сібіры?

— Там усё,— Валодзя падышоў да варот, абапёрся на іх, узлёгшы грудзямі і перавесіўшы цераз іх рукі.— Іншыя дзеці паўцякалі, дык хоць не так далёка, хоць у адведкі прыязджаюць, а мой — гады ў рады. Гэта ж ужо чатыры леты не прыязджаў. Думаў, сяголета прыляціць, дык — не, зноў не сабраўся...

— Далёка,— прамовіў Антон.

— А не кажы, Тонік! На краі свету. Гэта ж я радыё слухаю калі, дык кажуць: у Маскве — пятнаццаць гадзін, а ў іх ужо — дваццаць адна, вечар даўно. Як не ў нашым гасударстве ўсё адно...

— Дык ён што, на Сахаліне ажно?

— Недзе там.

— А як вы мацуецеся, дзядзька Валодзя?

— Ат, якое тут мацаванне! — Валодзя махнуў рукамі-палкамі.— Марыля мая знемагла, ногі не трымаюць, больш ляжыць, чымся ходзіць. Дык от кручуся, як уюн на патэльні... Мы ўжо сваё дажываем, Тонік!

Валодзя калісь прыстаў да Марылі ў прымы нашмат за яе маладзейшым, слухаўся жонкі ва ўсім, дагаджаў яе любому капрызу і з гэтае прычыны ўвайшоў у вясковую прымаўку. Калі трэба было папікнуць катогага мужчыну ў празмерным паслушэнстве жонцы, звычайна казалі: «Як Валодзя Марылін...» Меў Валодзя з Марыляю дваіх дзяцей — старэйшую Наташку і меншага Лёньку. Наташка іхняя пасля вайны апынулася ў Данбасе, там выйшла замуж і асела, а Лёньку выпала служыць у арміі недзе ў Сібіры ці на Далёкім Усходзе, і ён таксама пасля службы застаўся далёка ад дому...

— Я ж, Тонік, быў у клубе, як бацьку твайго ганаравалі, як яму стужку на грудзі вязалі,— гаварыў Валодзя тым часам.— Гэта ж такая пашана чалавеку! Жыві і не памірай! А здароўя таксама нямашака ўжо! Я ж бачу. Пайшлі аднойчы касіць дзялкі іржоння, дык і ў яго сілы той — кот наплакаў. Ты ўчора прыехаў? А цяпер, мусіць, да Мані і Томкі ідзеш?

— Трэба ж зайсці, паглядзець,— кіўнуў Антон.

— А як жа! Сёстры ж! Гэта цяперака дык неяк як чужыя жывуць, хоць і блізкія сваякі, а даўней жа, бывала, у адной хаце ўсе жывуць, калі бацька не падзеліць... Ай, але ж і жыццё было! Не жыццё, а катарга. Штодня калатнеча ў хаце. Я ж заспеў ящчэ таго жыцця. Ужо і не верыцца... А ты ж сам як? Усё ў Мінску служыш? Мусіць жа, высока даслужыўся са сваёй грамаццю? Усё я зайздросціў. Казаў свайму Лёньку: во каб ты вучыўся так, як Тонік Пётраў! А то ж восем ледзь адолеў. Яно нічога, і з такой грамаццю жыве няблага, але ж мазалём зарабляе, не так, як ты ці каторы... Ды, пэўна, кожнаму сваё...

— Ну, добра, дзядзька Валодзя, пайду я,— сказаў Антон.— Мацуйцеся! Прывітанне цётцы Марылі! Хай папраўляецца!

— Дзякую, Тонік! І табе ўсяго добрага!

Пайшоў Антон, але спінаю адчуваў, што Валодзя Марылін усё яшчэ вісіць на варотах і глядзіць яму ўслед, і ад гэтага было чамусьці ніякавата, і тая спагада, якая была варухнулася ў душы да гэтага Марылінага прымака, абарочвалася незразумелай злосцю — як нядаўна на бацьку за яго папрокі і намёкі. Антон міжволі наддаў хады і ажно сцепануўся ўнутры, калі ля Папковых яго нечакана аклікнуў Грыша:

— Куды навастрыўся?

Грыша, як і Марылін Валодзя, таксама быў у андвары — штосьці ладаваў у багажніку машыны. Антон падышоў, паздароўкаўся, адказаў на Грышава пытанне:

— Ды нікуды. Прайсціся выйшаў.

— Назад не збіраешся?

— Трэба ж.

— Дык, калі начаваць не думаеш, давай. Я скора еду.

— Як скора?

— Ды праз паўгадзіны,— адказаў Грыша. Ляпнуўшы вечкам багажніка, спытаў: — Ну, як твае старыя? Варушацца?

— Варушацца,— адказаў тым жа самым словам Антон.— Дык ты тады і праўда захапі мяне з сабой. Думаў да Мані і Томкі зазірнуць, але, раз такое дзела... Учора ж за поўнач сядзелі...

— Дык ідзі збірайся, бо чакаць не буду,— не то сур'ёзна, не то жартам адказаў Грыша.— Мне завідна трэба быць у Мінску.

— Не бойся, не затрымаю,— усміхнуўся Антон.

Антон павярнуў дахаты. Няёмка, канечне, што не зайшоў да Мані і Томкі, думаў ён, аднак — грэху вялікага не будзе. Учора і праўда перагаварылі пра ўсё, пра што трэба і пра што не трэба.

Маці, угледзеўшы яго на парозе, здзівілася:

— Што ж так хуценька?

— Планы перамяніліся. Стрэў на вуліцы Грышу, ён скора едзе ў Мінск, дык і я з ім паеду, усё роўна ўжо, калі лішнюю гадзіну пабуду з вамі ці не пабуду,— адказаў Антон.

— Яно ж вядома,— няпэўна прамовіла маці.—

На легкавушцы заедзеш без клопату, не тое што ў тым аўтобусе трэсціся. А калі ж Грыша едзе?

— Ды недзе, казаў, праз паўгадзіны.

— А бо! Дык жа трэба нешта ў партфель твой сабраць! — замітусілася маці.

— Ты ўсё, як раней, мама,— усміхнуўся Антон.

— Ну як жа ж? Паедзеш з дому з пустым партфелем? Дзякаваць богу, ёсцека што пакласці. Што сама берагла да бацькавага свята, а яшчэ ж, ці казалі табе, мы цялятка купілі... Нясі сюды партфель, сам пакладзеш у яго што, а то не ўмею і адчыняць яго.

Антон прынёс з другой хаты партфель, паставіў яго на табурэтку. Праз хвіліну на стале стаяў слоік малінавага варэння і слоік сырых перацёртых суніц, ладнаваты брус сала, на дзве пядзі кавалак паляндвіцы, кавалак адваранай цяляціны, пара дзесяткаў яек.

— Во, Тонічак, чым багаты, тым і рады,— казала маці, носячы ўсё тое на стол.— Гасцінец унучыку. Кладзі ў партфель. Я загортваць буду, а ты кладзі акуратненька, каб слоічкі не пабіліся і яйкі не патрушчыліся.

— Навошта, мама, лішні клопат? — як аднекваўся Антон.— Ці ж мы там галодныя?

— Ат, памаўчы! Я ж кажу — гасцінца ўнучыку! Гэта ж не куплёнае, а бабчына і дзедава. Ці ж ты часта прыязджаеш, што адмаўляешся? — адмахнулася ад яго слоў маці, загортваючы кожнае яечка ў шматкі газеты.

— Як выпадае, мама, так і прыязджаю.

— Ну дык і не кажы абы-чаго! Мы з бацькам тут... Адной толькі і радасці той, што ты во прыедзеш...

Антон прамаўчаў. Склаў-зладаваў у партфель усё, што падавала яму маці, урэшце паклаў поверх вузкую і доўжанькую торбачку з сушанымі яблыкамі і грушамі, так што яго «швейная машынка» (хтосьці некалі жартам ахрысціў так яго пузаты партфель) ледзь зачынілася на замкі.

Праз нейкі час у хаце запанавала цішыня. Маўчала маці, не азываўся бацька, маўчаў і Антон, ужо з нецярплівасцю чакаючы, калі падасць сігнал на вуліцы Грыша Папкоў. Урэшце маці паднялася:

— Чаго ж мы тырчым у хаце? Пойдзем, Тонічак, лепш на вуліцу, каб чалавек, едучы, не чакаў. Ты, Пётра, выйдзеш? — павярнулася да бацькі.

— Чаго ўжо і я павалакуся? — падаў голас бацька.

— Канечне, няма патрэбы,— падтрымаў яго Антон.

Ён падышоў да бацькі, які сядзеў на лаве пры стале, нахіліўся над ім, таропка цмокнуў недзе ля вуха:

— Будзь здароў, тата! Не крыўдуй, калі што не так...

— Шчасліва даехаць, Тонік! — бацька падняўся, нязграбна абняў яго за плечы.— Перадавай прывет свату і сваццi, унука за мяне пацалуй...

— Добра, тата. Ты тут глядзі...

Выйшлі з маці на вуліцу, сталі ля весніц. Маўчалі. Маці палезла ў кішэньку сваёй калісь сіняй, а цяпер нейкага няпэўнага колеру балоневай куртачкі, выцягнула насоўку, старанна працёрла ражком куточкі вачэй ля пераносся, падняла вочы на сына:

— От, Тонічак, ты ўжо едзеш, а пагаварыць, як заўсёды, дык і не пагаварылі. Учора балантэсілі абы пра што, а каб пра што сваё дык і не было калі...

— Ну чаму ж, мама? Пра ўсё, здаецца, пагаварылі.

— Я ж кажу — балантэсілі! Якая ўжо гаворка, калі на стале чарка? А я ж бачу, што ты нейкі... Што ў цябе як бы не ўсё добра... Га, Тонічак?

— Што табе здаецца, мама?

— Я ж не ведаю, сынок, але ж... От кажа мне сэрца, што не так нешта ў цябе. Ці на рабоце ў цябе не ладзіцца, ці ў сям'і нешта, з Рэняю...

— Усё добра, мама,— Антон пачынаў зноў злавацца.

— Добра дык добра. Але ж як перамяніўся ты ўсё роўна, як пачужэў да ўсіх нас, ці што...

— Ну што ты кажаш, мама! З чаго вы ўзялі? І ты, і тата пра адно і тое ж! Як згаварыліся! Чаму гэта раптам я чужы зрабіўся? Я во рады, што прыехаў. Пабыў бы з вамі даўжэй, але ж, бачыш, так атрымліваецца...— Антон, як ратуючыся, закурыў.

Маці памаўчала, паглядзела ў бок Папковых, ці

8*

не выязджае з двара Грыша, потым зноў павярнулася да сына, сказала:

— А ты не злуйся, Тонік, і ні пра што мы з бацькам не згаворваліся, а от... Учора глядзела я на цябе, глядзела, і ўсё тая думка з галавы не выходзіла. Ну, што цябе як смокча нешта: ці клопат нейкі, ці бяда, ці крыўда на некага. Як самому сабе ты не рады, сынок...

Непрыемна было Антону слухаць гэта, парываўся абарваць маці, нават насварыцца, але стрываў, стомлена ўсміхнуўся:

— Ніякі смоўж мяне не смокча, мама! Дальбог жа, проста смешна! Што вам уздумалася? І работа ў мяне як работа, і сям'я як сям'я, і ўвогуле... Не ведаю, што і казаць!

Маці ўздыхнула:

— Мне што, сынок? Абы табе добра было, а болей... Ці ж нам што трэба? — І, быццам зарадаваўшыся, дадала: — А вуньдзека і Грыша! Трэба было б падысці да іх, каб чалавек лішне не турбаваўся — спыняцца тут.

— Нічога, прыпыніцца,— Антон кінуў недакураную цыгарэту, узяў у рукі партфель.— Ну, бывай, мама! І не думай нічога такога, выкінь тое з галавы...

Падруліў Грыша, знутры піхнуў ад сябе правыя дзверцы, гукнуў з машыны:

— Добры дзень, цётка Параска! І — жывіце багата! Сядай, Тонік!

Антон пацалаваў маці, сеў у машыну і ляпнуў дзверцамі. Грыша тут жа адпусціў счапленне, і яго «Жыгулі» плаўна, без шуму крануліся з месца.

Праз тры ці чатыры хаты Антон азірнуўся: маці ўсё яшчэ стаяла ля веснiц...

Ён дабраўся дадому рана. Пазваніў у дзверы — ніхто не адчыняў. Значыць, не вярнуліся з дачы. Ён намацаў у кішэні ключы і адчыніў. Пераапрануўся, пайшоў на кухню, пералажыў з партфеля ў халадзільнік матчын пачастунак. Потым пайшоў у пакой, лёг на тахту і ўзяў у рукі часопіс — парашыў, пакуль не вернуцца сямейнікі, дачытаць усё ж тую хваленую аповесць. На гэты раз яна захапіла Антона — ён ужо з цікавасцю сачыў за героем аповесці,

за трагічнымі, а хутчэй трагікамічнымі перыпетыямі ягонага лёсу. Аднак ці таму, што ўночы спаў мала, ці таму, што як бы там ні было, а здарожыўся, не заўважыў, як задрамаў.

Прахапіўся ад гаманы ў кватэры. Хуценька, быццам быў заспеты за нечым непрыгожым, падхапіўся, вызірнуў з пакоя. У пярэднім распраналіся Іван Мацвеевіч, Паліна Іосіфаўна і Аляксей.

— А-а-а... ты дома? — здзіўлена, падалося нават — з нейкім спалохам ці збянтэжанасцю, спыталі ледзь не ў адзін голас цесць і цешча.

Антон, спрасонку ўсміхаючыся крыху па-блазенску, адказаў:

— І даўно ўжо. І начытаўся, і нават паспеў задрамаць. Землячок мяне на сваіх «Жыгулях» падкінуў. Таксама ў адведкі да бацькі ездзіў... А Рэня дзе?

— Рэня? — перапытала Паліна Іосіфаўна і, зірнуўшы на Івана Мацвеевіча, цішэй, бы няўпэўнена, сказала: — Хутка павінна быць. Яна на праспекце выйшла. У магазін захацела зайсці...— І паспяшалася, як зноў падалося Антону, загаварыць пра іншае: — Як жа табе з'ездзілася? Што там у свата здарылася? Чаго клікаў тэлеграмаю?

Антон махнуў рукой:

— Ай, Паліна Іосіфаўна, скажу — не паверыце! На радасцях тэлеграму паслаў. Прысвоілі яму званне заслужанага калгасніка! Вось як! У клубе вечар быў. Хацеў бацька, каб і я папрысутнічаў на яго ўрачыстасці!

Іван Мацвеевіч, напачатку таксама, як здалося Антону, чымсьці збянтэжаны, бадзёра адгукнуўся на зяцевы словы:

— Ну а як жа! Бацькава радасць — сынава радасць! — І пажартаваў: — Бачыш, Тонік, як не трэба слухацца жонкі! Каб не паслухаўся, паехаў у пятніцу, дык і бацька быў бы рады, і сам бы...

— Не брашы, Ваня! Ці ж Рэня ведала? Але ж сват напісаў так, што... Ды такой бяды! З'ездзіў жа, адведаў, пагаварыў... Як яны там, сваццця і сват? Топчуцца ля хаты?

— Вось іменна, Паліна Іосіфаўна, топчуцца... У кожную другую хату зазірні — адны старыя і топчуцца,— адказаў Антон, усё яшчэ стоячы ў праёме дзвярэй у свой пакой.

Паліна Іосіфаўна, урэшце пераабуўшыся ў тэпці, пайшла ў ванну. Выйшаўшы адтуль ужо ў халаце, сказала як паспачувала сваім свату і свацці:

— Гэта ж добра яшчэ, калі самі сябе дагледзець могуць, калі яшчэ сілы хапае...— Яна ўзяла сумку, паўнюткую яблыкаў, і пайшла на кухню.

Іван Мацвеевіч, каб зняць чаравікі, сеў на пуфік і так і сядзеў на ім, шырока расставіўшы ногі і аддыхваючыся.

— Але, брат Тонік, старэе вёска, старэе,— урэшце сказаў ён.— Ты, Тонік, праўду кажаш. Толькі старыя і топчуцца. А некалі ж, помню, колькі моладзі было ў сёлах!

— Вы помніце! — Антон ахвотна падтрымаў цесця.— Я яшчэ помню, Іван Мацвеевіч. Ехалі во разам з Грышам, з нашых Кавалевіч хлопцам, дык успаміналі. Толькі нашых аднагодкаў было некалі ў Кавалевічах амаль трыццаць...

— Вашы ж гады, перадваенныя, ураджайныя на дзяцей былі. Як быццам усё роўна здагадваліся людзі, што пасля шмат гадоў бабы раджаць будуць рэдка...— Іван Мацвеевіч нарэшце падняўся з пуфіка, сцягнуў з плячэй пінжак, павесіў яго ў шафку. Знімаючы штаны і зноў сядаючы на пуфік, нечакана спытаў: — Дык бацьку, кажаш, далі заслужанага калгасніка? А якую пенсію прызначылі? Напэўна ж, персанальную?

Антон крутнуў галавой:

— Пра гэта я і не спытаў. Не падумаў неяк.

Іван Мацвеевіч як паўшчуваў:

— А трэба было б спытаць, Тонік. Як сыну варта было б пацікавіцца...— Нібы самому сабе, дадаў: — Напэўна, будзе персанальная, большая, чым у астатніх. Заслужаны ж... Як думаеш? — павярнуўся да Тоніка.

У адказ Антон толькі пацiснуў плячамі. Сказаць што-небудзь не паспеў — у дзверы пазванілі. Антон ступіў быў да дзвярэй, каб адчыніць, але яго апярэдзіла, ледзь не выбегшы з кухні, Паліна Іосіфаўна. Гэта прыйшла Рэня. Прапусціўшы яе ў хату, Паліна Іосіфаўна спехам загаманіла да яе, быццам баючыся, што нехта ёй перашкодзіць.

— Дык і дарэмна выходзіла, дачушка? Гляджу, так нічога і не купіла? Бо мы прыехалі, а Тонік —

дома ўжо. Пытаецца, а дзе Рэня, дык я і кажу, што выйшла на праспекце, каб у магазін зайсці.

Рэня, кінуўшы вокам на Антона, крутнулася да шафкі; вешаючы там паліто, адгукнулася:

— Дарма выходзіла. Няма нічога.

— А што ты хацела? — Антон спытаў пра гэта, а сам міжвольна, паўсвядома адзначаючы для сябе, што апранута Рэня не па-дачнаму — у тым жа крымпленавым паліто і ў той жа сукенцы, у якой была ўчора ў рэстаране.

— Анічога,— абыякава адказала Рэня, скідваючы з ног туфлі і шмыгаючы міма Антона ў пакой. Там, шамоцячы сукенкай, сцягваючы яе цераз галаву, глуха гаварыла: — Абяцала адна знаёмая кавы растварымай дастаць. Але чакала-чакала, дык ні знаёмай, ні кавы.

Паліна Іосіфаўна, зноў пайшоўшы на кухню, гукнула дачцэ адтуль:

— Колькі я гаварыла табе, каб не ганялася за той кавай! Хай ужо мужчыны п'юць яе. А ты лепш пі раніцай і вечарам малако ці кефір. І здаравейшай будзеш, і твар бялейшы будзе.

— Добра, мама, добра,— памяркоўна адказала Рэня.

Іван Мацвеевіч уключыў у зале тэлевізар. Антон быў пайшоў туды, але не стаў глядзець тое, што рабілася на экране,— пайшоў у пакой цесця і цешчы да Аляксея — сын «жыў» з бабай і дзедам.

Аляксей засяроджана, як маленькі, будаваў з пластмасавага канструктара дом, на падлозе былі раскладзены рэйкі дзіцячай чыгункі. Антон, зайшоўшы, спытаў:

— Што ты робіш тут моўчкі, быццам цябе няма?

Аляксей падняў галаву і замест адказу кінуўся бацьку напярэймы:

— Тата, не ідзі далей, ты мне ўсё тут пабурыш!

— А што ты выбудаваў тут?

— Чыгуначную станцыю.

— А ўрокі зрабіў?

— Канечне!

— Ну, а спаць яшчэ не пара?

— Дык жа я не вячэраў яшчэ!

— Ну, гуляй да вячэры,— Антон прычыніў за сабой дзверы.

Рэня была на кухні, аб чымсьці ціха гаманіла з маці. Антон зазірнуў да іх. Карцела штосьці спытаць у Рэні, але замест таго загаварыў да Паліны Іосіфаўны:

— Там мама мне ў партфель сёе-тое паклала, я ў халадзільнік пералажыў, мо на вячэру што прыдасца.

Наўздзіў яму Паліна Іосіфаўна адгукнулася да яго нязвычна прыязна:

— Што ж ты маўчыш? Мы тут з Рэняй галовы ламаем, што на вячэру прыдумаць. Паглядзім, паглядзім, якіх прысмакаў сваціейка мая прыслала!..

— Паглядзіце, паглядзіце,— Антон таптаўся, стараючыся не замінаць надта ж чамусьці мітуслівай Паліне Іосіфаўне і Рэні, ажно пакуль не наступіў на лапу ці на хвост Пушку, ад чаго ён жаласліва заенчыў, і пакуль цешча не папрасіла яго, ласкава падштурхнуўшы ў плечы:

— Ты ўжо нам не замінай, ідзі да бацькі, а мы тут хуценька збяром на стол, тады паклічам вас...

І Антон пакорліва пайшоў у пакой, дзе перад тэлевізарам сядзеў Іван Мацвеевіч...

— Не-е, падаваць на стол такую рэч без гарэлкі — нельга! Катэгарычна забаронена! Маўчы, Поля, ніякіх вета ні з чыйго боку не прымаем, так, Тонік? Канечне ж, так! — Іван Мацвеевіч, угледзеўшы на стале скрылікі ружаватай, з блакітнымі прожылкамі паляндвіцы, рассыпаўся бобам.— Так і быць, Поля, саграшым сёння. Хоць па грамульцы, а — трэба! Сам госпадзь наказваў!

Паліна Іосіфаўна па нядзелях сядала вячэраць з Пушком, закручаным у махровую прасціну — ён прымаў ванну строга ў нядзельныя дні; купала яго заўсёды толькі Паліна Іосіфаўна; сама ж яго пасля ванны высушвала і карміла. І цяпер яна сядзела за сталом з адчуваннем важнасці сваіх заўсёдных абавязкаў і паблажліва ўсміхалася. Турбаваць яе ў такія хвіліны лепш не трэба было, і Антон чакаў, што зараз Івану Мацвеевічу перападзе на арэхі. Аднак жа — не перапала. Паліна Іосіфаўна, праўда, не паднялася, каб дастаць з халадзільніка пляшку, што

таксама рабіла заўсёды сама, але сказала памяркоўна:

— Саграшыце ўжо, грэшнікі! Толькі ўжо дастань сам, у мяне дзіця на руках!

— Сядзі, мамачка, сядзі, усё зробім самі! — Іван Мацвеевіч не па гадах вёртка крутнуўся да халадзільніка, дастаў з яго і паставіў на стол пачатую пляшку «Рускай» і, не сядаючы, наліў у чаркі, якія пасля матчыных слоў паспела падаць Рэня.— Ну, давайце, дзеці! Поля, падымай! За нашых свата і сваццю! Хай жывуць доўга і хай не пераводзіцца ў іх закусь багоў паляндвіца!

Выпілі, пачалі закусваць.

Парушыў маўчанне Антон:

— А дзе ж Аляксей? Ён жа казаў — не вячэраў.

— Павячэраў твой Аляксей,— пяшчотна пагладжваючы Пушка, сказала Паліна Іосіфаўна.— Мы з Рэняй яго пакармілі і выправілі спаць. Каб на бацьку спадзявацца, дык дзіця ці лягло б калі ў пару і пад'еўшы.

— Маўчу, маўчу, Паліна Іосіфаўна! — схіліў галаву ў пакоры Антон.

Выпітая чарка яшчэ больш узбадзёрыла Івана Мацвеевіча. Смачна прыцмокваючы языком і губамі, ён распаляўся:

— Ах, як пачала жыць вёска! Хто калі падумаў бы! Помніш, Поля? Помніш, як мы жылі пасля вайны? Бульба бульбу паганяла. А цяпер? І на стале, і да стала, і грошай — куры не клююць!

Паліна Іосіфаўна прамаўчала, толькі перасмыкнула вуснамі, а на бацькавы словы азвалася Рэня.

— Што, тата, шкадуеш? Мо на старасці гадоў вернешся? — з незразумелым пацвельваннем спытала яна.

Іван Мацвеевіч паківаў на дачку відэльцам з усторкнутым на яго скрылікам паляндвіцы:

— Не іранізуй, дачка! Я гэтага не заслужыў, папершае. А па-другое, я не баюся і вярнуцца. Мы з маці не баімся. Так, Поля?

Паліна Іосіфаўна, грэбаючы растапыранымі пальцамі па поўсці Пушка, адказала:

— Чаго я там не бачыла?

Іван Мацвеевіч лыпнуў вачамі, зарагатаў:

— Дык жа і не трэба, Полечка! Я кажу — у

прынцыпе! У прынцыпе — мы не баімся! Не баімся, і ўсё тут! — Іван Мацвеевіч адправіў насаджаны на відэлец скрылік у рот.

— І Тонік, у прынцыпе, не баіцца,— раптам сказала Рэня.

— Тонік твой і без прынцыпаў не баіцца,— гладзячы Пушка, сказала Паліна Іосіфаўна, сказала неяк так, што Антон не зразумеў — ухвальна ці з насмешкай.

А Іван Мацвеевіч абарваў яе:

— Ты, Поля, Тоніка не чапай. Тонік — асобстацця!

— Па-мойму, ты, татачка, падлашчваешся дарма,— лянотна сказала Рэня.— Тоніку там таксама няма чаго рабіць.

Антон маўчаў. Яшчэ тады, як прачнуўся ад гаманы ў кватэры, як убачыў у пярэднім пакоі Івана Мацвеевіча, Паліну Іосіфаўну і Аляксея, а Рэні не ўбачыў, нешта як адбылося ў ім. Яму быццам блага зрабілася, увесь вечар як стаяла штосьці пад грудзямі. А зараз яго ўсё больш апаноўвала злосць — і ад гэтай няшчырай весялосці цесця, і ад самазадаволенай раздабрэласці цешчы, і ад знарочыстай іранічнасці Рэні.

Рэня была не на дачы! Гэта стрэліла ў галаву адразу ж, як угледзеў, што на ёй — «ягоная» сукенка. Ён нават і да Аляксея зайшоў з надзеяй, што сын скажа, была маці на дачы ці не была, але Аляксей не сказаў, а папытаць Антон не рашыўся. Рэня на дачы не была! Тады — дзе? А цешча робіць выгляд, што нічога не здарылася, настырна хлусіць і вылузваецца са скуры, каб быць добранькай. А Рэня? Зразумела маці з паўслова і падыгрывае ёй як можа. Паддаўся гэтай брыдкай гульні і Іван Мацвеевіч, таксама падладжваецца пад жонку. Усе лічаць яго, Антона, дурнем! Хлусяць у вочы і яшчэ прыкідваюцца ягонымі ж дабрадзеямі, нават пахвальваюць яго адно перад адным. Хочацца Антону грымнуць кулаком па стале, крыкнуць ім, каб змоўклі, стрымліваецца з усіх сіл. А што далей? Ну, добра, грымне ён, а што будзе пасля? Пайсці з хаты? А куды? І як? Назаўсёды? Мільгала думка пра сына. Ведаў: пойдзе ён — яны, усе трое, адгародзяць ад яго сына жалезнай сцяной, не падпусцяць ні на крок, зробяць усё,

каб Аляксей як мага хутчэй зненавідзеў бацьку. Так, так, усе трое, на чале з шаноўнай Палінай Іосіфаўнай...

Але яшчэ болей, чым сына, шкада было Антону самога сябе. Як учора ў Кавалевічах. Сын — што? Сын будзе жыць. З бацькам ці без бацькі. А ён, пайдзі з хаты, у каго ператвараецца? Адкідваецца на трынаццаць гадоў назад. Ні сям'і, ні набытку за душой, ні нават свайго кутка. Зноў ідзі на Другі Рыгораўскі да бабулі Юстыны? Дык няма ўжо ні Другога Рыгораўскага, ні бабулі Юстыны! Зноў кладзі пасівелую ўжо галаву на чужую мулкую падушку? Яно і тут, у гэтай хаце, падушка тая чужая, аднак жа, аднак жа... Столькі гадоў выкінуць з жыцця... А думалася ж: назаўсёды, на ўсё жыццё, крок у крок, плячо ў плячо, у паразумеласці і ўзаемнай лагодзе... Нават і работу трэба будзе шукаць іншую: не застанецца ж ён там, дзе трэба будзе спатыкацца з Іванам Мацвеевічам...

Нечакана згадаўся Грыша Папкоў, учарашняя гаворка з ім у машыне. Пад аднастайны шоргат шын ён не надта ўцямна слухаў Грышаву балбатню, аднак жа міжвольна сам сябе лавіў на думцы, што ён у чымсьці зайздросціць гэтаму свайму аднагодку і сябруку маленства. У Грышавых словах была нейкая ўпэўненасць і разважлівая цвярозасць, чаго заўсёды не ставала яму, Антону. Была перакананасць у неабходнасці тых ці іншых ісцін, што прыходзіць да чалавека з гадамі, з вопытам. Нягледзячы на тое, што, ведаў Антон, любіць Грыша схлусіць, хварсануць трохі, аднак жа верыў, што тых патлатых фантамасаў ён усё ж высаджвае з машыны. Мо і не заўсёды, але — высаджвае. І што да таго падбітага старога ў бальніцу ездзіў. І што шчыра засмучаны бядою, якая напаткала жонку, што каб не тая бяда, дык меў бы Грыша к гэтаму часу трое, а то і чацвёра дзетак... А ён, Антон, жыве часцей за ўсё так, як набяжыць, сваіх прынцыпаў не трымаецца, бо не надта і ёсць яны ў яго, тыя прынцыпы. Калі яму раяць — слухаецца, пярэчаць — пагаджаецца, крыўдзяць ці зневажаюць — не абураецца. Цяпер, разважаючы пра гэта, ён і сам не разумеў, чаму так атрымліваецца, але ж — атрымліваецца, і ад гэтага рабілася сумна і горка.

Унурыўся Антон. Машынальна жаваў і маўчаў. Іван Мацвеевіч між тым паківаў зноў на дачку:

— Ой, Рэнька, не ведаеш ты свайго мужыка, ой — не ведаеш! Вось ён, як Поля кажа, не пабаіцца і без аніякіх прынцыпаў вярнуцца ў вёску. Кажу гэта, бо глыбока паважаю вясковага чалавека. А Тонік — вясковы чалавек. І гэта не загана! Наадварот! Вясковы чалавек — сапраўдны чалавек. Не гарадскі верабей, які пырхае туды-сюды, сёння — тут, заўтра — там. У вясковага чалавека глеба пад нагамі. І з гэтай глебай, з гэтым грунтам ён усюды і заўсёды знойдзе сябе. І ў вёсцы, і ў горадзе. А ты паспрабуй гарадскога перасадзіць на вясковую глебу. Ці кожны прыжывецца? Добра, калі адзін з дзесяці. А ты, дачушка, кажаш... Тонік твой — ого!

— Што — ого? — Рэня ўхмыльнулася, і Антон, зірнуўшы на яе, пабачыў, што ў гэтай ухмылцы была ці не агіда.

— А тое! Ён — не сённяшнія гарадскія валасацікі, якіх бацькі, продкі па-іхняму,— вядуць за ручку ад дзіцячага сада да інстытута, жэняць, будуюць кватэру, купляюць аўтамашыны і гэтак далей. Тонік сам прабіваў сабе дарогу...

— Не трэба...— не стрываў, папрасіў Антон.

Іван Мацвеевіч, наадварот, загаварыў з яшчэ большым запалам:

— Трэба, Тонік! Я сам нарадзіўся ў вёсцы і ніколі не стану пагарджаць вясковым чалавекам. Я ганаруся тым, што нарадзіўся і вырас у вёсцы. Вось іменна, мае дарагія, ганаруся! І кажу гэта насуперак тым, хто са скуры вылузваецца, каб хаця чым-небудзь не выдаць, што калісьці ён быў вясковым чалавекам. Дурныя, недалёкія людзі! Мне не па сабе робіцца, калі чую пагардлівае: «Калгаснік!..» Асабліва ж, калі гэта гавораць людзі, што самі дзесяць, дваццаць, няхай сабе нават трыццаць гадоў назад былі тымі ж калгаснікамі... Вясковы чалавек, пераканаўся неаднойчы, да ўсяго больш здатны, чым гарадскі. Жыццё ў яго пакуль што было цяжэйшае, і яно вучыла яго шмат чаму, рабіла яго больш вынаходлівым, старанным, упартым, працавітым, нават, я сказаў бы, хітрэйшым. Вазьміце студэнтаў. Па першым часе выпускнікі вясковых школ адрозніваюцца ад гарадскіх не ў лепшы бок. Іх агульны кругагляд

крыху вузейшы, дасведчанасць у сім-тым меншая, а галоўнае, язык не так лёгка падвешаны. І выдае іх найперш язык. Але ўжо к трэцяму курсу гэтыя вясковыя тугадумы і маўчуны пакідаюць гарадскіх балбатуноў ззаду. Пакуль тыя балбочуць і любуюцца сваёй адукаванасцю і вонкавай культурай, яны ўпарта вучацца... І зірніце: пераважная большасць геніяльных людзей выйшла з вёскі...

— Хопіць, тата,— сказала, глыбока ўздыхнуўшы, Рэня.— Ты надта шмат сёння гаворыш. Пакаштуй, урэшце, закусі багоў, а то хваліў-хваліў...

— Твая праўда, дачушка,— Іван Мацвеевіч ямчэй усеўся на табурэтцы, ускалоў на відэлец кавалачак цяляціны, укінуў у рот і пачаў жаваць. Жуючы, зноў загаварыў: — А дальбог жа, праўду кажу: закусь багоў! І палянвдвіца, і гэтая цяляцінка... Ніякая пастрама ці якая яшчэ трасца не дакажа. Што ні кажы, а — натуральны прадукт. У наш час вясковае жыццё і прываблівае найперш вось гэтай сваёй натуральнасцю. Натуральнасцю прадуктаў, натуральнасцю прыроды, натуральнасцю ўсяго таго, што...

— Ага! Харашо ў краю радном, пахне сенам і г.....! — зноў ухмыльнулася Рэня.

— Дурная ты, дачка! Я сур'ёзна кажу, а ты глупства паўтараеш!

— Перастань, Ваня! — падняла галаву ад Пушка Паліна Іосіфаўна.— Што на цябе найшло сёння? Ну, пажартаваў трохі — і хопіць. А то ўсё — вёска, вёска, вёска! Як попка...

Іван Мацвеевіч нечакана шпурнуў на стол відэлец і закрычаў:

— Поля, не злуй мяне! Калі ты сваім бабскім розумам не разумееш, дык...

Але Паліна Іосіфаўна не дала яму скончыць. Спусціўшы на падлогу Пушка — ужо сухога і зноў кудлатага, яна падхапілася з табурэткі і залямантавала:

— Гэта я злую цябе? Я? А ці не ты гэта не даеш спакойна павячэраць? Як з галоднага краю прыехаў! Як ніколі раней той палянвдвіцы не каштаваў! Такіх прысмакаў зяцёк прывёз, што і Масква не дакажа! Тфу!

Іван Мацвеевіч адкрыў быў рот, каб сказаць пе-

шта, але пракаўтнуў нясказанае слова, памаўчаў, паківаўся ўзад-уперад на табурэтцы, уздыхнуў:

— Ат, што з бабамі гаварыць!.. Дзе твая чарка, Тонік? Давай, брат, нальём і вып'ем з табой, пакуль уся наша абедня не папсавалася...

Ён наліў сабе і Антону і, не чакаючы, пакуль зяць возьме чарку ў рукі, кульнуў сваю ў рот, але праглынуў не адразу, колькі хвілін патрымаў гарэлку ў роце, быццам грэў яе там, урэшце лыкнуў, шумна выдыхнуў і, нічога не ўзяўшы на відэлец, загаварыў раптам зусім іншым — нейкім глухаватым, з прыдыханнем — голасам:

— Эх, бабы, бабы! Шчыра кажу — не даспадобы, прыдурваюся — церпяць. А шчыра ж казаў! Мо і глупства, мо і няпраўда ўсё тое, мо і няма нейкай асаблівай розніцы, тым больш цяпер, паміж вясковым і гарадскім чалавекам, але ж усё адно цябе, Тонік, я люблю як сына, і бацьку твайго, не ў прыклад Полі, таксама люблю, і маці — простых вясковых людзей...

— Што на цябе найшло сёння, кажу, га? Што табе даліся ў знакі тыя вясковыя людзі? Едзь у вёску і цалуйся з імі! — зноў агрызнулася Паліна Іосіфаўна.— Вячэрай во хутчэй! Мне са стала прыбіраць трэба!

— Чаго, мама, ехаць куды? Хай з Тонікам цалуецца,— гулліва засмяялася Рэня.

Працялі Антона, быццам токам, гэтыя словы, ды прамаўчаў, толькі яшчэ ніжэй угнуў галаву. Не надта зважаў ён на тое, пра што голасна, зрываючыся на крык, гаварыў Іван Мацвеевіч. Пры чым тут вёска і вясковыя людзі? Гаворыць, абы што гаварыць! Вёскай зараз не пагарджаюць. Мо і не любяць, але — не пагарджаюць. Паліна Іосіфаўна таксама не пагарджае. Гэта яна па звычцы пярэчыць Івану Мацвеевічу — іначай ужо не можа. А яшчэ — каб дапячы яму, Антону. Сама яна ўжо быццам і не верыць, што некалі жыла ў вёсцы. А зяць — ён толькі што, некалькі гадзін назад вярнуўся адтуль...

Іван Мацвеевіч на Рэніну пасмешку нечакана адказаў:

— І пацалуемся! І па-бацькоўску скажу яму, што дурань ён, а каб дурнем не быў, дык ты, дачушка, цяпер не выскалялася б, а плакала б!

Рэня сумелася, падалося Антону, сцялася, неяк спахопліва ўсторкнула штосьці на відэлец, панесла да рота. А на паратунак дачцэ кінулася Паліна Іосіфаўна:

— Чаго б гэта ёй плакаць? У бацькавай хаце седзячы ды плакаць? Ці ты ўжо зусім мазгі адпіў?

— Адпіў, маці, адпіў! — Іван Мацвеевіч адкінуў галаву назад, зарагатаў. Раптоўна зрабіўшыся сур'ёзным, ціха дадаў: — А як жа, з вамі адап'еш...— І ўздыхнуў: — А ты б, Тонік, усё ж адлупцаваў бы жонку. Маю родную дачушку... Глядзіш, на карысць пайшло б...— І засмяяўся зноў.

Паліна Іосіфаўна наляцела на Івана Мацвеевіча, як уджаленая:

— Апомніся! Што ты кажаш? Чаму ты вучыш? І каго ты вучыш? Ці ты забыўся, як твая дачушка ад яго кулакоў у сіняках хадзіла? Забыўся?

Больш трываць Антон не мог. Не помнячы сябе, з сілай грымнуў кулаком па стале:

— Маўчаць!

Падскочылі, зазвінелі на стале чаркі, адна пакацілася і ўпала на падлогу — у наступіўшай цішыні дзынк яе быў надта ж гучны, звонкі, і гэтае дзынканне быццам імгненна астудзіла Антона. Ён адразу ж паспакайнеў. Адно смылела агнём ударaная далонь. Ён паволі падняўся з-за стала і спакойна, нават зусім спакойна спытаў:

— Калі гэта, шаноўная Паліна Іосіфаўна, ваша дачушка насіла сінякі ад маіх кулакоў? І як вы можаце так... пры мне?!

Паліна Іосіфаўна азвалася не адразу. Паволі прыходзіла яна да памяці — пабялелы твар запунсавеў, вочы зноў забегалі мітусліва і дагодліва. Хапіўшы паветра, яна ўспляснула рукамі:

— Тонічак, сынок, чаго ты? Хіба я што такое?

— Я вам не Тонічак, Паліна Іосіфаўна. Я — Антон. Антон Пятровіч, калі хочаце. Вось,— сказаў Антон тым жа, надзіва спакойным голасам.— І вы, калі ласка...

Антон на нейкую хвіліну, быццам шукаючы слова, змоўк, і гэтага было досыць, каб Паліна Іосіфаўна авалодала сабой. Яна ўжо была ранейшай Палінай Іосіфаўнай. Адштурхнуўшы нагой табурэтку, яна ступіла крок да Антона і заверашчала:

— Ты гэта на каго крычыш? Ты хто такі, каб крычаць на мяне? Ты чаго па стале грукаеш? Ты на гэтыя чаркі зарабіў, каб біць іх? Анто-он Пятровіч...— перадражніла яна.— Не Антон Пятровіч ты, а жабрак, прымак, якога мы прытулілі!.. Божа мой, божа!.. І ён асмельваецца падымаць голас! За столькі гадоў не навучыўся ног памыць перад сном, сядзець побач нельга з-за смуроду!.. І ён асмельваецца крычаць!.. Вось вытурым з хаты, дык куды дзенешся? У Кавалевічы свае папаўзеш?.. Ён яшчэ крычыць...

Антон не даслухаў да канца. Ён крутнуўся і выскачыў з кухні. Апранаючыся ў прыцемку пярэдняга пакоя, чуў, як штосьці казаў Паліне Іосіфаўне Іван Мацвеевіч. Голасу ж Рэні не чуў. Накінуўшы на плечы плашч, выскачыў на лесвічную пляцоўку і хутка, быццам за ім хто гнаўся па пятах, збег уніз.

На прыступках ганка пастаяў хвіліну, нібы разважаючы, куды падацца. Ліхаманкава апранаючыся, ён не думаў, куды збіраецца. Адно было ў галаве: хутчэй прэч адсюль, з гэтай кватэры, прэч абы-куды, каб толькі нічога не чуць і не бачыць. Унутры ўсё яшчэ дрыжала, дыханне перахоплівала. Ён тыцнуў руку ў кішэню, намацаў цыгарэты, нервова закурыў, моцна, на ўсе грудзі зацягнуўшыся, пстрыкнуў абвугленую запалку ў куст бэзу, што рос ля пад'езда, ступіў з ганка і хутка пайшоў прэч. Заварочваючы за вугал дома, пачуў — ці мо падалося? — голас Паліны Іосіфаўны: яна, мусіць, усё яшчэ ляманта-вала ў кватэры...

Цемнаватым завулкам уздоўж дашчанай агароджы з брылём — там будавалі дом — Антон выйшаў на вуліцу Якуба Коласа, з яе на вуліцу Дарашэвіча, па ёй спусціўся на праспект. Тут ваўсю віравала жыццё — было тлумна, людна, як удзень. Ён уліўся ў людскі паток і, падганяемы ім, паплыў тратуарам у голых ужо прысадах.

Напачатку яго, здаецца, крыху злаваў гэты святочны, бесклапотны натоўп — занадта гучныя, як на людзях, гаворкі, выбухі смеху, воклічы, а найбольш тое, што ён некалькі разоў нос у нос сутыкаўся з сустрэчнымі, і тады яму хацелася не прасіць у тых, з кім сутыкаўся, прабачэння, а выгаварыць ім, сказаць злаславата, што трэба ўмець хадзіць, а не пер-

цiся напралом, замінаючы іншым. Але пакрысе гэтая святочная людская бесклапотнасць і мітульга і супакоілі Антона — мо нават не супакоілі, а астудзілі, збілі тую хвалю напружанасці і раздражнёнасці, якая так доўга падкочвалася і ўсё ж так нечакана, знячэўку захліснула яго ў кватэры. Паволі брыў ён праспектам і ўжо недзе ля плошчы Перамогі сказаў сам сабе спакайней: «Не сёння, дык заўтра, а гэта павінна было здарыцца...»

Ішоў ён бязмэтна, сам не ведаючы, куды і чаго, і думкі ў галаве былі такія ж бязладныя і мітуслівыя, як і гэтая людская рака, што паволі, але няўпынна несла яго ўсё далей і далей...

Выскачыць з хаты насупраць начы — не лепшае, вядома, выйсце, але што яшчэ мог ён зрабіць? Яны, усе трое, наплявалі яму ў душу, збэсцілі, зганьбавалі яго, ён і так трываў надта ж доўга, і паратунак быў толькі адзін — уцячы ад іх. Вось ён і ўцёк...

Мінаваўшы плошчу Перамогі і мост цераз Свіслач, Антон падняўся на Цэнтральную плошчу, спусціўся да ГУМа, дабрыў да Камсамольскай, тут перайшоў на другі бок праспекта, за паштамтам звярнуў налева, перасек вуліцу Свярдлова, пратупаў па гулкіх плітах скверыка на Ленінградскай і неўзабаве апынуўся на вакзале. Там ён бязмэтна патунькаўся ля аднаго, ля другога буфета, падняўся на другі паверх, пастаяў ля бар'ерчыка паштовага аддзялення, паглядзеў на штурханіну ля дзвярэй рэстарана, зноў спусціўся ўніз, выпіў у буфеце шклянку гаркаватага яблычна-рабінавага соку — знайшоў у кішэні некалькі манет, урэшце, згледзеўшы вольнае месца, сеў у пачакальні.

«Ну што, брат, дастукаўся? Вось так, як сабаку, на вуліцу...» Аб тым, што будзе заўтра ці паслязаўтра, не думаў. Стараўся не думаць. Свідравала мозг адно: што рабіць сёння, вось цяпер, неадкладна? Пайсці да каго з сяброў? А да каго? Дзе яны, ягоныя сябры? Няма іх. Паразгубляў. Даўно паразгубляў. Ды не надта і было іх у яго. Ліха яго ведае, чаму так, але ж нават у гады студэнцтва не займеў ён сапраўдных сяброў. Пакуль вучыліся разам, дык, здавалася, былі прыяцелі, а як раз'ехаліся, дык і абарваліся ўсе колішнія прыяцельскія сувязі. І нічыёй у тым віны, акрамя як сваёй, яго, Антонавай, ня-

ма,— пэўна ж сам не даражыў тымі прыяцельскімі сувязямі. Не набыў ён сапраўдных сяброў і за гады работы. Як лёгка сыходзіўся з людзьмі, так лёгка і разыходзіўся, забываючы начыста...

Паткнуцца да каго са знаёмых? Ліха яго ведае, дзе жывуць яны, гэтыя яго знаёмыя. Ды і як паткнешся? Сярод начы? Што скажаш? Што цешча выгурыла з хаты? Вясёленькая сітуацыя! Не, да такога ён не напусціцца! Хопіць і таго, што ён перад імі хадзіў у дурнях!

Перад імі... Што яны зараз робяць? Супакоіліся, ўлягліся спаць? Наўрад. Пэўна, усё яшчэ перамываюць яго косці. Паліна Іосіфаўна цягне, напэўна, сваю старую песню: «Ну што, дачушка, даскакалася? Такі быў хлопец, з такой інтэлігентнай сям'і, дык — носам круціла? А каго выбрала? Іншы б на яго месцы на дыбачках хадзіў, а то — паршы падымае! Тфу! Адразу было ідаць!..» Але, але, не такога зяця хацела мець Паліна Іосіфаўна. Хіба ён, Антон, не ведае? Колькі разоў на свае вушы чуў, як яна згадвала колішніх патэнцыяльных жаніхоў сваёй Рэнечкі! Найчасцей успаміна нейкага Жэню — сына член-кора. Паліна Іосіфаўна спала і сніла яго зяцем... Пэўна, яна і цяпер папікае Рэню тым Жэнем. А мо і не ім. Мо сынам прарэктара, сынам палкоўніка, сынам нейкага пісьменніка ці кінарэжысёра — жаніхоў, калі верыць Паліне Іосіфаўне, Рэня мела шмат, і кожны з іх быў куды лепшы, куды больш варты, чым ён, Антон... «Божа мой, божа! Магла б жа як сыр у масле качацца, усім на зайздрасць! І кватэру мець, як кватэру, як людзі маюць, і ў кватэры, і выйсці куды, дык каб усе бачылі, што жонка прафесара ідзе...» — спявае, не перастае Паліна Іосіфаўна. А Рэня, лежачы на тахце, расчуленая той нязбытнай перспектываю, горка плача, шмыгаючы носам у ясік. А пасмялелы нечакана Іван Мацвеевіч ходзіць па пакоі і грыміць: «Што ты пляцеш, бабская твая галава? Ты ж ведаеш, што з таго шалаша не выйшла ні шыша! Ні Жэньку таму, ні каму іншаму твая адзіная дачушка не патрэбна была! Нікому не патрэбна была! Бо не дачушкай вырасла, а сучкай! Ад кабялёў адбою не было! Дадому прыводзіла. Ты ж сама з хаты выганяла! Скажы дзякуй, што знайшоўся сціплы, чэсны хлопец, упадабаў паскудніцу

і падабраў... І не ён перад намі, а мы перад ім павінны былі б на дыбачках хадзіць, каб не выдаць нічым, не пакрыўдзіць, не зняважыць яго...»

Стоп, стоп, стоп! Хіба чуў ён што-небудзь падобнае ад Івана Мацвеевіча? Ці не сам гэта загаварыў за цесця? Іван Мацвеевіч, гэты балбатун, гэты Марылін Валодзя, мо і паспрабаваў заступіцца за яго, Антона, аднак жа, вядома, зусім не так. Пэўна, сказаў нешта накшталт: «Чаго ты, Поля, палезла на ражон? Ты ж ведаеш, што Рэня вінавата, што не з дачы яна вярнулася, што ён заўважыў гэта, ды толькі выгляду не падаваў... Дык чаго ж ты?..» Не, і гэтага, мусіць, не гаварыў Іван Мацвеевіч. Напэўна, проста махнуў рукою і вылаяўся: «Пагладзіць бы вас абедзвюх, старую і маладую, па задніцах добра, каб не грызлі лішне чалавека...»

Ды пайшлі ўсе яны, як Грыша Папкоў кажа, на хутар! Не хоча ён, Антон, мець з імі нічога агульнага. Яны — гэта яны, а ён — гэта ён. Хай яны там што хочуць, тое і робяць, а ён будзе сядзець вось тут і...

А што пасля «і»? Пасміхацца з іх? З каго? З Паліны Іосіфаўны? А ці гжэчна гэта будзе? Ну няхай яна недалёкая, звяглівая, аднак жа — цешча, і, можа быць, не самая горшая цешча. Каторая цешча цалкам задаволена сваім зяцем? Няма такой цешчы! Кожнай здаецца, што няспраўджаны зяць быў бы лепшы. Тым больш што сам ён, Антон, усё-такі, мусіць, і праўда не член-караўскі сынок Жэнька... Ды, зрэшты, седзячы тут, ён сваім пасміханнем насыпле ёй солі на хвост, як і Рэні, дачушцы яе, якую ён абвінавачвае ў яшчэ большых грахах. А можа, яны ўяўныя, яе грахі? Мо ягоныя падазрэнні — усяго толькі блюзнерства, плён нездаровай фантазіі? Мо ўсё ж сапраўды трэба было не выслухоўваць тады Верамея, а даць таму алкашу па мордзе і скончыць на тым? Дарэчы, ці не здаецца яму, што ўчора на аўтастанцыі, праводзячы яго ў Кавалевічы, Рэня была ў тым жа паліто і ў той жа сукенцы, у чым хадзіла з ім у рэстаран і да кінатэатра?.. Ну, а што да Івана Мацвеевіча, дык ці да крыўды тут, калі ён, Антон, яго шкадуе?

Антон ухмыльнуўся. Ён шкадуе? Дудкі! Не хапала яшчэ, каб ён некага шкадаваў. Сябе ён шкадуе. Гэта — праўда, гэта — точна! І не толькі сённяшняга, а і ўчарашняга, і пазаўчарашняга, і пазапазапа-

заўчарашняга. Шкадуе сябе — праз гады. Гэты жаль да самога сябе прыйшоў не сёння, не цяпер вось, калі ён сядзіць немаведама чаго ў вакзальнай пачакальні, а даўно ўжо, з той пары, як упершыню, яшчэ ці не ў студэнцкія гады, азірнуўся ён неяк на пражытыя гады. Тады, праўда, мо і не было яшчэ жалю — была ўсяго толькі лёгкая прыкрасць, а цяпер вось нагортвае жаль — горкі, нязбытны жаль. Бо — ці паправіш што? Ці павернеш жыццё іначай? Ёсць разуменне, што і кацілася яно і коціцца не так, як трэба было б, а веры, упэўненасці штосьці зыначыць — няма, як не было і раней.

Не жыў ён, Антон, сваім розумам. Ніколі не жыў. У дзяцінстве, у школьныя гады апекавала яго маці. Пільна апекавала. Дзе трэба і дзе не трэба. Аберагала ад усяго. Ад благога і ад добрага. «Не хадзі, сынок, не рабі, не думай, не турбуйся...» І ён не ішоў, не рабіў, не думаў і не турбаваўся...

У гады студэнцтва былі прыяцелі — па курсе, па інтэрнацкіх пакоях, і ён, Антон, жыў і вучыўся з аглядкай ужо на іх. Не выпінаўся і не адставаў — быў ні сярод лепшых, ні сярод горшых. Так, здавалася, найлепш, зручней, спакайней, бесклапотна, зацішна: цябе не хваляць, але і не ганяць...

У дзень дваццацігоддзя, на трэцім курсе, хлопцы па пакоі паднеслі яму падарунак — чатыры тамы «Кліма Самгіна». Ён праглынуў іх ці не за тыдзень. З захапленнем ці без захаплення — не памятае. Памятае іншае. Падалося раптам, што хлопцы зрабілі яму падарунак не без прычыны,— ён, Антон, знайшоў, што падобны на Кліма: крышачку — знешне (дарэчы, выданне было ілюстраванае), а больш унутрана. Таму і чытаў запоем. І ўсе гады, да канца вучобы, насіў на хлопцаў крыўду ў душы і баяўся, каб аднойчы яны не сказалі, не намякнулі яму пра тое...

Усе гады вучобы пагаджаўся і верыў, здавалася, што будзе настаўнікам, выкладчыкам роднай літаратуры і мовы, а зрабіўся ліха яго ведае кім. Чаму? Чаму так лёгка здрадзіў самому сабе? Чаму не мог зразумець, што гэта самая страшная здрада? Чаму не мог прыжыцца нідзе, бегаў з аднаго месца на другое? Чаму не знайшоў сябе, не працаваў, а адбываў час? Чаму пагарджаў людзьмі, якія аказваліся побач

з ім, памагалі яму, падтрымлівалі яго? Хто ў тым вінаваты? Наўрад ці задумваўся калі над такімі пытаннямі...

Напаткаў Рэню. Напаткаў зусім выпадкова. Напаткаў і неўзабаве ажаніўся. Чаму? Хіба так моцна пакахаў? Што падштурхнула на такі рашучы крок? Адкідваў прэч і гэтыя пытанні, калі яны сяды-тады прыходзілі.

Навошта думаць, калі справа зроблена? Адкідваў прэч і — супакойваўся.

А гады неўпрыкмет беглі, і неўпрыкмет перавааліла за сорак. Пара, калі таго, што не набыў, ужо, як людзі кажуць, не набудзеш. Пара, калі ўжо едуць з кірмашу. А ён, Антон, як быццам і не даехаў туды, як быццам і не жыў яшчэ зусім, а толькі рыхтаваўся, збіраўся жыць. Ды ці рабіў і гэта?..

І заўсёды быў толькі Тонікам, Тонікам, Тонікам...

На электрычным гадзінніку над дзвярамі — круглым, пляскатым, быццам прыклееным да сцяны кардонным кружку — паволі пасоўваліся стрэлкі.

* * *

— Дык што, Антон Пятровіч, бярэцеся?

— Бяруся, Анатоль Васільевіч...

Яны ўжо хвілін пятнаццаць сядзелі побач, амаль плячо ў плячо, за сталом у будынку музея — Антон і старшыня калгаса. Сядзелі і гаманілі. І вось нарэшце старшыня спытаў аб тым, дзеля чаго і прасіў Антона падысці ў Бабры і аб чым доўга чамусьці не рашаўся спытацца.

З месяц назад, сустрэўшы Антона на вуліцы ў Кавалевічах, Анатоль Васільевіч начакана папытаўся, якія ў яго планы, асеў ён у бацькавай хаце назаўсёды ці прыехаў перадыхнуць, акрыяць, і пабачыў, што Антон быццам збянтэжыўся, няўцямна перасмыкнуў плячамі.

Старшыня тады паспяшаўся скончыць гаворку і развітацца, папрасіўшы ўсё ж Антона падысці пры выпадку ў Бабры і зазірнуць да яго.

Тое было перад Першым маем. Антон тады сапраўды разгубіўся. Адчуваў, што старшыня хацеў прапанаваць яму нейкую работу. Недзе ён і сам думаў пра тое, што засядзеўся без работы, што ўжо пяёмка пе-

рад людзьмі робіцца, але ўсё ж не рашаўся ісці ў Бабры. Злаваў на сябе за гэтую дурную нерашучасць, ды ўсё ж не ішоў, быццам чакаючы нечага.

І вось дачакаўся — учора паштарка прынесла яму з Бброў запіску. Ад старшыні. Ад гэтага самага Анатоля Васільевіча. Дай веры, ён ужо — Анатоль Васільевіч, іх кавалевіцкі хлопец Толя Качан, на добрых дзесяць гадоў маладзейшы за яго, Антона! Пасля арміі скончыў акадэмію ў Горках, парабіў спачатку аграномам, пасля — галоўным аграномам, а залетась выбралі яго старшынёй. Трыццаць чатыры гады і ўжо ўсе да яго — Анатоль Васільевіч ды Анатоль Васільевіч! Антон таксама назваў яго гэтак. Мо так і трэба. Яны ж не проста аднавяскоўцы, а па справе сустрэліся. Скончылася іх гаворка тым, што старшыня ўгаварыў Антона ўзяцца за калгасны музей працоўнай і баявой славы.

Адчынілі музей у калгасе гадоў пяць назад, яшчэ пры старым старшыні. Пабудавалі спецыяльны дамок з сілікатнай цэглы, сабралі сякія-такія экспанаты, сяк-так расставілі іх, панаклейвалі на стэнды, парабілі надпісы і ўрачыста адчынілі музей, нават паклаўшы на тумбачку пры выхадзе чырвоную кніжку для водгукаў. Адно забыліся зрабіць — прызначыць калі не афіцыйнага загадчыка, дык хоць бы некага, хто адказваў бы за музей. Спачатку адчыняў і зачыняў яго парторг, пасля ключ перавандраваў да сакратара камсамольскай арганізацыі — маладога заатэхніка, якога было не дашукацца, калі раптам трэба было адчыніць музей якому-небудзь неспадзяванаму госцю, а затым трапіў той ключ у звязку ключоў да загадчыка клуба. У сямі нянек і праўда, мусіць, дзіця без носа. За гады, што прайшлі з дня адкрыцця, музей прыйшоў у заняпад, нават і тое, што было зроблена калісьці, прасіла абнаўлення і рамонту, не кажучы пра папаўненне экспазіцыі, пра стварэнне новых аддзелаў.

Даўно падшукваў старшыня, каго можна было б кінуць на музей. Ды хіба лёгка знайсці такога чалавека? А тут нечакана пачаў аціраца ў Кавалевічах Антон Вячорка. Месяц жыве ў бацькоў, другі, трэці. Мо зусім парваў чалавек з горадам? А ён жа, чуў старшыня, рабіў у музеі. Дармо, што музей той быў зусім іншы. Галоўнае — чалавек рабіў у музеі, у ста-

ліцы, дык чаму б яму не прапанаваць рабіць тое ж самае тут, у роднай вёсцы? Каму ж яшчэ прапанаваць, калі не яму? Гэта ж, як той казаў, божы дар, што зваліўся да іх нечакана музейны работнік. Што там у яго ў горадзе было — невядома, ці з жонкай не паладзіў, ці мо якая іншая прычына,— такой бяды, прыйдзе час, сам раскажа, калі захоча, а цяпер чаму б яму не прапанаваць заняцца музеем? Трэба ж усё адно за яго калі-небудзь брацца. Адчынілі — дык жа не зачыняць. Хай людзі ведаюць, асабліва маладзейшыя і дзеці, цяперашнія і заўтрашнія, гісторыю калгасных вёсак, гісторыю самога калгаса, людзей, якія яго стваралі калісьці і падымалі на ногі. А можа ж, гэты Вячорка зробіць так, што іх музей загрыміць на ўвесь раён і нават на вобласць? Людзі ж кажуць, і бацька неяк казаў, што вучыўся Вячоркаў Тонік нябдага, сам, без чыёй-небудзь дапамогі, паступіў ва універсітэт, у газеце працаваў, у музеі тым жа. Гэта ж мо якраз і яны яго як знойдуць, і сам сябе ён таксама мо знойдзе тут, дома, на бацькаўшчыне. Вось ён, Анатоль Васільевіч, і папрасіў сёння Антона Вячорку пад'ехаць у Бабры, каб пагаварыць.

Антон прыехаў другім аўтобусам па абедзе. Але адразу Анатоль Васільевіч нічога яму не сказаў. Напачатку папытаўся:

— Былі, Антон Пятровіч, у нашым музейчыку? Не, кажаце, не даводзілася? Дык вось вам ключ — схадзіце, паглядзіце, калі ласка. Добранька паглядзіце. А недзе праз паўгадзіны і я туды падыду, там і пагамонім.

Не падумаў тады Антон, што старшыня прапануе яму ўзначаліць музей. Здагадваўся, вядома, што нездарэмна паклікаў яго ў Бабры, што, пэўна, будзе гаварыць пра работу, але — пра музей? Ён, Антон, і чуў пра яго краем вуха. Але перапытваць, дзеля якой патрэбы яму ісці туды, не стаў. Узяў ключ і пайшоў.

Адамкнуў Антон урэзаны ў дзверы французскі замочак, зайшоў у будынак. У ім стаяў нежылы дух — патыхнула сырасцю. Антон падышоў да грубкі, адчыніў чыгунныя дзверцы, зазірнуў у чарнату — канечне, і знаку няма, што прапальвалі нядаўна. Хоць бы вокны пасля зімы паадчынялі, каб прасыхала будыніна, каб выходзіла гэтая непрыемная затхласць.

Антон, не марудзячы, адчыніў адно акно, другое, трэцяе. У пакойчыках — іх усіх было пяць — загуляў лёгкі, прыемны скразнячок. Раз паслалі яго паглядзець, дык ён паглядзіць, сказаў сам сабе, і пайшоў уздоўж сцен, не дужа ўважна ўзіраючыся ў пажоўклыя паперкі і фотакарткі. Але неўзабаве захапіўся, наўздзіў сабе.

У вочы кінулася распіска, дадзеная ў 1943 годзе іхняй суседцы Марылі Маўчановай камандзірам партызанскага атрада «Бальшавік». Прозвішча яго разабраць было нельга. Пісаў ён, што Марыля Маўчан добраахвотна перадала партызанам карову па клічцы «Букетка», якая мела шэсць цялят, і што Савецкая ўлада абавязваецца пасля вайны вярнуць жанчыне карову. Вось так! А ён, Антон, і не чуў, што Марыля аддала партызанам карову. Колькі яна джыгала яго крапівою пасля вайны, калі ён спрабаваў заскочыць пад яе яблыню ды ўхапіць які паданак, а вось, аказваецца, не такая яна і скнара, калі не пашкадавала каровы.

Потым на вочы трапіла фотакартка дваццаць восьмага года. Фотакартка была зроблена ў Кавалевічах. Тады кавалеўцы брукавалі вуліцу. На фотакартцы стаяў нейкі чалавек і біў малатком па кавалку падвешанай на слупе рэйкі. Ніжэй на тым жа слупе была прыбіта шыльда. І на той шыльдзе добра чытаўся надпіс: «Распарадак працы па брукоўцы вуліцы ў вёсцы Кавалевічы. Пачатак працы — у 4 гадзіны раніцы, канец працы — у 10 гадзін. Перапынак да 16 гадзін. Пасля зноў работа да 21 гадзіны. За самавольныя сігналы — штраф».

Антон доўга стаяў каля той фотакарткі. Цікава, што гэта за чалавек з малатком у руцэ? Ці хто з кавалеўцаў, што не перажылі вайну, ці брукар? Маці расказвала, што брукароў наймалі, яны былі прышлыя, каменне ж і пясок вазілі самі кавалеўцы, на сваіх коніках, брукары ж толькі клалі брук. Трэба будзе папытаць, у каго зберaглася гэта фотакартка, ці не прапаў арыгінал, бо відаць было, што на сцяне вісіць пераздымка.

У гэтым одуме ён вярнуўся ў першы пакой і ўжо з большай увагай пачаў углядацца ў экспанаты. І ўбачыў яшчэ адзін цікавы здымак — першы трактар у камуне «Чырвоны шлях», якая была створана

непадалёк ад Кавалевіч, у панскім маёнтку, у пачатку дваццатых гадоў. Трактар стаяў ля нейкай будыніны, у яго былі запрэжаны калёсы, у калёсах сядзела некалькі мужчын і падлеткаў, побач з трактарыстам, на крыле, што абымала зубчастае кола, хвацка сядзеў чубаты малады хлопец з цыгаркаю ў роце. Антон доўга ўзіраўся ў фотакартку, але, колькі ні ўзіраўся, не мог нікога пазнаць. «Вось табе і маеш! Аказваецца, у звычайным калгасным музейчыку, у якім і гаспадара сапраўднага няма, ёсць рэчы, вартыя ўвагі, вартыя таго, каб іх берaглі доўгія і доўгія гады. Гэта ўжо цяпер ім няма цаны, а што будзе праз дзесяць, праз дваццаць, праз пяцьдзесят гадоў?..»

У шафе, што стаяла ў калідоры, ён знайшоў тое, што не трапіла на сцены і на стэнды пад шкло — шмат фотакартак, зробленых, праўда, ужо ў нядаўнія гады, граматы, вымпелы, падшыўкі раённай газеты. Нечакана і тут натыкнуўся на тое, што захапіла яго,— на пісьмы з фронту, што прыходзілі ў сорак чацвёртым і сорак пятым у Бабры, у Кавалевічы і іншыя калгасныя вёскі. Пісьмаў было шмат — амаль аднолькавых пакамячаных і пажаўцелых трохкутнічкаў з выцвілымі і выцертымі на зломе чарнільнымі і карандашнымі радкамі. Ён вярнуўся ў пакой, прысеў да стала і ўткнуўся ў адно пісьмо, у другое. Чытаць іх было быццам і ніякавата, але затое надта ж цікава.

«Дарагая матулька, просциця меня, што не писал довго — усё уремя были в боях, гнали проклятава фашиста. А сегодня дали нам отдых, поменяли нательное, хотя и без бани, пообедали с горячим, и пишу вам это письмо, сидючи в хате, а не под кустом. Не плач и не думай про меня, я не пропаду, не убьецъ меня фашисцкая пуля-дура, не хвацить у Гитлера стали на нее, и вернусь я домой с пабедой...»

Антон перавярнуў лісток, прачытаў, каму быў адрасаваны гэты трохкутнічак: «Бубер Михалине Макаровне». Хто ж гэта? Бубераў у Бабрах шмат. Ці не маці гэта Віцькі Бубера, які вучыўся разам з ім, Антонам? Яго ж матку, здаецца, звалі Міхалінай. Але, але, аднойчы ён не пайшоў дадому, заначаваў у Бабрах, у Віцькі Бубера, і зваў яго маці цёткай Міхалінай. Значыць, гэта пісьмо напісаў цётцы Міхаліне Віцькаў старэйшы брат? Віцька ж расказваў, што ў

яго быў старэйшы брат, Федзя, здаецца, ён не прыйшоў з вайны. Так і ёсць — пасля нумара палявой пошты было напісана: «Ат Бубера Ф. П.».

Антон разгарнуў яшчэ адзін трохкутнік. Пачаў чытаць: «Дорогая сестренка, во первых строках своего письма разреши передать тебе горячий солдатский привет и сказать, что я жив-здоров, чего и тебе желаю от всей души! Как вы живете с мамой? Купили ли телушку? Кто помог отсеяться, посадить бульбочку? Я живу по-прежнему: сижу в штабе, пишу разные бумаги, так что не беспокойтесь. Наград у меня немного, но я не стыжусь, кому-то надо быть и писарем...»

Ён не дачытаў да канца і не даведаўся, хто гэта, у якую вёску і каму пісаў вясною сорак пятага гэты ліст — якраз прыйшоў Анатоль Васільевіч, прысеў побач з Антонам да стала і спытаў:

— Знайшлі што цікавае?

Антон, ва ўладзе нечаканай шчырасці, усміхнуўся:

— А ведаеце, якраз і знайшоў. Не чакаў нават, што знайду. Хто пазбіраў усё гэта? — ён павёў галавой кругом.

Анатоль Васільевіч таксама акінуў паглядам пакой, у якім яны сядзелі, адказаў:

— Усе пастараліся. Найбольш, канечне, Ніна Пятроўна, настаўніца. Сапраўдная энтузіястка! І сама загарэлася, і дзяцей падняла. Тыя пазносілі адусюль, з усіх вёсак, усё, што зберагло́ся праз вайну і за пасляваенныя гады,— пісьмы, даведкі розныя, квітанцыі, фотакарткі, граматы, іншыя ўзнагароды.

— Малайчына ваша Ніна Пятроўна! Я пра нашы Кавалевічы такога і не ведаў, што тут знайшоў. Першы трактар на фотакартачцы захаваўся. І тое, як брук у нас клалі...

— Ага, я таксама падоўгу дзівіўся на тыя картачкі. Пакланіцца трэба тым людзям, што зберaглі іх. Адно шкада, што ўсё гэта разумнага гаспадара не мае. Абы-каго на такое дзела не паставіш. Трэба ж, каб хоць нейкае паняцце было ў чалавека.

— Руку тут трэба прыкласці. Я зайшоў, дык адразу кінуўся адчыняць вокны, бо, пэўна, пасля зімы іх і не адчынялі, і ў грубцы наўрад ці палілі.

— Ды, мусіць, не палілі, Антон Пятровіч. Мерз-

нуць тут няма чаму, але ўсё адно трэба было б прапальваць, хоць раз у тыдзень

— Я ж і кажу — зайшоў, а сырасцю так і дыхнула... Гаспадар патрэбен, вядома. Гэта ж толькі пачатак. Тут жа можна, адчуваю, такі музей зрабіць, такія экспазіцыі разгарнуць...

Анатоль Васільевіч не даў яму дагаварыць, паклаў на плячо руку:

— Дык мо і возьмецеся?

Антон сцепануўся:

— Я?

— А чаму б і не? Я думаў-думаў, прыглядаўся да вас і парашыў, што пара з вамі і пагаварыць. Неяк здаецца мне, што назад вы наўрад ці паедзеце. А мо памыляюся я?

Антон угнуў галаву, нічога не адказаў.

— Ну, не будзем пра гэта,— спахапіўся Анатоль Васільевіч.— Думаецца толькі, што вам і карты ў рукі — узяцца за наш музей. Вы ж працавалі ў музеі! Ну, хай нядоўга, але ж працавалі, калі ў мяне звесткі дакладныя...

Антон зноў прамаўчаў.

Вось тады Анатоль Васільевіч і спытаў напрасткі:

— Дык што, Антон Пятровіч, бярэцеся?

І Антон, адчуваючы, што маўчаць болей недарэчна будзе, адказаў:

— Бяруся, Анатоль Васільевіч.

Старшыня тут жа падняўся.

— Дык лічыце, што з сённяшняга дня вы загадчык гэтага музея. Ключ не вяртайце, бярыце з сабой. Рады я, Антон Пятровіч, што вы згадзіліся. Не ведаю, не магу растлумачыць чаму, толькі — рады. І за музей наш, і за вас. Ну, будзьце! Прыкіньце, што і як трэба зрабіць тут будзе, што вам спатрэбіцца,— тады прашу да мяне, пагаворым, абмазгуем. На мармур і бронзу не разганяйцеся, але і не скупіцеся, сродкі ёсць, зробім так, каб не сорамна было і блізкаму чалавеку паказаць, і далёкаму...

Анатоль Васільевіч пайшоў, а Антон яшчэ ці не дзве гадзіны сядзеў у музеі. Крыху чытаў тыя самыя лісты з фронту, крыху зноў пахадзіў уздоўж сцен, а больш сядзеў і думаў над новым паваротам свайго лёсу. І чым больш думаў, тым больш супакойваўся і прыходзіў да высновы, што гэта, можа быць, і

добра, што Анатоль Васільевіч хоць і малады старшыня, але не дурны, працаваць з ім можна, што маці, напэўна, будзе засмучана, а бацька, наадварот, зарадуецца, але не пакажа таго перад маці...

Ішоў ён дахаты, у Кавалевічы, пешкі, як і шмат гадоў назад, калі хадзіў у Бабры ў восьмы — дзесяты класы. Ішоў і не надта пазнаваў колішнія звівы дарогі, колішнія крутыя спускі і пад'ёмы — шаша была новая, яна праставала праз поле і лес, абмінаючы вёскі. І ён няспешна крочыў гэтай новай дарогай, і думкі ў галаве былі не тужлівыя і не маркотныя.

А дома маці падала яму пісьмо. Яно было ад Рэні — ён гэта адразу ўгледзеў па почырку. Разарваў канверт, выняў маленькі, з блакнота, лісток. Без звароту, як бы ў пустэчу, Рэня пісала: «Так і быць, можаш забраць Аляксея да сябе. І мо не на адзін месяц, а на ўсе два. Я іду ў турысцкі паход па Алтаі, а мама, як заўсёды, стогне, дык хай ён пабудзе ў тваіх. Прыедзь, забяры Аляксея».

І ўсё, без «дзень добры» і без «бывай». Ну, і ліха з ёй, галоўнае — Аляксей пабудзе з ім цэлыя два месяцы! Гэта — здорава! Ён паспеў засумаваць па сыне. Тры месяцы — не, ужо амаль чатыры! — не бачыў яго...

Тады Антон правёў у вакзальнай пачакальні ўсю ноч, а раніцаю не прыдумаў нічога іншага і лепшага, як паплесціся дадому. Ішоў з думкаю забраць свае рэчы. Але чым бліжэй падыходзіў, тым усё больш цешыў сябе надзеяй, што, можа, сабіраць чамадан не давядзецца, што, можа, там усе адумаліся і не ўспомняць пра ўчарашняе, не папікнуць яго ні словам. Але надзея гэтая не спраўдзілася. Адчыніла яму Паліна Іосіфаўна. Паглядзела хвіліну, потым хітнулася кудысьці за адчыненыя дзверы. Антон не паспеў і кроку зрабіць, як яна зноў паявілася перад ім, павольна, з асцярогаю, быццам штосьці шкляное ці крохкае, апусціла ля яго ног чамадан, як перагарадзіўшы ім шлях у кватэру, і гэтак жа павольна, нібы прытрымліваючы, каб не ляпнулі, зачыніла дзверы.

Антон з чамаданам прывалокся на работу. Супрацоўнікі аддзела нейкім чынам учулі бяду, абзванілі паўгорада і ўрэшце знайшлі яму пакойчык ажно ў Чыжоўцы. Ён уздыхнуў з палёгкаю. Ды, аказваецца, радаваўся зарана. Неўзабаве, праз месяц-другі,

гаспадыня пачала ці не штодня дудзець яму пра сына, які нечакана павінен вярнуцца ці то з арміі, ці то з замежнай камандзіроўкі. Да ўсяго па-дурному пасварыўся з Пятром Фёдаравічам, пакрыўдзіў яго без прычыны і балюча. Папрасіць прабачэння так і не папрасіў, замест гэтага ў пачатку лютага падаў заяву, звольніўся, забраў у гаспадыні чамадан і паехаў у Кавалевічы — нібы ў адпачынак...

Пакуль быў у Мінску, ён хадзіў на спатканні з Аляксеем. Сустракаў яго ля школы. Сын штораз цягнуў яго дадому, казаў, што дома нікога няма, але Антон не заходзіў. Пагаманіўшы троху з Аляксеем, перадаўшы яму жменю жавальных гумак ці сувенірны аўтамабільчык, развітваўся. Апошні раз бачыў сына перад ад'ездам, у лютым. А цяпер канец мая. Напісаў за гэты час некалькі пісьмаў Рэні, прасіў, каб адпусціла Аляксея на лета ў Кавалевічы. Адказу не было. Нарэшце адгукнулася. Ён разумее, вядома, што, калі б не пагнала яе на той Алтай, не бачыць бы яму Аляксея. Ну, а калі так, дык хай едзе, куды хоча і на колькі хоча, а да яго прыедзе Аляксей, і цэлыя два месяцы яны будуць разам.

Маці не змаўчала, спытала:

— Ад каго ж гэта, сынок?

— Што? — спахапіўся Антон.

— Кажу, пісьмо ад каго? Ты як нешта радаснае прачытаў там.

— Радаснае, мама! Заўтра еду па Аляксея! Прывязу сюды на два месяцы, а мо і на ўсё лета!

— Так ужо і заўтра? — усміхнулася маці.

— Заўтра ж, мама! Заўтра!

Антон зірнуў на маці так, быццам хацеў абняць яе, прыціснуць да грудзей і пацалаваць яе ў маршчыністую, мяккую і цёплую шчаку.

**Гіль М.**

Г 47 Тэлеграма з Кавалевіч: Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 262 с., іл.

У пер.: 1 р. 30 к.

У новую кнігу пісьменнік уключыў дзве аповесці «Дзень пачаўся» і «Тэлеграма з Кавалевіч». Герой першай аповесці Васіль пасля службы ў арміі не вяртаецца ў родную вёску, а застаецца на Далёкім Усходзе, дзе знайшоў сваё каханне. І ўсё ж не перастае ўспамінацца яму радзімая старонка. Так і кліча вярнуцца. І гэты кліч радзімы ўрэшце перамагае ўсякія ўмоўнасці. «Тэлеграма з Кавалевіч», што дала назву кнізе, пра тое, як важна змалада выбраць у жыцці правільную дарогу і не збочваць з яе ніколі.

Г $\frac{4702120200-146}{М 302(05)-84}$ 8-84

ББК 84 Бел7
Бел2

*Микола Гиль*
(Николай Семенович Гилевич)

ТЕЛЕГРАММА ИЗ КОВАЛЕВИЧ
Повести

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *Я. І. Курто.* Мастак *Г. Г. Гаркуной.* Мастацкі рэдактар *М. Я. Янчук.* Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна.* Карэктар *А. Т. Глушчанка.*

ІБ № 1852

Здадзена ў набор 01.02.84. Падп. да друку 12.09.84. АТ 06624. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера кн. журн. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,87. Ум. фарб.-адб. 13,07. Ул.-выд. арк. 14,30. Тыраж 12 000 экз. Зак. 126. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.